# НАСЦЯ

*Аповесць*

## 1

«Восень летась выдалася на дзіва цёплай. Ужо лістапад, а снегам і не патыхае. Не бяда, што дрэвы стаяць голыя, а заміж снежных гурбаў — дываны з апалага лісця, затое цёпла — +11 на тэрмометры. Гэта і добра для тых, хто любіць гуляць да позняй ночы, пацалунак не замярзае, бы вада ў студні, дый словы не злятаюць з-пад носа саплівымі ледзяшамі і не разбіваюцца на шматлікія шарыкі аб брук. Наадварот, пацалункі прыляпляюцца да вуснаў жуйкамі, а словы чуюцца суцэльнымі арыямі і рассыпаюцца перхаццю на вушы наіўных дзяўчатак, якіх і дубцом дамоў не загоніш, таму што канікулы ў школе і хочацца за тыдзень нагуляцца. Здавалася, што людзей пабольшала з аб'яўленага дня канікул, падлеткі сустракаліся літаральна паўсюль. Вось і дзве дзяўчынкі чатырнаццаці гадоў ехалі са мной разам апошняй электрычкай на Стоўбцы. Я не заўважыў, калі яны падселі. Бо закімарыў, а вочы расплюшчыў, як пачуў іх галасы. Яны размаўлялі пра спявачку Земфіру. Адна дзяўчынка сядзела побач са мной, другая — насупраць. Абедзве былі бландзінкамі з яшчэ чыстым без слядоў пераходнага ўзросту на твары ўспрыняццем свету, і мне раптам захацелася забрудзіць іх свет, апляваць і растаптаць нагамі, як клумбу з прыгожымі

кветкамі. Нібы прачытаўшы мае думкі і напалохаўшыся імі, дзяўчына, што насупраць, прапанавала той, што сядзела побач са мной, перасесці да яе. Я сціснуў кулакі, загадваючы ў думках застацца ёй на месцы. Дзяўчына не зварухнулася. Я выцер рукавом кропелькі поту з ілба, а затым рука мая раптам лягла на ейную джынсавую каленку.

— Тс-с! — прыклаў я палец да сваіх губ, каб дзяўчаты маўчалі, але яны і без майго папярэджання не маглі прамовіць і слова. Тая, што сядзела насупраць, увогуле, нібыта дар мовы страціла, толькі жвавыя вочы, бы на шарнірах, цікаўна і з жудасцю сачылі за тым, што адбываецца.

Вочы маёй апаненткі мне не падабаліся. Яны нагадвалі восень, прынамсі, апалае лісце, якога становілася шкада, а шкадаваць мне нікога не хацелася, і мая рука паднялася вышэй. Дзяўчына сядзела ні жывая ні мёртвая, баючыся паварушыцца, па ўсім відаць, упэўненая, што я маньяк і збіраюся разарваць яе на кавалкі. Я павалі прыняў руку і ўсміхнуўся дзяўчатам, намагаючыся нарадзіць на твары галівудскую ўсмешку, нейкім шостым пачуццём адчуваючы, як дзяўчына, што насупраць, злосна зайздросціць сваёй сяброўцы.

— Навошта?..— выціскае з сябе ўладальніца восеньскіх вачэй, пазіраючы на мяне.

— Навошта што? — працягваю я ўсміхацца, усё яшчэ спадзеючыся, што падобны на Тома Круза.

— Вы — маньяк? — пытаецца яна.

— Не, горш,— адмоўна хістаю галавой.— Я — беларускі пісьменнік.

Ім абедзвюм больш няма чаго казаць. Яны расчараваліся, што я толькі пажартаваў і не адбылося прыгодаў, пра якія маглі б потым распавесці сваім каляжанкам, маўляў, з жывым маньякам сустрэліся і ўсё такое…

Я падняўся і выйшаў у тамбур пакурыць.

Не паспеў падпаліць сваю «прыміну», як у тамбуры з'яўляецца дзяўчына з позіркам апалага лісця. Хоча нешта сказаць, але штосьці яе стрымлівае. Магчыма, дым, які я выдыхаю паўз ейны твар.

— Што здарылася? — вымаўляю я.

Дзяўчына маўчыць, відаць, баіцца фразы, прыліплай да нёба слінай ды яшчэ падпёртай языком.

— Ты хочаш кахання? — пытаюся я.

Дзяўчына згодна хутка-хутка хітае галавой.

— У цябе ёсць хлопец? — дапытваюся.

— Так.

— Вось і звярніся з гэтай прапановай да свайго хлопца,— раю я.— Яму будзе прыемна быць першым.

Нейкая станцыя. Цягнік спыняецца. І я лячу ўніз галавой з тамбура на асфальтаваную сцежку. Удар ніжэй пояса з боку дзяўчыны атаясамліваў сабою своеасаблівую помсту за расчараванне. Я быў упэўнены, што ейны хлопец ніколі не падзеліць з ёю ложак. Хутчэй, яго сябры.

Цягнік крануўся. Праз хвіліну яго ўжо не было чуваць. Я ляжаў на халодным асфальце, і сілы пакідалі мяне разам з крывёй з пабітай галавы і дымам «прыміны», якую я па інерцыі яшчэ смактаў».

## 2

Калі я прачнуўся, Насці побач не назіралася. Пра яе прысутнасць нагадвалі толькі невялікія ўмяціны на пасцелі ды цяпло, якое яшчэ не паспела тонкім струменьчыкам, нібы дым, эміграваць у столь. Краёк коўдры з таго боку, дзе спала Насця, загнуўся, нагадваючы распячатаны паштовы канверт, адкрываючы чужому позірку далікатна складзеную бялізну і скамечаны абы-як, відаць, проста кінуты на пасцель, каб пасля прыбраць, халацік. Верагодна, што Насця

паехала на заняткі, хаця, дзе дзяўчына вучылася, я не меў ніякага ўяўлення, што мяне балюча ўразіла: не спытаў пра самае галоўнае. Аднак — не страшна. Усё з часам можна выправіць. Я праглынуў набеглую сліну і ўтыркнуўся ў Насціна споднее, удыхаючы самы патаемны ейны пах.

Пакуль не прыйдзе Насця, пакуль яна не вернецца адкуль-небудзь, таму што я не ведаў, дзе яна падзелася, каб хутчэй мінуў час чакання, я думаў напісаць сёе-тое. Паспеў націснуць толькі адну клавішу на камп'ютары, як на мяне абрынулася столь. Разам з крэслам, сталом і камп'ютарам мяне кінула ў чорнае прадонне, якое ўсмоктвала ў сябе кожную рэч па частках, смакуючы, расцягваючы задавальненне ежай, а я ежай быць не жадаў, ды нічога не мог зрабіць насуперак. Мяне ванітавала, галава расколвалася на запчасткі, нібы гадзіннік, кінуты вобзем. Я яшчэ паспеў набраць 103 і прамямліць адрас, калі прадонне ўхапіла мяне за ногі і пачало ўцягваць ў свой невычэрпных крыніц шлунак.

Ачомаўся ад моцнага гідкага болю ў патыліцы. Здавалася, што гіганцкіх памераў камар аблюбаваў маю галаву як неверагодную прысмаку і ўсадзіў свой танклявы меч у падатлівую вялую плоць, высмоктваючы па сістэме крупінкі мозгу. На самай справе, урач «хуткай дапамогі» ўвёў з дапамогай шпрыца ў мой мозг якісьці антыбіётык.

— Як вы прайшлі? — прамовіў я першую фразу, радуючыся, што магу гаварыць, углядаючыся ў кірпаты малады твар урача з вялікімі акулярамі на маленькім, што кнопка, носе. Сухія танклявыя губы, крыху прыкрытыя, як сарамлівая шлёндра, пледам мяккіх пшанічных вусоў, панура апушчаных да вугалка губ, ветліва і зычліва адказалі, што дзверы не былі замкнутымі, на шчасце, бо іх давялося б выбіваць,

што і планавалася зрабіць, таму што на неаднаразовы званок у дзверы не заўважалася ніякая жыццёвая праява.

— Мы думалі, што вы проста п'яны,— дадаў другі, нізенькі, у параўнанні з першым і маладзейшым урачом, відаць, настаўнік стажора, з добрай сеткай маршчын, як пад вачыма, так і на лысеючым карычневым лобе. Тоўстыя губы матлялі ці перакочвалі, нібы хвалю, з вугла ў вугал запалку без сярнічкі.— Але, хоць алкаголь і прысутнічае ў крыві, не ён вінаваты ў вашым стане. Мяне зацікавіла ўмяцціна з правага боку вашага чэрапа, умяцціна цемянной косткі, прычым даволі мяккая.

— Там на самай справе дзірка,— прамовіў я,— а пад скурай — голы мозг.

— Тады ўсё зразумела,— старэйшы перамяніў адну нагу другой. Ён сядзеў у фатэлі побач з канапай, на якой ляжаў я і сядзеў урач маладзейшы.

— Што менавіта?

— Гэты выпадак страты прытомнасці ў вас першы ці паўтараецца неаднаразова?

Мая памяць зашалясцела, нібы кніга, шукаючы патрэбную старонку з патрэбным тэкстам. Такое ўжо было, прычым зусім нядаўна. Я ехаў у метро. Пад'язджаючы да апошняй станцыі, стаў адчуваць тое самае, што і перад тым сваім станам, пакуль прыехала «хуткая». Я не мог ісці, не тое што не мог, ногі не слухаліся, нібы іх зусім не было, галаву ці мозг свідравалі незразумелыя стрэлы болю і апатыі. Людзі, што праходзілі міма, здаваліся малюскамі, што вельмі павольна праплывалі праз ілюмінатар майго падводнага карабля. Апошняе, што я памятаў перад падзеннем,— моцны боль у патыліцы — вынік удару аб цэментаваную падлогу метро. Самае цікавае, што

падаў я і ў першы, і ў другі раз на спіну, хоць цела хілілася ўперад.

Нейкія жанчыны і хлопцы, у якіх яшчэ засталася ў душы міласэрнасць, дапамаглі мне ачомацца, але ўсё адно стаяць, а тым больш ісці, я не мог. Двое маладых міліцыянтаў вельмі здзівіліся, што я цвярозы, а адна з жанчын, якая дапамагала мяне падымаць, аказалася ўрачом унутраных войск і паставіла першы дыягназ, пасля выклікала «хуткую»… Мне параілі не карыстацца метро з маёй траўмай, таму што пад зямлёй павышаецца ціск.

— Вам правільна параілі,— хітнуў, згаджаючыся, урач старэйшы.

— Я разумею, метро,— прамовіў я тады,— а прычым мая кватэра, ці мне і кватэрай перастаць карыстацца?

— Ну, навошта вы так? — усміхнуўся той самы ўрач.— Калі сур'ёзна, то часцей адчыняйце форткі. Прыступ паўтарыўся з-за цяжкага паветра, якім вы дыхаеце, атручанага да таго ж нікацінам.

— Мне кінуць курыць?

— Па-мойму, вас павінны былі папярэдзіць наконт цыгарэт і спіртнога яшчэ тады, калі выпісвалі з бальніцы пасля апрацоўкі раны… Тое, што вы працягваеце сваё, не прыслухоўваючыся да слушнай парады медыкаў, сведчыць не ў вашую карысць. Хто вы па прафесіі?

— Я пішу… ну… ведаеце…

— Што ж,— урач зморшчыў лоб, як бы задумаўшыся,— тады ўсё зразумела.

— Зразумела што?

Гэта сказаў не я.

Трымаючы ў адной руцэ поліэтыленавы пакет з выявай бел-чырвонага пачка цыгарэт «Бонд», нечым напакаваны, у другой — зняты з пляча скураны рук-

зак, Насця ў расхрыстанай куртцы, у маёй фланэлевай сіняй у квадраты кашулі, з-пад якой вытыркаліся сопкі грудак без станіка, насцярожана пазірала ў вочы абодвух урачоў, якія разгублена пераміргваліся.

— Што зразумела? — паўтарыла Насця. Яна паставіла рэчы ля сценкі і прайшла ў пакой, села на другую канапу, не раскладзеную. Гузік на кашулі зверху расшпіліўся, агаліўшы белы выгін Насцінай шыйкі, акупаваны раскіданымі ветрам валасамі.

— Прабачце, а вы… — урач старэйшы прыўзняўся з фатэля.

— Гэта не мае значэння,— апярэдзіла яго Насця.— Растлумачце мне, што здарылася і чым усё можа скончыцца. Проста так, як я разумею, «хуткая дапамога» не ўламваецца ў кватэры.

— Вы ведалі пра хваробу вашага… вашага… — урач замуляў губамі і заёрзаў у фатэлі, нібы сядзеў на агні, не ведаючы, як мяне абазваць.

— …мужа. Задаволены? — выпаліла Насця.

— Гм,— варухнуліся бровы ўрача, і ёрзаць ён перастаў,— амаль задаволены. Дык вы ведалі пра хваробу вашага мужа? Пра траўму, атрыманую, відаць, некалькі год таму?

— Мы пазнаёміліся пазней.

— А сам ён вам нічога не распавядаў?

— Дарагі доктар,— прамовіў я,— пра маю траўму не ведаюць нават бацькі…

— Вельмі дрэнна ў такім разе,— адзначыў урач.— Вы дазволіце,— спытаў ён у мяне,— калі я паразмаўляю з вашай жонкай… гм… сам-насам?

— Калі ласка.

Мне было ўсё адно, як ён будзе з ёю размаўляць, таму што Насця ніколі не была маёй жонкай, і пра што будзе весціся размова. Бясспрэчна, размаўляць яны будуць пра мяне і размаўляць сур'ёзна, але я не адчуваў

сябе хворым, каб надаваць нейкаму «вобмараку» значэнне.

Урачы з Насцяй шапталіся на кухні, а я ляжаў на канапе і глядзеў у столь, па якой поўзала першая муха. Верагодна, яна вылецела з акна пасля доўгага сну, і ёй цікава ўсё, што адбываецца вакол, як і мне было, калі я толькі нарадзіўся.

Вярнулася Насця, выправадзіўшы і падзякаваўшы за ўсё «хуткай дапамозе», трымаючы ў руцэ рэцэпт з лекамі. Села на канапу, скінуўшы куртку, побач са мной і правяла рукой па маіх валасах, як па галоўцы кінутага і забытага ўсімі шчаняці.

— Ты ведаў, што ў цябе неўроз? — строга запытала яна.

— А ты жорсткая,— адказаў я, злавіўшы ейную руку з доўгімі пазногцямі колеру марской вады, злёгку сціснуў яе, Насця прыкусіла ніжнюю губку.

— Ты нічога не ведаў? — не верыла яна.

— Не,— прамовіў я і, глыбока зацягнуўшыся паветрам, нібы добрым тытунём, адзначыў: — Мне вельмі хацелася жыць, Насця, таму я набраў 103. Павер, толькі на нумар тэлефона мяне і хапіла. Насамрэч я думаў, што памёр.

— Мне не трэба было пакідаць сёння цябе аднаго.

— Ты б нічога не змяніла.

— Напэўна, але была б побач.

— Ты ідэалістка, Насця.

Мы памаўчалі. Я бачыў, як Насці цяжка размаўляць са мной. Як яна шукае словы, якія б не паранілі мяне, як набрыньваюць ейныя вочы слязьмі і дрыжаць вусны, але плакаць не адважваецца і баіцца, шкадуючы мяне. Толькі шкадаваць мяне не трэба і адпяваць раней часу таксама. Я хацеў вымавіць гэтыя словы ўслых, але тым самым мог глыбока параніць Насцю

і ў дадатак пакрыўдзіць, у выніку чаго адбудзецца вывяржэнне вулкана слёз. Ударыць мяне па твары за гэтыя словы Насця пасаромеецца, а таму зачыніцца ў ванным пакоі, сядзе на край ванны і заплача.

— Чаму ты не кінеш курыць? — спытала Насця.

— Навошта? Кафка не піў, не курыў, нават гарбату з кавай не ўжываў, але неўрозу не пазбавіўся.

— Божа мой! — ускрыкнула Насця, ледзь стрымліваючы слёзы.— Адам, ты не Кафка і ніколі ім не будзеш! Чаму ты ўвесь час параўноўваеш сябе з кімсьці?..

— Я не Кафка, Насця,— згадзіўся я,— толькі хвароба, якая падкасіла, у нас з ім аднолькавая.

— Трымай,— працягнула Насця мне рэцэпт, а сама маланкава выбегла з кватэры, на хаду апранаючы куртку.

А я заплакаў.

Біў кулакамі па спружынах канапы, замаскіраваных, як салдаты, пуфам і дэрмацінам, ад свайго бяссілля, і мне не было сорамна. Упершыню я не саромеўся сваіх слёз, палюбіўшы іх, як самога сябе.

Нібы апошні кляновы ліст, на жоўтым паркеце кватэрнай восені сіратліва ляжаў аркуш з рэцэптам маіх лекаў, які я выраніў з рук, і да яго нікому не было справы, таму што ў маю хваробу не верыў ніхто, акрамя Насці. І толькі па гэтай прычыне Насця не магла вытрываць паветра, нашпігаванае, як шампур — мясам, бальнічнымі пахамі, якія незалежна ад сябе пакінулі ўрач «хуткай дапамогі» з памочнікам. Яна выбегла на свежае паветра і атруцілася ім, яно ўдарыла па крыві, што сачылася з падрапанага аб дзверы мезенца, які смакталі пакусаныя з размытай слязьмі памадай, вусны.

## 3

Насця не затрымалася доўга. Вярнуўшыся, яна шпурнула ў мяне экстракт алоэ і шклопадобнае цела, нібы бомбу, разлічваючы, відаць, каб я ўзарваўся, быццам маскоўскія шматпавярховікі. Зараз гэта модна, падрываць дамы, гуляючы ў герояў і пакутнікаў, прыдушаных і спрасаваных маналітнымі плітамі, зажыва палаючых у агні і праклінаючых тэрарыстаў. Толькі Насця была падобна зусім не на тэрарыстку, хутчэй, на русалку. Яна русалкай і ўвайшла ў маё жыццё, дакладней, заплыла. Учора. Я затрымаўся з сябрамі, якія любяць выпіць і закусіць за чужы кошт, у бары ГУМа. Мы адзначалі свята 8 Сакавіка і перамену надвор'я, якое мокрай халадэчай і ветрам свята сапсавала. Прынамсі, нам было ўсё роўна, нават горача ва ўтульным памяшканні за круглым столікам у кутку ад надыханага перагарам паветра і гучных размоў пра мужчынскую салідарнасць і жаночую логіку, якую мы адмаўлялі цалкам, бо, па нашым разуменні, у жанчын не можа праяўляцца ніякая логіка, не тое, што жаночая. А з магнітафона, наўмысна ўключанага прыгожымі супрацоўніцамі бара, чулася: «В голове ни бум-бум, малолетка дура — дурой!»

Даганяцца я адмовіўся і паехаў дамоў. Першае, што мяне здзівіла, калі я адчыніў дзверы — пах. Гэта быў не мой пах, атручаны танным тытунём, паветра выпраменьвала водар апельсінавага соку, які мой арганізм не ўспрымаў і выпрацоўваў імунітэт у выглядзе алергіі. Я моцна чыхаў, каментуючы кожны чых, нібы мастацкі фільм з субтытрамі. Попельніца сустрэла мяне ідэальнай чысцінёй і ўсміхалася, як шчаслівая нявеста ў час шлюбу, калі была павінна трымаць на сабе трупы цыгарэт і попел, сустракаючы мяне гэтым, як хлебам-соллю. На маім любімым

стале, побач з камп'ютарам, там, дзе павінен ляжаць непачаты пачак «Прымы», нібы дыстрофік, што звесіў ногі ў адпачынку, ляжала вільготная анучка, якой, як я разумеў, хтосьці выціраў пыл. Можа, у мяне завёўся ці завялася нейкая барабашка? А можа, я дапіўся да галюноў? Адзін мой сябар ужо ведае, што гэта такое, нават курс лячэння прайшоў у Навінках, толькі наўрад ці той курс дапамог невылечна хвораму чалавеку…

З ваннага пакоя пачуўся гук накшталт шуму вады з-пад крана. Можа, ужо канец свету? Марсіяне акупавалі Зямлю, пакуль я свята адзначаў у ГУМе? У добрых традыцыях галівудскага баевіка я падкрадаўся да дзвярэй ваннай, праз шчылінку якіх прасочвалася электрычнае святло, трымаючы ў выцягнутых руках уяўны пісталет Сцечкіна. Я адчуваў сябе Брусам Уілісам, Арнольдам Шварцэнегерам і Ван Дамам разам узятымі.

Крута распахнуўшы дзверы (дзіўна, але яны не былі замкнутымі на шпінгалет), я ўляцеў у пакой з настаўленым уяўным пісталетам на ўяўнага ворага, які па шыю сядзеў у ванне, поўнай гарачай вады і пены, і міла мне ўсміхаўся.

Я больш не адчуваў сябе галівудскім баевіком, я адчуваў сябе ідыётам, які стомлена абапёрся аб вушак і ўскудлачыў валасы ад неверагоднасці ўбачанага, таму што ў маёй ванне сядзела русалка і мылася маім шампунем.

— Здрасьце,— стомлена прамовіў я і раптам дадаў: — А што, мора ўжо асушылі?

— Што? — звонка рассмяялася русалка. Яна наліла цалюткую далонь шампуню, што нагадваў сыры жаўток, і змяшала яго са сваімі мокрымі доўгімі валасамі, якія мне падаліся тонкімі злоснымі пугамі.

— Я кажу, чаму вы не ў моры? — паўтарыў я.— Ці мора для вас такое вялікае, што вы абралі вось гэтае…

— Я нічога не чую,— данеслася да мяне. Яшчэ б! Цяпер русалка нагадвала сапраўднага марсіянскага прышэльца, у мыльных пухірах і ў пене, што нагадвала своеасаблівую скуру або вопратку. На некаторы час русалка знікла пад вадой, і я ўжо спалохаўся было, ці не ўтапілася яна? Русалка — русалкай, а ўсякае бывае, можа, яна развучылася плаваць ці яшчэ вучыцца, напрыклад, рыхтуецца здаваць іспыт на сапраўдную русалку ва ўніверсітэце? Хто ведае? Можа, яна русалка-студэнтка, таму што занадта яшчэ маладая. Цікава, у колькі гадоў ім выдаюць дыплом з дазволам працаваць русалкай? У прынцыпе, яны і без дыплома працуюць, дай божа!..

Так-так, зразумела. Дакладна, яна — студэнтка, а я — нешта накшталт фальклорнай практыкі. У яе заданне да іспыту — патапіць каго-небудзь з людзей. Вядома, зараз гэты працэс камп’ютарызаваны, але ж практыка ў яе фальклорная, яна любіць даўніну і хоча ўпэўніцца ў неўміручасці занятку продкаў. Толькі ў ванне цяжка ўтапіцца. Не, вядома, калі захочаш, можаш… а ці няма там другога дна, якое вядзе адразу ў акіян?..

Тут мяне папрасілі пакінуць памяшканне і зачыніць дзверы з таго боку. Я падпарадкаваўся без лішніх слоў, сам не ведаючы, чаму, разумеючы толькі адно: тапіць мяне не будуць, і, відаць, мая русалка — не студэнтка. А шкада.

Яна выйшла праз некалькі хвілін, на хаду выкручваючы, нібы мокрую, толькі што папаласканую бялізну, валасы. Але не хвост з залатой лускою трымаў яе раўнавагу, а стройныя прыгожыя чалавечыя ножкі з драпінкай, відаць, ад кашачых кіпцюроў, на левай каленцы, крыху ніжэй края блакітнага шаўковага халаціка, які павінен вісець у шафе на плечыках. Гэта рэч сястры, якую яна забылася ў спешцы забраць з сабой у Італію, калі ад’язджала разам з мужам-італьянцам,

пакідаючы мне кватэру. Я ірвануў да шафы, расчыніў дзверцы, пустыя плечыкі торгаліся на вешалцы, як Бураціна на цвіку.

Яна не была ніякай русалкай. Яна была проста Насцяй, мокрай Насцяй, з зачасанымі назад валасамі, з кавай глыбокіх, крыху раскосых вачэй, з крыху ганарлівым носікам і капрызлівымі вуснамі. Яна была той Насцяй, якая тры дні таму пры размове са мной не паверыла ніводнаму майму слову. Гэта было на «Художниках», пад вечар, калі надвор'е не выпендрывалася, і, хоць сонца ўжо зайшло, вецер і хмары не выкарысталі яго адсутнасць. Спакойна, як сонныя вароны, яны сядзелі на правадах прысутнасці і пазіралі на нас, як мы на тэлевізар — у чаканні, калі экран засвеціцца каляровым відарысам. Я выпадкова ішоў міма, мне было па дарозе да метро, і сустрэў даўняга сябра, якога даўно не бачыў. Некалі мы разам вучыліся ва ўніверсітэце. Зрэшты, калі ўспамінаць кожнага сябра, з якім я вучыўся і з якім сустракаўся ў той або іншы дзень тыдня ці вечар,— не хапіла б ніякага часу для асабістага жыцця і кубачка кавы, якую я вельмі люблю, асабліва з цыгарэтай. Тады я піў «Крыжачок», якім пачаставаў мяне сябар і сабрат па пяры Ілля Варанкоў, які, як і заўжды, знаходзіўся ў кампаніі прыгожых дзяўчат — паэтак і актрыс, бо лічыўся лепшым паэтам, што і было насамрэч. Насця не піла. Яна курыла нейкую дамскую цыгарэту адасоблена ад усіх, седзячы на самым куточку лаўкі, і дрыжэла, хаця было цёпла, у тонкай чорнай куртцы з тканіны падобнай да ядвабу. Верагодна, ёй адной толькі не хапала цяпла, таму што яна не прымала ўдзелу ў размове, цэнтрам якой з'яўляўся той самы Ілля Варанкоў.

Мне спадабаліся Насціны вочы і вусны ў рамцы шакаладнага колеру, якія заставаўся на белым фільтры

яе цыгарэты нейкім сімвалам, прынамсі, мне так падалося. А сама яна знешне нагадала Анжаліку Варум, расейскую спявачку, у лепшыя яе гады, а я на Агуціна не падобны ні кроплі.

Насця была нікім у гэтым згуртаванні талентаў і амбіцый (апошняга больш), калі не ўлічваць статус малодшай сястры Вікторыі ці проста Торы, як яе называлі сябры і сяброўкі, вядучай актрысы Тэатра кінаактора.

Я падсеў да дзяўчыны і сказаў, што сёння цудоўнае надвор'е. Яна запярэчыла. Я спытаў: чаму? Яна адказала: таму што ёй холадна і хутка заляскаюць зубы. Тады я прапанаваў сагрэцца «Крыжачком», дзяўчына прамовіла, што чакала ад мяне лепшага. Чаго лепшага? Невядома.

— З вамі цяжка весці размову,— заўважыў я.

— А я ўвогуле цяжкі чалавек,— не адмаўляла дзяўчына.

— Можна праверыць, наколькі? — па-блазенску падміргнуў я ёй. Мне было весела, таму што я прыняў колькі градусаў і таму, што трапіў у добрую кампанію. Мне хацелася развесяліць гэтую адзінокую заблукаўшую душу…

— Якім чынам? — не зразумела Насця.

Вокамгненна я падхапіў дзяўчыну на рукі і закружыў на месцы. Яна змаўчала, а пасля ўзнагародзіла мяне дзвюма балючымі плюхамі і словамі, што я нявыхаваны, сапсаваны і прапашчы чалавек ды яшчэ і мярзотнік. Я запярэчыў, што гэта не я, што я — беларускі пісьменнік усяго… Яна спытала маё прозвішча, пачуўшы, сказала, што ніколі не тое што не чытала, а і не чула такога.

— Што ж,— цяжка ўздыхнуў я,— вы многа страцілі. А можа, і нічога.

Я павярнуўся да яе спінай, закурыў і пайшоў прэч.

— Стойце! — прагучаў загад, нібы стрэл. Ды толькі мне было ўсё роўна. Яна больш не аклікнула і не дагнала мяне, чаго я, у прынцыпе, і не чакаў, а праз тры дні — такі сюрпрыз.

…Яна сядзела на канапе (на якой зараз ляжаў я), падклаўшы пад локаць падушку, падкурчыўшы пад сябе і схаваўшы пад абарону шоўку ножкі, як золата ад злодзея.

— Фі, Адам,— прамовіла Насця пасля даволі працяглай паўзы,— як смярдзяць твае вочы!

— Яны яшчэ не так будуць смярдзець,— сказаў я,— пакуль ты не растлумачыш, што адбываецца?..

— У жанчын — свае сакрэты! — адзначыла Насця. У наступны момант ейны халацік накрыў маю галаву, нібы покрыва — клетку з папугаем. Калі я сцягнуў яго з сябе, Насці на канапе ўжо не было. Яна ляжала ў ложку за шырмай, па шыю захінутая коўдрай, і чакала мяне. Але паміж намі нічога не адбылося. Я паспрабаваў пацалаваць дзяўчыну ў вусны, але яна так ушчыкнула мяне, што прапала ўсякая ахвота.

Мы ляжалі побач і проста размаўлялі ні аб чым: пра зоры, якіх амаль не бачна, пра снег і вецер, пра дождж і завіруху, пра сонца і месяц, пра дзень і ноч, пра Кафку і Вулфа… пакуль, стомленыя, не засыналі.

## 4

— Насця! — паклікаў я дзяўчыну, але яна не адгукалася, зачыніўшыся ў ваннай. Верагодна, пакрыўдзілася, але я не адчуваў за сабой ніякай віны.— Насця! — зноў паклікаў я. Аднак дзяўчына маўчала. Я закурыў. Дым прыемна затуманіў мазгі, якія ўжо заплеснелі бескарыснымі думкамі. Дзверы ваннай адчыніліся. Насця грацыёзнай хадою кошкі падалася

да мяне. Матава-бледны твар яе захоўваў непарушны спакой, нібыта нічога не здарылася, але кава вачэй здалася мне такой халоднай, гатовай выплеснуцца і замарозіць у імгненне ўсё жывое. Яна вырвала з маіх губ цыгарэту і зламала яе сутаргавым рухам пальцаў у попельніцы. Незатушаны цалкам попел разгарэўся зноў і задыміў. Дым падымаўся ўгару, як ад кубачка кавы — пара, толькі вось ад той кавы, якая мне падабалася, сыходзіў далёка не пахучы парочак. Насця, відаць, пачула, як я валэндаўся з запалкамі, таму і вызвалілася дачасна з добраахвотнага пастарунка. У мяне склалася ўражанне, што дзяўчына прыняла блізка да сэрца маю хваробу, бліжэй, чым я сам. Нашы позіркі, што сустрэліся, нібы два мячы ў бойцы, застылі ва ўпартай рашучасці і асабістай праваце, моцна самкнёныя вусны пакуль адмаўляліся ад ролі пасрэднікаў.

Насця першаю апусціла вочы, якія адразу пацяплелі, і я прыкмеціў ледзь заўважны, як ад цыгарэты, дымок.

— Табе нельга курыць,— стомлена прамовіла яна і села побач, узяла маю галаву ў свае цёплыя рукі з доўгімі нервовымі пальцамі.

— Я ведаю,— згадзіўся я, абняўшы Насціны рукі сваімі, з жоўтымі ад цыгарэт пальцамі.

— Тады навошта?..

— Зразумей, што хутка, ні з таго ні з сяго, нічога не робіцца,— патлумачыў я.— Як бы я не хацеў, вось так адразу ніколі б не кінуў курыць. Ды й навошта? Як ні банальна гучыць фраза, што Адам без цыгарэты — не Адам,— гэта праўда.

— Гэта глупства.

— Магчыма. Толькі інакай не атрымаецца. І хопіць пра гэта. Я не збіраюся пакуль на той свет. Куды ты знікла раніцай ды яшчэ ў маёй кашулі?..

Насця гладзіла мае валасы і не спяшалася з адказам. Мажліва, яна яго сачыняла, толькі я не хацеў чакаць, пакуль той адказ сфармулюецца ў звязны тэкст. Я вызваліўся з Насціных пяшчотных рук і падняўся з канапы…

Учорашнія Насціны намаганні разбіліся, бы аб сцяну гарох. Яна хацела ведаць пра мяне ўсё, толькі ўсё пра сябе не ведаў нават я сам.

— Навошта табе мая біяграфія? — пытаўся ў яе.— Няўжо нешта з гэтага зменіцца ў свеце? Стабілізацыя эканомікі ці ўсе народы раптам спыняць войны, зразумеўшы, што на працягу двух тысяч гадоў займаліся глупствам, і палюбяць адзін аднаго навечна? Не.

— Я пра цябе зусім нічога не ведаю,— цягнула сваё Насця,— акрамя самага горшага.

— Тым лепш,— падсумаваў я.— У цябе ёсць магчымасць да гэтага горшага лепшае прыдумаць. Мы можам фантазіраваць разам.

— Баюся, у мяне не атрымаецца,— прызналася Насця.— Калі я пачну фантазіраваць,— не хопіць часу, каб усё некаму выслухаць, калі я буду распавядаць, ні паперы, калі нешта запісваць.

— Затое ты паб'еш рэкорд Томаса Вулфа.

— Зараз так ніхто не піша. На тоўстыя кнігі няма ні грошай, ні часу, каб іх купляць і чытаць.

— А ты запісвай на касету. І ніякіх праблем. На касету ці на дыск можна запісваць бясконца.

— Мяне палічуць вар'яткай і ўпякуць у Навінкі,— усміхнулася Насця.

— Я цябе буду наведваць па выхадных.

— Сумняюся.

— Чаму? — не зразумеў я.— Не такі я ўжо і дрэнны чалавек…

— Не з гэтай прычыны.— Насця таямніча прымружыла вочы.— Месца ў Навінках хопіць і для цябе. Нашы палаты будуць знаходзіцца насупраць.

— Не,— запярэчыў я.— Мяне ў вар'яты ты не запісвай. Я-то пры чым?

— А пры тым, што людзі, якія праслухаюць хаця б частку майго трызнення, запісанага на касету ці на дыск, зацікавяцца асобай, пра якую я распавядала, і будуць шукаць і пытацца адзін у аднаго, што ж гэта за чалавек такі з нестандартнымі паводзінамі і філасофіяй жыцця? Запросяць дасье з усіх устаноў, дабяруцца да інтэрнэту і вылічаць, што чалавек гэты — Адам, беларускі пісьменнік, якога толькі за адзін род дзейнасці неабходна ізаляваць ад грамадства, пакуль яно не захварэла на тую ж хваробу, што і вышэй названы чалавек. Яны пазвоняць у дзверы тваёй кватэры, ты не адчыніш, таму што будзеш заняты… За адзін толькі твой занятак яны без размоў апрануць на цябе смірыцельную кашулю і як самага буйнага вар'ята павязуць у машыне з закратаванымі вокнамі пад эскортам пяці велізарных медбратоў.

Я з цікавасцю выслухаў Насціну гіпотэзу, але дазволіў сабе заўважыць, што яны ніколі не дазнаюцца аб тым, што я беларускі пісьменнік, таму што ў мяне няма ніводнай кніжкі, а часопісы такія людзі не чытаюць.

— Ты забываеш, што я назвала інтэрнэт,— абяззброіла мяне Насця, але я не здаваўся і сказаў: нават калі яны даведаюцца, што я беларускі пісьменнік, каму яны больш павераць? Беларускаму пісьменніку ці голасу на касеце або дыску, што належыць невядома каму? На самай справе, на голасе ж не напісана, хто яго ўладальнік, да таго ж я буду абараняцца…

— Ты не зможаш і пальцам паварушыць,— зноў «апусціла» мяне Насця,— таму што на табе будзе смірыцельная кашуля.

— Дык што? — проста, каб штосьці сказаць, бо слоў я ўжо не знаходзіў, нібыта яны закаціліся, як капейкі, пад ложак да самай сценкі, дзе шмат павуціння і павукоў, сказаў я.

— А тое, што палаты нашыя будуць насупраць,— нібы прысуд, вынесены суддзёю, прамовіла Насця,— будзь упэўнены. А калі сур'ёзна,— прамовіла пасля,— можаш мне нічога не распавядаць, я ўсё адно дазнаюся.

— Якім чынам? — мне ўсё ж такі было цікава, асабліва тое, як яна здолела трапіць у маю кватэру, не маючы ад яе ключоў і не ведаючы, дзе я жыву? За сябе я не мог адказваць. Раней ці пазней я выбалбатаў бы ўсё пра сябе, толькі слухай, але не зараз, калі ўсё так ненадзейна і туманна, бы ў адкрытым акіяне, а на табе толькі выратавальны круг і колцамі вакол — акулы.

— Табе скажы! — усміхнулася Насця.— Калі-небудзь сам даведаешся.

— Калі-небудзь — гэта калі?

— Калі-небудзь.

Мы ляжалі ў адным ложку, на адной падушцы, укрытыя адной коўдрай, пры святле вісячай лямпы, толькі займаліся не адным. Насця выводзіла нейкія ўзоры на тварах Ван Дама і Бандэраса (таксама, як і халацік, пакінутых сястрой на сценах) указальным пальчыкам. Магчыма, малявала ім вусы або бароды, або і першае, і другое разам, а магчыма, пацалункі, сляды ад памады мноства прыхільніц. Я, лежачы на жываце і ўтыркнуўшыся тварам у падушку, нібы ў пясок, глытаў сліну і час ад часу шморгаў носам, дзейнічаючы тым самым на нервы Насці, але нічога змяніць не мог. Прастуда не выбірае час і не пытаецца, калі ёй можна прыйсці ў госці. Як вайна, яна ўрываецца ў жыццё і здароўе чалавека неспадзявана і імгненна.

— У цябе было шмат жанчын? — раптам спытала Насця.

— Шмат,— не задумваючыся, адказаў я.

— Я ведала, што менавіта такім і будзе твой адказ,— задаволена ўсміхнулася Насця.— І з усімі ты спаў? — спыталася.

— Ні з адной,— зноў не задумваючыся, адказаў я.

— Гэта як? — відаць, мой адказ здзівіў яе. Насця павярнулася тварам да мяне, і зараз мы дыхалі адно аднаму ў твар, удыхаючы пах кожнага асабіста, ад чаго кружылася галава і хацелася большага, чым проста ляжаць і займацца абы чым, толькі не тым, чаго абое жадаем з нечуванай прагай, але не можам сабе дазволіць вольнасці. Не можам разняволіцца і адпусціць тармазы, бы ў аўтамабілі, адначасова, як у матацыкле, завёўшы матор, выціснуць на счапленні ўсё мажлівае.

— Мяне з кожнай хапала толькі на некалькі дзён,— тлумачыў я.— Мы не паспявалі дабегчы ці дабрысці да ложка. Я іх выкарыстоўваў як удзячных слухачак, рэкламуючы самога сябе, упіваючыся ўвагай да сябе такіх прыгожых дзяўчат, на якіх заўсёды азіраюцца міма праходзячыя хлопцы і зайздросна думаюць: «Во пашэнціла казлу…» Калі мой запал высыхаў, як крыніца, мне ўжо нецікава было з той, каму я ўсё распавёў, ды й не было аб чым з ёю больш гаварыць, я пераносіў свой позірк на іншую, і паўтаралася тая ж карціна.

— А яны не біліся паміж сабой?

— Не, дзякаваць богу.

— Ты хочаш сказаць, што мне пашанцавала? У наш век знайшла адзінага на ўвесь свет дарослага чыстага чалавека?!

Колькі часу мы глядзелі адно аднаму ў вочы. Насця не верыла мне, а паверыць у праўду мною сказа-

ных слоў ёй вельмі хацелася, як хацелася ўведаць, што ў маіх думках, ці сапраўды я адношуся да яе з пяшчотай і каханнем, ці прытвараюся. Я не баяўся ейнага позірку, не баяўся патануць у топкай багне разлітых кавай вачэй, таму што, як ніколі ні з кім, з ёю быў шчырым. Я казаў праўду, што здаралася вельмі рэдка. Ды я і не маніў ніколі, проста праўду трэба было шукаць на задворках і завулках слоўных вуліц і кварталаў. Насця паверыла, спадзяюся, бо сказала, што ГЭТА менавіта і хацела пачуць ад мяне, хоць штосьці праясніла для сябе. А мне чамусьці нясцерпна захацелася есці; галодныя спазмы страўніка выконвалі ледзь не сімфонію Шастаковіча, патрабуючы ежы, толькі дома ў мяне нічога не было. Апошнюю тушонку мы з Насцяй даелі перад тым, як я прыняў лекі, і пасля таго, як пакурыў. Я адчуваў сябе так, быццам, калі чаго-небудзь не з’ем у бліжэйшы час,— памру. Пра сваю бяду я распавёў Насці.

— Есці сярод ночы? — здзівілася яна.— А ты не можаш патрываць да раніцы?

— Не магу. Арганізм патрабуе, не чуеш?

Быццам у доказ, у страўніку пачуўся паланэз Агінскага, прычым Насця пагадзілася, што гэта быў менавіта паланэз і менавіта Агінскага.

— У мяне дома ёсць макароны,— прамовіла яна.— Калі хочаш, можам паехаць.

— А бацькі? — спытаў я. Зрэшты, бацькі мяне не хвалявалі, я проста так спытаў, дзеля прыліку, таму што згадзіўся ехаць з першых яе слоў. Ды Насця запэўніла мяне, што бацькі ў камандзіроўцы і прыедуць толькі ў нядзелю, а Торы — у Варанкова, да таго ж у іх хутка вяселле.

Апранаючыся, я зноў спытаў Насцю пра тое, што мяне турбавала, у прыватнасці, ці ёсць у яе сала?

— Знойдзем,— запэўніла яна.

Апрануўшыся, абуўшыся, я здзіўлена пазіраў на Насцю, якая сядзела на ложку, хутаючыся ў халацік, і ціха смяялася.

— Што такое? — не зразумеў я.

— Ты падумаў, на чым мы паедзем? Я не надта блізка жыву, каб датопаць на сваіх дзвюх,— прамовіла Насця.

— На тралейбусе, вядома.— Я зусім забыўся, што зараз ноч і нёс нейкую бязглуздзіцу, а Насця не пераставала смяяцца. Мяне, як мне здавалася, ейны беспрычынны смех раздражняў.

— Чаго ты смяешся? — пытаўся я.— Давай разам пасмяемся…

— Тралейбус ажно да пад'езда падкоціць, містар Адам? — працягваючы смяяцца, сказала дзяўчына.

Тады я дапяў прычыну ейнага смеху і ўсміхнуўся сам.

— Трэба выклікаць таксоўку,— прамовіў я.— Толькі грошай у мяне няма.

— Твае праблемы,— усё яшчэ смяялася Насця.— Ды я жартую,— прамовіла пасля,— выклікай.

Насця зноў апранула маю кашулю і мае джынсы, таму што ў ласінах, у якіх прыехала да мяне, па такім надвор'і можна памарозіць усё, што заўгодна. І заміж ейнай куртачкі я даў ёй сваю скуранку, сам апрануў плашч. Насця яшчэ начапіла маю бейсболку і шакіравала сваім выглядам таксіста, але варта ёй было толькі ўсміхнуцца, як таксіст — сталых гадоў сіваваты мужчына з жывоцікам ад ужывання піва — таксама расплыўся ва ўсмешцы, паказаўшы свае рэдкія жоўтыя пракураныя зубы.

Мы забраліся на задняе сядзенне, а таксіст наўмысна для нас уключыў радыё, па якім якраз спявала Анжаліка Варум. Насця пачала падпяваць спявачцы ў прыпеве. Таксіст прыглядаўся да Насці і прыслу-

хоўваўся, пасля абярнуўся да нас, тым самым ледзь не перакуліўшы машыну ў кювет, таму што прызнаў у Насці вядомую спявачку.

— Вы — гэта… вы? — здзіўлена спытаў таксіст, пераводзячы позірк і тоўсты ўказальны палец з абгрызеным пазногцем з Насці на прыёмнік. Насця толькі згодна хістала галавой.

— А як жа Лёнік? — зноў запытаў ён, утаропіўшыся ў мяне.— Хаця… маўчу-маўчу. Справа маладая…

Усю далейшую дарогу ён не закрываў рота і ўсё паўтараў, што заўтра раскажа таварышам, як вёз вядомую зорку расейскай эстрады, і ніводзін не паверыць. Каб паверылі, Насця з задавальненнем дала яму аўтограф і нават напісала колькі слоў у ягоным нататніку, калі мы прыехалі.

— Эх, Лёнік, Лёнік… — чулі мы, падыходзячы ўжо да дзвярэй пад'езда Насцінага дома.— Лёс у нас такі…

Апошнія словы заглушыў заведзены матор машыны. Мы, апынуўшыся за дзвярыма пад'езда ля выкліканага ліфта, далі волю смеху, які разбіраў нас яшчэ ў машыне. Насця хапалася за жывот і, сагнуўшыся, хадзіла туды-сюды каля ліфта, я, прыхіліўшыся да сценкі, аб'ехаў па ёй уніз, на кукішкі, і закашляўся ад смеху.

Смех смехам, але я хацеў есці. Мы не вінаватыя, што таксіст палічыў Насцю за Анжаліку Варум, а мяне — за шчаслівага суперніка Агуціна. Насця не вінаватая ў тым, што падобна на спявачку, я не вінаваты ў тым, што не падобны на Агуціна. Ва ўсім вінаваты мой страўнік, які зараз выконваў мелодыю песні «Февраль», якую спяваюць Агуцін з Варум, і ліфт, які, як высветлілася, не працаваў, і нам давялося пешшу ўзыходзіць на пяты паверх.

Як толькі мы зайшлі ў кватэру, Насця запіхнула мяне, як кнігу ў шафу, на кухню, забараніўшы пад страхам смерці выходзіць, асабліва заходзіць у ейны пакой. Праўда, я нікуды і не збіраўся выходзіць з кухні. Знайшоў невялікую каструльку, наліў у яе вады з-пад крана і паставіў на газ; сеў на зэдлік каля акна, крыху адсунуўшы стол, каб пралезлі ногі, і стаў чакаць, пакуль вада закіпіць і Насцю з макаронамі.

Нібы красуня з галівудскага блакбастара, у адной белай камбінацыі, што аблеплівала цела, быццам гумай, Насця з’явілася ў калідоры, які вёў як на кухню, так і ва ўсе пакоі (іх было тры). Камбінацыя ледзьве закрывала клубы і давала магчымасць насалодзіцца выглядам пругкіх апельсінавых грудак.

Насця села насупраць, паклала локці на стол, паглядзела на мяне, потым дастала з палічкі нада мной нейкі нумар «Плэйбоя», разгарнула на патрэбнай старонцы і падсунула бліжэй да мяне, каб я ўважліва разгледзеў тое, што там было адлюстравана.

— Ты можаш паўтарыць часопісную рэальнасць прама зараз,— таямніча прашаптала яна.

— Ведаеш, я як-небудзь пасля,— прамовіў я, уволю нагледзеўшыся на вэрхал у часопісе з каляровымі фотаздымкамі.

— Як хочаш,— так жа таямніча адказала яна і паклала часопіс на месца.

Закіпела вада. Я ўсыпаў макароны з пакеціка, што падала мне Насця, размяшаў іх і пасаліў.

— Я заўважыла, ты любіш шаўковыя рэчы,— прамовіла Насця. Яна сядзела насупраць мяне, не змяняючы паставы.

— І што з таго? Выкшталцонасць падабаецца не толькі дамам. А я ўсё жыццё марыў спаць на шоўку і шоўкам накрывацца,— адказаў я.— Толькі не давялося пакуль.

— А халацік? Ты яго апранаў?

— Не мой фасон. Да таго ж, шоўк глядзіцца і пасуе жаночаму целу. Можна сказаць, што толькі на жаночым целе мне шоўк і падабаецца. Дарэчы, у беларускай мове ёсць слова нашмат прыгажэйшае, але з тым жа значэннем — ядваб.

— Што ж,— сказала Насця,— сёння цябе чакае ядваб і не толькі… — Таямніча падміргнула.

Пакуль мы абмяркоўвалі асабістыя густы, макароны зварыліся. Насця хацела ўжо выліваць ваду, але каструльку я ў яе адабраў, апёкшы руку пры гэтым. Ні ў якім разе ў страве, якую я гатаваў, нельга выліваць ваду.

— Нясі сваё сала,— распарадзіўся я, нібы дома.

Нарэзаўшы сала, я ўкінуў яго ў каструльку, затым кубік «галіны-бланкі» і ўсё размяшаў. Цяпер патрабаваўся час, каб страва адстаялася, вада ўвабралася ў макароны.

— Пакуль дачакаешся, калі твая беліберда адстаіцца, можна памерці,— закапрызіла Насця і дадала: — А ты ўпэўнены, што гэта можна есці?

— Яшчэ як,— запэўніў я.— У інтэрнаце, калі я быў студэнтам, гэта была наша ўлюбёная страва.

— У такім разе… — Насця ўзяла лыжку і загрукала ёй аб вугал стала, з нецярпеннем чакаючы, калі я скажу «дабро».— Ціха! — Раптам спыніла сябе і паклала лыжку, не, не паклала, адшпурнула, як гнілы яблык, з якога паказалася галава чарвячка ў кепцы з тварам каўказскай нацыянальнасці і прамовіла «Слюшай, абыдна, да?»

— Што такое? — занепакоіўся я, трывожна прыслухоўваючыся да ночы, якая афрыканскім азадкам намагалася выціснуць вокны.

— Чаго ты спалохаўся? — засмяялася Насця. Відаць, у мяне сапраўды быў спалоханы твар, таму што я насамрэч падумаў, што здарылася нешта сур’ёзнае.— Я проста ўспомніла, што ў нас ёсць віно. Будзеш?

— Чаго ты пытаешся? — Ад колькі кропелек спіртнога я ніколі не адмаўляўся, але гэта не азначае, што я алкаголік.

— Праўда, яно самаробнае,— гаварыла Насця, вымаючы пляшку з драўляным коркам са сценнай шафачкі. Краем вока я заўважыў, што адной пляшкай самаробнага віна запасы Насцінага бацькі не абмяжоўваліся. Там стаялі і гарэлка, і каньяк. Добры, відаць, піток…

Насця адкаркавала бутэльку сама і сама ж разліла віно па фужэрах, якое мы смакавалі разам з макаронамі. Было так смачна, што здавалася, нічога смачнейшага не піў і не еў ніколі. Нарэшце мой страўнік супакоіўся і заснуў Сцяпашкаю з перадачы «Добрай ночы, малышы!».

…Насцін пакойчык быў невялікі. Там стаяў ложак, пісьмовы стол, на стале — камп'ютар з прынтарам, крэсла-вярцёлка, вялізная дубовая шафа, сцены абклеены ружовымі шпалерамі з пацалункамі. Кніг было мала і ў асноўным паэзія: Ахматава, Цвятаева, Хадасевіч, Блок, Верлен, Рэмбо, Бадлер, Апалінэр, Лорка, По, Кітс, Эліат, Уайлд, Ясенін, Морысан, Цой, К. Вараб'ёў — «Забіты пад Масквой». На пісьмовым стале ляжала адкрытая на 189-й старонцы кніга. Я адгарнуў фарзац: У. Барроўз — «Мяккая машына». Цікава-цікава…

— Ты доўга яшчэ? — нецярпліва вымавіла Насця. Яна ўжо ляжала пад коўдрай, чакаючы, пакуль я распранууся. Я, між тым, быў зацікаўлены падборам кніг на паліцах. Седзячы на ложку, аслабаніўшы адну нагу з джынсаў, я спытаўся, адкуль у яе Барроўз, таму што імя апошняга з шэрагам паэтычных імён ніяк не стасавалася. Іх немагчыма было параўнаць…

— Гэта Варанкоў даў пачытаць,— сказала Насця.— Барроўз — яго любімы пісьменнік.

— І як ён табе? — вызваліў я другую нагу.

— Я ўжо другі месяц чытаю,— адказала Насця.— Мне нават у рукі кнігу браць агідна.

— Ясна. Далей можаш не распавядаць.

— А ты чытаў?

— Чытаў.

— І…

— Што і?

— Твае ўражанні?

Я крыху падумаў і сказаў:

— Вярні кнігу Варанкову і болей не чытай яе.

Насця адвярнулася да сценкі.

Я павесіў джынсы на крэсла.

— Выключы святло,— прамовіла Насця ў сценку. Гук атрымаўся, нібы з трубы.— Але спачатку ўключы магнітафон.

— Якую касету? — падышоў я да падаконня, на якім пузаціўся прайгравальнік.

— Там ужо ўсё пастаўлена,— нервова прамовіла Насця.— Націсні «плэй» і выключы святло.

Я націснуў на «плэй», апарат запрацаваў, але дынамікі маўчалі. Разгублены, я павярнуўся да Насці. Яна перавярнулася на жывот, падтрымліваючы галаву рукамі, локці танулі ў вораху шоўка, нібы ў зыбучых пясках.

— Усё нармальна,— усміхнулася яна, аблізнуўшы вусны язычком, нібы ласка.— Хадзі да мяне… Выключы святло… Я хачу сказаць, што даўно не дзяўчынка…

— Можаш не тлумачыць, я даўно гэта зразумеў.

Нечакана мяне аглушыла вельмі моцная і цяжкая музыка, я ажно падскочыў. Гэта быў Курт Кабэйн.

— Ты ведаеш, як гэта робіцца? — намагаючыся перакрычаць музыку, пракрычала мне ў вуха Насця.

— Здагадваюся, у кіно бачыў…— прашаптаў я сам сабе.

…У тую ноч Насця спярша, нібы настаўніца, праверыла на што здатны я, пасля вучыла мяне ўсяму таму, што ведала і ўмела сама. Толькі пад раніцу мы заснулі. Прачнуўся я тады, калі сонца ўдарыла па вачах, нібы пугай. Насці побач не было. Відаць, яна ўжо прымала душ. Мне да млосці захацелася курыць. Я ўціснуўся ў джынсы і зайшоў на кухню. Адкрыў фортку і запаліў «прыміну».

З клазета пачуўся характэрны гук зліўнога бачка, дзверы адчыніліся. Падцягваючы спартыўнае сіняе трыко з белымі лампасамі, на мяне глядзеў вусаты, што Сталін, дзядзька з голым торсам і татуіроўкай на плячы ў выглядзе змяі і кароны.

— Курыць у хаце нават я не дазваляю сабе,— прамовіў дзядзька.— На лесвічнай пляцоўцы — калі ласка.

Гэта быў Насцін бацька, не іначай. Яна гаварыла, што ён у камандзіроўцы, і я, як той дурань, спытаўся:

— Вы толькі што вярнуліся?

— Адкуль? — не зразумеў Насцін бацька.

— З камандзіроўкі…

— Я толькі што вярнуўся з прыбіральні, а гэта не адно і тое ж,— сказаў Насцін бацька і рэзка змяніў тэму. Ён паведаміў, што Насця пакінула мне цыдулку і дадаў ад сябе, што я доўга сплю. На маё пытанне, дзе сама Насця, яе бацька рассмяяўся мне ў твар і адказаў, што я, калі яшчэ буду так доўга спаць, праспплю ўсё на свеце.

## 5

— Я буду жыць доўга-доўга! Бачыш, якая ў мяне лінія жыцця на далоні? Пад дзевяноста, калі не болей. Прыгожай бабулькай, у коле шматлікіх унукаў і праўнукаў, я буду сядзець у крэсле і вязаць ім швэдары, шалікі і рукавічкі. Ану пакажы сваю далонь!.. Ведаеш, тваё жыццё кароткае будзе…

— Як перадсмяротны хрып?
— Не, як песня цыгарэты.

## 6

Насця вучылася на трэцім курсе ва ўніверсітэце замежных моў на італьянскім аддзяленні. З цыдулкі, пакінутай ёю, я даведаўся, што пасля заняткаў яна, бліжэй да вечара, адразу прыедзе да мяне. Гэта радавала, але і засмучала адначасова, бо паміж днём і вечарам я не ведаў, куды сябе падзець. Ды нядоўга думаючы, рушыў на Захарава, па дарозе мяркуючы завітаць да выдатнага празаіка Андрэя Федарэнкі, які працаваў у часопісе «Полымя». На жаль, паразмаўляць з ім не ўдалося, бо, як мне паведамілі, Андрэй узяў адпачынак і з’ехаў разам з жонкай на Гомельшчыну. Нічога іншага не заставалася, як ісці ва ўніверсітэт замежных моў, які насупраць рэдакцыі, не таму, што ён быў побач, а таму, што захацелася есці, а, як вядома, любая навучальная ўстанова мела свой буфет.

Я ўзяў кавы і нейкія незразумелыя булачкі чырвонага колеру. У прынцыпе, кава таксама не была кавай, але гэта ўжо дэталі. І я піў каву, не адчуваючы ні смаку, ні задавальнення, нібы жуйку жаваў, з якой даўно ўцёк сок. Я ні аб чым не думаў, але не заўважыў, як да мяне падсеў Андрэй Шакель — мой даўні сябра, ён працаваў тут. Андрэй паклаў свой берэт на столік, расшпіліў скуранку і пазіраў на мяне глыбока пасаджанымі блакітнымі вачыма з-пад навесу броваў.

— Ты што, муху праглынуў? — спытаў ён толькі таму, што не любіў маўчаць. Увогуле, Андрэй называў сябе «артыстам гутарковага жанру» і падпрацоўваў ды-джэем на «Радыё-стыль».

— Што? — нібы з таго свету, незразумела зірнуў я на яго.

— Па-першае, спачатку павітацца трэба,— упікнуў Андрэй,— а пасля ўсё астатняе…

— У цябе ёсць нейкія прапановы? — абыякава спытаў я, таму што ўсе прапановы Шакеля я ведаў, як свае пяць пальцаў. Зараз ён пакліча мяне ў бар, што на другім паверсе ГУМа, за мой кошт. Я не памыліўся і адразу папярэдзіў, што грошай у мяне няма.

— Я частую,— ляпнуў ён мяне па плячах.

— Ты разбагацеў? — не паверыў я.

— Амаль. Дзядзька даслаў з Тамбова грошы.

Зразумела! Калі дзядзька насамрэч даслаў грошы, значыць, Шакель і сапраўды багаты. Пытанне, наколькі?..

— Ідзеш? — зірнуў ён скоса на мяне.

— А куды я падзенуся?..

Не паспеў я вылезці з-за століка, як позірк зачапіўся за мае ж джынсы, апранутыя на Насці, што стаяла метрах у дзесяці ад нас і міла размаўляла з яшчэ адным маім сябрам, які праз некаторы час ахрысціць мяне «сябрам у двукоссі»,— Сержам Мінічам. У адрозненне ад Шакеля, які літаратурай не займаўся ніколі, толькі чытаў, Серж спрабаваў сябе і ў паэзіі, і ў драматургіі, зараз паспяхова аб’язджаў прозу малой формы. Маючы несумненны талент літаратара, Мініч усё адно пісаў дрэнна. Ён не разумеў, ці не хацеў разумець, што піша дрэнна, і працягваў у тым жа духу. Можа, ён і добра пісаў, я не ведаю, толькі мой пункт погляду на яго творчасць быў адмоўны. Колькі я не раіў яму паболей чытаць, ён ніколі не слухаў і казаў, што я ад зайздрасці так кажу. Добра, хай пацешыцца, можа, я і сапраўды зайздрошчу яму?..

Усміхаючыся ў свае кашачыя вусы, паядаючы Насцю крумкачынымі вачыма, Серж перамінаўся з адной крывой нагі на другую, слухаў, відаць, з вялікім задавальненнем Насцін голас. Менавіта голас, а не тое, што

тым самым голасам прамаўляла дзяўчына. Я ведаю, што Насцю немагчыма зразумець, затое голас ейны так заварожвае і замаражвае, што адмарозіць здатны толькі ейны ж смех, вельмі падобны на д'ябальскі.

— Ты чаго застыў? — спытаўся ў мяне Шакель.

— Ды так… — махнуў я рукой.— Пачапалі.

Я яшчэ паспеў угледзець, як Серж пацалаваў Насцю. Дзякуй богу, я яшчэ быў не п'яны, іначай наламаў бы дроў. Я проста прайшоў міма, прыкусіўшы губу. Яна мяне не заўважыла, таму што пасля пацалунку я пачуў той самы незабыўны ейны смех. Ёй было весела з Мінічам? А яму… часу не хапае на занятках гутарыць са студэнткамі, знаёмячы іх з гісторыяй айчыннай літаратуры, што ён клеіцца да іх у вольны час?.. Я не раўнівы, але да такой ступені захацелася напіцца, каб пасля даць волю рукам, каб крышыць і ламаць усё на сваім шляху.

Кропелька крыві скочыла, нібы ваверчаня, на падлогу, затым — другая, трэцяя… Я быў падобны на вампіра з пакусанай губой, з якой цякла кроў.

— Мікола, ты б гэта… — павярнуўся Андрэй да мяне,— памыў бы як-небудзь свой фэйс, а то ўвесь народ напалохаеш.

— Сумняюся,— злосна сплюнуў я кроў на падлогу,— наш народ ужо нічога не баіцца.

— Ну, усё адно непрыгожа ў такім выглядзе з'яўляцца ў грамадскім месцы…

— А хто сказаў, што я менавіта ў такім выглядзе з'яўлюся ў тваім паршывым, непрытульным бары, дзе нават курыць нельга!..

Я не ведаў, што са мной адбывалася. Дакладней, я разумеў, што злую і злосць утаймоўваю на ні ў чым не вінаватым Андрэі, ды нічога не мог з сабою зрабіць…

Кроў я не змыў. Размазаў рукою па твары, як індзеец, затым абслізненымі пальцамі абціраў. Андрэй

толькі паціснуў плячыма. Гэта самае меншае, што ён мог зрабіць, і бяскрыўднае, таму што яму хапіла розуму і пакруціць пальцам ля скроні, прынамсі, маёй.

На метро мы хутка даехалі да «Кастрычніцкай». Не люблю метро. За тое, што дыхаць няма чым. Такое адчуванне, што жывым замураваны пад зямлёй, дый таўкатня гэтая… штурханіна… На злом галавы людзі пруцца ў вагоны, не даючы іншым выйсці, а пасля сварацца. Дарэчы, у такой цясноце вельмі зручна забіць чалавека пры дапамозе ўкола. Ніхто не заўважыць, а мёртвы чалавек яшчэ будзе стаяць. Ён грукнецца пазней, як манекен, і па ім пройдзе натоўп і нават не абернецца, каб паглядзець, на што наступіў. Падумаеш, адзін чалавек «капыты адкінуў». Адным меней, адным болей… Нехта спажыве больш паветра заміж яго…

А ў бары было душна. Што ў метро, што ў бары — усё адно. Да таго ж, і месцаў, як заўсёды, вольных не назіралася. Хаця не, Андрэй заўважыў, як з вуглавога століка ля самай сценкі прабіраліся да выхаду дзве парачкі, і ён ламануўся, пакуль не занялі, да аслабоненага месца, кінуў на крэсла сумку, куртку павесіў на спінку. Я не стаў распранацца, хоць было душна. Мяне калаціла, як у ліхаманцы, а перад вачыма стаяла Насця з запракінутай назад галавой і залівіста смяялася з мяне, трымаючы пад руку Мініча, які таксама пасміхаўся. Я моцна бразнуў кулаком па століку. Цудам не разбіліся пустыя пляшкі з-пад піва, пакінутыя нашымі папярэднікамі. Яны падскочылі, як салдаты на плацу, і скаціліся, пхаючы адна адну, нібы наперагонкі, баючыся некуды спазніцца, на падлогу, пад ногі мне гранатамі. Пластыкавыя сподкі са скамечанымі трохвугольнікамі сурвэтак не зварухнуліся з месца, нібы былі прылепленыя, а шклянку з нявыкарыстанымі сурвэткамі я паспеў утрымаць і паставіў на месца.

Шуму я нарабіў.

Абслугоўваючы персанал прыгразіў выклікаць ахову. Андрэй супакоіў усіх сваім языком, аб нечым «грузячы», а пасля пытаючы, ці ёсць халодная гарэлка? У рэшце рэшт, якая розніца, халодная яна ці цёплая, усё адно — гадасць, якую чамусьці з задавальненнем п'юць. Не ведаю, як Андрэю, а мне без розніцы…

— Ты чаго буяніш? — паставіў Андрэй дзве шклянкі па сто грамаў гарэлкі на стол.

— Прабач, я не хацеў,— выціснуў з сябе.

— Ты не ў мяне прабачэння прасі, а ў тэхнічак, што тут прыбіраюць.

Андрэй зноў адышоў. Відаць, за рэштай. Я падняў пляшкі і аддаў іх прыбіральшчыцы, якая нават стол выцерла вільготнай анучкай, хоць ён і быў чысты. Яна не крычала і не сварылася на мяне. У ейным позірку я заўважыў толькі спагаду і разуменне, маўляў, з кім не бывае.

Андрэй вярнуўся з двума пластыкавымі стаканчыкамі, у якіх была празрыстая вадкасць з бурбалкамі.

— Гэта што, мінералка? — спытаўся я.

— Джын-тонік,— адгукнуўся Андрэй.— Ты б хаця дапамог мне ці што,— прамовіў пасля. Я падняўся, каб дапамагчы, але ён пасадзіў мяне назад: — Сядзі ўжо, гора!..

Андрэй яшчэ прынёс два гарачыя бутэрброды з каўбасой на пластыкавым сподку, тады ўжо сеў.

— За што п'ем? — падняў я шклянку, разглядаючы праз яе адным вокам свой палец, які набыў нечуваныя памеры і нагадваў удава. Калі я перастаў разглядваць яго праз шклянку, ён быў ужо звычайным пальцам, тым, якім паказваюць «фак», а затым за гэты паказ атрымоўваюць у лыч, праўда, вельмі рэдка, гледзячы на каго нарвешся…

— За што, за што? — перадражніў Андрэй.— Крыўдзіш ты мяне. За нас, за каго яшчэ?

Выпілі з тым разлікам, што налітыя сто грам расцягваем на тры заходы, запілі джын-тонікам, які меў пах лесу, дакладней, елкі, паадкусвалі бутэрброды. Я ледзь не ўзвыў ад нечаканага болю. Бутэрброды былі гарачыя, і я апёк свежую рану на губе.

— Асцярожней трэба быць,— адзначыў Андрэй, тады спытаў: — Чаго такі змрочны?

— Ды нічога,— адмахнуўся я.— Так, жыццё заела.

— Праблема з кніжкай?

— Ды не. Выйдзе кніжка месяцы праз тры-чатыры. Справа не ў ёй.

— А ў чым?

— Ува мне, калі хочаш.

— І што за справа такая?

— Закахаўся я.

Андрэй моцна з задавальненнем рассмяяўся.

— Што я такога смешнага сказаў? — незалюбіў я.

— Здагадайся сам,— смяяўся Андрэй.— За апошнія два месяцы ты мне казаў аб гэтым разоў дзевяць, гэта як мінімум, Казанова хрэнаў!

— Цяпер зусім іншае…

— Так-так-так-так, ты мне гэта будзеш казаць, сур'ёзны мужчына, разумееш…

— Я як ніколі сур'ёзны.

— Давай і вып'ем за гэта.

Выпілі.

Ды я не мог расказаць яму пра Насцю. Раней расказваў усё. Мы разам смяяліся з маіх аповедаў, як з анекдотаў, але не ў гэты раз. І, хоць мы сябравалі з Андрэем даўно, лічы, з першага курса філфака, які я кінуў на трэцім, каб добраахвотна пайсці ў войска, а Андрэй паступіў у магістратуру, нават яму, па крайняй меры зараз, я не мог нічога расказаць пра Нас-

цю. Не той выпадак. Ды ці й, папраўдзе, кахаў я яе? Я не ведаў. Толькі мне было непрыемна бачыць яе поруч з Мінічам. Між намі прабегла чорная кошка на глебе густаў і літаратуры. А раней кляліся ў вечнай дружбе. З жудасцю я зразумеў, што ў мяне няма таго адзінага сябра, якому льга было б у нечым самым патаемным і глыбока асабістым прызнацца, даверыцца і быць упэўненым, што гэта не разляціцца па бяздротавым тэлефоне па ўсіх знаёмых… Андрэй? Ён лічыць мяне адным з лепшых сяброў, не аднойчы казаў пра гэта, прызнаючы ў дадатак мой талент і шкадуючы, што ў нашай краіне няма магчымасці на сваім таленце зарабляць. Але я не мог разбіць нябачны паміж намі турнікет некаторага непаразумення. Андрэй вельмі лёгка адносіўся да маіх заляцанняў і чарговых раманаў. Ён не верыў, што ў мяне магчыма калі-небудзь нешта сур’ёзнае. Не той я чалавек, па яго меркаванні.

— За сяброў!

Мы зноў выпілі. Дарэшты. Андрэю здалося, што мала. Мне таксама, але працягваць п’янку ў гэтым душным бары мне не хацелася, хоць ён быў даволі ўтульным. Мне не падабалася ў ім. Па-першае, я хацеў курыць, а гэта забаранялася, па-другое, закусь — занадта кусачая. Куды лепш было б узяць пляшку і накіравацца да закусачнай, яна ж пад бокам, насупраць ГУМа, варта толькі дарогу перайсці. Да таго ж, там танныя чабурэкі і салата, а яшчэ мая добрая знаёмая Галіна Аляксандраўна — загадчыца закусачнай. Яна яшчэ была не старой кабетай з прыемнымі рысамі твару, трошкі таўставатая, але толькі трошкі. Я з ёю пазнаёміўся, калі мы неяк пілі там. Я сказаў, што крыху пішу і падпісаў нумар часопіса, у якім была толькі што надрукавана мая паэма. З таго часу ўвесь персанал вітаўся са мной, як з жаданым госцем. На самай справе, чаму б нам не перабазіравацца

да Галіны Аляксандраўны? Танней абыдзецца. Чым пераплачваць за гарэлку, беручы яе на разліў, лепш не выпендрывацца, а ўзяць пляшку і, як сур'ёзным мужчынам, распіць. Андрэю не падабалася толькі тое, што ў закусачнай не было як сесці і сталы драўляныя хісталіся, як караблі на моры. Аднак жа і мы ўжо не роўна хадзілі. То аднаго зачэпіш, пакуль выйдзеш з ГУМа, то другога, то трэцяга… У рэшце рэшт, Андрэй згадзіўся на маю прапанову і на першым паверсе ўзяў бутэльку «Настойкі партызанскай», іншага нічога не было, але і настойка — рэч добрая. Пакурыўшы ў пераходзе пад музыку валацужных музыкаў, у якіх адсутнічаў не толькі голас, але і слых, мы падаліся да закусачнай. Як я і казаў Андрэю, нам былі рады і пагрэлі самыя тоўстыя і вялікія чабурэкі.

Заняўшы столік, хутчэй, лодку, адрозненне складалася толькі ў тым, што на гэтай лодцы сядзелі не мы, а нашыя локці, мы выпілі яшчэ, і яшчэ, і яшчэ… не зважаючы на час і наведвальнікаў. Андрэй пачаў скардзіцца на асабістае жыццё, на недахоп грошай і кахання… Я крыва ўсміхнуўся. Яшчэ б… у скуранцы за сотку баксаў можна і пажаліцца. А наконт кахання… Калі б Андрэй не быў такім дурнем… дзевак — бяры, не хачу. Дык не хоча! Навошта тады жаліцца? Таму што я сябар? Але я магу такую тыраду выдаць наконт свайго матэрыяльнага і духоўнага становішча, што ніякі Жырыноўскі, будзь ён побач, не затыкнуў бы мне рот.

— Веру, веру,— асадзіў назад Андрэй,— я і без таго ведаю тваё становішча,— дадаў ён.

Стаяць ужо было цяжкавата, а стол усё некуды ад'язджаў ці адплываў, ці гэта мне толькі здавалася? Ужо насупроць стаяў не адзін Андрэй Шакель, а цэлыя тры, і ўтрох нешта даказвалі пра Югаславію. Не, Мілошавіч не дачакаецца, каб я добраахвотна рушыў

яму на дапамогу, нават у якасці журналіста. Мне хапіла два гады таму Таджыкістана, дзе прастрэлілі нагу і праламілі чэрап. Дасюль свячуся дзіркай, уяўляючы добрую мішэнь…

— Ліняць трэба адсюль,— казаў Андрэй.— Вось скончу магістратуру, пагляджу, мабыць, з'еду ў Нямеччыну…

— Ненавіджу немцаў! — выпаліў я.— Усіх бы пастраляў.

— …Мне толькі маці шкада,— працягваў Андрэй.— Мабыць, з-за яе і трымаюся яшчэ гэтай краіны…

— …«И никому не дочь, и никому не жена»… — зацягнуў я. Андрэй мне крыху дапамог дацягнуць песню, а пасля мы дапілі тое, што засталося.

На свежым паветры закурылі. Андрэй зірнуў на гадзіннік і пачаў развітвацца. Яму трэба было паспець на электрычку, бо жыў ён у Койданава. Мы паціснулі на адвітанне рукі, і ён паспяшаўся да метро.

Я крыху пастаяў, дакурыў. Андрэй курыў «Бонд», але ніколі не частаваў мяне цывільнымі цыгарэтамі, бо я іх сам не ўспрымаў, аддаючы перавагу гродзенскаму тытуню, які, калі шчыра, нічым не патыхаў. Трава — трава і ёсць, пацяруха нейкая, але чамусьці падабалася.

У мяне заплюшчылася адно вока. Але не па маёй віне. Міма прайшлі дзве дзяўчыны, яны і выклікалі на маім твары такі манеўр. Я паспрабаваў было прычапіцца да іх, але куды там… Пакуль я рабіў адзін крок, яны паспявалі прайсці дзесяць. Увогуле, мае ногі былі нібы драўляныя, да таго ж ішоў я не ў той бок. Мабыць, ногі гэта адчувалі, таму і ўпарціліся. Я павярнуўся на 180 градусаў. Гэта мне каштавала хвіліны жыцця. Вецер так закруціў, што я адчуў сябе юлой, а калі ён суняўся, пада мной усё калывалася, нібыта

я плыў на плыце. Я баяўся і адзін крок зрабіць, бо хто ведае, што мяне чакае па-за плытом, а раптам там твань якая-небудзь… Лепш я пачакаю, пакуль плыт сам мяне даставіць, галоўнае, правільна кіраваць.

На гарызонце паказаўся слуп. Ён усё набліжаўся і набліжаўся, маючы нейкую дзіўную афарбоўку: увесь у шэра-сініх плямах ды яшчэ з рупарам, а мо ліхтаром? Толькі пасля я дапёр, што слуп на самай справе не быў ніякім слупом, а мянтом, які схапіў мяне за рукаў і хацеў завесці ў апорку. Яна знаходзілася непадалёк, насупраць сквера Грыцаўца. Аднак я заўпарціўся.

— Я — беларускі пісьменнік! — выгукнуў.

— Ды хоць рускі,— адказаў мент.

— Я — беларускі,— працягваў я,— у тым-та ўся і справа…

— Геній недарэзаны… — вылаяўся мент, але мяне адпусціў. Відаць, паважаў беларускіх пісьменнікаў. А мне трэба было трапіць на Свярдлова, гэта побач з вакзалам, каб сесці на пяты тралейбус ці на дваццаты, без розніцы. Дарогу да вакзала я памятаў, пагэтаму пайшоў прама, нікуды не збочваючы. У тралейбусе я, праўда, спатыкнуўся, калі ўздымаўся па прыступках. Слізкія, халера! Нават сеў, што дзіўна, побач з прыгожай дзяўчынай, падобнай на Жану д'Арк у выкананні Чурыкавай. Чамусьці мяне адразу кінула ў сон, а галава беспамылкова схілілася на плячо дзяўчыны. Яна дрыганула ім так, што ў мяне ледзь зубы не павыляталі. Я няўцямна пазіраў на яе, а яна прамовіла, што я п'яны і каб паводзіў сябе прыстойна. Я згодна хітнуў галавой, якая зноў, нібы магнэзам яе цягнула, шмякнулася на плячо дзяўчыны.

— Мужчына, вы — п'яны! — закрычала яна.

Нейкая істэрычка. Не расплавіцца ж тваё плячо ад пяці хвілінаў не такога ўжо і цяжару, да таго ж мая галава — не серная кіслата і не шчолач.

— Мужчына, вы — п'яны! — трэці раз выгукнула дзяўчына, крыху не аглушыўшы мяне, ажно спаць расхацелася, ды й мой прыпынак набліжаўся.

Я падняўся з сядзення, учапіўся за поручань.

— Зараз я выходджу,— прамовіў,— я тут жыву.— Вырашыў удакладніць:— А ў цябе ногі крывыя, Зоя Касмадзям'янская…

— Што?

Цяпер яна лыпала і без таго лупатымі вачыма, а я спакойна выйшаў з тралейбуса і забыўся на яе.

— Пара-пара-парадаваемся на сваім вяку… — зароў я на ўвесь голас. Мне хацелася спяваць і граць на гармоніку, ды вось гармоніка не было і граць я на ім не ўмеў.

— Чаго крычыш, морда п'яная!? — З нейкага акна на першым паверсе пяціпавярховіка вызірнула раззлаваная мадонна.— Дзяцей мне пабудзіш, сволач!

Во народ, і песні праспяваць не дадуць. Эх, душа баліць, а сэрца плача. Я не стаў перабрэхвацца з мадоннай, няхай «радаваецца», што настрою сварыцца ў мяне няма. А вось у замочную адтуліну ў дзвярах уласнай кватэры я не мог трапіць ключом. Ды калі б і трапіў, усё адно не адчыніў бы, бо дзверы былі замкнутыя з таго боку, і з таго боку тырчэў другі ключ. Я зусім забыўся пра Насцю, таму вельмі здзівіўся, убачыўшы яе на парозе, босую, у адным перахопленым пасам халаціку.

— Ты? — выдыхнуў.

Яна нічога не адказала і нават не ўсміхнулася. Проста адышлася, прапускаючы мяне ў прыхожую. Гэта раззлавала. Значыць, Мінічу можна ўсміхацца і радаваць яго сваёй усмешкай; ён ажно блішчэў, бы ў блястках, ад шчасця, калі яна яму ўсміхалася, а я дык пралятаю?! Ну, пачакай!

Я моўчкі разуўся, скінуў плашч на падлогу, не падымаючы яго, прайшоў у залу. Насця павесіла плашч на вешалку, прайшла следам за мной.

— Што здарылася? — спытала яна.

— А што магло здарыцца? — пытаннем на пытанне адказаў я, зірнуўшы на Насцю з-пад ілба, палохаючы яе гэтым.

— Не ведаю,— пацiснула яна плячыма.

— Чаго тады пытаешся?

— Таму, што ты п’яны.

— Я піў і піць буду! — бразнуў я кулаком па стале, на якім стаяў камп’ютар і попельніца. Попельніца падскочыла і загрукацела, дзейнічаючы мне на нервы. На нервы мне дзейнічала і Насця. Я ніяк не мог пазбавіцца ейнага смеху, што гучаў у маіх вушах, і прывіду Мініча, які зларадна ўсміхаўся ў свае шляхецкія вусікі. Калі б я не быў п’яны, магчыма, Насця б мяне нiколькі не раздражняла, але я выпіў, і мой позірк прыдзірліва чапляўся да кожнай складкі і зморшчынкі на халаціку, што трымаўся на Насціных плечуках, як на вешалцы, магчыма, з-за таго, што дзяўчына стаяла спінай да сцяны, трымаючы за спінай рукі. Яе пастава падалася мне выклікаючай, кідкай і пагардлівай, а мной яшчэ ніхто не пагарджаў. Я наводмаш ударыў Насцю па твары. Яна ўпала, як падкошаная, на падлогу, ледзь не пабіўшы галаву, але мне было ўсё роўна. Напалоханыя яе вочы глядзелі на мяне з немым дакорам і чаканнем тлумачэння майго ўчынку, а з ніжняй губкі зацурчэла кроў, якая здалася мне ўсяго толькі чырвонай фарбай. Я быў упэўнены, што Насця прытвараецца і здзекуецца з мяне. Упэўненасці надаваў смех, Насцін смех, што несупынна гучаў у маіх вушах, з кожнай хвілінай узмацняючы ноты. Мне здавалася, што Насця смяецца з мяне і зараз, а ёй падбрэхвае Мініч. Яго крумкачыная

фізіяномія прыляпілася да майго позірка, як маска. Паўсюль я бачыў яе, а разам з ёю — вясёлую Насцю. Від крыві, хутчэй, чырвонай фарбы, намаляванай наўмысна, каб я падабрэў, таму што ў сапраўднасць крыві я не верыў, дзейнічала на мяне як на быка ў карыдзе. Нібы нейкі паморак сышоў. Хацелася біць, душыць, крамсаць Насціна цела, якое, як і кроў, здавалася мне несапраўдным. Сапраўдным я лічыў толькі здзеклівы смех, а смяяцца з мяне я нікому не дазволю. Я быў дзікуном, дагістарычным чалавекам. Усе заганы, сабраныя маімі продкамі за дзве тысячы гадоў, вылупіліся, быццам наноў нарадзіліся, і палопаліся, як пухіры на маім целе, разносячы па кватэры смурод вякоў. А смех мяне падштурхоўваў, фізіяномія Мініча выклікала на рашучыя дзеянні.

— Смяешся?! — шыпеў я, падступаючы да Насці.— Смейся, смейся! Паглядзім, як ты будзеш зараз рагатаць…

Яна адсоўвалася, адпаўзала на каленях падалей ад мяне, а ў вачах ейных я бачыў страх, і мне падабалася гэта. Мяне трэба баяцца. Трэба!

— Мікола! — шаптала Насця.— Мікола, апамятайся! Што ты робіш?..

Я ўхапіў яе за валасы і намятаў іх на кулак. У апошні момант халат паляцеў, як воблака, у невядомую далячынь. Голае цела дзяўчыны зусім адурманіла мой мозг. Але Насця супраціўлялася. Неаднаразова яе пальцы з доўгімі пазногцямі праходзіліся па маім твары, як цягнік па рэйках, пакідаючы крывавыя пісягі. Я звязаў ёй рукі за спінай і шпурнуў на ложак. Схапіўшы падушку, павалі апускаў яе на твар дзяўчыны, вочы якой адлюстроўвалі ўжо не страх, а жудасць.

Падушка апусцілася на Насцін твар, як бетонная пліта на Партоса. Дзяўчына звівалася, як змяя, а я ўсё мацней і мацней прыціскаў падушку. Нешта

перашкодзіла мне зрабіць непапраўнае. «Я буду жыць доўга-доўга...» — нібы з таго свету дайшоў да мяне Насцін голас, калі яна разглядала лінію жыцця на сваёй далоні. Зірнуўшы на маю, дзяўчына самотна акінула мяне сваім позіркам і сказала, што маё жыццё будзе кароткім... Секунднага адпачынку Насці хапіла, каб скінуць мяне з ложка, адпіхнуўшы нагамі. Я паляцеў уніз галавой і раззлаваўся не на жарт. Не, душыць я яе не стаў. Я перакуліў Насцю на жывот і завязаў рот, каб не крычала і не кусалася. Я паўтарыў подзвіг героя «Кнігі Мануэля» Картасара, і пасля таго мяне ахапіла поўная апатыя. Я нават развязаў Насцю, якая цяжка аддыхвалася, затым падціснула пад сябе ногі і заскуліла, як шчаня. Мне было ўсё роўна. Я не зварухнуўся, калі Насця саскочыла з ложка, калі апраналася, не заўважыў, калі пайшла. Толькі адчуў праз некаторы час, што Насці побач няма і што я яе вельмі моцна пакрыўдзіў, але нешта рабіць не збіраўся, каб яе вярнуць. Нягледзячы на тое, што паморак праходзіў, я ўсё яшчэ адчуваў сябе пячорным чалавекам, які раздзірае сырое мяса здаровымі белымі зубамі, з якіх капае сліна. Нейкім шостым пачуццём падумаў, што тым самым мясам магла б стаць Насця. Але не стала. Значыць, нешта чалавечае ўва мне яшчэ засталося.

Я ляжаў, раскінуўшы рукі і закінуўшы нага за нагу, як распяты Хрыстос, і плакаў. Слёзы каціліся так хутка і былі такімі вялікімі, што ў мяне мільганула думка наконт прэса, які вырабляў гэтыя слёзы. Ён перавыконваў план, таму што плакаў я вельмі рэдка. І тое, плакаў не я, а гарэлка.

Смех у вушах знік, фізіяномія Мініча — таксама. У кватэры было ціха, як у магіле. Я прыслухоўваўся да цішыні, ні пра што не думаючы. Думаць было позна. Раптам цішыню перарэзаў, бы дарогу — слуп святла, дзвярны званок. Я кумільгом кінуўся да дзвя-

рэй, на хаду зашпільваючы джынсы. Я быў упэўнены, што вярнулася Насця. Вядома, яна злавала на мяне, крыўдавала, дзьмулася, але ненадоўга, яна даруе мне, як толькі я ўсё растлумачу… Але то была не Насця.

Не паспеў я адчыніць дзверы, як мая сківаца сустрэлася з каменным кулаком. Я адляцеў назад, моцна выцягся спінай аб вушак і аб'ехаў на падлогу. Не зачыняючы за сабой дзвярэй, у прыхожую зайшоў Мініч. Ён святкаваў перамогу, я быў бездапаможны супраць яго, не мог нават абараняцца, але толькі таму, што ўсё яшчэ быў п'яны, да таго ж выдахся, пакуль тузаўся з Насцяй.

Мініч адчуваў сябе тэрмінатарам, не слабей, гэтакі сур'ёзны мужчына. Ён падняў мяне за валасы і стукнуў тварам аб дзверы туалета. Я заліўся крывёю. Пару разоў па маім твары яшчэ праехаліся яго боты. Затым Мініч паставіў мяне на ногі, якія ледзь утрымлівалі маю вагу, шыя ўвогуле не трымала галаву, якая матлялася як на шарнірах.

Мініч скрывіўся. Ён запэцкаў рукі маёй крывёй. Але размахнуўся і моцна сadanуў мне ў жывот. Я сагнуўся ў тры пагібелі, выхарквaючы разам з крывёю вантробы. Мяне пачало ванітаваць, галава закружылася.

Мініч пагардліва абцёр рукі аб маю куртку (Насця выбегла, відаць, забраўшы ўсе свае рэчы), што вісела на вешалцы, плюнуў на мяне і ціха пакінуў кватэру, асцярожна зачыніўшы дзверы. Ён быў дужэйшы за мяне і шырэйшы ў плячах, але дай толькі тэрмін… Ён помсціў мне за Насцю, якая пажалілася яму. Вядома, да каго ёй яшчэ звяртацца, як не да Мініча, любімага, па ўсім відаць, выкладчыка і не толькі. Але мы пагаворым яшчэ… Я з цяжкасцю ўжо валодаў сабой. Падзеі сённяшняга дня цаглінамі кладзіся на плечы і з грукатам апускаліся на галаву, якая трашчала, як спелы гарбуз.

Я страціў прытомнасць.

## 7

«Ноч апусцілася сцяной. Я адчуваў сябе ваўком, загнаным у пастку. Хутчэй, ваўчанём ці, лепей, шчанём, таму што забраўся ў сабачую будку, хаваючыся ад немцаў і паліцаяў, якія лавілі габрэяў. Я ўжо ведаў,— калі трапіш на вочы фашыстам, яшчэ горай, «бобікам»,— дабра не чакай. Усіх, каго я ведаў: і дзядзьку Мойшу, і цётку Сару, і іх дачок Марыю і Хрысцю, і бацькінага брата Абрама, які пісаў харошыя вершы і дапамагаў мне ў складанні,— я не бачыў з мінулага лета. Іх, таксама, як і цяпер, уначы выгналі з уласных дамоў, загадалі ўзяць самае неабходнае і некуды павялі. Праз некаторы час у мястэчку пайшлі чуткі, што іх пастралялі. Бацька хаваў ад мяне праўду, але я ўжо не маленькі і сам разумеў, што немцы за нешта ненавідзяць габрэяў і знішчаюць усіх. Бацьку яны закалолі штыкамі. Ён паспеў перакінуць мяне цераз плот на суседскі гарод і загадаў бегчы, ратавацца. Але ж там, з бацькам, засталіся маці і цяжарная сястра Міра. Я яшчэ прыслухоўваўся да гукаў, што даносіліся з нашага двара, і нячутна плакаў. Слёзы каціліся самі па сабе, і далоні пераўтвараліся ў кулакі таксама міжволі, але нічым дапамагчы родным я не мог. А пасля ўсё скончылася. Крыкі і брудную лаянку заглушыў шум матора грузавіка, які паглынуў іх, нібыта ежу, не разжаваўшы як след.

І тады я пабег. Ажно вецер свістаў увушшу. Я шукаў, бегучы, схованку, але вочы ні за што не чапляліся. Толькі ў адным з пустых двароў, ці то мне проста падалося, я заўважыў сабачую будку. Сабак увогуле ва ўсёй акрузе не было, іх пастралялі немцы. Можа, мяне не знойдуць… Мяне калаціла, як у ліхаманцы, ад страху перажытага і страху за будучае, пра каторае я і думаць не хацеў, ды думкі пчаліным роем кружлялі ў галаве, бо я хацеў жыць, занадта ж малады, каб памерці.

А можа, мяне калаціла ад холаду? На дварэ стаяў студзень, а ўва што я паспеў апрануцца? Ватоўка і кажух, як віселі, так і засталіся вісець на вешалцы ў верандзе. Добра яшчэ, што паспеў улезці ў кірзавыя боты, але на босую нагу, і ногі зараз мерзлі, і сам я мерз у адным споднім, толькі сэрца тахкала, як заведзенае. Я баяўся, каб яно не зазвінела, як будзільнік. Тады мне канец. Я схапіўся аберуч за сэрца, сціскаючы яго, каб яно перастала так шалёна грукацець, бо магло, як тая міна, узарвацца… І тут я пачуў крокі і галасы, што належалі, няйначай, паліцаям. Яны проста праходзілі міма, ды раптам спыніліся ля майго схову; я затаіў дыханне, стараючыся не дыхаць, аднак у мяне нічога не атрымоўвалася. «Бобікі» закурылі, абмяркоўваючы сённяшнюю аблаву і пазіраючы на хату, у якой, па ўсім відаць, яшчэ не паспелі «пагаспадарыць».

Я чыхнуў. Два разы запар.

Паліцаі насцярожыліся, наблізіліся да будкі. Я спадзяваўся, што яны не пачуюць, але… мой позірк сустрэўся з позіркам аднаго з «бобікаў». У апошнюю секунду я дзіка закрычаў, у сваю чаргу, закрычалі і «бобікі», выцягваючы мяне са схову.

— Юдын? — невядома адкуль узяўся даўганогі немец з вялікім носам, як у Бураціна.

— Юдын, пан афіцэр, юдын,— зларадна ашчэрыўся паліцай, які выцягваў мяне з будкі.— Шчанём прытварыўся.

Далей нейкі туман і каша ў галаве, хаця мяне не білі. Рэзкасць відарысу праявілася тады, калі я ўжо быў у камендатуры і стаяў перад нейкім дзядзькам у бальнічным халаце абсалютна голы. Лысы чэрап дзядзькі блішчэў, як добра памытая каструля, акуляры на мясістым носе і шчокі, як кісель, выклікалі агіду, а ён мяне лапаў сваімі тоўстымі пальцамі з абгрызенымі пазногцямі, нібы дзяўчыну, дыхаючы ў твар перагарам.

Я стаяў нерухома. Бегалі толькі вочы ў надзеі адшукаць паратунак, але ніводзін вугал і не патыхаў ім. Дзядзька пачынаў цяжка дыхаць, калі кранаўся мяне, я міжволі адхіснуўся. Тады ён пільна паглядзеў у мае вочы, абдзёрнуў халат і сеў за стол; узброіўся самапіскай і нейкім бланкам. Размаўляў са мной парыску, і я ўпэўніўся, што да немцаў, як арыец, не мае ніякага дачынення. Ён такі ж паслугач, як і «бобікі».

— Імя! — вымавіў ён і ўтаропіўся на мяне.

— Адам,— прамовіў я.

— Прозвішча! — ужо не адрываўся ён ад папер.

— Адам,— зноў прамовіў я.

— Прозвішча, а не імя.

— Адам,— спалохаўся я грубага крыку дзядзькі.

— От бесталач,— рассмяяўся ён.— А яшчэ кажуць, што габрэі — разумны народ.

— Я не габрэй,— запярэчыў я.

— А хто ж ты? У цябе на ілбе напісана твая нацыянальнасць!

— Я не габрэй,— стаяў я на сваім.

— Упарты ты чалавек,— відаць, расчаравана ўздыхнуў дзядзька.— Добра,— нібыта пагадзіўся са мной,— так і напішам, што не габрэй.

Ён нешта чыркануў на бланку, пасля зноў спытаўся:

— Год нараджэння?

— 1927-ы.

— У школе вучыўся?

— Так.

— Добра,— адклаў дзядзька выкарыстаны бланк да стосу іншых, падняўся з-за стала і схаваўся за заслонай. Праз колькі хвілін ён выйшаў з ворахам нейкай адзежы ў руках. Працягнуў мне. Прызнацца, я ўжо змерз стаяць голым і быў бы рады любой апратцы, але, як толькі я разгледзеў, што мне даў дзядзька,

зачыніўшы ў нейкім невялікім пакойчыку з ложкам, сталом і цяжкай драўлянай шафай, я спалохаўся і адкінуў прэч ад сябе, нібы апёкся агнём, шаўковую жаночую бялізну. Можа, ён памыліўся? Узяў не з той шуфлядкі? Пераблытаў? Не паспеў я так падумаць, як зайшоў дзядзька.

— Ты яшчэ не апрануўся? — здзіўлена зірнуў на мяне.

— Прабачце,— вымавіў я,— але я не дзяўчына, а адзежа, якую вы мне далі — жаночая…

— Бач, які пераборлівы,— незалюбіў дзядзька.— Зараз ідзе вайна, і ты павінен дзякаваць нямецкаму ўраду, што ён выдзеліў табе хоць гэта. Ды што гэта? Гэта ж шоўк, разумееш, дурында ты малая, вопратка каралёў! Апранайся і не дуры галавы!

Што мне заставалася рабіць? Як толькі я апрануўся, дзядзька раптам паваліў мяне на ложак, дыхаючы перагарам і цалуючы. Цяпер я зразумеў усё, але абараняцца ён мне не дазволіў, заламаўшы рукі.

Не ведаю, што б са мной зрабіў дзядзька, калі б у дзверы не пачалі настойліва грукаць, а затым такі ж настойлівы жаночы голас загадаў:

— Гер Кабанкоў, адчыніце! Я ведаю, што вы там! Обер-лейтэнант СС Ева Штайнэр не любіць жартаваць і доўга чакаць!..

— Прынесла сучку нялёгкая,— вылаяўся дзядзька і пакрочыў адчыняць дзверы.

Ёй пасавала форма. Доўгія валасы былі прыколаты заколкай да пілоткі.

— Што вы робіце, гер Кабанкоў? — адразу запытала Штайнэр, праходзячы ў пакой і пазіраючы на мяне.

— Ды вось,— развёў рукамі дзядзька.

— Вы хочаце, каб я данесла пра вашае «ды вось» у гебітскамісарыят? — страшыла Штайнэр.

— Толькі не гэта! — узмаліўся дзядзька.

— Тады зачыніце дзверы з таго боку!

— Абавязкова.

Дзядзька, нібы рак, пяціўся на дыбачках да дзвярэй. Як толькі яны за ім зачыніліся, Ева Штайнэр маланкава скінула з сябе форму і сіганула да мяне ў ложак, гідліва раздзіраючы адзежу, што была на мне.

Яна была, што пантэра. Драпала маё цела і кусалася. Пад раніцу я заснуў. Ева Штайнэр выскачыла з ложка, апранулася, абдзёрнула форму і вынула з кабуры пісталет. Прыставіўшы ствалом да маёй патыліцы, стрэліла…»

Я падскочыў ледзь не да столі, выцягся плячом аб касяк, цяжка дыхаў, паступова вяртаючы сябе з абдымкаў жудаснага сну, таму што Евай Штайнэр была Насця, а бязвусым пятнаццацігадовым габрэйчыкам — я.

Тады я ўзнавіў падзеі мінулага дня і ледзь не завыў з адчаю, як той воўк на поўню. Аднак доўгім выццём бядзе не дапаможаш. Каб хоць неяк суцішыць боль, я навёў чысціню ў кватэры. Мініч пастараўся на славу, нічога не скажаш. Ліхтары будуць асвятляць мне шлях круглыя суткі. Да ліхтароў далучаліся шматлікія драпіны, і я зразумеў, што ў такім выглядзе на вуліцы мне паказвацца нельга.

Я закурыў. Набраў Насцін нумар, але слухаўка маўчала, як рыба. За дзень я тэлефанаваў ёй праз кожныя пяць хвілін, але марна. Тэлефон маўчаў. Я заставаўся ў адзіноцтве і піў адзіноту, нібы каву ў прыкуску з цыгарэтамі.

8

Прайшоў усяго тыдзень, але ён мне здаўся вечнасцю. Я адчуваў сябе бездапаможным загнаным у пастку ваўком, як у тым сне, што мітусіўся, шалеючы, з кута ў кут па пустой нежывой кватэры, а не-

жывой таму, што ў ёй не было Насцінай усмешкі, Насцінага голаса. Кватэра выглядала змрочнай і панура-маўклівай, як могілкі. Да поўнага параўнання не хапала крыку крумкача. Мне і так было нядобра, і мурашкі бегалі па скуры, а мо і па поўсці; я баяўся падысці да люстэрка ўпэўніцца: ці чалавек я яшчэ, ці ўжо звер; пачуўшы крумкачыны крык, я, відаць, не тое б, што пасівеў, адназначна, звар'яцеў бы. Не ратаваў ад тугі, адчаю і пякучага суму і блакітны шаўковы халацік, які я бяздумна камечыў у руках, быццам аркуш паперы з няўдалым вершам. Халацік вельмі падабаўся Насці, і водар, што зыходзіў з ейнага цела, яшчэ не зусім выпетрыўся, але я чамусьці больш не верыў яму. Не верыў і плямам крыві, засохлым на далікатнай тканіне, хаця яны з'яўляліся важнымі сведкамі таго, што Насця была і ёсць. Аднак усё іншае казала пра тое, што такой дзяўчыны ўвогуле не існавала. Я кожны дзень набіраў нумар ейнага тэлефона мільён разоў, але ён упарта маўчаў. Толькі аднойчы адказаў, але далёка не Насціным голасам — злосным, брудным, хрыплым… Я спытаў Насцю, голас адказаў, што ніякай Насці ведаць не ведае. Як жа так? Нумар жа тэлефона сыходзіцца?! Я праверыў адрас, і адрас сышоўся. Тады чаму мне сказалі, што ніякая Насця па гэтым адрасе не пражывае і ніколі не пражывала ні з бацькамі, ні без бацькоў. Злосна плюхнулася трубка на тым баку дрота, а мая запікала, як заведзеная, як пакрыўджаная, што малое дзіця, у якога адабралі любімую цацку. Нешта тут не тое, але што? Няўжо я Насцю толькі сніў? Але ж сон такім рэальным і матэрыяльна фізічным на дотык не бывае. Хіба трызніў? Можа Насця, насамрэч, была ўсяго толькі русалкай-практыканткай; але ж радзімка пад левай смочкай, радзімка над левай верхняй губкай не могуць быць сном ці трызненнем, хаця б і п'яным.

Я ж добра памятаю белыя, як сырадой, Насціны грудзі, саланаваты прысмак ейных смочкаў, шнарчык у выглядзе лічбы 1 пад пупком, а валасы… іхны пах… я іх таксама прыдумаў? Падобная яна ж была на Варум? Падобная. Гэта я на Агуціна не цягну. Ну так, не маленькі ростам, ну, худы, ну, патлаты, але з вусамі, і вушы, як лакатары… што не перашкаджае кожнаму знаёмаму параўноўваць мяне з Ісусам Хрыстом, наўмысна выклікаючы ўва мне злосць, бо я ненавіджу, калі мяне параўноўваюць з ім. Бачыў ты таго Хрыста, што чэпішся з ім да мяне? Агуціным, як бачна, мне не быць і, значыць, Насця не магла быць Анжалікай Варум. Яна магла быць толькі Насцяй!

Я сеў за стол, на якім стаяў камп'ютар і попельніца, закурыў.

Да драбніц мог успомніць, што было, як і колькі… Ды што толку? Хіба ўспамінамі дапаможаш? Так, я гэта памятаю, але, калі звярнуся з аповедам пра Насцю да каго-небудзь, ён палічыць мяне за вар'ята і пастараецца як хутчэй запраторыць у псіхушку. Але ж я цалкам нармальны! Хіба мая віна ў тым, што Насця прапала з банка дадзеных жыцця, як памяць камп'ютара, з'едзеная вірусам? Вядома, я вінаваты, але не ў тым, што яна знікла… хаця, калі падумаць, ва ўсім вінаваты толькі я. Не зрабі я гэтага глупства, не пайшла б ад мяне Насця, і не казалі б мне розныя па тэлефоне, што такая ніколі не пражывала па гэтым адрасе.

Дзіўна, але, усвядоміўшы сваю віну, я супакоіўся. Зноў мог лагічна думаць і разважаць, нават чытаць, чым не мог пахваліцца на працягу тыдня. Я адкрыў для сябе Аркадзя Чарнышэвіча, прачытаўшы спачатку яго раманы «Світанне» і «Засценак Малінаўка», а пасля апавяданні, больш за ўсё мне спадабалася апавяданне «Музыка». Я быў здзіўлены талентам чала-

века, мовай. Яго ж амаль ніхто не ведае з сённяшніх літаратараў, якія чытаюць баевікі ды фантастыку. Уласная беларуская літаратура іх не цікавіць, бо яны лічаць, што напісанае да іх — туфта і прасавецкая агітацыя. Адны яны — геніі! Што пра іх казаць, калі яны нават на імя Айтматава ніяк не прарэагавалі, калі ўрывачак з «Белага парахода» прачытала маладая паэтка Ксюша Брэчка, якая вырашыла правесці эксперымент. Урывачак крыху нагадваў раздзел з нейкай ненапісанай Ксюшынай паэмы, прынамсі, так здавалася, стылі былі падобны, ці што,— і ёй сказалі, што Ксюша вельмі добра напісала, хай і яшчэ піша. Калі Ксюша паведаміла, што прачытаная рэч не належыць ёй, гэта нікога не закранула, нібы так і трэба. Магчыма, яны падумалі, што Айтматаў — чарговы «геній», якіх Ксюша прыводзіць на літаб'яднанне ледзь не кожны панядзелак (менавіта па панядзелках адбываецца чарговае пасяджэнне), а месцаў для геніяў не хапае, таму і рэакцыя такая, відаць. Якая поскудзь, увогуле, робіцца ў сучаснай літаратуры! Лепш пра яе забыць, хаця б на сёння, ды твары маладых ды ранніх, з вялікімі амбіцыямі, мільгаюць перад вачыма, як ліхтарыкі на навагодняй ёлцы. Самі па сабе яны нічога не вартыя і наўрад ці створаць што-небудзь якаснае, бо, каб самому пісаць добра, трэба шмат чытаць, але не абы-што.

З партрэта на мяне глядзеў, можна сказаць, непрыгожы чалавек, з залысінамі, з доўгім вострым носам, крыху скрыўленым з-за пагардлівай усмешкі. Так здавалася на першы погляд. Нават на фотаздымку пісьменніка, які даўно памёр, адчувалася яго душэўная прыгажосць, чысціня, вера ў будучае.

Вядома, раманы яго, што адлюстроўвалі падзеі пачатку дваццатага стагоддзя, былі крыху наіўнымі і

смешнымі толькі таму, што маё пакаленне вырасла ў той час, калі СССР разваліўся, а камунізм і бальшавікі ганіліся не горш за фашызм. Аднак напісаны творы Чарнышэвіча ў той час, калі так людзі і жылі, як напісана, бо я лічу, што аўтар не маніў пра савецкую ўладу, хоць і пакутаваў ад яе.

З-за прачытанага мяне пачала раздзіраць на дзве паловы думка. Я ніколі не быў камуністам, але мне падабалася ідэя бальшавікоў і іх дзейнасць да вайны. Пасля ўжо — не. Мой дзед — па маці — капітан другога рангу. У Вялікую Айчынную служыў на катарах і быў тройчы паранены. З'яўляўся ярым камуністам, але нічога не дазволенага ў жыцці не зрабіў. Не быў ні хабарнікам, ні спекулянтам, ні падхалімам, хоць і займаў пасля вайны вялікія адказныя пасты, і я лічыў яго вельмі добрым чалавекам, браў з яго прыклад. Дзед па бацькоўскай лініі паходзіў з дваранскага роду, да таго ж, займаўся літаратурай. Бальшавікі яго расстралялі. За што? Толькі за тое, што ён пісаў на нацыянальнай мове, ці за тое, што ў маладосці быў царскім афіцэрам? Па сутнасці, я павінен ненавідзець бальшавікоў, бо схільны хутчэй да манархізму, чым да камунізму. Вядома, зараз смешна казаць і некага абвінавачваць, нават дзіка. Усё адбылося так, як і павінна было адбыцца. Ведаю толькі адно: зараз мне не дапаможа ніхто — ні афіцэр, ні бальшавік, бо ўсю маю прыхільнасць да іх забівала Насця, маё каханне да яе, аб чым я не магу ёй ні сказаць, ні напісаць; і словы, гатовыя сарвацца з маіх губ пякельным агнём, застываюць у безнадзейнасці бясформенным студнем, а попельніца збірае мой адчай у выглядзе недакуркаў. Дым чорнай сеткай суму расплываецца па стале, ловячы на хаду, нібыта рыбу ў вадзе, мае невясёлыя думкі.

## 9

Ад пабояў амаль не засталося слядоў. Аднак я ўсё яшчэ саромеўся выходзіць на людзі без чорных акуляраў. Ля пад'езда на лаўцы сядзелі тры бабулькі з вязаннем, але спіцы былі нерухомымі, як слупкі, бо бабулькі з не зразумелай мне жарсцю абмяркоўвалі Мэйсана Кэпфала і Рыжу, як я зразумеў, Джыну. Якімі толькі кампліментамі яны не ўзнагароджвалі прыгажуна Кэпфала і як толькі не ганілі бедную Джыну, забыўшыся і на вязанне, і на ўнукаў, што корпаліся ў пясочніцы з пластмасавымі вядзерцамі і рыдлёўкамі, а таксама з цэлым заводам аўтамабіляў. Вясёлыя, мурзатыя, як чарцяняты, дзеці нікога з дарослых не заўважалі, нібыта іх і не існавала. І праўда, навошта дарослыя з іх вечнымі праблемамі і турботамі дзецям, якія, была б воля, цудоўна абышліся б і без іх. Які з іх толк? У машынкі гуляць не ўмеюць, салдацікаў не ведаюць нават як і трымаць, а калі папросіш каго-небудзь з бацькоў проста пагуляць з дзецьмі, пакорпацца ў той жа пясочніцы, будуючы замкі ці часам цэлыя гарады, у іх адразу знаходзіцца адгаворка: маўляў, стаміліся пасля працы ці ў краму трэба купіць да хлеба яшчэ нейкага ёгурта. Вядома, ёгурт — добра, але ж так хочацца, каб бацькі хоць на гадзінку сталі бесклапотнымі дзецьмі.

Я закурыў. Міма прайшлі дзве старшакласніцы ў калготах і кароткіх спадніцах з кілаграмамі макіяжу на тварах. Яны нават не зірнулі ў мой бок. Вядома, я не падобны на Тома Круза ці Леанарда Дыкапрыа, што паробіш? Але вясна бярэ сваё: такое жыццё. А што такое жыццё? Крыху кахання, больш расчаравання і дуэль. Дуэль з асабістым лёсам, які заўсёды перамагае. Хаця бывае… што і лёс ломіцца, як клінок шпагі. Магчыма, у нечым я перабольшваю, не ведаю. Як бы там ні было, гэта маё асабістае меркаванне.

Я ўжо пашкадаваў, што выйшаў на двор у куртцы, бо цяплынь стаяла амаль што летняя, аднак дамоў вяртацца не стаў. Не таму, што вяртанне — дрэнная прыкмета, у забабоны я ніколі не верыў, а таму, што лянота падымацца на сёмы паверх, бо ліфт чамусьці не працаваў.

Я не ведаў куды пайсці, але накіраваўся да Цэнтра. Верагоднасць сустрэць там каго-небудзь была большай, чым у маім раёне. У метро я абазнаўся. Але ж як затрымцела сэрца, калі ў дзяўчыне, што стаяла спінай да мяне, я ўбачыў Насцю. Яна была ўсяго за некалькі крокаў ад мяне, але гэтыя крокі немагчыма было адолець з тае прычыны, што вагон здаваўся кансервавай бляшанкай, напакаванай людзьмі, як сялёдкай. Аклікнуць я не асмеліўся, але і чакаць, пакуль цягнік спыніцца на нейкай станцыі, не было часу. А раптам яна выйдзе, а я не паспею, ды нават калі б і паспеў, дзе гарантыя, што не згублю яе ў натоўпе? Я запрацаваў рукамі і плячамі, прабіваючы сабе дарогу да Насці, не рэагуючы на незадавальненне пасажыраў. Аднак дзяўчына аказалася не Насцяй. Магчыма, і Насцяй, але іншай, чужой, не маёй.

Я апусціў рукі.

На паветра выйшаў забіты і зацюканы, нібы пасля доўгачасовай лекцыі тэт-а-тэт з выкладчыкам па філасофіі. Знаёмых — нікога.

Я ірвануў да ГУМа, аднак і ў бары — тое самае. Што за дзень? Варта некуды выбрацца, як адно расчараванне вакол, нібы нейкае пакаранне.

Бралася на вечар. Дамоў ісці не хацелася, а я ўжо знаходзіўся на Пушкінскай, дадому — пятнаццаць хвілін ходу. А ў супрацьлеглым напрамку — невядомы мне раён Сухарава. Я ніколі там не быў і вырашыў паехаць паглядзець, «шчо цэ таке».

Зрэшты, нічога асаблівага. Вялізныя «каробкі з алоўкамі» на адзін капыл, шэрыя, як асфальт. Жыць у такім раёне ўсё адно, што жаваць жуйку, у якой даўно адсутнічае смак. Толькі адно месца мяне зацікавіла — бар-кавярня, куды я і паспяшаўся зазірнуць. Цэны тут, канечне, кусаліся, але дзе вы бачылі цэны без зубоў? Я заняў столік у самым непрыкметным кутку, дзе мяне ніхто не мог бачыць, замовіў гарэлкі і бутэрброд з каўбасой. Адчуваў сябе Хэмінгуэем, і ўва мне абуджалася прага пісаць, чаго я за сабой даўно не заўважаў. Чаму б і не? Заўтра трэба будзе захапіць сшытак, асадку і Кафку і прыехаць сюды, каб уволю папрацаваць. Я ведаў, што ў гэтым бары-кавярні здолею напісаць нешта такое, што перакуліць свет. Я б і зараз пісаў, калі б было на чым, бо проста на стале не мог: раптам атрымаю штраф, калі не болей, за сапсаваную дзяржаўную ці камерцыйную мэблю.

Даволі ўтульнае памяшканне, вытрыманае ў духу рамантызму з прымессю постмадэрнізму. Столікі круглыя, засланыя чырвонымі абрусамі, на якіх, на кожным, па пяць прыбораў: талерка, сподак, лыжка, відэлец, нож, а таксама попельніца і чырвоныя сурвэткі конусамі ў шклянцы. Крэслы — драўляныя, разныя, абабітыя чырвоным аксамітам. Падлакотнікі і ножкі — чорным. Падлога паркетная, пад столлю — тэлевізар, па якім ішоў фільм з Джэкі Чанам. Узнікла думка, што знаходжуся ў таверне ці кабачку сямнаццатага стагоддзя. Не хапае толькі таго, каб зараз уваліліся мушкецёры ў блакітных плашчах з сярэбранымі крыжамі на спінах і каб Атос патрабаваў сабе віна. Мара ідыёта. А чаму не? Я і не адмаўляю, што я ідыёт, які курыць трэцюю цыгарэту запар, так і не дакрануўшыся ні да кілішка з гарэлкай, ні да бутэрброда, які ўжо даўно астыў; вылупіўшы вочы, як баран, на дзяўчыну, што сядзела насупраць праз чатыры столікі, але не бачыла мяне. Яна

далікатна курыла лёгкую «Магну», пакідаючы на белым фільтры чырвоныя сляды памады. Так сухотнік пакідае плямы крыві на белай насоўцы. Дзяўчына была цалкам у чорным. Чорная касуха, чорныя скураныя штаны, запраўленыя ў чорныя высокія батфорты, чорная блузка з фланэлі, расшпіленая на адзін гузік. Лак на пазногцях таксама чорны, і чорныя валасы крыху кранаюцца плячэй, як крылы кажана. Нават вусны і тыя былі чорныя. Толькі вочы, адны вочы захоўвалі нейкі светлы цень. На імгненне мне падалося, што гэта Насця. Я ледзь не «падарваўся» да яе, але стрымаўся, сціснуўшы кулакі. Што, калі зноў памыліўся? Мне не прывыкаць адчуваць сябе ідыётам, але толькі не ў гэтым памяшканні і не перад гэтай дзяўчынай. Я нават загадаў сабе не думаць пра Насцю, бо дзяўчына ў чорным ніяк ёю быць не магла. У Насці доўгія рыжыя валасы па пояс… Ці доўга іх пастрыгчы і пафарбаваць у чорны колер? Але я не спяшаўся. Нешта падказвала, што дзяўчына ў чорным — Насця, аднак нешта і адштурхоўвала. У Насці не маглі быць такімі халоднымі вочы, хоць толькі яны і выпраменьвалі нейкае святло. Я чакаў. А чаго, не ведаў. Дзяўчына падняла вочы і паглядзела на мяне, але не заўважыла. Я сядзеў у цёмным куце і ўяўляў сабой для яе толькі бясформенны цень. На яе ж падала святло з усіх бакоў. Падалося, што яна наўмысна абрала гэтае месца, і я не мог памыліцца… На мяне глядзела Насця, толькі нейкая не такая, нібы зомбі. Яе вочы былі мёртвыя. Толькі мёртвасць ейных вачэй утрымала мяне ад бязглуздага кроку. Дзяўчына нервавалася, нават пачала паціху касіць вокам, але зусім непрыкметна. Яна некага чакала, безумоўна, і я мог сапсаваць ёй сустрэчу. Чакала? А каго? Няўжо Мініча? Сёння ён ад мяне не ўцячэ, калі Насця чакае яго; ніякія сілы пекла не супыняць мяне. Я зраблю з Мініча біфштэкс з крывёй…

Да яе падышлі двое. У карычневых скуранках. Селі па баках. Я не чуў, пра што яны размаўлялі, бо размову заглушала ідыёцкая музыка з фільма пра Джэкі Чана. Я нічога не мог зрабіць, і мяне калаціла. Двое падняліся. Паднялася і Насця. Якой яна была бледнай!.. Як крэйда!.. Толькі вусны чарнелі, як кроў на снезе. Але спакойна. Яна павесіла сумачку на плячо і накіравалася да выхаду. Двое моўчкі рушылі следам.

Я рынуўся за імі з усіх ног, на хаду кусаючы бутэрброд і запіваючы гарэлкай. Ля самых дзвярэй паслізнуўся, бо падлога была мокрай, відаць, яе толькі што памылі, і расцягнуўся, зачапіўшыся нагамі за крэсла, што стаяла побач з накрытым сталом. Дзякуй богу, што я перакуліў усяго адно крэсла і пусты фужэр на стале. Я хутка падняўся, абтросся, папрасіў прабачэння і папяціўся да дзвярэй, тлумачачы тым, што я вельмі спяшаюся і пазнаёмлюся як-небудзь іншым разам з кампаніяй, з такой прыемнай кампаніяй…

На вуліцы я ледзь не зваліўся з лесвічных прыступак. Мая Насця сядала ў чорную «Волгу», за ёю не адставалі тыя двое. Зараз яна паедзе, і я ніколі больш яе не ўбачу. Я хачу гэтага? Вядома, не. Мне патрэбна Насця, як паветра, як цыгарэта, як вада, як віно, як пельмені, адным словам, патрэбна, і ўсё… Яна ж мая жанчына ў рэшце рэшт і маці маіх будучых дзяцей! Дык чаго я стаю? І на самай справе, чаго? Бегчы за «Волгай»? Наўрад ці даганю. Але ж яна ўжо кранаецца!..

— Гэ-э-э-эй! — закрычаў я, несучыся напярэймы машыне, але яна звярнула не там, дзе я думаў яе пераняць.

— Каналья! — вылаяўся я, як д’Артаньян. Нікім іншым я сябе не ўяўляў. Але пешшу даганяць машыну?.. Я паймаў вяртлявага «жыгулёнка» і загадаў трымацца чорнай «Волгі». Вадзіцель, даволі малады, хацеў даведацца ад мяне, што здарылася, з якой нагоды, так мовіць, праследаванне? Але я маўчаў,

кінуўшы толькі адну фразу, каб ён сачыў за дарогай. Як не дзіўна, мы набліжаліся да дома, дзе Насця жыла і дзе мы так цудоўна правялі ноч, адкуль пасля мяне запэўнілі, што Насця ніколі не жыла па тым адрасе.

Я не памыліўся, мы якраз пад'язджалі да таго дома.

Першай спынілася «Волга». З яе выйшлі спачатку двое ў карычневых скуранках, потым Насця, затым яшчэ двое ў карычневых скуранках. Усе яны ланцужком схаваліся ў пад'ездзе.

— Усё,— сказаў я вадзіцелю,— прыехалі,— і разлічыўся.

— А што адбываецца? — усё дапытваўся ён.

— Кіно здымаем,— вырашыў пажартаваць я, абы назола-вадзіцель адчапіўся, тузаючы дзверцы, якія ніяк не паддаваліся, не выпускалі мяне.

— А якое кіно?

— «Дзевяць з паловай тыдняў», трэцюю частку,— адказаў я і нарэшце справіўся з дзверцамі.

— А хто ў галоўных ролях?

— Акторы малавядомыя,— запэўніў я,— толькі што пасля вучобы…

Бегма я скочыў у пад'езд, ліфт выклікаць не стаў, вырашыў падняцца па лесвіцы. Так бяспечней і спакайней.

Ніхто на мяне не нападаў і не чакаў, на што я вельмі разлічваў, бо адчуваў: не так сабе прыходзілі да Насці хлопцы ў карычневых скуранках і не так сабе прыехалі да яе дамоў. Я не сумняваўся, што і Насця, і чацвёра мужчын у карычневых скуранках знаходзяцца менавіта ў той кватэры, дзе мы з Насцяй правялі ноч. І я меў рацыю. Дзверы ў кватэру — расхінуты насцеж.

Я асцярожна перакрочыў парог і спыніўся ў прыхожай… Па ўсім відаць, ішоў вобыск. Людзі ў скуран-

ках, нібы гаспадары, шасталі па кватэры, зазіраючы ў кожную дзірку, нешта, відаць, шукалі і нерваваліся. Насця сядзела пасярэдзіне залы на зэдліку, склаўшы на грудзях рукі. Яна глядзела на мыскі сваіх батфортаў, нікога і нічога не заўважаючы вакол, і яе трэсла, калаціла… Рукі намагаліся суняць дрыготку ў плячах, але яны не падпарадкоўваліся ёй.

Мне хацелася падбегчы да дзяўчыны, абняць і прытуліць да сябе, і, магчыма, я б так і зрабіў, ні аб чым не пытаючыся і не патрабуючы ніякіх тлумачэнняў, але мяне апярэдзіў халодны абыякавы голас аднаго з тых, хто прывёз Насцю сюды:

— Гэта што такое?

Да Насціных ног паляцелі чатыры цукровыя пакецікі па кілаграме кожны, але ў іх быў не цукар, далёка не цукар. Я жахнуўся: адкуль столькі гераіну?

— Гэта не маё,— неяк стомлена і з лёгкай усмешкай адказала Насця.

— А чыё, па-вашаму?

— Маё! — зрабіў я некалькі крокаў наперад, хаваючы свой твар ад цікаўных позіркаў мужчын у карычневых скуранках.

Апошняе, што я заўважыў, пакуль на мне зашпілялі наручнікі і пакуль не вывелі — здзіўлены Насцін твар, у якім чытаўся і жаль, і пытанне «навошта?», і каханне. Нягледзячы ні на што, яна мяне кахала. Прынамсі, я так думаў і адчуваў. Магчыма, памыляўся.

## 10

Мяне прывезлі ў пракуратуру і пасадзілі ў драўлянае крэсла перад такім жа драўляным сталом, папярэдне знялі наручнікі. Я з асалодай пацягнуў рукі і працёр пальцамі зацёкшыя запясці. Са сцяны насупраць на памяшканне пазіраў жалезны Фелікс. Той самы

мужчына ў карычневай скуранцы, які дапытваўся ў Насці, чый гераін у яе кватэры, сеў за стол, склаўшы на ягонай паліраванай паверхні рукі. Ён быў падобны знешне на актора Барыса Шчарбакова. Той таксама любіў выконваць ролі капітанаў міліцыі. Мой капітан, відаць, доўга збіраўся з думкамі, каб пачаць размову. Бачна было, што ён вельмі стаміўся і яму не да мяне. Ён хацеў спаць, бо вочы яго набрынялі чырванню бяссонніцы… А мне хацелася курыць, ды толькі я саромеўся папрасіць у яго дазволу. Капітан сам неяк здагадаўся прапанаваць мне цыгарэту, а мо і самому карцела пакурыць. Мы задымілі. Аднак маўчанне працягвалася. Яно павісла над намі цыгарэтным дымам і знікаць не збіралася. Тады капітан адчыніў фортку. Дым, бы шлейф, унёс з сабою маўчанне, ці вецер проста выцягнуў яго, як злодзей, праз адчыненую фортку.

Капітан не сеў за стол, а пачаў мераць крокамі кабінет. Затым спыніўся, прымесціўся на вуглу стала і з цяжкім уздыхам прамовіў, не гледзячы на мяне:

— Адкуль ты ўзяўся на маю галаву і хто ты такі, чорт цябе вазьмі… Усе планы сапсаваў сваім з'яўленнем. Навошта гэта ўсё табе трэба?

Я і сам не ведаў, навошта, але думаць зараз пра тое, што адбылося, не меў ніякага жадання. Што здарылася — тое здарылася. Чаму, навошта — якая розніца? Усё адно ўжо нічога не паправіш. Я маўчаў.

— Дык, можа, пазнаёмімся? — зноў прамовіў капітан, пільна пазіраючы мне ў вочы. Позірк яго быў востры і ўчэпісты, як у беркута. Здавалася, што ён выцягвае мяне з майго ж цела, і я мімаволі апусціў вочы на драўляную падлогу з патрэсканай карычневай фарбай. Але праз імгненне падняў іх і сказаў, што я беларускі пісьменнік Мікола Адам. Ён адразу сеў за стол і зашчоўкаў клавіятурай камп'ютара. Палез у

базу дадзеных правярацъ, ці праўду я яму сказаў, ці зманіў. Навошта мне маніць? Хаця, калі падумаць, не кожны чалавек, які займаецца літаратурай, вось так проста прызнаецца, што ён пісьменнік…

Капітан адсунуўся ад камп’ютара і расслабіўся, адкінуўся на спінку крэсла. Расшпіліў верхнія гузікі на кашулі, якія душылі яму горла, і сказаў:

— Дык чаму ж вы, культурны чалавек, улезлі ў такое дзярмо?..

Я не стаў адказваць на капітанава пытанне, калі гэтая фраза была пытаннем. Чамусьці не верылася, што капітан лічыць мяне злачынцам, і я прамовіў:

— Мне прыемна, што вы гаворыце са мной на роднай мове.

Капітан прымружыў вочы і раптам спытаў:

— Літаратура — гэта вы?

— Не я адзін, але літаратура — гэта такія, як я. І нас не так мала, як вам здаецца. Сапраўдная літаратура адродзіцца, паверце мне.

— Вы не лічыце, спадар Адам, што занадта амбіцыёзныя?

— Я ведаю пра гэта, але не лічу заганай. Мы павінны выбавіцца з-пад тоны макулатуры.

— А дзе вы працуеце?

— Нідзе.

— А жывяце за што? — Яго, відаць, моцна ўразіла тое, што я нідзе не працую.— Ці ганарары такія вялікія, што вам хапае на ўсё?

— Ганарары — слёзы. Хіба вы не ведаеце, што каб выдаць кніжку, пісьменніку за яе трэба заплаціць. Заўважце, не мне павінны плаціць за тое, што я напісаў, за маю працу, а я павінен за сваю асабістую працу з недаспанымі начамі плаціць грошы.

— Ну, што ж,— пацiснуў плячыма капітан,— вы самі, як кажуць, абралі свой шлях, вам і сцяг у рукі.

Але мы адхіліліся ад тэмы. Кім вам даводзіцца Анастасія Мажар?

Я хацеў адказаць адразу і не думаючы; словы ўжо гатовы былі скочыць з маіх губ калабкамі, але нешта стрымала мяне. Я задумаўся: а на самай справе, хто мне Насця? Каханая жанчына? Шлюха на адну ноч? Ці жонка? Хутчэй за ўсё — усе разам, я так адчуваў, аднак як растлумачыць гэта капітану міліцыі? Мініч, Ілля Варанкоў, Андрэй Шакель, ды любы, хто займаецца хоць нейкай творчасцю, мяне б зразумелі з паўслова, а ці зразумее гэты капітан, такі падобны на актора Шчарбакова? Ні ў якім разе я не лічыў яго тупым і недалёкім, толькі ведаў, што ён мяне не зразумее. І тады я сказаў:

— Таварыш капітан, можна пытанне?

Ён пацiснуў плячыма.

— Вы глядзелі калі-небудзь кінастужку Яна Фрыда «Сабака на сене»? — працягваў я.

— Дапусцім,— хітнуў капітан, але ніяк не мог зразумець, да чаго я хілю.

— Вы добра памятаеце адносіны беднага летуценніка-паэта сакратара Тэадора і яго гаспадыні графіні Дзіяны?

— Угу.

— Цяпер уявіце заміж твараў Баярскага і Церахавай — мой і Анастасіі Мажар,— скончыў я.

— Гм,— памуляў капітан сківіцамі.— Але… — ён яшчэ крыху падумаў,— там была такая фраза, што каханне добра ставіцца да роўных па статусу…

— А хто вам сказаў, што мы з Анастасіяй Мажар не роўныя?

— Гэтага мне ніхто не казаў,— адрэзаў капітан.— І сляпому бачна вашае адрозненне,— дадаў ён.— Што ж,— загаварыў пасля непрацяглай паўзы даўжынёй

у падкурванне цыгарэты, я таксама папрасіў агеньчыку,— гэта многае растлумачвае.

Капітан зноў выйшаў з-за стала і сеў побач са мной на яго вугал, склаўшы на грудзях рукі.

— Навошта вы сказалі, што наркотыкі вашы? — знянацку спытаўся ён, гледзячы мне ў вочы. Я не чакаў такога рэзкага пытання, таму ненадоўга разгубіўся, але хутка адказаў:

— А чые ж яны, па-вашаму?

— Верагодна, Анастасіі Мажар? — няўпэўнена вымавіў ён.

— Выключана,— запярэчыў я.— Насця ніколі не ўжывала наркотыкі.

— Колькі гадоў вы знаёмы? — перапыніў мяне капітан.

— Тры тыдні,— ляпнуў я, не падумаўшы.

— Гм,— твар капітана наведала незразумелая ўсмешка, але, нібы цень, тут жа рэтыравалася,— гэта шмат аб чым гаворыць.

— Аб чым? — занепакоіўся я.

— Вы ў курсе, спадар беларускі пісьменнік, што закаханыя, як правіла, сляпыя?

— З чаго вы ўзялі, што я закаханы?

— Ну, як жа,— здзівіўся капітан,— толькі што вы тлумачылі свае адносіны з Анастасіяй Мажар на прыкладзе фільма «Сабака на сене»…

— Я шмат чаго гаварыў,— прамовіў я.— Але гэта не азначае, што ўсе мае словы — ісціна, бо я не Бог.

— З Богам вас ніхто і не параўноўвае,— задумліва прамовіў капітан. Ён зноў сеў за стол, забарабаніў па стрэшцы пальцамі. На дзіва, пальцы міліцыянта нагадвалі жаночыя, зрэшты, як і ў мяне. Такімі пальцамі толькі розных Моцартаў ды Бахаў на піяніне граць.— Вы вельмі супярэчлівы чалавек,— расцягваючы кожнае слова, нібы гуму, адзначыў капітан.— Не

баіцеся, што некалі вам давядзецца несці адказнасць за кожнае вымаўленае слова?

— Не,— адказаў я,— толькі таму, што маю праўду, як я яе разумею, можна будзе прачытаць у маіх кнігах.

— А да іх далёка…

— Не зусім. Усяго чатыры кілаграмы гераіну.

— Вы вельмі любіце гуляць у словы, спадар беларускі пісьменнік.

— Прафесія вымушае.

— Што ж, тады падумайце і пагуляйце ў словы на адзіноце,— сказаў капітан і выклікаў вартавога сяржанта.

— Допыту не будзе? — пацікавіўся я.

— Аб чым вас дапытваць? — усміхнуўся капітан.— Тое, што мне было патрэбна ўведаць, я ўведаў.

Мяне зачынілі ў камеры папярэдняга зняволення, і маўклівая цішыня чорным пледам прыкрыла мне плечы. Я адчуў сябе вельмі стомленым за дзень і заплюшчыў вочы, але сон не ішоў. Зрэшты, мне і не хацелася спаць. Я ўспомніў да драбніц кожны эпізод падзей сённяшняга дня, але ні на адным не спыніўся. Навошта? Я спыняўся толькі на вобразе Насці. Яна стала іншай, не падобнай на сябе. Дзе падзелася тая кава, тая багна млявай чысціні ейных вачэй? Замест яе я ўбачыў шэры попел, зыбучы пясок і халодную сталь стылету. І гэты маскарад… Адкуль ён? Што сталася з маёй Насцяй? Куды яна падзелася? А гераін? Пры чым тут гераін, і што я раблю ў пракуратуры? Мне гэта патрэбна? Такое ўражанне, што я — звычайны абывацель — трапіў у танны галівудскі трылер выканаўцам пасрэднай, але ключавой ролі. Герой, закаханы ў гераіню, які ўвесь фільм недзе швэндаецца і думаць не думае аб дапамозе каханай, раптам у самы

цікавы момант з’яўляецца гэтакім джэнтльменам і бярэ ўсю віну на сябе, адпраўляючыся за краты. Каханая дорыць яму мілую ўсмешку і працягвае весяліць гледачоў іншымі прыгодамі. А я… я… пофігу гледачам. Яны пapляскалі ў ладкі, здзіўленыя маім высакародствам, падумалі, што я поўны дурань, і забыліся на мяне, як і гераіня. Яе чакае свет, поўны радасці і жыцця. Няўжо я на самай справе такі ідыёт, ці мне толькі здаецца? Мне пляваць, адкуль гэты дзярмовы герاін зваліўся на маю галаву, і адкуль ён узяўся ў Насцінай кватэры, пляваць! Я не ведаю і ведаць не хачу, чым займалася Насця на працягу тыдня — часу, за які я ні разу яе не бачыў. Я толькі аднаго хачу. Вярніце мне Насцю. Маю Насцю, чуеце! Яшчэ ўчора я сумняваўся ў сваіх пачуццях да яе, сёння ўсе сумненні — прэч! Я гатовы закрычаць на ўвесь свет, што кахаю Насцю Мажар і мне без розніцы, хто яна! Графіня, царыца, наркаманка ці русалка! Без розніцы! Як да лямпачкі тое, чым яна займаецца. Мне не патрэбны яе тлумачэнні пра ейны занятак, я хачу ейнага кахання!

Вядома, я эгаіст. А хто не эгаіст? Пакажыце мне яго, тыркніце ў яго пальцам, я хачу памацаць яго навобмацак! Няма неэгаістаў. Альтруісты канулі ў лету! За проста так зараз нічога не робіцца. Нават шклянку вады за проста так сын не прынясе хворай маці. Толькі калі яна паставіць на стол пляшку самагонкі. Я ведаю, што кажу, бо сам з вёскі, бо сам нешта падобнае рабіў, пакуль ува мне не прачнуўся дух паэзіі, які б не прачнуўся ніколі, каб не нарадзіліся Кафка і Дастаеўскі, Мапасан і Бальзак, Булгакаў і Томас Вулф, Фіцджэральд і Джойс, Хэмінгуэй і Борхес, Пруст і Картасар… Я мог бы назбіраць такіх прозвішчаў легіён, але што з яго толку? Хіба ён мне дапаможа ў адносінах з Насцяй?..

Усю ноч мне не давала Насця спакою. Я варочаўся на мулкім ложку, успамінаючы ейнае цела, ейныя дотыкі. Насця залятала ў закратаванае акно камеры Маргарытай на мятле і сціскалася ў куце Марыяй-Магдалінай. Затым проста Насцяй туліла, хавала сарамліва свае грудзі, нямоцна кусаючы вусны, за выратавальную фланэль маёй клятчатай кашулі…

Раніцы я не памятаю.

Памятаю толькі, як адчыніліся дзверы камеры, затым зноў зачыніліся, і мяне прывялі ў той самы кабінет да капітана, так падобнага на актора Шчарбакова, што я ледзь утрымаўся, каб не папытацца, ці сваякі яны. Капітан вачыма паказаў мне на крэсла перад сталом, і я цяжка сеў. Ён моўчкі сачыў за мной, гартаючы нейкія паперы. Сёння ён быў у форме і выглядаў больш суровым.

— Вы вольны, спадар беларускі пісьменнік,— нарэшце вымавіў ён.

— Вы закрылі справу? — не зразумеў я.

— А яе ніхто не адкрываў,— усміхнуўся ён.

— Тады, з якой прычыны…

— Прычына чакае вас у двары пад клёнамі,— перапыніў ён і загадаў сяржанту: — Правядзіце грамадзяніна…

Я нічога не разумеў.

На вуліцы сонца балюча разанула па вачах, і я не адразу прыкмеціў Насцю. Яна стаяла ў трох кроках ад мяне і толькі што шпурнула недакурак у зграйку галубоў, якія зусім не спалохана адскочылі крыху, апроч аднаго. Левая лапка яго была абматана чырвонымі тоўстымі ніткамі.

На нейкае імгненне нашыя з Насцяй позіркі сустрэліся. Я закурыў і рушыў у процілеглы ад Насці бок. Гэта не было ніякім манеўрам. Я не чакаў, што яна кінецца за мной з воплямі дараваць ёй усё, але

і сам сябе не разумеў. Нешта знутры загадвала не аглядвацца і ісці ўперад. Толькі хада мая была нейкая запаволеная, як у робата Вертэра з дзіцячага баевіка пра Алісу Селязнёву. Ногі не слухаліся мяне, упарціліся падпарадкоўвацца, ды й сам я ганіў сябе на чым свет стаіць за свой учынак. Але яна магла таксама пайсці, убачыўшы маю абыякавасць. Не, гэтага не можа быць! Чаму не? Я рэзка абярнуўся. Насця стаяла на тым жа месцы, апусціўшы галаву, уся ў чорным, як і ўчора, малюючы нешта нагой на асфальце.

Зноў паволі я рушыў ёй насустрач. Насця прыўзняла галаву. Зрабіла адзін крок наперад, другі… І тут яна кінулася да мяне бегма, я таксама пабег да яе, распасцёршы рукі.

— Мікола, даражэнькі,— прыціскаючыся да мяне ўсім целам, гундосіла Насця, пакрываючы пацалункамі мае вочы, шчокі, лоб, нос, шыю,— даруй мне, калі ласка, дурніцы. Не хацела я нічога дрэннага…

— Гэта ты мне даруй за ўсё, што я зрабіў,— узяў я ейны твар аберуч, углядаючыся ў чужыя вочы, з якіх цяклі слёзы, раз’ядаючы, як серная кіслата, туш і цені, што чорнымі пісягамі закратоўвалі мой любімы тварык. Сказаўшы гэтыя словы, якія мне так цяжка даліся, я моцна пацалаваў Насцю.

— Ты праўда на мяне не сярдуеш? — спыталася Насця, шморгаючы носам і размазваючы чорныя краты па шчоках, як шакалад.

— За што?

Рукі ейныя абвіліся вакол маёй шыі, а вусны нашы закружыліся ў павольным танцы пацалунка.

Краем вока я заўважыў, што з вокнаў пракуратуры павысоўваліся галовы цікаўных міліцыянтаў, як грыбы пасля дажджу. Мы з Насцяй, як я адчуў, былі бясплатным атракцыёнам. Не паспеў я так падумаць, як дзяўчына выцягнула з вачэй лінзы і кінула іх пад ногі,

адкрыўшы мне непараўнальную ні з чым каву сваіх вачэй. Услед за лінзамі на асфальт паляцеў і чорны парык. Шыкоўныя Насціны валасы рассыпаліся хвалямі па плячах.

Я падняў яе на рукі і закружыў ад несусветнай радасці, а з вокнаў пракуратуры радаваліся ў маю падтрымку мянты. Капітан, падобны на актора Шчарбакова, усміхаўся, узрадаваны за нас, і махаў рукой.

Сентыментальнасць, як кажуць, ва ўсіх у крыві, і я не выключэнне. На самай справе ўсё адбылося не так. Мяне асудзілі, і я праседзеў пяць гадоў. Насці не ўдалося мяне вызваліць, таму што з ёю ніхто не лічыўся, і ёй давялося выйсці замуж за Мініча, які зіхцеў ад шчасця, як свіны лыч, а крумкачыныя яго вочы наліліся такой крывёй на вяселлі ад колькасці выпітай гарэлкі, што ўсе дзівіліся, як гэта Мінічавы вочы не палопаліся, бы пухіры, так яны выкаціліся з арбіт… А пасля ў іх нарадзілася дачка, ды ніхто не верыў, што дзіця — Мінічава…

Аднак нешта я намарыў не тое, забыўшыся пра сябе…

## 11

І смех, і грэх. Усё тое, што са мной адбылося, было разыграна Насцяй. Яна з’яўлялася і аўтарам сцэнарыя, і рэжысёрам, і камерцыйным дырэктарам, і выканаўцай галоўнай ролі. А ўсё дзеля таго, каб даць мне магчымасць перамяніцца і павініцца. І я стаў перад ёю на калені ў прысутнасці бясконцых прахожых, што чакалі, як і мы, аўтобуса ці тралейбуса на прыпынку, што насупраць чыгуначнага вакзала, побач з «МакДональдсам».

Я прасіў мне дараваць маё глупства і прыняць каханне, таму Насця спачатку спалохалася і, аглядаючыся на прахожых, як бы прабачаючыся за мяне, як бы

казала, што яна не вінаватая ў маіх паводзінах. Калі я пацалаваў ейныя рукі, твар яе асвяціўся цёплай лагоднай усмешкай, і яна папрасіла мяне ўстаць з каленяў, бо для яе гэта ўжо занадта.

Што ж, казка атрымалася пераканаўчай. Ды толькі мы жывем не ў казачнай краіне шчасця з добрымі феямі і чараўнікамі, а ў злосны крыважэрны час з незлічонымі войнамі і забойствамі, з крывадушшам і раўнадушшам людзей, якія ўспрымаюць толькі дарагія шоу па тэлебачанні, разлічаныя на тупагаловых абывацеляў. Усё гэта я прыдумаў не сёння, выказваючы Андрэю Шакелю набалелае ў няўтульным, усё яшчэ няўтульным для мяне бары ГУМа на другім паверсе за столікам, які трымае некалькі пустых шклянак з-пад гарэлкі (іх яшчэ не паспелі прыняць) і недаедзены бутэрброд «Вернісаж», што паспеў за доўгай размовай з гарачага ператварыцца ў халодны, як у казцы. Зноў казка, чорт яе бяры! Трэба ж было Насці паабяцаць, што дзеля яе я ператвару ейнае жыццё ў казку! Ага, зараз! За якія сродкі? Хаця Андрэй кажа, што ў Мінску працы хапае. Гэта дзеля таго, каб супакоіць мяне, бо работу, хоць якую-небудзь, мне абавязкова трэба знайсці. Іншая справа, што праца, якой у Мінску хапае, не аплочваецца той сумай, якую я маракую атрымоўваць. Ад сябравых слоў знікае ўсялякае жаданне працаваць, не ў тым сэнсе, што я не буду больш ніколі пісаць, а ў тым, што я не маю ніякага жадання і задавальнення совацца ў якую-небудзь дзяржаўную ўстанову. Маўляў, вось ён я ўвесь, бярыце мяне на работу. А што я магу ім прапанаваць з трыма курсамі ўніверсітэта і танюткім зборнічкам вершаў? «Я — беларускі пісьменнік» — гучыць, вядома, але бурчыць у жываце. І хочацца, і колецца, як кажуць. Ды так мяне і прымуць, як жа… чакаюць з распасцёртымі абдымкамі. Ашчаслівец!.. Ды пайшло

яно ўсё да такой-та мацяры! Ну, беспрацоўны я, ну дык што? Затое ў мяне каханне ёсць, якое ні за якія грошы не купіш. Андрэй нават зайздросціць мне і з гэтае прычыны дае прачуханца, бо я вякнуў, што, відаць, кіну Насцю, хоць гэта будзе вельмі цяжка зрабіць; таму што грошай няма і не будзе, а маляваць іх я не ўмею. Безумоўна, гультай. Іншы неяк выкруціўся б, а мне ніяк не ўдаецца. Дык Андрэй і ўшчувае, што перастане паважаць мяне, калі я так зраблю. Ды не зраблю я нічога такога ніколі, а думаць жа нікому не забаронена. Я і не слухаў ужо Андрэя. Ён сам хоць здагадваецца, пра што гаворыць, пляце штосьці пра Міхалкова, Меньшыкава, Галівуд?.. Якога ражна? Ды хай гаворыць, бо я далёка ад яго прамоў. Я зараз з Насцяй, якая марудна-марудна здымае калготы, як абгортку з марожанага-эскімо, паволі праводзіць гарачай рукой па голых клубах, затым скідае кашулю і застаецца ў адных трусіках і станіку. Я ўжо даўно распрануты (Насця пастаралася) і чакаю яе, лежачы ў ложку, захінуты да грудзей коўдрай. Але не ў гэтым справа. Трэба толькі адзначыць, што раніцай я прапанаваў Насці выйсці за мяне замуж. Так і сказаў: «Давай пажэнімся». Яна доўга на мяне пазірала, як на нейкае дзіва, але нічога не сказала і ўнікала размовы наконт маёй прапановы цэлы дзень. Адно ўвечары, калі ў мяне не было ніякага жадання выходзіць куды-небудзь з цёплай утульнай кватэры, Насця раптам пацягнула мяне за руку да дзвярэй, зачыненых на шпінгалет. На ключ удзень я рэдка калі замыкаўся, толькі на ноч. Я на самай справе не ведаў, чаго яна пацягнула мяне да дзвярэй, адрываючы ад работы. Колькі ўжо часу я нічога не пісаў,— і вось цяпер з’явіліся думкі, якія неабходна было занатаваць. Аднак Насця начапіла мне на галаву шапку, якую я і зімой ніколі не насіў, і зняла з вешалкі куртку.

— Мы некуды ідзем? — спытаўся я, нічога не разумеючы.

Насця не адказала. Яна ўвабралася ў сваю чорную скуру раней, чым я зашпіліў маланку на сваёй. Затым адчыніла дзверы, выпхнула мяне на калідор і загадала выклікаць ліфт. Зачыніўшы дзверы, Насця ключ мне не аддала, а схавала ў сваю сумачку.

І па дарозе да тралейбуса, і ў тралейбусе, і пасля, калі мы падыходзілі да нейкай дзіўнай формы будыніны ў выглядзе падковы, яна маўчала, але загадкава ўсміхалася і міргала вочкамі, як святлафор.

Я нічога не зразумеў і тады, калі апынуўся, увапхнуты Насцяй, у прыхожай нейкай кватэры. За зачыненымі дзвярыма, напалову шклянымі, аднаго з пакояў чулася песня ў выкананні Людмілы Зыкінай, відаць, нехта глядзеў па тэлевізары «Залаты шлягер».

— Праходзь,— штурханула мяне Насця да іншых дзвярэй, што былі злева ад мяне, папярэдне загадаўшы распрануцца. Як толькі я апынуўся па той бок дзвярэй, яны зачыніліся за мной. Я памкнуўся было назад, але дзверы былі замкнутымі, а ў пакоі было цёмна, толькі за акном бачылася поўня, што цікаўна сачыла за мной, прынамсі, мне так здавалася. І яшчэ мне здавалася, што я маленькае кацяня, якога, хоць і сляпога, жывога кінулі ў наўмысна прыгатаваную яму і засыпаюць гідкім халодным жвірам.

З другога пакоя нічога не было чуваць, акрамя голасу Слічэнкі. На бегавой сцяжынцы сцэнічнага мастацтва ён змяніў Зыкіну і зацягнуў нешта пад гітару. Мне адразу ўспомніўся Будулай. Сам фільм я бачыў даўно, яшчэ ў васьмідзясятыя, калі нават і ўявіць сябе не мог у ролі беларускага пісьменніка. Аднойчы я ехаў з Мінска ў вёску. У райцэнтры далі аўтобус да маіх Цімкавіч, які сапсаваўся, нават не паспеўшы выехаць з Копыля, а час падціскаў. Мужыкі спяшаліся з

работы дамоў на чарговую серыю пра Будулая, а тут такая аказія… «Як жа там Будулай без нас?!» — самотна працягнуў адзін з мужыкоў, і ўсе дружна высыпаліся з аўтобуса, перажываючы, пакурыць.

Я так разумеў, што Слічэнка стварыў нейкі фон для размовы Насці з кімсьці, якую я не павінен быў чуць. А ведаць — дзе я і пра што яна з некім гаворыць — вой як карцела. Ды нават калі б вельмі захацеў, нічога б не пачуў, зачынены, бы вязень у камеры. Праўда, камера даволі цёплая і ўтульная.

Паступова цёмныя сілуэты прадметаў набывалі свае сапраўдныя рысы і ўжо не нагадвалі персанажаў галівудскіх фільмаў жахаў, як спачатку. Я нават асмеліўся сесці на ложак, аднак тут жа падскочыў, як уджалены. Пада мной нешта піскнула, а затым прамовіла «ма-ма». Я перажагнаўся. Гэта была ўсяго толькі лялька. Ложак аказаўся да мяне добразычлівым. Ён больш не выбрыкваўся, хоць я і сядзеў на самым куточку, баючыся з аднаго боку зваліцца на падлогу, з другога — не раздушыць яшчэ якую-небудзь цацку. Магчыма, што я натраплю і на тэрмінатара. А я не ўпэўнены, што тэрмінатар, таксама, як лялька, прамовіць, закаціўшы вочы, «та-та». Што я яму тады скажу? Што я не ягоны тата, а проста праездам? Дык ён мяне так змадыгуе, хоць і цацка, што мяне не тое што маці родная не пазнае, я сам сябе не пазнаю.

Асцярожна я паварочваў галаву то ў адзін бок, то ў другі. Побач з ложкам, ля самага акна, стаяў стол, насупраць ложка — канапа. Яшчэ ў пакоі знаходзіліся вялізная шафа, тэлевізар, кніжная паліца…

Дзверы адчыніліся.

— Чаго ты сядзіш папацёмку? — Насцін голас супакоіў мяне, як матчына калыханка. Дзяўчына працягнула руку за кніжную паліцу, і загарэлася святло…

— Куды ты мяне прывезла? — спытаўся я, калі Насця падышла бліжэй і села побач.

— Да маіх бацькоў,— проста адказала яна.

— Ты тут жывеш? — здзівіўся я, бо ведаў, што Насця жыве зусім у іншым месцы.

— Так, гэта мой пакой.

— А-а… што тады…

— Ты маеш на ўвазе, дзе мы былі? Я там таксама жыву час ад часу, калі пасваруся з мамай. Тая кватэра належыць маёй сястры і ейным бацькам. Мы стрыечныя сёстры.

— Дзіўна. Я чамусьці заўсёды лічыў вас роднымі.

Здаецца, я атрымаў адказы на ўсе свае пытанні, аднак усё адно мне нічога не было зразумела, я адчуваў сябе ідыётам і пацiскваў плячыма, як прыпадачны.

— Ды ўсё нармальна,— супакойвала мяне Насця,— зараз мае бацькі збяруцца, і ты з імі пагаворыш…

— Я?! — нічога я не зразумеў.

— Ну, ты ж хочаш ім нешта сказаць…

— Ім я нічога казаць не збіраўся, але, калі ты хочаш, я ім скажу…

— Што? — Насця ўпілася позіркам мне ў вочы да такой ступені, што я падумаў: яшчэ крыху, і мае вочы пад уздзеяннем Насцінага позірку страцяць сваё звычайнае месца жыхарства і расцякуцца ртуццю па падлозе. Хоць бы нічога не загарэлася…

— Што кахаю цябе і хачу на табе жаніцца,— адказаў я.

— А калі яны будуць супраць? — не адставала Насця.

— Тады я цябе ўкраду і запатрабую выкуп у памеры мільёна мінімальных заробкаў, але ўсё адно цябе ім не вярну, а выкуп мы добрасумленна прап’ем.

Насця адпусціла мяне. Я з палёгкай уздыхнуў і расшпіліў верхнія гузікі на кашулі, таму што стала раптам горача.

…А пасля мы пілі каву. У коле сям’і. Тэлевізар барабаніў, але на яго балбатню ніхто не звяртаў увагі. Насціны бацькі вывучалі мяне, як буквар, хоць я не

прамовіў яшчэ ніводнага слова. Я, у сваю чаргу, вывучаў іх, прывыкаючы ў думках да словаў «цесць» і «цешча», а Насця сузірала карціну позіркам крытыка. Відаць, яна адна толькі і кідала раз-пораз адным вокам позірк на тэлевізар.

Насцін бацька меў ужо шмат гадоў і лысіну з белымі кусцікамі вакол яе. Ён паспеў павapplyаваць у саракавых і даслужыцца да палкоўніка. Маці выглядала маладой і прыгожай. Нечым яна нагадвала актрысу Надзею Румянцаву. Аднак больш за ўсё мяне ўразілі кнігі ў серванце 1911 і 1937 гадоў выдання. Гэта былі зборы твораў Дзюма, Горкага, Драйзера, Маякоўскага.

Маўчанне зацягвалася, і ўсе гэта разумелі. Мне-та што, я ўжо ўсё сказаў у самым пачатку, пагэтаму асабліва не перажываў, сёрбаў сабе каву і чакаў, калі ж урэшце хто-небудзь вымавіць хоць слова.

Пракашляўся Насцін бацька.

— І што ты думаеш рабіць, Мікалай? — спытаўся. Голас у яго быў надтрэснуты, як барабан гітары.

— Я ўжо сказаў вам,— прамовіў я.

— Не ў тым сэнсе,— паправіўся «цесць».— Як ты будзеш жыць? Як сям’ю забяспечваць?

— Я пішу. Думаю, мае кнігі, калі іх будуць выдаваць, прынясуць не меней грошай, чым рабочы атрымлівае на заводзе ці выкладчык ва ўніверсітэце.

— Дык іх жа яшчэ не выдаюць,— заўважыў «цесць».— А да таго яшчэ доўгая песня.

— Ну, чаму… — запярэчыў я.

— А што ты скончыў? — перапыніла правакацыйным пытаннем мяне «цешча».

— Нічога,— паціснуў я плячыма.— Вучыўся на філфаку, ды кінуў. Таму што нічога новага для сябе там не адкрыў.

— Мне здаецца,— працягвала «цешча»,— калі ты кажаш, што ты пісьменнік, пісьменнікі — незвычай-

ныя людзі. Проста так жа нічога не пішацца. Яны ўвесь час думаюць, перажываюць, уначы ўсхопліваюцца і спяшаюцца да стала, каб занатаваць думку, пакуль яна не збегла. Нічога незвычайнага, як мне здаецца, у тваіх паводзінах не бачна.

— А хто вам сказаў, што пісьменнікі не такія, як звычайныя людзі? Яны такія ж, як усе, толькі адрозніваюцца іншым складам мыслення ды ладам жыцця.

— Усё гэта добра,— зноў у гаворку ўступіў «цесць». Я так зразумеў, што ён увогуле не чуў, аб чым мы толькі што размаўлялі з ягонай жонкай.— Усё гэта добра,— паўтарыў ён,— мяне цікавіць, за што вы будзеце жыць? Чым сям'ю карміць будзеш?

— Працаваць буду я,— умяшалася Насця.— А Мікола будзе пісаць і дзяцей няньчыць.

На гэтай аптымістычнай ноце размова была завершана. Па шчырасці, мне было напляваць, што думаюць пра мяне Насціны бацькі, але не напляваць было самой Насці. З ёю размовы наконт мяне, скіраваныя на разрыў усялякіх адносін паміж намі, будуць праводзіцца штодзень.

Так я думаў, калі вяртаўся ад Насці да сябе, але дамоў не пайшоў. Мяне пацягнула ў Дом літаратара на чарговае панядзелкавае пасяджэнне. Я даўнавата там не быў, а быў якраз панядзелак, тым больш, што настрой патрабаваў нейкага духоўнага адхлання. А там павінны чытаць вершы.

Першага на трэцім паверсе я сустрэў Мініча. Ён курыў перад люстэркам, расчэсваючы вусы. Я моўчкі падыходзіў да яго з-за спіны, але не ўбачыць мяне Мініч не мог. Мая рука легла яму на плячо і развярнула тварам да мяне.

— Прывітанне, Мініч,— прамовіў я.— Я прыйшоў табе доўг вярнуць.

Мініч нарабіў такога грукату, што мне здалося, нібыта ў Мінску — сапраўдны землятрус. Ён перакуліў

сваім целам тумбачку з люстэркам. Мала таго, пабіў тое самае люстэрка, якое аскепкамі, нібы медалямі, упрыгожвала яго грудзі. З носа цякла кроў, а цыгарэта тлела побач з яго галавой.

На шум павыбягалі маладыя ды раннія геніі, кінуліся на дапамогу Мінічу, ды мне было ўжо не да іх. Я паволі спускаўся на першы паверх, не зважаючы на тое, што мяне клікалі. Не ведаю, для чаго. Але вяртацца я не збіраўся, хаця і хацеў паслухаць вершы. Цяпер мне хацелася выпіць, і я пешшу пашкандыбаў да ГУМа. Хоць бар у ГУМе я не любіў, там было цёпла і ніхто не капаў на мазгі. Толькі вось курыць нельга…

## 12

Я так і не стаў Насціным мужам; так і не даведаўся, як яна трапіла да мяне ў кватэру, калі я палічыў яе за русалку; так і не зразумеў, кім Насця была для мяне. І на пытанні мае няма каму адказаць.

Я часта ўспамінаю той дзень, калі мы разглядалі лініі сваіх жыццяў на далонях. Тады яна сказала, што будзе жыць доўга-доўга, таму што лінія жыцця ў яе доўгая, а ў мяне кароткая… Я тады адчыняю фортку, закурваю і…

…Насця загінула на Нямізе ў тую крывавую нядзелю, калі…

Ды што толку, калі яе няма!!!..

*1999*

# ШОЎК

*Гісторыя жарсці*

## *Аповесць*

Вечар поўз, як чарапаха, але ўсё ж поўз. Яму не было куды спяшацца. Ён выдатна ведаў, калі і дзе трэба з'явіцца. Асабліва дзе. Ён любіў месцы, дзе яго чакалі, таму ніколі не спяшаўся да іх, бо нібыта смакаваў сваё хуткае з'яўленне, гуляючы ў Бога. Яму падабалася вяршыць лёсы, застаючыся абыякавым, праўда, да таго, ламаў ён іх ці рабіў шчаслівымі. Вечар не адрозніваў адценняў у адносінах. І ў гэты раз ён не спяшаўся. Ведаў, што з'яўленню яго будуць рады. Дакладней, радая. Жанчына, якая стаяла ў акне, нібы каханага выглядвала, які вяртаецца з працы, досыць доўгі час, раптам завесіла акно шчыльнай шторай, быццам стамілася чакаць. Але вечар паспеў скокнуць у кватэру, як кошка, праз фортку на падаконне, потым на падлогу і на канапу ўлегчыся, згарнуўшыся абаранкам.

Ёй было сорак шэсць гадоў, і яе звалі Святлана.

Яна ненавідзела вечары. Ненавідзела заставацца адна ў трохпакаёвай кватэры, дзе і пагаварыць не было з кім, хіба што з кнігамі, якіх было мноства, ды з тэлевізарам. Сын з нявесткай прыязджалі рэдка і, ужо праз некалькі гадзін засумаваўшы, збіраліся назад. Іх тут нічога не трымала. Сын выкладаў у Ваеннай акадэміі, жонка яго — псіхалогію ва ўніверсітэце.

Усе сябры іх і знаёмыя знаходзіліся там, у сталіцы. У маленькім мястэчку, у якім нарадзіліся і выраслі, ні з кім сяброўства не падтрымлівалі. Ды і не было з кім тут сябраваць, па вялікім рахунку. Усе іх аднагодкі, што засталіся ў мястэчку, спыніліся ў развіцці, залеглі на дне шклянкі. Усё-ткі добра, што яе сын не жыў з мамай.

А яна была нічога сабе, нягледзячы на ўзрост. Сярэдняга росту, у меру паўнаватая, але не тоўстая, не дзяўчынка ж ужо; з пругкімі грудзьмі аднак, жывымі вачыма, цікаўным носікам, ямачкамі на шчоках, Святлана працягвала звяртаць на сябе ўвагу мужчын. Рыжанькая, з вяснушкамі па вясне, яна скончыла філфак педінстытута калісьці і ўсё жыццё прапрацавала ў школе, цяпер пераназванай у ліцэй. Сама яна была не мясцовая, прыехала з мужам, з якім развялася праз некалькі гадоў пасля нараджэння сына. Ён завёў новую сям'ю, а калі жонка яго памерла ад раку, папрасіў Святлану вярнуцца. Яна і вярнулася, як дурніца, усёткі адзінокі мужчына, шматдзетны, яе дапамога неабходна. Праз некалькі месяцаў пашкадавала, што зноў звязалася з ім. Адчуўшы адносную волю, той пачаў выпіваць і, як следства, распускаць рукі. Біў ён як дзяцей, так і яе. Святлана не вытрымала, сышла. Ён доўгі час угаворваў яе зноў вярнуцца ўсякімі праўдамі і няпраўдамі, нават пагражаў. У рэшце рэшт Святлана выклікала міліцыю. Дзяцей забрала бабуля, маці яго памерлай жонкі.

Перыпетыі ў адносінах з мужам былі самымі вялікімі прыгодамі ў жыцці Святланы. А яна ж марыла застацца жыць пасля інстытута ў вялікім горадзе, хадзіць у тэатры. Не перастаючы, сачыла за сабой, таму захавала «таварны выгляд», як цяпер модна казаць, не лічачы некалькіх дробных маршчынак на шыі і пад вачамі. У школе ёю захапляліся вучні, любілі

яе ўрокі, і калектыў педагогаў паважаў Святлану. Толькі дамоў яна не спяшалася пасля працы, як усе, з тых часоў, калі сын з'ехаў, ішла павольнай нетаропкай хадой, паварочвала ў лесапарк, каб падоўжыць шлях, марыла па дарозе пра якую-небудзь выпадковую сустрэчу, якая перавярнула б жыццё. Але ніхто не сустракаўся, ды і не мог сустрэцца ў прынцыпе. Мястэчка маленькае, усе адзін аднаго ведалі, і ўсе былі занятыя, у сэнсе — мужчыны, вольных не было, нават самых горкіх п'яніц. Святлана бачыла толькі маладыя пары ды старшакласнікаў, што нясмела сядзелі на лаўках і гэтак жа нясмела тыкаліся, як сляпыя кацяняты, адно аднаму ў насы ў пошуках вуснаў.

Яна прыходзіла дамоў, уключала тэлевізар, гатавала вячэру прыхапкам. Потым выключала тэлевізар, брала кніжку ў рукі і чытала, пакуль сон не ўкрываў яе з галавой, нібы коўдрай. І так кожны дзень. Сумна і прыкра.

А ўчора яна пагадзілася скласці кампанію сяброўцы і каляжанцы па працы Наташцы Цыбульскай. Тая выкладала інфарматыку, любіла танцы і кампаніі. Яна і паклікала Святлану ў рэстаран, адзіны на ўвесь горад, тым больш і нагода была. Па-першае, выходны, а па-другое, прафесійнае свята — Дзень настаўніка.

Натуральна, Святлана доўга думала, перш чым пагадзіцца.

Яна выйшла раней з дома, стаміўшыся ад чакання, лепш прайсціся, хоць да рэстарана ісці было хвілін пяць. Ён знаходзіўся на невялікім узвышэнні праз дарогу. Адлегласць Святлана пераадолела за тры хвіліны, пастаяла ля ўвахода, але не зайшла, нерашуча тузанула за ручку дзвярэй, тыя ледзь прыадчыніліся, стрыманыя тугой спружынай, і зноў зачыніліся.

Святлана аддзёрнула руку і імкліва закрочыла назад, да свайго дома. Няправільна гэта — хадзіць у

рэстаран адной, без суправаджэння мужа ці мужчыны. Што людзі падумаюць? Яна ў рэстаране была ўсяго некалькі разоў, і то ў маладосці, у вялікім горадзе, калі вучылася яшчэ. Там яе ніхто не ведаў. Усе займаліся сабой ці сваімі спадарожнікамі. А ў мястэчку заўтра ж папаўзуць чуткі і абвінавацяць невядома ў чым…

Святлана падыходзіла да пад'езда, калі зазвінеў тэлефон. Гэта Наташка правярала, ці сабралася: калі сабралася, то яе, Святлану, чакаюць, хай не затрымліваецца, таму што без яе ў рэстаран ніхто не ўвойдзе.

Яна хацела запярэчыць, сказаць, што не зможа прыйсці, што захварэла, але не паспела. Наташка хутка адключылася. Адтараторыла і знікла.

Святлана зноў накіравалася ў рэстаран.

Наташка не падманула.

Калегі па працы, усяго восем чалавек, усе жанчыны, за выключэннем аднаго мужчыны-«трудавіка», штосьці весела абмяркоўвалі. «Трудавік» курыў убаку, таму Святлана не адразу яго заўважыла.

Наташка аслупянела, калі ўбачыла сяброўку, захоплена пляснула рукамі.

— Прыгажуня ты наша! — Падышла, пацалавала, як гераіня яе любімых серыялаў, чаго ніколі не дазваляла сабе на працы. І гэта зразумела. Школа ўсё-ткі.

— Шыкоўна выглядаеш! — далучыліся да Наташкі астатнія, а «трудавік» аж прысвіснуў.

Ніяк асабліва Святлана не апраналася і не фарбавалася. Зачасала валасы назад, падвяла цені, падрэтушавала вусны, апранула бручны касцюм, пад пінжак — белую шаўковую блузку і чырвоны мужчынскі гальштук, туфлі на высокім абцасе. Штосьці яшчэ? Так, капялюш, як і гальштук, мужчынскі. Ёй наогул мужчынскі гардэроб пасаваў, рабіў яе больш жаноцкай і цікавай, калі не сказаць, сексуальнай. Наташка выглядала не горш, ды і астатнія таксама.

«Трудавік» дакурыў і адчыніў дзверы ў рэстаран, ветліва запрашаючы жанчын увайсці першымі.

Зала была поўная. Сляпіла яркім святлом і аглушала музыкай і гучнымі галасамі. Дзве афіцыянткі ледзь паспявалі прымаць і выконваць замовы. Святлана мімаволі запынілася, але Наташка падпіхнула ззаду.

— Не дрэйф, сяброўка,— пракрычала на вуха,— сёння наш дзень, так давай адтапырымся на славу. Наш столік вунь ён, пусты ля акна. Я яго замовіла яшчэ ўчора.

Заахвочаная словамі Наташкі і іншых, Святлана хутка апынулася за столікам і ўжо гартала меню. Наташка меню вырвала з яе рук і сказала, што ўсё даўно замоўлена і не трэба перанапружваць мозг.

Афіцыянткі па чарзе прынеслі гарэлку, таматавы сок, фруктовае асарці, адбіўныя, некалькі відаў салаты, шакалад, віно. Віно, зрэшты, ніхто не захацеў, і яго панеслі назад.

Па першай выпілі за прафесійнае свята, потым за сяброўак, потым за каханне, а затым перад столікам з'явіўся малады чалавек і ветліва запрасіў Святлану на танец, якраз гучала павольная кампазіцыя.

Спачатку яна не зразумела, што трэба было гэтаму хлопчыку, чужому і незнаёмаму. Ніколі раней яго не бачыла. Наташка пракрычала на вуха, што Святлану клічуць танчыць.

— Але ж ніхто не танчыць,— разгубілася Святлана.

— Ніхто,— пагадзілася Наташка, абвёўшы поглядам памяшканне.— Ніхто,— утаропілася на маладога чалавека.

— Мы будзем першымі,— працягнуў той руку Святлане, і ёй раптам так захацелася даверыцца яго руцэ, адчуць яе дотык, але зрабіла зусім іншае.

— Навошта? — спытала яна.

— Затым, каб не паўтараць,— прамовіў малады чалавек, ахінаючы аксамітам свайго голасу, нібы спавіваючы ў шоўк усю існасць жанчыны, якая памірала ад адзіноты,— за іншымі, якім таксама можа прыйсці ў галаву выйсці танцаваць.

— Вы ўпэўнены? — нерашуча вагалася яшчэ Святлана, але шалёна жадала, каб гэты хлопчык настаяў на сваім.

— Абсалютна,— малады чалавек не расчараваў яе.

— А мяне тут усе ведаюць,— працягвала пярэчыць Святлана, супраціўляючыся, хутчэй, самой сабе, бо не чакала, што здольная, хоць у глыбіні душы была ўпэўнена, напляваць на прыстойнасць і гадамі выпрацаванае становішча ў грамадстве.— А вас не ведаю я.

— Вось і пазнаёмімся,— не сыходзіў малады чалавек.

— Вы так думаеце? Вам гэта трэба?

— Светка, ты чаго? — ушчыкнула яе Наташка.— Потым жа шкадаваць будзеш! А лепш пашкадаваць пра зробленае, чым пра не зробленае. Ты глядзі, які хлопчык!..

— Праўда твая, менавіта хлопчык! — адказала Святлана сяброўцы.— Ён аднагодак майго сына!..

— Ну і што!

— Як ну і што?

— Урэшце, гэта проста танец!

— Ну так, ты маеш рацыю.

З веліччу каралевы Святлана ўклала ў руку маладога чалавека сваю далонь і выйшла з-за стала. Ён тут жа прыцягнуў яе да сябе, упэўнена паклаў адну руку на стан, другою гэтак жа ўпэўнена кіраваў целам Святланы і танцам.

Яны не размаўлялі. Уважліва глядзелі адно аднаму ў вочы. У яго яны былі зялёныя, напоўненыя глыбінёй лесу, у якім лёгка заблукаць, і з нейкай самоцінкай,

якая сведчыла пра штосьці вельмі моцна перажытае. Высокі лоб, рымскі нос, ледзь прыкметны шнар на брыве, ярка акрэсленыя выразныя губы, ямачка на падбародку, зачасаныя назад чорныя валасы сярэдняй даўжыні дапаўнялі партрэт. Моцныя рукі, без ніякіх дрыжыкаў ад хвалявання, хоць заўважна, што хваляваўся. Яго дыханне п’яніла, позірк засмоктваў у сябе. Святлана адчувала галавакружэнне, але не адводзіла вачэй ад яго.

Музыка спынілася.

Святлана быццам адарвалася ад чагосьці надзейнага і дужага, павісла на адной руцэ над прорвай, ледзь утрымліваючыся слізгаючымі пальцамі па вяроўцы, і разгублена аглядалася. Прысутныя ў рэстаране, усе як адзін, дружна апладзіравалі ёй, як акторцы ў тэатры. Заўтра пра гэты танец будзе ведаць увесь горад. Злавіўшы гэтую думку і ўчапіўшыся за яе, як за выратавальны круг у моры, Святлана імкліва вярнулася за столік, не дазволіўшы маладому чалавеку праводзіць яе. Ён таксама вярнуўся да сваіх.

Яна папрасіла наліць ёй выпіць і залпам асушыла чарку гарэлкі, затым падзялілася асцярогамі з сяброўкай.

— Што ты за глупства гародзіш,— супакоіла яе Наташка.— Ну і хай ведаюць. Няхай зайздросцяць, што ў тваім узросце яшчэ можна ох як падабацца! Прабач, канешне.

— Ты думаеш, ён яшчэ падыдзе да мяне? — спыталася Святлана.

— Што я чую?! — шчыра здзівілася Наташка.— Ты ж ісці не хацела! — нагадала, але, убачыўшы, як нахмурылася сяброўка, паспяшалася падсаладзіць пілюлю.— Зразумела, падыдзе. Нездарма ж з усіх абраў цябе!

— Вось гэта і дзіўна,— задумалася Святлана.— Гэтулькі маладзенькіх вакол, а ён мяне запрасіў…

— Нічога дзіўнага,— паціснула плячыма Наташка.— Вытанчаная натура мастака беспамылкова разгледзела сапраўднае сярод падробак.

— Што ты такое кажаш?! Якіх падробак? — не зразумела Святлана, а потым, нібы апамятаўшыся, прамовіла: — Пачакай, пачакай, ты што, хіба ведаеш яго?..

— Ну, так, ведаю,— неахвотна адказала Наташка.— Ён у Доме культуры працуе рэжысёрам. Прыслалі па размеркаванні пасля ўнівера. Творчы чалавек, між іншым. Так што невыпадкова ён да цябе падышоў. Ты ж прыгажуня. Да мяне вось ніхто не падыходзіць.

— Наташа… — пагладзіла сяброўку па галоўцы, як маленькую, Святлана.

— Ды жартую я,— усміхнулася Наташка,— хутка ад ахвотнікаў адбою не будзе.

Нібы ў пацверджанне яе слоў, да століка падышоў нейкі мужчына і выцягнуў Наташку, як рыбку з сажалкі, са свістам, на сярэдзіну залы. Святлана танчыць не пайшла, не любіла дрыгацца пад незразумелыя «тыц-тыц-тыц». Яна зняла пінжак, бо зрабілася горача, і павесіла яго на спінку крэсла, запраўленую ў штаны блузку адпусціла навыпуск, гальштук сарвала і засунула ва ўнутраную кішэню пінжака, некалькі верхніх гузікаў на блузцы расшпіліла: стала лягчэй.

Святлана сядзела за столікам адна. Яе спадарожніцы танчылі ў паўколе, «трудавік» сышоў курыць на паветра. Вачамі яна шукала маладога чалавека, з якім танчыла, але знайсці не змагла. Дзіўнае пачуццё закралася ў душу жанчыне. Ёй было крыўдна за сябе. За тое, што засталася адна, калі іншыя весяліліся. Так, яна не любіла хуткія рытмы і эпілептычнае торганне пад іх, але ён мог хаця б для выгляду запрасіць… Якая лухта… Пра што яна думае? Ды ён падышоў да яе, хутчэй за ўсё, з ветлівасці ці паспрачаўшыся з кімсьці на яе, або Наташка загадзя папрасіла, бо

знаёмая з ім ужо… Так, безумоўна, гэта Наташчыных рук справа.

— Не перашкоджу? — раптам пачула над самым вухам аксамітавы барытон Святлана.

— Што? — быццам спалохалася чагосьці, знізу ўгару (малады чалавек схіліўся над ёй, абапіраючыся адной рукой аб стол, іншай трымаўся за спінку яе крэсла) паглядзела яна, але імгненна заўважыла позірк суразмоўцы, накіраваны ў выраз яе блузкі. Грудзі ўсё-ткі выглядалі «апетытна» і яшчэ маглі зводзіць з розуму нават такіх юных прадстаўнікоў мужчынскай паловы чалавецтва.— Прабачце,— усміхнулася Святлана і рукой паказала, што той можа сесці насупраць, усё адно пакуль нікога няма.

— Міхал маё імя,— сказаў малады чалавек, як толькі зручна размясціўся на крэсле.— А вы?

— Святлана,— адказала жанчына.

— Можа быць, вып'ем на брудэршафт,— прапанаваў Міхал,— і пяройдзем на «ты»?

— Навошта? — неахвотна супраціўлялася Святлана, дакараючы сябе ў душы за гэта. Ёй так не хапала ўвагі, падтрымкі, кахання, нарэшце. Міхал на яе глядзеў з такім замілаваннем і такім кранаючым поглядам, так гарнуў да сябе, але ён быў такі малады!..

— Затым, што вы вельмі прыгожая,— прамовіў Міхал.— Гэтым вы мяне і бянтэжыце. Мне ніколі не падняцца да вас, якіх бы высілкаў я не выкарыстоўваў. Толькі вы можаце падняць мяне да свайго ўзроўню. Памятаеце, што «толькі прыгажосць выратуе свет?»

— А мой узрост не бянтэжыць ніяк? — вырвалася з грудзей Святланы. Яна ведала наперад, што ён адкажа, бо мужчына ж не зняважыць жанчыну, але жадала пачуць добрыя словы ў свой адрас. Вельмі даўно ёй ніхто не казаў, як яна добра выглядае.

— Пры чым тут ваш узрост? — усміхнуўся Міхал.— У прыгажосці ўзросту няма. Яна вечная. А ведаеце, як парой хочацца далучыцца да вечнасці?..

Ён узяў дзве чаркі і паставіў іх побач, напоўніў гарэлкай да паловы, адну чарку працягнуў Святлане, з другой у руцэ перасеў да жанчыны бліжэй.

Яны выпілі. На брудэршафт. Сваю і яе чаркі ён паставіў на стол, падсунуўся яшчэ бліжэй, адной рукой абняў Святлану за плечы, другой — узяў яе твар і ўтрымліваў, пакуль працягваўся пацалунак, на здзіўленне салодкі і сакавіты. Магчыма, Святлане пацалунак здаўся такім таму, што даўно ні з кім не цалавалася. Яна нават заплюшчыла вочы ад задавальнення, але адхілілася першая.

— Ну, вось,— сказала затым,— вы… ты… і далучыўся да вечнасці.

Міхал усміхнуўся, але так, нібы баяўся расціснуць рот, штосьці ўтойваючы.

Загучала павольная мелодыя.

Міхал працягнуў Святлане руку, запрашаючы паўтарыць танец.

Яны зноў выйшлі на сярэдзіну залы, але ўжо не адны. Наведвальнікі рэстарана разбіваліся па парах і таксама выходзілі, каб топчучыся на месцы, робячы выгляд, што танчаць, паспець за некалькі хвілін нацешыцца бачнасцю інтыму, які, магчыма, больш ніколі не паўторыцца.

Міхал паклаў абедзве рукі Святланы сабе на плечы, свае ж рукі скрыжаваў на яе стане, але ненадоўга: хутка яны асцярожна, але ўпэўнена паплылі па яе спіне, паслабляючы цела, што даверліва тулілася да цела процілеглай асобы. Вусны Святланы самі па сабе выбухнулі пацалункамі. Вар’яцтва доўжылася роўна гэтулькі, колькі гучала кампазіцыя. Як толькі яна скончылася, Святлана паспешна адвярнулася,

адпіхнуўшы Міхала, і села за столік. Сядзела нядоўга, раптам пачала збірацца дадому. Наташка адгаворвала, але Святлана не паддалася. Яна баялася саму сябе. Спалохалася, як дзіця. Страх павінен прайсці, калі яна апынецца ў бяспецы, а менавіта дома. Там Святлана супакоіцца і прагоніць страх. Імклівай хадой яна вырвалася, як з пекла, ад сцен рэстарана на вуліцу, нібы ў рай, і захлынулася яго паветрам.

Міхал дагнаў яе на паўдарозе да ейнага дому. Схапіў за руку, павярнуў да сябе тварам. Яна вырвалася, кінулася бегма падалей ад яго, як ад д'ябла, каб хутчэй схавацца за выратавальнымі дзвярыма пад'езда. На дзвярах код, ён не зможа да яе дабрацца.

Цёмна-сінюю прастору ночы асвятлялі зоркі і вулічныя ліхтары. Цені Святланы і Міхала велізарнымі сілуэтамі расплываліся па сценах дамоў.

На высокіх абцасах было цяжка бегчы, таму Міхал не адставаў ні на крок. Ён даўно ўжо мог дагнаць Святлану і расправіцца з ёй, але яму прыносіла задавальненне гульня з ёю, ён жа яшчэ хлопчык зусім.

Міхал прыціснуў яе да пад'ездных дзвярэй, упёршыся ў дзверы аберуч, нібы заслупаваў яе. Яны абодва лавілі паветра, спраўляючыся з дыханнем, быццам спартоўцы на фінішы пасля марафона.

— Не падыходзь,— першаю выціснула з сябе Святлана.

— Куды? — прахрыпеў Міхал.

— Да мяне,— выдыхнула жанчына.

— Я ўжо ў цябе,— прамовіў больш спакойна Міхал.

— І што далей?

— Усё.

— Ты ж зусім хлопчык. Навошта я табе?

— Мне дваццаць сем гадоў. А ты вельмі падобная на Шэран Стоўн. Я ніколі не бачыў такіх прыгожых жанчын, як ты, толькі ў кіно.

— Ты перабольшваеш.
— А ты камплексуеш.
— У мяне сын твайго ўзросту.
— Бывае.
— Дурань…

Яна абвіла яго шыю рукамі, прыпадняўшыся на дыбачкі, каб быць з ім на адным узроўні, як ён і жадаў, каб не ён нахіляўся да яе, а яна паднімалася да яго.

Іх вусны зноў сустрэліся.

Рука Міхала запаўзла пад блузку Святланы.

Яна задыхалася ад пяшчоты і жадання.

І раптам ён яе адпусціў.

— Штосьці не так? — занепакоена зазірала ў вочы Міхала Святлана, нічога не разумеючы.

— Табе падабаецца шоўк? — чамусьці спытаўся ён.

— З чаго ты ўзяў? — усё яшчэ нічога не разумела Святлана.— Ды і пры чым шоўк наогул?

— На табе шаўковая блузка,— прамовіў Міхал.

— Ну, так,— не адмаўлялася Святлана.— І што?

— Значыць, табе падабаецца шоўк? — стаяў на сваім Міхал.

— Не, не падабаецца,— прагучаў следам адказ.— Блузку я апранула па выпадку. Ды што я апраўдваюся перад табой,— злавіла Святлана сябе на думцы, што паводзіць сябе з гэтым хлопчыкам, як школьніца ля дошкі.

— Я табе патэлефаную,— кінуў Міхал, развярнуўся і сышоў.

— Стой! — тупнула ножкай Святлана ў роспачы.— Куды пайшоў?..

Міхал, не абарочваючыся, памахаў ёй рукой на развітанне.

— Вар’яцтва нейкае! — сказала Святлана сама сабе і зайшла ў пад’езд.

Нядзеля пачалася з сонца, якое нахабнымі прамянямі, нібы пальцамі, спрабавала адкрыць Святлане

вочы. Сонца не разумела, што, спрабуючы дапамагчы прачнуцца, рабіла толькі горш і выклікала ў свой адрас не радасную ўсмешку, як звычайна, а глухую нянавісць. Сваёй прысутнасцю яно раздражняла і ўзмацняла галаўны боль, ад якога Святлана не ведала, куды дзецца. Яна то хавалася з галавой пад коўдру, то засоўвала галаву пад падушку, то галавой клалася туды, дзе раней былі ногі, спрабуючы пазбавіцца ад нясцерпнага болю і ўсюдыіснага сонца, якое, здавалася, забаўлялася сітуацыяй, як дзіця. Урэшце прымусіла сябе ўстаць і, растрапаная, зашлёпала да акна і завесіла яго, адгарадзіўшы сябе такім чынам ад сонца. Боль быццам бы прыціх. Затое перасохла ў роце. Святлана прайшла на кухню, адкрыла кран з вадой. Ніколі вада не здавалася такой смачнай. Здаволіўшы смагу, яна вырашыла прыняць кантрасны душ, пасля чаго, абвязаўшы галаву ручніком у выглядзе цюрбана, улезла ў махровы халат, уключыла тэлевізар і села на канапу перад ім, адкінуўшыся на спінку.

Адразу ж успомніўся Міхал. Яго гарачыя губы. Іх дотык дагэтуль трымаўся на ёй, нібы казачны пылок. Святлана адчувала смак пацалункаў і сілу рук, хоць з выгляду Міхал не паходзіў на атлета. Досыць худы, нават кашчавы, але такі мілы і абаяльны, з такімі кранальнымі адтапыранымі вушамі, якія хаваў пад валасамі, адмыслова робячы начос на іх. Можна сказаць, прыгожы малады чалавек пакінуў сябе на ёй ашаламляльным успамінам. Так, вось яно, дакладнае слова, якое тлумачыць усё, што адбылося ўчора. Ашаламленне. Ва ўсім вінаваты алкаголь. Не спажыві яго, нічога не было б. Ды нічога і не было. Танцы і пара пацалункаў яшчэ нічога не значаць. І добра, што ён сышоў. Праспіцца, падумае і забудзецца. Навошта яму ўспамінаць Святлану? Яна бабулька для яго. Так, захапіўся для выгляду ці, хутчэй за ўсё, паспрачаўся

з прыяцелямі, што зніме яе за колькі хвілін, плёвая справа. Хутчэй за ўсё, з яго-та знешнасцю. Любая дзяўчынка не ўстаяла б, не тое што Святлана. Тут ніякі жыццёвы досвед не выратуе, і ніякія бастыёны не ўтрымаюцца, калі на цябе зважае малады і прыгожы мужчына. Ні на каго-небудзь з тваёй кампаніі, а на цябе адну. Гэта, вядома, усцешвае і прыемна казыча самалюбства. Значыць… значыць, штосьці не хочацца думаць і верыць у нейкую асабістую яго выгаду. Не дзяўчынка ж. Так проста хлопцы не будуць ліпнуць. Але што было ў яе такога, на што можна паквапіцца? Муж не алігарх, ды і няма ніякага мужа, грошай трохі, машыны няма і не прадбачыцца. Хіба што кватэра? Але навошта Міхалу кватэра ў мястэчку, калі ён адбывае тут павіннасць і наўрад ці застанецца пасля абавязковай адпрацоўкі? Пытанне. І пытанне слушнае. Не можа ж быць сапраўды, што яго прывабілі яе харcauses! Хоць было б нядрэнна, калі так. Але ж ён сышоў. Нават не развітаўся як след, махнуў рукой і не азірнуўся. Штосьці яму не спадабалася. Увесь імпэт прапаў, як толькі яна штосьці сказала, штосьці адказала яму. Што? Успамінай. Так, ён спытаў, ці падабаецца ёй шоўк? І яна адказала адмоўна, пакрыўдзіўшы сваім адказам. Мужчыны ж, як дзеці, а гэты і ёсць хлопчык. Калі яму падабаецца шоўк, значыць, ён жадае, каб яго выбранніца спакушала яго шаўковымі ўборамі, шоўк яго ўзбуджае. Але ёй, Святлане, шоўк не падабаўся. Наогул не выклікала даверу гэтая тканіна, слізкая, халодная і гідкая. Значыць, з Міхалам у іх нічога не атрымаецца. Можа, гэта і да лепшага. Не ў яе ўзросце зноў акунацца ў свет узрушэнняў і адкрыццяў, хоць і варта было б. Але ён зусім хлопчык!..

Святлана ўспомніла, што Міхал абяцаў патэлефанаваць, але пасля ўсіх высноў вырашыла, што наўрад

ці патэлефануе. Ён пачуў тое, чаго не чакаў пачуць. А сілком свае захапленні іншаму чалавеку не прышчэпіш, як прышчэпку. Усё скончылася, так і не пачаўшыся. І дзякуй Богу! Святлана ўздыхнула з палёгкай. Прыгледзелася і прыслухалася да таго, што адбывалася на экране. У галаве яснела. З разважаннямі і атрыманымі высновамі сышоў і боль.

Па тэлевізары ішоў нейкі ранішні канцэрт. Напаўголыя дзяўчынкі пішчалі штосьці пра вечнае каханне, але не ў будане, а ў шыкоўным асабняку на Рублёўцы.

Зазвінеў тэлефон.

Святлана здрыганулася. Так хутка?

Нерашуча падышла да тэлефона, але трубку не паднімала. Што яна яму скажа? А тэлефон не пераставаў патрабаваць, каб на яго звярнулі ўвагу. Навошта ён тэлефануе? Усё ж ужо высветлілася!..

Маючы намер сказаць, каб Міхал не тэлефанаваў больш ёй, Святлана рэзка падняла трубку, але яе апярэдзіў голас Наташкі Цыбульскай.

— Слухай, да цябе, як у Смольны, не прабіцца! — пакрыўджана выдала сяброўка.

— А, гэты ты,— расчаравана вымавіла Святлана.

— А ты каго чакала? — абурылася Наташка.— Прынца, ці што?

— Ды не, нікога,— адказала Святлана.— Спала я проста…

— Я цябе пабудзіла? — заінтрыгавана спытала сяброўка.— А з кім спала? — хітра пацікавілася.

— Ды ні з кім, адна,— уздыхнула Святлана.

— А што так цяжка ўздыхаеш? З кімсьці хацела? Ці не з Мішкам з Дома культуры?.. Што, не захацеў застацца?..

— Я і не запрашала. Ды і навошта я яму?

— Памыляешся, сяброўка. Ты б бачыла, як ён на цябе пазіраў!..— заўважыла Наташка.

— Ды бачыла я.

— Што ты бачыла? З боку лепш відаць. Кажу табе, запаў ён на цябе!

— Адзін раз убачыўшы? — сумнявалася Святлана.

— Ды не адзін,— запярэчыла Наташка.— Ён цябе дзесьці бачыў у горадзе, зацікавіўся, стаў даведвацца пра цябе, збіраць інфармацыю. У хлопца відавочна сур'ёзныя намеры.

— Ты адкуль ведаеш? — прыслухалася Святлана.

— Ды братачка мой у іхнім Доме культуры за пультам сядзіць,— тлумачыла Наташка.— Дык вось ён з Мішкам таварышуе. Ён мне і распавядаў, што новы рэжысёр табой цікавіцца. А тут і выпадак прыпаў пазнаёміцца.

— Я так і ведала,— усклікнула Святлана,— што гэта тваіх рук справа!

— А што я такога зрабіла? Падарыла надзею на кавалачак шчасця?..

— Хто цябе прасіў?

— Ды добра, Свет, прыгожы хлопчык, па вушы ў цябе закаханы…

— Да-су-стрэ-чы! — па складах раптам прамовіла Святлана і паклала трубку.

Не, яна не злавала на Наташку. Яна нават была ўдзячная ёй. Але лішні раз паставіць сяброўку на месца не зашкодзіла б.

Святлана ўзрадавалася, пачуўшы новую інфармацыю, але што з гэтым зараз рабіць, не ведала. Міхал, безумоўна, падабаўся ёй. Дзіва што, малады, прыгожы, напэўна, разумны, а галоўнае, чужы, не стаўбцоўскі, не сапсаваны гэтым гарадком, не засмокчаны, як у балота, у гэтае мястэчка. У яго былі перспектывы і будучыня, у адрозненне ад Святланы. Што яна магла даць яму? Колькі яшчэ пратрымаецца яе прыгажосць? Максімум гадоў дзесяць, у лепшым выпадку, а то і

менш. Акрамя прыгажосці, чым яшчэ ўтрымаць мужчыну? Сексам, адмысловымі стравамі, уласным розумам? Ні ў адным, ні ў іншым, ні ў трэцім Святлана не вылучалася, як ёй здавалася. Першы сексуальны вопыт яна прыдбала, калі была студэнткай, але потым у яе жыцці ад разу да разу сексу станавілася ўсё менш і менш, пакуль ён зусім не знік. Гатаваць жанчына ўмела, але не любіла нават для дарагога чалавека. Ад прачытаных жа кніг розуму не дадалося, ды і не дапамагаюць кніжныя праўды ў жыцці. Хоць многія мужчыны ў мястэчку лічылі Святлану разумнай жанчынай, таму не асабліва настойвалі ў заляцаннях да яе, ды і яна нічога не рабіла для таго, каб адносіны, хоць якія-небудзь, пачаліся. Яна не выказвала да іх ні павагі, ні цікавасці, лічыла, магчыма, памылкова, што ўсе яны падобныя на яе былога мужа. Міхал — другое. Ён паўстаў, нібы з іншага свету. Нібы падгадаў сваё з'яўленне, якраз своечасова, у той момант, калі Святлана саспела для новых адносін, па яе ўяўленні. Ён увасабляў тое, што яна калісьці любіла і чым захаплялася.

Малюючы ў фантазіях свае ўзаемаадносіны з Міхалам, Святлана забывалася і паглыблялася вельмі далёка, як у непраходныя джунглі. Спыняючы сябе, яна пераконвалася, што джунглі непраходныя, але гэтая акалічнасць толькі ўзбуджала, і яна зноў кідалася, як утрапёная, у летуценні, не думаючы пра тое, што ў Міхала могуць быць зусім іншыя планы. Але ж ён абяцаў патэлефанаваць, значыць, патэлефануе. Наташка пераканала Святлану, што яна не абыякавая хлопчыку, значыць, трэба рыхтавацца, каб не даць ніводнай нагоды ўсумніцца яму ў правільнасці свайго выбару. Трэба паслаць куды падалей свой жыццёвы досвед і слухаць Міхала. Мужчынам гэта падабаецца. Атуліць яго клопатам і ласкай, хоць бы на першую пару. Не выключана, што ён толькі-толькі адарваўся ад мамкі

і жыць адзін не прывык. Прыйдзецца здзіўляць гатаваннем. Чым ён сілкуецца хоць? Напэўна, крамнымі пельменямі ды сталоўскімі катлетамі. Хатняя кухня павінна яму спадабацца. Для гэтага, натуральна, трэба пастарацца.

А чаму ён дагэтуль не патэлефанаваў?..

Працвераджэнне на нейкі час адцягнула Святлану ад летуценняў. Не ў яе ўзросце будаваць паветраныя замкі і замкі з пяску. Ненадзейныя будынкі. Адныя лёгка ветрам садзьмуць, іншыя — дажджом размыць ці штурхялём разбурыць. Усё вырашыць званок Міхала. Калі ён патэлефануе. У апошнім Святлана ўжо сумнявалася. Цэлы дзень думала пра яго. Ён павінен быў адчуць, але званка ўсё не было. Святлана забылася і паесці, і папіць за цэлы дзень, не ўлічваючы раніцы, яна і заснула, стаміўшыся ад чакання невядома чаго і ад уласных думак, у абдымку з тэлефонам. А калі ён зазваніў, спачатку, спрасонку, не паверыла, што гэта тэлефон. Гадзіннік паказваў роўна поўнач.

— Алё,— сонна выціснула з сябе Святлана ў трубку. У адказ жа пачула вершы:

Ночь и ветер — за туманом —
Словно люди, треплют чувства,
И щекочет нерв обманно
Лживое киноискусство.
Я тебе открою тайну,
Если ты захочешь слушать…
Мы с тобою не случайно,
Не случайно, все нарушив
Предрассудки и законы
На волне нежданной встречи,
Написали, как икону,
Этот наш волшебный вечер.
Ничего не говори мне
О проблемах и о планах.

Этой самой говорильней
Подметать полы устал я.
Я тебе открою душу,
Словно губы поцелуем,
Только ты меня послушай,
И с тобой мы завоюем
Королевство сложных таинств,
Недопетое поэтом.
Это ведь такая малость —
Говорить с тобой об этом…

Святлана спачатку не магла зразумець, што яна чуе і хто нашэптвае з прыемнай хрыпатасцю ёй на вуха такія прыгожыя словы. Яна наогул думала, што ўсё гэта толькі сніцца.

Але, чым далей услухоўвалася, тым больш Святлана пазнавала яго тэмбр і характар. Задаволена ўсміхнуўшыся, зразумела, што гаспадар голасу Міхал і што, як абяцаў, ён патэлефанаваў, а яна дачакалася, ды яшчэ была ўзнагароджана прызнаннем сваёй значнасці ў паэтычнай форме.

— Вельмі хораша! — эфектна прамовіла яна ў трубку, калі Міхал прачытаў увесь верш.— Сам напісаў?

— Сам,— пачула ў адказ.

— І што будзем з гэтым рабіць? — таямніча прашаптала, з прыдыханнем.

— Вершы твае,— прамовіў Міхал,— што хочаш, тое і рабі.

— Ты напішаш мне іх на асобным аркушыку,— папрасіла Святлана.— Але я не пра тое. Што будзем рабіць наогул?

— Трэба сустрэцца дзе-небудзь, сам-насам,— прапанаваў Міхал. Голас яго дрыжаў. Чулася, што ён хваляваўся. Святлана ж была спакойная як ніколі. Яна ўвесь дзень прысвяціла дабрабыту будучых адносін з Міхалам і разлічыла ўсе хады наперад, таму паводзіла

сябе з ім упэўнена і бескампрамісна, чапляючы, як рыбку, на гаплік, каб не сарвалася. Яна выдатна ўсвядоміла той факт, што прыгажосць завяне, як любая самая шыкоўная ружа, і, аднойчы знікнуўшы, не вернецца, як якая кошка, нюхам выявіўшы дарогу. Губляць момант не было сэнсу. Калі яшчэ на яе зверне ўвагу які-небудзь хлопчык?

— Табе гэта трэба? — усё-ткі спрабавала быць сумленнай, як з сабой, так і з Міхалам.— Колькі табе гадоў? Вакол так шмат дзяўчат, навошта я?

— Я ўжо казаў. Ты вельмі прыгожая жанчына,— сказаў Міхал.— І вельмі падобная на Шэран Стоўн. А гэтая акторка — ідэал для мяне. Убачыўшы цябе, я вельмі здзівіўся. Падумаў, што Шэран Стоўн прыехала да кагось у госці з Галівуда…

— Але я ж старая! — запярэчыла з выклікам Святлана, загадзя ведаючы, што Міхал успрацівіцца і ў той жа час рызыкуючы, што пагодзіцца з ёй.— Прынамсі, для цябе,— удакладніла.

— Гэта пытанне рытарычнае,— сказаў Міхал і прачытаў яшчэ адзін верш:

Эта ночь — не такая красавица,
Как хотелось бы мне ее выдумать…
Я боюсь тебе разонравиться
И твоих эротических выдумок.

Я не сплю. Или сплю. Непонятная
В комбинации шелковой мечется
Грусть моя. Прошепчу ей невнятно я,
Что не так отношения лечатся.

Не спеши говорить «до свидания»,
Ведь еще мы с тобою не встретились.
Эта ночь — ведь еще не свидание.
Мы друг друга почти не заметили.

Не успели раздеть поцелуями
Наши души, чтоб видеть мерцание
Обнаженного нерва под пулями
Света тьмы отдаленно-случайного.

Эта ночь — не судьба и не родина.
Ты мне снишься до завтра до самого.
Хоть знакомы с тобою мы вроде бы,
Но давай познакомимся заново.

Такімі кранальнымі, такімі шчырымі здаліся Святлане гэтыя вершы, так яе ўсцешыла, што яны напісаны дзеля яе, для яе і з-за яе, што яна тут жа здалася, як той казаў, амаль без бою, што, зрэшты, і планавалася. Не дазволіла Міхалу бразнуцца ў бруд тварам і сябе нічым не зняважыла, захаваўшы гонар і годнасць. Яна абяцала яму сустрэцца заўтра ў парку пасля працы, асцярожна паклала трубку на апарат, пагладзіла яе і, шчаслівая, расцягнулася на канапе.

На працу Святлана прыпазнілася. Упершыню. Аднак яе адсутнасці ніхто не выявіў або зрабілі выгляд, што спазненне не заўважылі. Да таго ж, хвалявацца нагоды не было. Клас, у якім Святлана павінна была весці ўрок рускай літаратуры, сядзеў ціха і спакойна, чакаючы свайго класнага кіраўніка. Вучні любілі Святлану і ніколі не падводзілі яе. Тым больш, што не нашмат яна і спазнілася, на нейкіх паўгадзіны ўсяго толькі. Будзільнік забылася навесці ў сувязі з чаканнем Міхалавага званка. Балазе, уставаць прывыкла рана. Арганізм не падвёў. Была б мужчынам, хуценька апранулася і прыйшла б на працу нават загадзя, але, паколькі Святлана з'яўлялася жанчынай, прычым прыгожай жанчынай, давялося адпавядаць і наводзіць гэтую самую прыгажосць. Надалей будзе абачлівей і ўважлівей. Праўду кажуць, ад кахання

губляюць галаву. Ёй і сніўся якраз Міхал, прычым аголены, і сябе побач з ім бачыла, таксама аголеную, у пасцелі. Не дзіўна, што заспалася. І да ўрока не падрыхтавалася. Нават не памятала, што на дом задавала. Палец аб палец не ўдарыла за ўвесь учарашні дзень, бязмэтна час зводзячы ў абдымку з тэлефонам, седзячы ля тэлевізара.

Аднак, калі ўвайшла ў клас, Святлана выкруцілася. З ходу пачала чытаць дзецям Ясеніна. Настрой яе быў прыўзняты, і яна нікольві не перажывала за спазненне. Безумоўна, знаёміць з творчасцю Сяргея Аляксандравіча вучняў было зарана, яно планавалася ў канцы другой чвэрці, але менавіта паэзія Ясеніна, асабліва інтымная лірыка, выплёсквалася з вуснаў Святланы хвалямі, баючыся затануць унутры яе «Тытанікам», абраўшы менавіта гэты дзень.

Нічога. Дзецям спадабалася. Але спадабалася толькі таму, што чытала вершы Святлана, а не які-небудзь іншы настаўнік. Яны б іншага і слухаць не сталі. Тым больш, вершы. Новае пакаленне. Паэзія іх не цікавіла. Яны ўсё больш у цацкі страляліся за камп'ютарамі, нават дзяўчынкі. Можна сказаць, дзякуючы ёй, гэтыя цяжкія, з дазволу сказаць, падлеткі хоць сёе-тое ведалі з гісторыі літаратуры і хоць штосьці чыталі, а дзве дзяўчынкі з класа запісаліся ў тэатральную студыю пры Доме культуры, якую стварыў Міхал. Святлана нават не ведала, што ён спецыяльна прыходзіў у школу, хадзіў па класах, запрашаў вучняў паўдзельнічаць у пастаноўцы спектакля. Натуральна, мала хто адклікаўся на яго заклік, але дзве дзяўчынкі з яе класа зацікавіліся, можа быць, і не без дапамогі Святланы. Менавіта яна практыкавала на ўроках чытанне па ролях, каля дошкі, і з ужываннем акцёрскіх здольнасцей у меру сіл. Выходзіла, што яе з Міхалам звязвала значна больш, чым яна думала.

Увесь урок Святлана прысвяціла паэзіі. Чытала не толькі сама, але і папрасіла пачытаць каго-небудзь з дзяцей упадабаныя вершы. Ахвотнікаў знайшлося няшмат, але яны былі. Чыталі Высоцкага, Цоя, Сорына. І гэта таксама паэзія. Цяжка сказаць, чые вершы лепшыя. Магчыма, нават няправільна так казаць. У кожнага пакалення свае куміры і свае паэты. Добра, што хоць гэтых памятаюць.

Пасля званка Святлану чакала «фортка». У вольны час яна намервалася да драбніц, калі атрымаецца, прадумаць сваю хуткую сустрэчу з Міхалам, прадбачыць, чым яна можа скончыцца, і як павярнуць яе сабе на карысць. У прынцыпе, фінал яе і так будзе за Святланай, але яна хацела каб напэўна.

«Фортка» надарылася і ў Наташкі. І ёй карцела ведаць усе падрабязнасці развіцця адносін паміж Святланай і Міхалам. Яна была маладзейшая за Святлану, але не прыгажэйшая. Вядома, і Наташка адрознівалася мілавіднасцю, але нічым асаблівым не вылучалася, затое круціла раманы направа і налева, без іх ёй было сумна жыць. Яна і з Міхалам замуціць не супраць была б, але аказалася не ў яго гусце, ён «рохнуўся» на Святлане.

— Што ў цябе за слоўцы? — заўважыла Святлана.— Ты ж настаўнік…

— Ну-ну,— махнула рукой Наташка,— скажаш таксама… Лепш давай каліся, што ў цябе з Мішкам?.. Патэлефанаваў?

— Патэлефанаваў,— усміхнулася Святлана, і вочы яе заззялі.— Вершы чытаў.

— Крута! — пляснула рукамі Наташка.— Свае?

— А чые ж яшчэ? Ты чаго? — абурылася Святлана недаверу сяброўкі.

— Прыгожыя? — паспяшалася выправіцца Наташка.

— Вершы брыдкімі не бываюць,— летуценна адказала Святлана.— Асабліва, якія прысвечаны табе,— дадала.

— Шанцуе ж некаторым,— уздыхнула Наташка.— Мне б хоць радочак хто-небудзь прысвяціў. Я б яго на руках насіла.

— Прысвецяць яшчэ,— запэўніла сяброўку Святлана.

— А ты сама як? — падміргнула Наташка.— Не ўцюрылася часам?

— Не ведаю пакуль,— унікліва адказала Святлана.— Але сёння ён мне сніўся,— прызналася.

— І чаго хацеў?

— Не хацеў, а зрабіў,— пачырванела Святлана.— Я нават на працу спазнілася.

— О, сяброўка,— нязлосна засмяялася Наташка,— як паперла цябе! Зусім згаладала?

— Згаладаеш тут,— засмяялася ў адказ і Святлана.

Яны яшчэ шмат пра што балбаталі, пакуль не разышліся па класах. Але не да ўрокаў было Святлане. Яна ўжо ішла па парку ў абдымку з Міхалам, які чытаў ёй вершы, уважліва слухала і атрымлівала асалоду ад кожнага яго слова, як ад пацалункаў. Цалаваўся, праўда, ён няўмела, але затое так далікатна і кранальна, асцярожна і ласкава. Ніколі Святлана не адчувала такой асалоды ад простых пацалункаў.

Урокі праляцелі непрыкметна, ніводнага Святлана не запомніла, нібы і не вяла іх, на аўтапілоце дапрацавала і, як зачараваная, выйшла са школы, нікога і нічога не заўважаючы вакол. Уся яе душа, усё яе цела рваліся ў парк, да таго, хто яе чакаў, каму яна была сапраўды патрэбна. Гэта такое шчасце — аддаваць сябе…

— Кудысьці спяшаешся? — схапіў яе за руку, як каня за аброць, павярнуўшы на дзевяноста градусаў

і ледзь не вывіхнуўшы плячо пры гэтым, былы муж. Ён стаяў за рогам школы і цікаваў, калі Святлана выйдзе.

— Пусці! — закрычала Святлана. І гэтулькі нянавісці ў поглядзе ўбачыў яе былы муж, што машынальна адпусціў яе руку. Аднаго ўзросту з ёй, ён усё яшчэ захаваў маладжавасць і спартыўную паставу, але яна даўно перастала бачыць у ім мужчыну. Толькі падонка і гнюса.

— Нічога мне сказаць не хочаш? — прамовіў ён.

— Пра што ты? — не зразумела Святлана.

— З малалеткам зблыталася? — сціскаючы кулакі, цадзіў ён.

— А табе якая справа? — ганарлівым поглядам акінула былога мужа Святлана.

— Пра дзяцей падумала? — ледзь стрымліваў сябе той.

— Пра якіх дзяцей, Віця? Ты трызніш? Мой сын даўно вырас і жыве ўласнай сям'ёй.

— А Ірка з Жэнькай, Косцік…

— Гэта твае дзеці, Віця! — нагадала Святлана.— І я да іх не маю ніякага дачынення!

— Так, не маеш,— вымушана пагадзіўся Віктар.— Але яны любяць цябе! Я люблю цябе! Як я ім у вочы глядзець буду, а ты як…

— Як-небудзь перажыву,— сказала Святлана.

— Табе колькі гадоў, дура! — замахнуўся было Віктар, але зрабіў выгляд, што проста расправіў плечы для папраўкі прычоскі.— Не ганьбі сябе і мяне!..— сыкнуў.

— Ты ўжо даўно зганьбаваны,— запярэчыла Святлана.— А мая ганьба застанецца са мной.

— Ён жа хлапчук! — шыпеў Віктар.— У сыны табе падыходзіць! Што ты з ім рабіць будзеш? З сіські карміць, ці што?

— Адвалі, Віця! — сказала Святлана так, як бы сказала Наташка.— Маё асабістае жыццё цябе не тычыцца! І з кім мне спаць — вырашаць толькі мне, зразумей!

— Ціха! — спалохана сыкнуў Віктар.— Не гарлапань! Тутака ж дзеці вакол!

— За сябе турбуешся? — з’едліва сказала Святлана.

— Ты ж разумны чалавек,— прапусціў яе словы міма вушэй Віктар.— Ты зразумей, вам дваім нічога не свеціць, у вас няма будучыні. Як толькі падвернецца выпадак, ён сыдзе да маладзенькай. Вяртайся да нас. Дзеці па табе так знудзіліся…

— Ідзі лепш дахаты, Віця,— сказала Святлана.— Нам няма пра што размаўляць.

— А ты куды, да яго намылілася? — яшчэ мацней сціснуў кулакі Віктар.

— Гэта ўжо не твая справа! — прагучаў адказ.— Бывай!

— Да спаткання,— працадзіў Віктар.— Далёка не сыдзеце! — прашаптаў у спіну жанчыне.

Святлана выйшла са школьнага двара, апынулася на Рынкавым пляцы, што мясціўся паміж Домам культуры злева, гастраномам справа, Галоўнай плошчай і будынкам райвыканкама наперадзе. Мястэчка маленькае, кампактнае, усё неабходнае знаходзілася на адным пятачку. Каб патрапіць дамоў, ёй трэба было павярнуць направа, мінуць гастраном, перайсці дарогу, за якой ляпіліся адзін на адным будынкі рэстарана, бібліятэкі, банка, кнігарні і прыватнай крамы, прайсці ўздоўж іх уніз і яшчэ раз павярнуць налева да адзінага ў гэтым раёне пяціпавярховіка, у якім яна і жыла. Але Святлана павярнула налева, да Дома культуры, вырашыўшы, калі Міхал яшчэ не сышоў з працы, забраць яго з сабой. Навошта марнаваць час дарма і чакаць прызначанай гадзіны? Можна і цяпер

прагуляцца. Ды і ўдваіх не так страшна. Хто ведае, што задумаў Віця? Ён моцна змяніўся, і не ў лепшы бок.

Міхал курыў на ганку, калі Святлана падышла да яго, і аслупянеў ад нечаканасці.

— Вы? Прабач, ты? — усё-ткі ў вачах чыталася радасць.

— Я не ўцярпела.— Святлана падышла да яго бліжэй і чмокнула ў шчочку.— Ты вельмі заняты? — спытала.

— Ды не,— адказаў Міхал.

— Складзеш кампанію? — падміргнула.— Я хачу паказаць табе сваё любімае месца ў парку.

— Зараз адпрашуся,— сказаў Міхал, кінуўся ў будынак, падняўся на другі паверх і праз некалькі хвілін куляй вылецеў на вуліцу.

Яны не ўзяліся за рукі, і Святлана не прасунула сваю руку пад руку Міхала. Яны ішлі побач і проста цешыліся, што ідуць разам, усё адно куды. Так думаў Міхал, як лічыла Святлана. Але яна выдатна ведала, куды ёй трэба, і ўмела кіравала, нібы лоцман караблём, спрытна абыходзячы ўсе мелі і падводныя скалы, загадзя прадуманым маршрутам. Яны перасеклі Галоўную плошчу, абмінулі будынак райвыканкама і павярнулі налева да моста, які спускаўся ўніз, да лесапарка. Прайшлі ўздоўж рэстарана, бібліятэкі і апынуліся на мосце. Да парка заставалася зусім нічога. А выхад з яго на супрацьлеглым баку якраз знаходзіўся недалёка ад дома, у якім Святлана жыла. Яны пастаялі на мосце трохі, палюбаваліся сваім адлюстраваннем у рацэ, расплывістым і бясформавым. Святлана прытулілася да Міхала, папрасіла пацалаваць, што ён і зрабіў з вялікім задавальненнем. Яму-то было пляваць на грамадскую думку. Ён мала каго ведаў, але яго ведалі ўсе. Нездарма ж віталіся раніцай, калі ішоў на працу,

практычна праз усё мястэчка, і калі вяртаўся. Дарога ад дома да Дома культуры займала дваццаць хвілін хады. Яму падабалася быць у цэнтры ўвагі, тым больш побач з шыкоўнай жанчынай. Гэта вылічыла Святлана, якой было не ўсё адно, што пра яе падумаюць іншыя, бо яна была свая. Але наўмысна выстаўляла напаказ сваё захапленне Міхалам, упэўненая ў тым, што вельмі многія з жанчын зайздросцяць ёй, а плёткі не палохалі. Іх баяцца толькі дурні. Ды і чым плёткі маглі нашкодзіць? Яна нікому не здрадзіла і нікога не пакрыўдзіла. А права на ўласны кавалачак шчасця мела, як кожны чалавек на зямлі. Не яе віна, што правам гэтым не кожны ўмее скарыстацца.

Яны ўзяліся за рукі, калі досыць паглыбіліся ў парк, Святлана сама ўклала сваю далонь у далонь Міхала, нібы давяраючыся яму цалкам.

— Ты сапраўды шкадаваць не будзеш потым, што звязаўся з бабулькай? — спынілася Святлана і зазірнула ў вочы маладога чалавека, правакуючы яго на камплімент.

— Не буду,— сцісла адказаў Міхал.— Ды і не бабулька ты зусім, колькі можна паўтараць?..

— Дакажы,— працягвала правакаваць Святлана.

— Як?

— Напрыклад,— зрабіла яна выгляд, што задумалася,— прачытай вершы. Ці не напісаў нічога новага?

— Напісаў.

— Ну, тады чытай…

Яны стаялі пасярэдзіне сцяжынкі пад нахіленымі галінамі, нібы пад шатром, узяўшыся за рукі, і з вачэй не адпускалі адно аднаго. Міхал усхваляваным хрыплаватым барытонам пачаў свой рыфмаваны аповед:

Мне нравится смотреть в твои глаза.
Мне нравится искать тебя губами.

И если разразится вдруг гроза —
Щитом надежным мое тело станет.

Мне нравится твою ладонь в своей
Держать, как самый дорогой подарок.
И, если вдруг — зима, тебя согреть
Мое дыханье сможет без обмана.

Мне нравится шептать тебе слова.
Мне нравится, когда меня ты слышишь.
И, если вдруг нечаянно — война,
Я не умру, пока ты рядом дышишь.

Мне нравится, что ты на свете есть.
Мне нравится, что я на свете — тоже.
Пусть ветер разнесет по свету весть:
Мне нравится, что ты всего дороже.

Яна раставала, гарэла і згарала ад кожнага яго слова. Усмоктвала гэтыя словы, як паветра, нібы наталяючы голад, умомант запамінала і глынала іх, як самы смачны ласунак. Яна жадала, каб ён не супыняўся, каб вершы, менавіта гэтыя, гучалі вечна, з яго інтанацыямі і выразнасцю. Ды верш скончыўся, як і ўсё ў жыцці, але Святлана была працята радкамі наскрозь, як шпагай, і збіта, нібы вірусам. Больш яна не сумнявалася. Вочы яе прыжмурыліся і завуркаталі. Яна абвіла сабой Міхала. Раптам адчула, як Міхал абмякае і завальваецца на яе.

Яна валіцца, ён валіцца на яе, але хутка скочваецца, групуецца і ўскоквае на ногі, як Ван Дам у кіно. Святлана нічога не разумее і ляжыць на траве, не падымаючыся, нібы ў ступары.

Яе былы муж Віктар прасачыў усе перасоўванні «галубкоў» і наладзіў засаду, здагадаўшыся, куды Святлана прывядзе палюбоўніка. З кімсьці ўдваіх яны напалі на Міхала ззаду, стукнуўшы яго палкай па спіне,

вось чаму ён і зваліўся, цягнучы за сабой і Святлану, падмінаючы яе пад сябе.

Удар аказаўся не настолькі моцным, на колькі разлічвалі нападаўшыя. Міхал хутка ачомаўся, шпурнуў пінжак у таго, у каго была палка, і разарваў на сабе кашулю.

Кашчавы, але жылісты, з рэльефным прэсам, Міхал бясстрашна кінуўся на крыўднікаў, якія, відавочна, не чакалі супраціву, разгубіліся і прапусцілі шэраг магутных удараў, праведзеных маладым чалавекам у нападзе.

Адзін так і не змог падняцца без дапамогі.

— Ты дзе так біцца навучыўся? — адскочыў на бяспечнае месца далей ад доўгіх рук Міхала былы муж Святланы.

— Цябе там не было,— пачуў у адказ.

— У спецназе служыў? — дапытваўся Віктар. Ён хоць і адрозніваўся спартовай постаццю, але біўся павулічнаму, наўздагад, і ў душы пашкадаваў ужо, што напаў на чалавека, нічога пра яго не высветліўшы, памылкова палічыўшы яго за звычайнага хлапчука, а ў таго відавочна баявое мінулае, мяркуючы па позірку і тэхнічнасці. Як ён іх хутка раскідаў!? А шмаццё скінуў, як для манёўра, так і для Светкі, маўляў, палюбуйся, які прыгажун… Дакладна, былы ваяка!..

— У штабе, пісарчуком,— стоячы ў зручнай для яго стойцы, гатовы для любога адпору, прамовіў Міхал.

— Ну так, ну так,— кіўнуў Віктар і пайшоў у контратаку, але слоўную: — Навошта табе Светка? Старая, хворая жанчына? На вычварэнца ты не падобны, здаецца.

— За «базарам» сачы! — раўнуў Міхал.

— І ўсё-ткі…

— Не твая справа.

— Загубіш жа яе…

— Адвалі, і я пра ўсё забудуся.

— Шкада мне цябе, Светка,— кінуў Віктар позірк на Святлану, у якім і сапраўды чытаўся жаль, дапамог падняцца свайму гора-напарніку і пакульгаў у бок горада.

Міхал падняў пінжак, апрануў яго на голае цела, працягнуў руку Святлане, якая сядзела на траве.

Яна не зводзіла з яго захопленых вачэй. Такі адважны, такі бясстрашны, такі прыгожы хлопчык і ўвесь яе! Святлана зайздросціла самой сабе. Як ён расправіўся з Віктарам і яго падручным!.. Гэта ж цудоўна! Яе малады чалавек — сапраўдны герой! А якое ў яго цела!.. Так захацелася прытуліцца да яго, схавацца пад яго надзейную абарону і трапятаць у такт яго сэрца спалоханай птушкай…

Ухапіўшыся за працягнутую руку Міхала, Святлана ўстала на ногі, абтрэслася.

— Хочаш, я скажу табе, што я — твая? — спытала хітра.

— Хачу,— адказаў Міхал.

— Я — твая! — Святлана ўзнялася на дыбачкі і павольна прашаптала яму на вуха.— Пойдзем да мяне? — хутчэй прапанавала, чым запытала.

Міхал кіўнуў.

За некалькі хвілін яны адолелі шлях да дома Святланы. Ля самых дзвярэй у кватэру на трэцім паверсе Міхал сціснуў Святлану ў абдымках. Яна прыемна засмяялася, але папрасіла адпусціць яе, нікуды яна ўжо не дзенецца, трэба трохі цярпення, і ўсё будзе.

Неахвотна, але Міхал паслухаўся.

Жанчына прапусціла мужчыну першым у кватэру, адчыніўшы дзверы. Ён разуўся ў пярэднім пакоі і прайшоў у залу, з двух бакоў абкружаную, нібы канвоем, кніжнымі стэлажамі. Канапа стаяла поруч з уваходным праёмам з аднаго боку, два скураныя крэслы — з другога; пасярэдзіне — круглы стол з чатырма

крэсламі вакол; у самага гаўбца, завешанага цюлем,— тэлевізар на жалезнай падстаўцы, што нагадвала курыную нагу; на падлозе — варсісты дыван.

Міхал не стаў з выглядам разумнага чалавека разглядаць кнігі і рабіць выгляд, што яму цікава, а зняў пінжак, кінуў яго на адно з крэслаў, сам жа размясціўся на канапе, закінуўшы нагу за нагу.

— Вып'еш? — з'явілася ў дзвярах Святлана з графінам гарэлкі.

— Вып'ем,— паправіў яе Міхал.

— Тады не тут,— вырашыла Святлана і паклікала маладога чалавека за сабой у спальню, размешчаную ўбаку, змесцаваную як бы асабняком.

Палутарны ложак, накрыты пледам з малюнкам тыгра, які рыхтуецца да скачка, стаяў ля сценкі, завешанай фоташпалерамі з лясной прыродай. Трумо і шафа знаходзіліся насупраць. Кніжны стэлаж і тут знайшоў сабе месца: аркай абдымаў дзвярны праём. Тумбачка каля ложка, часопісны столік з глянцавымі часопісамі, тэлевізар ля акна, варсісты дыван на падлозе — дапаўнялі агульную карціну пакоя. Цяжкія шторы завешвалі акно.

— Пасядзі пакуль,— злёгеньку штурханула Святлана Міхала ў грудзі, але ён страціў раўнавагу і смешна кінуўся на ложак, задраўшы ногі, чым рассмяшыў жанчыну, якая паставіла графін з гарэлкай на часопісны столік і сышла на кухню за чаркамі і закускай. Вярнулася яна праз некалькі хвілін з нарэзанай каўбасой, памідорамі, агуркамі і хлебам. Чаркі, зусім забылася, былі ў сынавым пакоі. Яна збегала за імі і нарэшце прысела на краёчак ложка побач з Міхалам, працягнуўшы чаркі яму.

Міхал разліў гарэлку.

— За нас? — пытаючыся, зірнула Святлана на яго, падняўшы сваю.

— За цябе,— запярэчыў Міхал.

Выпілі, закусілі. Потым Святлана адсунула столік ад ложка, распранулася і бессаромна лягла. Міхал увесь час, пакуль Святлана распраналася, глядзеў на яе, не адводзячы вачэй. Затым хутка распрануўся сам.

Ёй падабалася, як ён яе трымаў. Як далікатна лашчыў і цалаваў. Як шаптаў на вуха яе імя і пакусваў мочку вуха. Яна ледзь вытрымлівала гэты позірк, жмурылася ад задавальнення, заплюшчвала вочы, а калі расплюшчвала — зноў і зноў сустракалася з яго позіркам, цёплым, уважлівым, ашаламляльным.

Ён узнімаў яе на недасягальныя, недаступныя ёй раней вышыні, вышэй любых гор і аблокаў вышэй, і з кожным разам усё вышэй і вышэй...

У знямозе яны заснулі адначасова: Міхал — на спіне, раскінуўшы рукі, Святлана — побач, уткнуўшыся носікам яму ў плячо.

Будзільнік празвінеў, як грымота. Святлана прадбачліва завяла яго: на працу раніцай абодвум. Яна падскочыла, як уджаленая, усведамляючы, што трэба ўставаць, але не разумеючы, дзе яна. Выгляд ціхамірна спячага маладога мужчыны ў яе пасцелі паступова прывёў думкі да ладу. Святлана зірнула на будзільнік. Часу хапала і на душ, і на павольны сняданак да працы. Задаволеная жанчына з усмешкай чмокнула Міхала, пералезла праз яго і пашлёпала ў ванную. Як не хацелася змываць з сябе яго! Нібы рэзаць па жывым! Але Святлана жыла ў цывілізаваным грамадстве, якому не дадзена зразумець, чаго хоча жанчына, таму прыйшлося змываць з сябе Міхала, яго рукі, яго пацалункі, нібы бруд нейкі. Не, не бруд! Святлана спалохалася такому параўнанню і надавала сабе па вуснах далонькай. Лепш думаць, што яна пераапранаецца з адной сукенкі ў іншую, а яшчэ лепш — з адной ніжняй бялізны ў другую.

Яна ўсміхнулася, прыдумаўшы апраўданне, і ўжо адважней аддалася на волю ўзбадзёрваючай жыватворнай вільгаці.

Пасвяжэлая, Святлана выйшла да Міхала ў махровым халаце. Пакуль адсутнічала, малады чалавек прыгатаваў каву і нарэзаў бутэрброды, ён пацалаваў яе і пасадзіў за стол. Святлана з задавальненнем паснедала, падзякавала і пайшла апранацца і фарбавацца, адправіўшы Міхала ў душ.

Разам яны выйшлі з дома, на працу было па дарозе, трымаліся за рукі, нікога не саромеючыся, вітаючыся з тымі, хто вітаўся з імі, лавілі на сабе цікаўныя погляды, але ў адказ толькі ўсміхаліся. Расталіся Святлана і Міхал да вечара на павароце да рынка. Міхалу заставалася прайсці некалькі дзясяткаў метраў наперад, каб апынуцца ў Доме культуры. Святлана павінна была абмінуць рынак і павярнуць налева, каб, спусціўшыся на дзве прыступкі ўніз, апынуцца ў двары школы.

— Усё адно табе прыйдзецца апранаць шоўк,— нагадаў раптам Міхал Святлане. Ён ледзь адышоў на некалькі метраў і вярнуўся, каб паведаміць ёй гэта.

— А цела маё хіба не шаўковае? — запярэчыла Святлана.

— Адгаворкі не прымаюцца,— рашуча заявіў Міхал.

— З чаго раптам такая цяга да нейкай анучы? — не разумела Святлана.

— Доўга распавядаць,— адмахнуўся Міхал.

— А я нікуды не спяшаюся,— нечакана выдала Святлана.

— Сапраўды? — усміхнуўся Міхал.

З-за спіны Святланы, адкуль толькі і ўзялася, з’явілася Наташка Цыбульская.

— Прывітанне! Я штосьці прапусціла? — з ходу выпаліла яна.

— Прывітанне,— за дваіх павітаўся Міхал.— Добра, да вечара.

Ён дастаў цыгарэту, павярнуўся спінай, закурыў і пакрочыў у бок Дома культуры.

— Стой! — прашаптала Святлана.— Куды пайшоў? А пацалаваць?..

Але гэты ледзь чутны ўсклік чула толькі Наташка.

— Чо, было? — па-змоўніцку спытала яна сяброўку.

— А хіба незаўважна? — развяла рукамі Святлана і накіравалася ў школу ў суправаджэнні Наташкі, якой не цярпелася ўведаць падрабязнасці, але Святлана маўчала, як партызан на допыце.

Раскалолася яна, калі стала павальней (па аўторках яе пяць урокаў ішлі запар адзін за адным, потым «фортка», потым шосты ўрок). Гэтак жа, як Наташку распірала цікаўнасць, Святлане карцела падзяліцца з кім-небудзь сваёй радасцю. Яна ўключыла чайнік у настаўніцкім пакоі, вырашыўшы за кубкам чаю сёетое распавесці.

— Ды не тамі ўжо! — падбівала на шчырасць сяброўку Наташка, зручна размясціўшыся на канапе за сталом побач з ёй.— Нікога няма ж ужо…

— А каго мне саромецца? — з выклікам заявіла Святлана.

— Чо, так сур’ёзна? — не верыла Наташка.

— Сур’ёзней няма куды.— Закіпеў чайнік і Святлана разліла кіпень па кубках, закінуўшы ў іх папярэдне аднаразовыя пакецікі з чаем.

— Крута! — закруцілася на месцы Наташка.— І як «очучения»?

— Ведаеш, гэта як гарачы шакалад, халоднае марозіва і малочны кактэйль разам,— захоплена падзялілася Святлана.— А яшчэ,— дадала,— бязмежны

космас з мірыядамі планет, якія я адкрываю, разгортваючы, нібы цукерку, а яны ўсё не канчаюцца.

— Крута! — пагадзілася Наташка, верачы на слова.

— Толькі ёсць адна праблемка,— адсёрбнула Святлана чаю і ледзь не прыпякла язык, паморшчылася, як паморшчылася і Наташка, на ўласным досведзе ведаючы, як непрыемна гэта.— Ён хоча, каб я насіла шоўк.

— Ну дык і насі,— не зразумела Наташка.— У чым праблема?

— Праблема ў тым, што ў мяне няма нічога шаўковага. Ты ж ведаеш, што мне пабоку гэтая тканіна.

— Ну ты і дурніца, Светка. Любы мужык жадае, каб жанчына яго спакушала. А для гэтага неабходна эратычная бялізна. Камусьці падабаецца латэкс, скура, аксаміт ці сацін з карункамі, нейлон або бавоўна. Твайму падабаецца шоўк. І што тут такога? Не самы, скажу табе, горшы выбар. Апранеш шоўк, ён яшчэ больш захоча дарыць табе твой космас з нязнойдзенымі планетамі.

— Ты думаеш? — сумнявалася Святлана.

— Не будзь дурніцай,— запэўнівала Наташка.— Зрабі так, як ён просіць. І засунь сваё стаўленне да тканін куды падалей, калі не хочаш, каб ён сышоў да той, хто без роздумаў апранецца ў шоўк ці яшчэ ў што-небудзь, куды фантазія яго завядзе.

— З-за нейкай анучы ўсё можа разбурыцца? — не верыла Святлана.

— Ты ж сталая дзяўчынка, Светка,— угаворвала яе Наташка,— а паводзіш сябе, як маленькая. Менавіта такая дробязь ці штосьці падобнае і вырашае лёсы кахання і нянавісці. Твой Мішка ведае, чаго хоча ад цябе і што з табой рабіць, у адрозненне ад многіх і многіх мужыкоў. Падпарадкоўвайся яму і будзеш шчаслівая. А што нам, бабам, трэба для шчасця? Абы мілы быў побач. Ты зараз не адна, Светка. Прыняцце

рашэнняў з гэтага часу — не твая прэрагатыва. Проста будзь жанчынай.

— Твая філасофія паходзіць на філасофію рабыні,— заўважыла Святлана.

— Ведаеш, я б усё аддала, каб апынуцца на тваім месцы,— даверліва прамовіла Наташка.— З такім мужыком і рабыняй не страшна быць. Мне ўсё замухрышкі нейкія трапляюцца. Раблю выгляд, што мне падабаюцца. Іншых-та дзе ўзяць?..

— Слухай,— нібы штосьці ўспомніўшы, усклікнула Святлана,— ён жа майго былога з сябрам так адштукаваў, ты б бачыла!..

— Завошта гэта? — здзівілася Наташка.

— Ды Віктар напаў на нас у парку…

— ?..

— Ты б бачыла, як ён б’ецца!..— захоплена прашаптала Святлана.— Гладыятар!..

— Крута! А ты яшчэ сумняваешся, што рабіць,— падміргнула Наташка.— Дуй у краму за абноўкамі!

Пасля шостага ўрока Святлана накіравалася ва ўніверсам. Ён знаходзіўся далекавата ад цэнтра, таму што адкрыўся зусім нядаўна, а падыходзячага месца ў цэнтры мястэчка не было, таму будынак пабудавалі насупраць лякарні ў старым раёне, дзе не ўсюды яшчэ асфальт праклалі і дарога адрознівалася выбоінамі, а часу хады займала хвілін дваццаць.

Тавар прывозіўся са сталіцы, таму наплыў пакупнікоў не вычэрпваўся, хоць і нагадваў не мора, а ручаёк. Тым не менш, уладальнік не зачыніў краму, а наадварот, пашыраўся, значыць, справы ішлі нядрэнна.

Святлана знайшла жаночы аддзел, але спынілася ў нерашучасці, не ведаючы, як сябе паводзіць. Падобнай пакупкі, якую збіралася здзейсніць, ёй жыццё раней не прапаноўвала. Натуральна, яна купляла сабе бялізну, але тое было іншае.

Як страказа, якая лётае з месца на месца, да Святланы прыляцела дзяўчынка ў адмысловай фірмовай уніформе, спытала, ці не патрэбна ёй дапамога. Патрэбна, вядома. Аднак як сказаць, што ёй трэба?..

— Разумееце,— заломваючы рукі, прамовіла Святлана,— мне б…

— Бялізну? — здагадалася дзяўчынка.

— Так,— сцвярджальна кіўнула Святлана.

— Трусы? Бюстгальтары? Камплекты? Асобныя партыі? Сарочкі? Начнушкі? Маечкі? Шорцікі? Камбінацыі? — пералічвала дзяўчынка.

— Вось-вось,— счырванела Святлана,— апошняе.

— Вам для сябе ці спакусіць кагосьці? — удакладняла дзяўчынка, спрабуючы дагадзіць кліенту.

«У мяне на твары, ці што, напісана?» — падумала Святлана.

— Вось нядрэнны камплект,— пэўна, здагадалася дзяўчынка і беспамылкова разгарнула каталог на патрэбнай старонцы, дзе мадэль дэманстравала аднатонны чырвоны набор ніжняй бялізны, што складаўся з трусоў, камбінацыі, якая ледзьве прыкрывала каленкі, і такой жа даўжыні халата. Глядзелася гэта шыкоўна.— Падабаецца? — спытала дзяўчынка.

— Так,— стрымлівала эмоцыі Святлана.

— Выдатны выбар,— усміхнулася дзяўчынка, закрыла каталог і адклала яго ўбок, зняла з канвеернай вешалкі выбраны тавар, папярэдне агледзеўшы на вока постаць пакупніцы, загарнула і працягнула ёй,— ваш памер. Аплата ў касе.

Хваляванне прайшло, як толькі Святлана апынулася на вуліцы. Глынуўшы паветра, яна пакрочыла дадому, задаволеная сабой, што паслухала Наташку, і тым, што купіла. Зараз Міхалу не будзе на што наракаць і крыўдзіцца. Яму патрэбен шоўк — калі ласка. Толькі ўсё адно дзіўнае такое захапленне анучай. Хоць

Наташка і казала, што мужчынам гэтыя анучы значна патрэбней, чым жанчынам. Але дзіўна ўсё адно.

Дома яна прымерыла абноўку. Пакруцілася перад люстэркам. Так, нічога ўборчык. Падкрэсліваў усе вабныя формы. Але сама яна не ўзбудзілася б выглядам шоўка. Хораша, так. Ну, не разумела Святлана невытлумачальную ўладу шоўку над людзьмі. Ну, не дадзена ёй было звыш. Але яна ж не адмаўлялася апрануць яго, каб спадабацца Міхалу яшчэ больш!..

Зазваніў тэлефон.

— Купіла? — Гэта была Наташка.

— Купіла,— адказала Святлана.— Якраз любуюся цяпер сабой.

— Палюбавалася і здымай,— загадала Наташка.— Апранеш потым. Неспадзеўку яму зрабі. Ён жа не чакае, што ты так хутка яго просьбу выканаеш…

— Калі потым? — не зразумела Святлана.

— Не тупі, сяброўка,— раздражнялася Наташка.— Спачатку накармі чалавека, а потым ужо спаць укладвай. Тым больш, ён пасля рэпетыцыі.

— Адкуль ты ўсё ведаеш?

— Па аўторках і чацвяргах ён сваім тэатрам займаецца,— растлумачыла Наташка.— А наогул, чаму я табе гэта распавядаю? Ты сама павінна ведаць пра свайго мужыка ўсё. Усё, пакуль.

Святлана паклала слухаўку і адправілася гатаваць вячэру. Мужчына відавочна прыйдзе галодны.

Яна адварыла бульбы і зрабіла салату з агуркоў і памідораў у смятане, што Міхал спажыў з зайздросным апетытам. Еў ён хутка і засяроджана, не адцягваўся на староннія шумы і не глядзеў на яе. Міхал падняў вочы на Святлану толькі калі расправіўся з ежай. Яна сядзела насупраць, і ёй прыемна было назіраць за тым, як ён есць.

— Дабаўкі? — прапанавала Святлана.

— Не, дзякуй,— адмовіўся Міхал.— Вельмі смачна,— падзякаваў.

— Ты не маніш? — адгукнулася Святлана.— Гэта самая простая страва.

— Усё, што створана тваімі рукамі,— запярэчыў Міхал,— з простага становіцца значным.

Ён узяў яе рукі ў свае і па чарзе пацалаваў усе пальцы на іх, тонкія, доўгія, дагледжаныя.

— А ў мяне для цябе сюрпрыз,— імкнучыся не вылучаць фразу як штодзённую, прамовіла Святлана.

— Ды што ты? — зацікавіўся Міхал.— І які?

— Праходзь у спальню і чакай,— папрасіла яна.

Малады чалавек, заінтрыгаваны сказаным, хуценька перадыслакаваўся, расцягнуўся на ложку, закінуўшы рукі за галаву, у чаканні абяцанага. Праз некалькі хвілін увайшла Святлана ў новым убранні. Панадліва выгнуўшыся, яна заняла чакальную пазіцыю і глядзела на Міхала ўстрывожана: ці дагадзіла? Ён аж ускочыў ад нечаканай чаканасці, пажыраючы яе вачамі і разводзячы рукамі ў бакі, быццам пазбавіўся і голасу, і мовы разам, а потым запляскаў у ладкі, як акторцы, у падзяку за ўдалы спектакль.

— Табе падабаецца? — спытала Святлана з прыдыханнем, спакушаючы гэтым яшчэ больш.

Міхал замест адказу сарваў з сябе адзенне і накінуўся на яе, як леў на антылопу, паваліў на ложак, падмяўшы пад сябе, і заціх, атрымліваючы асалоду ад дакрананняў шоўка. Святлана падумала, ці не здарылася ўжо чаго, таму што нічога не адбывалася. Ён проста прыціскаўся да яе. Аднак хутка Міхал рыўком палажыў Святлану на жывот і авалодаў ёю...

Аддыхаўшыся, Міхал павярнуўся да Святланы, зазірнуў у вочы. Ні папроку, ні дакору, ні намёку на крыўду ў іх не ўбачыў. Вочы Святланы ўсміхаліся шчыра і даверліва, без слоў казалі, што жанчына га-

товая на ўсё дзеля свайго мужчыны. Ён — галоўны, ён яе цар і Бог, суддзя і кат. Ён — Пігмаліён, яна — Галатэя.

Міхал не мог адмовіць вачам Святланы. Ён кінуў да яе ног ноч жменямі, з кожнай хвілінай павялічваючы памеры жменяў, вінаграду, дыямантаў, золата і паветра. Шчодрасць яго не ведала межаў. Яна ўсмоктвала ноч, як апельсінавы сок праз саломінку, і марыла, каб ноч не канчалася, як сок.

Міхал быццам збудаваў замак асалоды ў космасе, апраўдваючы сябе за прычынены боль, з кожным адчыненым пакоем замка павялічваючы напал магчымасцяў, прымушаючы Святлану заходзіцца ў апантаным крыку захаплення і задавальнення. Дурненькі, ёй хапіла б і халупы на краі сусвету, абы толькі з ім!..

А Міхал не пераставаў яе дзівіць і адчыняў усё новыя і новыя пакоі, адзін прыгажэйшы за другі, якім, здавалася, не было канца. Святлана нават спалохалася бясконцасці замка, але ўздыхнула з палёгкай, калі чарговыя дзверы не ўпусцілі ў свае пакоі. Яны толькі прачыніліся, утварыўшы шчылінку, абяцаючы пачакаць наступнага разу...

Прачнулася Святлана зноў першаю на грудзіне Міхала, пацалавала яго ў заплюшчаныя вочы і адправілася ў душ, заадно сцягнуўшы прасціну з ложка, але Міхала не пабудзіла пры гэтым. Замачыўшы прасціну і камбінацыю, залезла ў ванну, устала пад асвяжальныя струмені вады.

Як і ўчора, сняданак прыгатаваў Міхал. Як і ўчора, разам яны выйшлі з дому. Развіталіся да вечара.

Але ён не з'явіўся. Ні ўвечар, ні ўначы, ні на наступны дзень. На працы, у Доме культуры, таксама ніхто не ведаў, дзе ён. Святлана спалохалася. Не ведала, што рабіць і што думаць. У галаве пракручваліся самыя жудасныя сітуацыі, у якія мог патрапіць Міхал.

Дарэмна яна гнала іх прочкі. Думкі пераследвалі і ўзрывалі мозг з назойлівасцю кулі. Святлана нервавалася і псіхавала ад невядомасці і безвыходнасці. Раптам успомніла Віктара, былога мужа. Няўжо ён неяк замяшаны ў знікненні Міхала? Не хацела верыць у тое, што Віктар мог быць неяк датычны, але праверыць не замінала. У яго была падстава, прычым важкая, жадаць Міхалу зла. Святлана ведала мсцівы характар былога мужа, але спадзявалася на яго разважлівасць. Ён жа казаў, што кахае яе…

Віктар сядзеў у сваёй хаце каля тэлевізара. Дзверы ў кватэру на ключ ён ніколі не зачыняў: дзеці. Таму Святлана ўвайшла бесперашкодна.

— Дзе ён? — з ходу накінулася яна на былога мужа.

— Хто? — ніколькі не спалохаўся напору Святланы Віктар. Ён нават не памяняў паставы і не ссунуўся з канапы.

— Ты сам ведаеш хто! — выдзернула шнур ад тэлевізара з разеткі Святлана.

— Ты трызніш,— непарушна працягваў Віктар.

— Што ты зрабіў з Мішам? — не адступалася Святлана.

— А, ужо кінуў? — усміхнуўся былы муж.— Я цябе папярэджваў, забылася?

— Так ты яго не бачыў? — супакойваючыся паволі, зразумела Святлана. Яна была радая, што Віктар ні пры чым.

— Навошта ён мне? — буркнуў той.— Хутка ж у ім жарсць да цябе астудзела,— дадаў.— Не пара вы, Светка. Ён жа дзіця на тваім узроўні.

— Гэтае дзіця ўмее такое,— запярэчыла Святлана,— што табе і не снілася!

— А, ты ў гэтым сэнсе,— зразумеў Віктар.— Тады,— зрабіў задуменны твар,— будзь удзячная за

незабыўныя імгненні. Думаю, яны больш не паўторацца.

— Ды пайшоў ты! — вырвалася ў Святланы.

Яна развярнулася і выйшла з кватэры.

Было пазнавата, і Святлана вырашыла ісці дамоў. Раптам Міхал вярнуўся і чакае ля пад'езда? Мог бы патэлефанаваць хоць, папярэдзіць!.. Але ён жа прынцыпова не карыстаецца мабільнымі тэлефонамі, а яго хатні не адказвае. Святлана спяшалася, але расчараваная склала рукі, нідзе паблізу не выявіўшы і намёку на прысутнасць Міхала, і асуджана паплялася ўгару па сходах, як зайшла ў пад'езд. Нібы якое канаючае цяпельца, цьмела апошняя надзея, што Міхал нейкім чынам пракраўся ў яе кватэру і зрабіў сюрпрыз. Святлана абышла ўсе пакоі. Міхала не было.

Незразумелая роспач абхапіла горла шаўковай стужкай і сціснула яго. Ды хто ён такі, што Святлана так забівалася па ім?.. Звычайны хлопчык, які захацеў раптам пагуляць у сталага? Зняў спелую жанчыну для спробы, паглядзець, як яно? Думаў, абыдзецца без наступстваў? Пацешыцца колькі дзён і саскочыць, а яна ўсё зразумее, багаж за плячамі немалы? Эгаістычна і мэтанакіравана развёў на секс, не на каханне! Якое каханне да яе гадоў!.. Адназначна, хацеў пацешыцца. Але такія вершы чытаў!.. Казаў, што напісаў спецыяльна для яе. Верагодна, ды хутчэй за ўсё, вершы гэтыя наогул прызначаліся не ёй, а той, з кім ён цяпер. Ляжыць у пасцелі, пэўна, з іншай, курыць і распавядае, як атрымалася яму цётку запаліць. Атрымалася — яшчэ мякка сказана. Ён абудзіў вулкан усярэдзіне Святланы, і лава гэтага вулкана накрыла яе з ног да галавы. Яна не жадала ні з кім дзяліць Міхала, ён быў толькі яе! Кожнае згадванне яго імя балюча раніла сэрца, як страла з лука. Стрэлы ўтыкаліся ў цела бясшумна, як у сметанковы алей, змушаючы сэрца сыходзіць

крывёй і лямантаваць пра спыненне катавання. Але спыніцца Святлана не магла. Яе раздражняла невядомасць, а здагадкі, дзе б мог быць Міхал і з кім, зводзілі з розуму. Галава расколвалася ад багацця думак, якім бракавала месца, і яны спрабавалі выбрацца вонкі, як з лабірынту, кідаючыся і тыкаючыся ва ўсе куты, як матылькі, якія разбіваюцца аб шкло акна, убачыўшы яркае святло.

Святлана гатовая была кінуцца да вокнаў, расчыніць іх усе насцеж і клікаць, клікаць Міхала ва ўсю моц лёгкіх. Ёй так дрэнна без яго, яна задыхалася, таму што дыхала ім, як паветрам. Яго няма, і жыцця для яе няма таксама. Чаму ён знік? Што яна зрабіла такога, з-за чаго ён сышоў ад яе? Чым пакрыўдзіла? Усё ж было так добра. Ён адкрываў ёй новыя гарызонты, дарыў неабсяжнае, але толькі з ім і можна было неабсяжнае асягнуць. Яна ўдзячна ўсяляла ў сябе кожную яго думку, глытала кожнае яго слова, давярала саму сябе, як самае патаемнае жаданне, ператвараючыся ў яго ж верш. Ну, дзе ён мог быць?.. Навошта?.. Чаму?..

Святлану ламала і курчыла ў курчах, як наркаманку са стажам. Яна знепрытомнела, паваліўшыся на падлогу ў зале побач з канапай, але ў адключцы знаходзілася нядоўга. Трывога і хваляванне за Міхала прымушалі працаваць мозг і кроў. Няўжо гэта каханне? Тое самае, пра якое пішуць у раманах, паказваюць у кіно і на сцэне? Ці ўсё ж залежнасць? Боязь страціць сродак асалоды? Ніхто з мужчын за ўсё яе жыццё не дастаўляў гэтулькі асалоды ў пасцелі, колькі Міхал за некалькі дзён, і ніхто не выклікаў у душы Святланы гэтулькі эмоцый і перажыванняў.

Зазваніў тэлефон.

Як якая сука, што сарвалася з ланцуга, Святлана рванулася да апарата.

Расчаравалася хутка.

Гэта быў не Міхал.

Тэлефанавала Наташка.

— Не аб'яўляўся? — пацікавілася сяброўка.

— Не,— спакутавана праенчыла Святлана.

— Я тут сёе-тое даведалася,— няўпэўнена прамовіла Наташка, разважаючы, мабыць, казаць ці не варта.

— Штосьці з Мішам?..— занепакоена прыслухалася Святлана, стаіўшы дыханне, гатовая да самага горшага.

— Увогуле, брацік мой раскалоўся,— працягвала Наташка.— Мішка твой паехаў па нейкіх справах, не ведаю, па якіх, але заўтра павінен прыехаць.

— А куды? — машынальна спытала Святлана.

— У сталіцу. Ведаю толькі яшчэ, што паездка гэтая патрэбна для завяршэння нейкага грандыёзнага плана,— скончыла Наташка.— Так што не кісні, сяброўка. Убачышся заўтра з ненаглядным. Здаецца мне, што яго паездка вельмі звязана з табой.

— Але мог жа ён патэлефанаваць, папярэдзіць… — ачуньвала Святлана, як пасля наркозу.

— Ты мужыкоў не ведаеш? У іх заўсёды нейкія ваенныя таямніцы, мяркуючы па ўсім, яшчэ з дзяцінства, калі дзяўчынак гуляць у «вайнушку» не бралі. Пачуццё ўласнай значнасці перапаўняе іх і разліваецца важнічаннем, калі яны могуць чым-небудзь здзівіць нас. Вось паглядзіш, Мішка твой таксама важнічаць будзе. Добра, гаварыць больш не магу, дамагаюцца тут некаторыя…

Святлана пачула ўзбуджанае і задаволенае хіхіканне, а потым кароткія гудкі.

Яна супакоілася. Але куткі вуснаў яе дрыжалі. Ох, і ўладкуе Святлана заўтра гэтаму «маляку» «ваенную таямніцу»!.. Як ён наогул асмеліўся ўварвацца

ў яе жыццё і гаспадарыць у ім, як у сваёй хаце! Ну паглядзіць ён заўтра, хто гаспадыня, а хто госць!..

Мноства варыянтаў «помсты» перабрала Святлана перад тым, як, стаміўшыся, заснула, але калі прачнулася — ніводнага не ўспомніла. Трэба было запісваць. Раніцай бы прачытала і аднавіла ў памяці. Аднак асабліва Святлана не нервавалася. Часу хапала прыдумаць новыя варыянты. «Жывым» ад яе не сыдзе. Жаночая «вайнушка» будзе круцейшай за мужчынскую.

Пасля ўрокаў яна пайшла ў Дом культуры. На вахце паведамілі, што Міхась Мікалаевіч (трэба ж, Міхась Мікалаевіч, пафасна як!) на сцэне рэпеціруе. Святлана паціху праслізнула ў дзверы канцэртнай залы, разлічанай на чатырыста пяцьдзясят месцаў, села ў крэсла тут жа, ля дзвярэй, імкнучыся не адцягваць увагу сваім з'яўленнем ні артыстаў, ні рэжысёра. Міхал тлумачыў штосьці, паказваў хлопчыку і дзяўчынцы гадоў васьмі, так смешна ў яго атрымлівалася, што дзеці не стрымліваючыся смяяліся. Казаў, што і яны павінны гэтак жа, як ён, паўтарыць усе яго рухі.

Ён заўважыў Святлану адразу прафесійным вокам і вельмі хутка адпусціў дзяцей, папрасіўшы іх парэпеціраваць дома і заўтра абавязкова прыйсці як звычайна. Праводзіўшы іх да дзвярэй, падышоў да Святланы.

— Прывітанне,— сказаў.

Яна сядзела, не варушачыся, і не зводзіла з яго вачэй, як быццам упершыню ўбачыла, разглядаючы яго і захапляючыся ім. Усе думкі пра «помсту» зніклі з першым вымаўленым ім словам, нібы слова гэта паглынула іх, як зыбкі пясок.

— Рады цябе бачыць,— працягваў ён, усеўшыся на спінку крэсла насупраць Святланы адным бокам, але тварам да яе.— Шыкоўна выглядаеш.

— Ты таксама,— прамовіла яна, як зачараваная.— Пойдзем да мяне.

— Не сёння,— раптам адмовіўся Міхал.

— Чаму? — не зразумела Святлана. Яна нават знервавацца не паспела, нібы загіпнатызаваная позіркам Міхала.

— Таму што мы ідзём да мяне,— проста адказаў Міхал.

— Да цябе? — гэтак жа зачаравана вымавіла Святлана.— Пойдзем да цябе,— устала з месца і ўзяла Міхала за руку. Ён прыцягнуў яе бліжэй, абняў, правёў далонню па шчацэ.— Я кахаю цябе! — раптам прашаптала яна. Прамаўляючы гэтыя словы, Святлана сапраўды ведала, што кажа праўду і не памыляецца.— Я кахаю цябе! — паўтарыла яна, зазіраючы ў яго вочы.

Міхал нічога не адказаў словамі, але пацалаваў па чарзе вочы Святланы, нос, шчокі, пакуль не спыніўся на вуснах.

— Гэта выдатна,— сказаў потым.

— Ведаю,— прамовіла Святлана, абдымаючы Міхала за плечы.— Ты не ўяўляеш, што для мяне значыш,— дадала.

— Здагадваюся,— пагладзіў па валасах яе Міхал.

— Беражы мяне, калі ласка,— прашаптала.— Без цябе я знікну, звяну, як кветка без вады.

— Не знікнеш,— абяцаў Міхал.

— Ты насамрэч ведаеш? — занепакоена спытала Святлана.

— Насамрэч,— упэўнена адказаў ён.

Святлана бачыла дом, у якім жыў, а дакладней сказаць, здымаў кватэру Міхал, але бываць у ім не даводзілася. Барачнага выгляду будынак з чатырма

асобнымі ўваходамі размяшчаўся ў рысе горада на вуглавой вуліцы па суседстве з пякарняй, якая спецыялізавалася на кандытарскіх вырабах. Насельніцтва складалася з непаўнавартасных сем'яў і аматараў выпіць. Адзін з аматараў так запусціў сваё жытло, што яно больш было падобным на адрыну, не аднойчы гарэла, калі той засынаў з непагашанай цыгарэтай, але заўсёды ратаваўся нейкім цудам. Магчыма, не без дапамогі сабакі па мянушцы Шарык. Шарыкам звалі і гэтага аматара выпіць у сувязі з тым, што шчанюком ён браў кабялька, а кабялёк аказаўся сукай, ды мянушка прыліпла як да сабакі, так і да чалавека. Менавіта яго першага, бруднага, няголенага і п'янага, Святлана і ўбачыла, падыходзячы да барака. Той валяўся пад уласным згнілым плотам разам з сабакам. Ад такога відовішча Святлана на імгненне спынілася, задумаўшыся, а ці трэба ёй туды, куды клікаў яе Міхал? Яе падванітоўвала ад сузірання «тутэйшага пейзажу» і карцела бегчы назад, пакуль не позна, каб не засмактала, як у балота. І наогул, можа, яна прыдумала проста сабе каханне, пераблытаўшы яго з сексам, ад доўгага ўстрымання. Вось мазгі і пакаламуціліся. Трэба абстрагавацца і паглядзець збоку на сябе і на свайго спадарожніка. Ну, нонсэнс жа — патрапаная, у гадах, хоць і не старая жанчына, і малады прыгожы мужчына, нават хлопчык,— нырнулі ў адносіны, як у вір, забыўшыся пра прыстойнасць, пагрэбавалі грамадскай думкай, паддаўшыся свайму ўласнаму ўнутранаму голасу, які нашэптваў салодкія казанні, як змей-спакуснік, падпарадкоўваючыся фізіялогіі. Не, гэта няправільна. Хтосьці павінен спыніцца першым. І ёю павінна стаць яна, паколькі старэйшая, а таму мудрэйшая, пакуль нічога непапраўнага не здарылася.

Святлана замарудзілася каля ўвахода, разгублена аглядаючыся ў пошуках дапамогі правільнасці яе рашэння, але нікога і нічога не ўбачыла.

— Штосьці не так? — занепакоена зірнуў на яе Міхал. Гэтулькі кахання, гэтулькі пяшчоты, увагі і клопату ўбачыла ў ім Святлана, што несвядома раставарылася, заблудзілася і прапала ў лясным гушчары вачэй Міхала. Яна ж ішла навідавоку ва ўсіх праз усё мястэчка побач з ім, не хаваючы радасці і гонару за яго і свой выбар, на зайздрасць шматлікім местачкоўцам, якія закаснелі ў невуцтве і кансерватызме. Яна мела права на свой кавалачак маленькага жаночага шчасця. Ні ў каго нічога не прасіла і, урэшце, поўні ні ў каго не ўкрала. Ён сам прыйшоў, яна толькі пагадзілася быць яго. Так цяжка заставацца адной і так соладка шаптаць яму «я — твая», не задумваючыся пра наступствы, давяраючы ўсё вырашаць мужчыну за дваіх. Яна не магла падвесці ў першую чаргу саму сябе, ізноў ператварыцца ў звычайную жанчыну з прэсным мяшчанскім укладам жыцця і з тэлевізарам… А для Міхала Святлана была асаблівай і вырастала ад гэтага ва ўласных вачах. Хацелася стаць яшчэ лепш, падняцца яшчэ вышэй і не расчароўваць ні сябе, ні яго. Гэта так проста — кахаць, усяго толькі.

— Усё ў парадку. З чаго ты ўзяў? — усміхнулася Святлана Міхалу.

— Думаў, Шарык на цябе зрабіў панурае ўражанне,— выказаў здагадку Міхал.— Але ты не зважай. Там,— ён паказаў на дзверы, якія адчыняў ключом,— усё па-іншаму.

— Я веру,— пагадзілася Святлана.

Ён прапусціў яе ўпярод сябе, расчыніўшы дзверы. Павольна Святлана ўвайшла ў жыллё яе мужчыны. Доўгі калідор з драўлянай падлогай канчаўся даволі

прасторным пакоем. Злева па ходу — яшчэ два: кухня і спальня, але яны былі зачынены.

У адчыненым пакоі з двума вокнамі, зашторанымі жоўтым выгаралым на сонцы шоўкам стаялі шафа-сервант, канапа-ложак, стол, крэсла, тэлевізар на тумбачцы, паміж канапай-ложкам і тэлевізарам на падлозе ляжаў палавік. У калідоры — насупраць дзвярэй у спальню — грувасцілася кніжная шафа. Карціна цьмяная і нецікавая, мякка кажучы. Лёгкая прыкрасць мурашкамі прабегла па спіне Святланы. Такога ўбогага прыёму яна не чакала. Хоць магла здагадацца, ведаючы тую, хто здаваў Міхалу кватэру. Ленка Суднік папрадавала ўсё, што мела кошт, дзеля гарэлкі. Добра, што з працы не выгналі, з мясцовага краязнаўчага музея, хоць каму там працаваць без Ленкі?.. Ды мужык новы да сябе забраў. Яна разоў восем выходзіла замуж і заўсёды мяняла прозвішча на прозвішча новага мужа, і заўсёды па каханні. А разуменне і ўяўленне пра каханне ў кожнага сваё.

— Не падабаецца? — заўважыў стаўленне Святланы да свайго месца пражывання Міхал.

— Галоўнае, каб дах над галавой быў,— нявызначана адказала яна.

— Мне таксама не падабаецца,— раптам прамовіў Міхал,— таму тут я не жыву.

— А дзе тады? — здзівілася Святлана.

— На ўсё свой час,— загадкава адказаў Міхал, адкрыў самыя ніжнія дзверцы шафкі ў серванце і ўзяў адтуль белы шаўковы шалік.— Мне трэба завязаць табе вочы,— падышоў ушчыльную да Святланы. Тая нічога не адказала, і Міхал бесперашкодна зрабіў задуманае, затым узяў яе за руку і павёў за сабой. Адчыніў дзверы спальні з адным-адзіным ложкам і без адзінага самага маленькага акенца, націснуў выключальнік, але не святло загарэлася, а паднялася

падлога, «расляскаўшы» ложак па сцяне, адкрываючы позірку вітыя сходы, якія вялі ўніз.— Асцярожна, прыступкі! — першым ступіў на сходы Міхал, ведучы за сабой Святлану. Яна налічыла дваццаць адну прыступку.

Прайшоўшы некалькі крокаў пасля лесвіцы, Міхал спыніў Святлану, далікатна і асцярожна распрануў. Святлана не супраціўлялася, хоць інстынктыўна рукі пацягнуліся сарваць павязку з вачэй. Міхал супакоіў доўгім пацалункам, затым апрануў на яе камбінацыю крэмавага шоўку, якая даўжынёю даходзіла да каленяў. Святлана ўздрыгнула, адчуўшы дакрананне цела да тканіны, цяжка задыхала. Яна не магла патлумачыць прыемнасці абвіўшага яе шоўку.

— Ты можаш зараз жа сысці,— прагучаў голас Міхала.— Я цябе не спыню і не пакрыўджуся. Магчыма, мы ніколі не ўбачымся. Але спачатку прашу выслухаць тое, што я скажу.

Святлана замерла, напружваючы слых, баючыся штосьці прапусціць.

— Нават наймацнейшае і светлае каханне,— працягваў Міхал,— ператвараецца ў нуду. Я не хачу дазволіць нашым пачуццям набіць аскому і прапаную табе і сабе ўзяць за прыклад шоўк. Гэты від тканіны адрозніваецца яркасцю, насычанасцю фарбаў і пазітывам. Гладкая навобмацак тканіна можа адначасова запальваць і астуджаць любое цела, эксперыментуючы сама над сабой. Шоўк самадастатковы, а таму бездакорны. Я прапаную табе пазбавіцца ад стэрэатыпаў і пагадзіцца на эксперыменты. Любое тваё рашэнне я прыму, не аспрэчваючы яго.

Ён замоўк.

Маўчала і Святлана. Ліхаманкава думала, што ёй рабіць. Яна баялася новага, але і па-вар’яцку прагнула адкрыццяў і магчымасцяў, раней не спазнаных і не

зведаных. А іх ёй мог даць толькі Міхал, якому даверылася і які, у прынцыпе, не мог ёй нашкодзіць. І ён меў рацыю, каханне можа надакучыць, калі не пераставаць здзіўляць адно аднаго. Міхал здзіўляў яе кожны раз, і з кожным разам мацней. Яна таксама здольная на гэта. Лепшага ў жыцці больш не будзе ніколі. Ёй і без таго пашанцавала.

— І… што гэта будзе? — усё-ткі няўпэўнена спытала Святлана.

— Ты — мая жанчына, я — твой мужчына,— прагучаў следам адказ.— З усімі вынікаючымі.

— І шоўк — як дэтанатар? — выказала здагадку Святлана.

— Як сутнасць,— паправіў Міхал і развязаў ёй вочы.

Святлана стаяла пасярод прасторнага пакоя са сценамі цаглянага колеру. Перад ёй, на адлегласці выцягнутай рукі, знаходзіўся шырокі ложак з разьбянымі спінкамі, засланы блакітным шоўкам. Крыху лявей, на жалезных «курыных ножках», мясцілася беласнежная кампактная ванна. За спінай Святланы квадрацілася размаляваная пад хатку прастакутная скрыня ў палову чалавечага росту вышынёй і такой жа ўнутранай прасторай. На скрыні ляжаў скураны ашыйнік з дэкаратыўным ланцугом, прымацаваным за кальцо да сцяны над своеасаблівай уціснутай нішай, дзе знаходзіліся ўнітаз і бідэ, бліскаючы чысцінёй. Дзве доўгія паліцы з кнігамі Генры Мілера, Джэка Керуака, Вільяма Барроўза, Чарлза Букоўскі, Анаіс Нін, Франсуазы Саган, Уладзіміра Сарокіна і Віктара Пелевіна віселі над скрыняй. Падлога была пліткавая і дзе-нідзе хавалася пад кілімкамі. Пад столлю, у кожным куце, у выглядзе паходняў, тырчэлі кандэлябры, кожны на шэсць свечак, але асвятлялася памяшканне электрычным святлом. Люстэрка адна-

часова выконвала і функцыю дзвярэй. Тут Святлане бясспрэчна падабалася больш, чым наверсе. Зразумелае жаданне ўведаць, якім чынам Міхалу атрымалася так уладкаваць звычайны склеп, было задушана іншым жаданнем. Гэты хлопчык здольны на ўсё. Яго сапраўднаму мужчынскаму позірку да ашаламлення хацелася падпарадкоўвацца, карцела нават памерці за яго. Такім ён валодаў магнетычным дарам спакушэння. І абставіў усё не з пахабнай безгустоўшчынай, а з брутальнай калянасцю. Менавіта гэтага бракавала Святлане ва ўсіх яе мужчынах, якія былі з ёй раней. Страціць галаву не страшна. Страшна прачнуцца без галавы. Без галавы яна і прачыналася. Міхал паказаў ёй дакладны шлях, каб нічога не губляючы, набываць сябе, па-новаму спазнаваць сябе сапраўдную.

Ён сядзеў на ложку, упёршы рукі локцямі ў калені, галаву трымаў на далонях, складзеных мастком, і ўважліва назіраў за Святланай. Ён ведаў, што ёй спадабаецца, але не ўяўляў, што да такой ступені. Яна захаплялася ім, гэтым пакоем і сабой у гэтым пакоі, яго і сваім магчымасцям.

Святлана падышла да Міхала і апусцілася на калені, абняла яго калені і сказала, гледзячы на яго знізу ўгару:

— Ты — мой мужчына. Я — твая жанчына. І я буду тваім шоўкам.

Яна прымала правілы яго кахання безумоўна, сваё аддаючы бязвыплатна. Дыхаць ім, як неабходным для жыцця кіслародам,— адзіная мэта і сэнс існавання.

— Ты можаш перадумаць? — удакладняючы, правакаваў яе Міхал.

— Не,— рашуча адказала Святлана.— Выпрабуй мяне,— прапанавала.

— Любімая жывёла? — спытаў тады Міхал.— Толькі хутка і не думаючы.

— Сабака,— тут жа выдала Святлана.

— Стань ім,— сказаў Міхал.

— Як? — не зразумела Святлана.

— Стань сабакам. Пакажы яго. Ці сыходзь.

Святлана паднялася на ногі, адышла да дзвярэй, паглядзелася ў люстэрка, апусцілася на карачкі, выгнулася дугой, падпаўзла да Міхала, выпрасталася, падняла рукі да грудзей кісцямі ўніз, высунула язычок, аблізала вусны і загаўкала, кранальна і смешна, як шчанюк.

Міхал сеў побач з ёй і пагладзіў па галаве, потым падняў на рукі і аднёс на ложак, асцярожна паклаў, як самы каштоўны скарб.

Святлана заплюшчыла вочы. І гэта ўсё выпрабаванне? Лёгкае расчараванне кальнула ў скронь, як камарыны ўкус. Яна чакала большага. Чаго ж менавіта — прыдумаць не паспела, праваліўшыся, як у калодзеж, у бяздонную яму цяпла і ласкі,ператвораную ў акіян асалоды і пяшчоты. Святлана пачувалася «Тытанікам», асуджана гінуўшым, але не спрабаваўшым ратавацца. Яна танула і радавалася свайму становішчу, захлыналася экстазам і адкашлівалася, калі хваляй выкідвала на сушу, стогнамі жарсці, каб ізноў тануць, кожны раз па-новаму ўдыхаючы дурманлівы, ап’яняльны пах жыцця, сапраўднага жыцця кахання. Прычым тануць ёй спадабалася больш, чым адчыняць дзверы бясконцых пакояў паветранага замка, да якіх, зрэшты, не супраць была і вярнуцца. Але канчаткова патанула, нават пальцамі паварушыць не магла, не тое, што здзейсніць рывок, у знямозе і глейкай дрымоце.

Калі Святлана расплюшчыла вочы, яны ўсё адно апынуліся заплюшчанымі. «Ці не аслепла?» — імгненна пранеслася ў галаве. Але і рот не адкрываўся, і рукі-ногі не слухаліся таксама. Святлана спалохалася не

на жарт. Але вельмі хутка зразумела, што проста прывязана да спінак ложка, а вочы і рот залеплены скотчам. Міхал пастараўся. Цікава, дзе ён сам? І колькі цяпер часу? На працу ж трэба!..

Святлана пачала вырывацца, але неўзабаве выдахлася і знясілела. Марна. Усё адно нічога не атрымаецца. Неблагое выпрабаванне прыдумаў Міхал, толькі ў чым сакрэт яго? Ляжаць і нічога не рабіць — не так ужо і складана. Нават без ежы і пітва. Трэба было трываць і чакаць Міхала, які мог прыйсці ў любую хвіліну, а мог і не прыйсці. А можа, ён наогул нікуды не сышоў, стаіць збоку і глядзіць, назірае, адужае Святлана ці не. Ці здольная яна на ахвяры, абяцаныя ёю ж добраахвотна і беспярэчна?..

— Прабач,— прамовіў Міхал,— я вінаваты сам. Нельга было пакідаць цябе адну так надоўга.

— Нельга наогул гэтага рабіць,— сказала Святлана.— Мне на працы паставяць прагул…

— Не паставяць,— ён перабіў яе.— Я афарміў табе адпачынак.

— Які адпачынак? — не зразумела Святлана.

— Усё адно ўжо хутка канец чвэрці,— пацалаваў яе ў вусны Міхал.— Замену табе знайшлі.

— І каго ж?

— Сяброўку тваю, Наталлю, здаецца.

— Трэба ж! — адзначыла Святлана.

— Зараз нішто і ніхто нам не перашкодзіць,— сказаў Міхал.— Уставай, будзем купаць цябе…

Міхал распрануў яе і дапамог сесці ва ўжо напоўненую гарачай вадой ванну. Ваду ён прынёс з калодзежа і нагрэў на пліце ў дзвюх дзесяцілітровых каструлях. Два вядры халоднай вады стаялі непадалёк. Шампунь, мачалка і мыла ляжалі на маленькім зэдліку побач з ваннай. Асцярожна і беражна Міхал намачыў

валасы Святланы, выціснуў трохі шампуня сабе ў далонь, стаў уціраць вадкасць у валасы жанчыны. Потым змыў вадой з ванны і паўтарыў працэдуру, але змываў ужо чыстай вадой, паліваючы галаву з коўшыка. Святлана фыркала і войкала, калі што-небудзь трапляла ў вочы, але ні разу не адмовілася ад паслуг Міхала, каб спраўляцца самой. Кожнае дакрананне яго рук рабіла яе бязвольнай і паслухмянай ва ўсім, а дыханне п'яніла і кружыла галаву крапчэй за віно.

Намачыўшы і намыліўшы мачалку, Міхал папрасіў Святлану падняцца і яна ўстала ў ванне ва ўвесь рост. Вада сцякала па ёй, як па вадаспадзе. За лічаныя секунды Міхал нанёс на яе цела мыльную пену, з задавальненнем мыў і цёр, нібы мастак-рэстаўратар — бясцэнны твор мастацтва, баючыся неасцярожным рухам, крый божа, сапсаваць тую ці іншую лінію бездакорнай прыгажосці. Змываючы пену, дзе мачалкай, дзе вадой з коўшыка, любаваўся тварэннем рук сваіх, нібы насамрэч меў дачыненне да стварэння шэдэўра.

Захутаўшы Святлану ў доўгі махровы ручнік, Міхал выцягнуў яе з ванны, на руках аднёс да ложка, сеў сам, яе пасадзіў на калені, меншым ручніком па пасмах стаў выціраць яе валасы, адначасова цалуючы яе цела.

Потым, як ляльку, перасадзіў на ложак, прынёс зверху сумку, выняў з яе касметыку і чырвоны шаўковы камплект, які Святлана купіла ва ўніверсаме. Пасля працы Міхал зайшоў да Святланы ў кватэру, узяў усё неабходнае для падтрымання прыгажосці. Жанчына заўсёды павінна быць жаданай, а таму прыгожай.

— Я тут надоўга? — спытала Святлана, усё яшчэ хутаючыся ў ручнік.

— Нягледзячы на тое, што я аформіў твой адпачынак без цябе,— прамовіў Міхал, прысаджваючыся побач,— ты вольная ў сваіх учынках. Ты — не палонніца

і не госця. Усё, што знаходзіцца ў гэтым пакоі — тваё. Ты вольная сысці ў любы час, калі захочаш.

— Я не хачу,— паспяшалася супакоіць Міхала Святлана, паколькі адчула нейкую асуджанасць у яго голасе, асабліва ў апошняй фразе. Яна абняла яго і прашаптала: — Толькі не крыўдзі мяне, калі ласка!

Позірк Міхала прыкметна ажыў. Ён папрасіў яе пачакаць некалькі хвілін і пераапрануцца, ён мігам.

Хвілін праз дзесяць, Святлана паспела за гэты час апрануць шаўковы спальны гарнітур, прынесены Міхалам, падфарбаваць вочы і вусны, з падносам у руках, на якім, мабыць, была вячэра на дваіх, Міхал спусціўся да яе. Размясціўся на падлозе і даў зразумець Святлане, каб яна таксама да яго далучылася.

Святлана тут жа пацягнулася абедзвюма рукамі да вяндліны. Не моцна, але Міхал стукнуў далонню па яе пальцах. Святлана адразу ж адшмаргнула рукі.

— Што не так? — капрызна выдыхнула.

Замест адказу Міхал узяў лыжку, зачэрпнуў кашы, паднёс да рота Святланы, тая ўдзячна прыняла ежу. Пакуль яна пражоўвала, Міхал разрэзаў кавалкі вяндліны на прымальныя лустачкі і, насаджваючы іх на відэлец, па чарзе з кашай, карміў Святлану. Быццам дзіця. Ела яна з задавальненнем, салата, праўда, не пайшла, кавы выпіла, таксама з рук Міхала, і закусіла ўсё бананам, сексуальна адкусваючы і дражнячы Міхала.

— Дзякуй,— падзякавала пасля,— было вельмі смачна.— Падумаўшы, спытала: — Ты заўсёды будзеш мяне карміць з лыжачкі?

— Табе не спадабалася?

— Не, гэта цудоўна. І я згодна.— Памаўчала, потым раптам сказала: — Для паўнаты ўспрымання і лагічнага завяршэння вечара бракуе толькі вершаў. Ты што-небудзь напісаў для мяне?

— Напісаў,— кіўнуў Міхал.

— Пачытай, калі ласка,— папрасіла Святлана. Яна лягла галавой яму на калені, не адрываючы вачэй ад яго твару.

Міхал правёў рукой па яе шчацэ, спыніў свой пагляд на паглядзе Святланы. Яны скрыжаваліся, нібы шпагі. Але шпага Святланы не супраціўлялася. Вочы Святланы прынялі Міхалаў позірк, як пранікальнае раненне…

…И твои губы обняли мои глаза,
Чтобы в который раз себе сказать
О том, что нет предела высоты:
Ее лишь нужно вовремя найти.

Тогда взлетит ракетою душа,
За нею — тело вслед, едва дыша.
В таком полете — отдых — не в сезон.
Все разрушает и ломает он.

Не торопи событий снегопад.
Нам нужно в рай с тобою, а не в ад.
И твои губы обняли мои глаза,
Чтобы познал я то, чего не знал.

Чтобы проникла в мое сердце боль
Разлуки дальней, где я не король,
Скорее, шут изменчивой судьбы.
Ты обуздать ее мне помоги.

Ты зашепчи мне поцелуем рот,
Укрой собой, как пледом, мой живот,
И за собою в джунгли позови
Этой нехоженной еще любви.

Ты покажи, где минус, а где плюс.
Поверь мне, трудностей я не боюсь.

И твои губы обняли мои глаза,
Чтобы о самом главном рассказать.

Амаль не міргаючы, Міхал глядзеў у вочы Святланы, чытаючы верш, рукой шпацыруючы па яе целе. Стаіўшы дыханне, Святлана ўслухоўвалася ў паэзію голасу і думак мужчыны. І раптам зашаптала вершамі:

Холодно.
В плену зимы
Мне без тебя так холодно.
А на душе и в сердце
Только боль одна.
Холодно.

Может быть,
Чтобы согреться,
Хоть чаю попить;
На балкон выйти
И волчицей взвыть,
Может быть…

Не всегда,
Я знаю точно,
Будут холода.
И ты разрушишь
Плен мой изо льда
Навсегда.

Не забудь,
Что ждет нас где-то
Самый светлый путь.
Ты там
Самым родным мне будь,
Не забудь…

Па меры вымаўлення гэтых фраз Міхал апускаўся ніжэй і ніжэй, здзіўлены сілай і пранікненнем верша, напісанага, несумненна, самой Святланай, у хвіліны

роспачы. Ніяк інакш іх узнікненне растлумачыць нельга. Апошнія словы Святлана прагаварыла ўжо ў падбародак Міхала, які сядзеў на кукішках і ўважліва слухаў. Калі яна скончыла, ён падняў яе на рукі і апусціў на ложак, уладкоўваючыся побач.

— Ты сама?..— перавёўшы дыханне, спытаў Міхал.

— Выпадкова атрымалася,— прамовіла Святлана.— Калі ты прапаў, мне было так дрэнна. Радкі самі палезлі з галавы на паперу, ну, і запомніліся. Нават здзівілася, што выйшла так складна. Ніколі раней таленту да вершаскладання за сабой не заўважала, хоць паэзію вельмі люблю.

— Мне ніхто ніколі не прысвячаў вершаў,— прызнаўся сумна Міхал.

— Усё бывае калі-небудзь упершыню,— па-філасофску адзначыла Святлана.— Да таго ж, ты мужчына, табе не паложана,— дадала весела, а потым усхвалявана: — Не пакідай мяне, і я цябе не пакіну.

І паляцелі хвіліны, гадзіны і дні, як нажы, хутка, трапна, упэўнена. Святлана страціла ход часу і згубілася ў ім. Яна атрымлівала асалоду ад свайго становішча і нічога не жадала змяняць. Пытанні, якія калі і хвалявалі раней, адкуль і за якія сродкі Міхал змог уладкаваць і падарыць ёй, з дазволу сказаць, рай, дзе яна апынулася, зніклі, як дым. Якая розніца ўрэшце. Галоўнае, вынік. А вынік перасягнуў усе чаканні, як Святланы, так і Міхала. Магчыма, ён і не чакаў, што яна здольная на рознага кшталту «цуды» і нават не быў гатовы да шмат чаго. Але ўдваіх, разам, яны пераадольвалі ўласныя комплексы, атрымліваючы асалоду ад кожнай секунды блізкасці.

Як і раней, Міхал замыкаў Святлану адну, калі сыходзіў на працу, і абмяжоўваў яе рух ланцугом, разлічаным роўна на палову аб'ёму занятай прасторы.

Ён не хацеў, каб яна выходзіла, а належала толькі яму і пакою, абсталяванаму для яе. Зразумела, Святлану наведвалі думкі паспрабаваць дабрацца да дзвярэй і выслізнуць з поля зроку Міхала, але ўсе яны заканчваліся няўдала. Дзвярэй яна не дасягала, натуральна, а збірала кучу гузоў і ранак, як вожык. З іншага боку, Святлане трэба было чымсьці займаць сябе: увесь час чытаць вельмі цяжкую літаратуру, што мелася ў Міхала на паліцах, для жанчыны, хай сабе і неверагоднай кнігалюбцы, было занадта. Але больш за ўсё яна любіла купацца і сядзець у Міхала на каленях, вочы ў вочы, калі ён лашчыў і цалаваў ёй грудзі, адначасова чытаючы новыя вершы. Сама Святлана пасля гэткага ўдалага дэбюту другі раз уразіць талентам не спрабавала, баючыся сапсаваць першае зробленае на Міхала ўражанне, ды і не хацела забіваць галаву лішнім хламам. У яе галаве павінна знаходзіцца толькі адно — жарсць да Міхала. Да яго аднаго былі звернутыя ўсе яе думкі. За ім адным яна была гатовая ляцець і падаць куды заўгодна і дзе заўгодна.

Святлана забылася пра мінулае жыццё і не жадала пра яго нічога памятаць, як пра чорна-белы і нецікавы сон. Амаль не ўспаміналa сына, былога мужа, сяброўку Наташку, працу, школу. Прынамсі, пасля таго як Міхал паведаміў, што яна ў адпачынку.

Але жыццё не збіралася забываць пра Святлану. Яно з'явілася ў вобразе Наташкі, нечакана і несвоечасова.

Святлана ляжала аголеная на ложку жыватом уніз з завязанымі разам за спінай рукамі і нагамі, з ланцугом на шыі і кляпам у роце, паглыбіўшыся позіркам у экран партатыўнага ноўтбука, па якім глядзела спецыяльна для яе пастаўлены Міхалам фільм з удзелам Трэйсі Лордс. Сам Міхал, застаўшыся дома на выхадны, адлучыўся на колькі хвілін у краму — праз дарогу — за апельсінавым сокам для Святланы, яна папрасіла, і сабе за цыгарэтамі. Мабыць, ён не зачыніў

уваходныя дзверы наверсе і пакінуў незамкнутым уваход у склеп, іншага тлумачэння ў Святланы не было, палічыўшы, што вернецца хутка, не прадугледзеўшы форс-мажорных акалічнасцей. Але ёй няма чаго было саромецца, хоць на сяброўку Святлана паглядзела з жахам, нібы прывід убачыла. Наташка таксама спынілася ў дзвярах, быццам аслупянела. Аднак здзіўленне хутка прайшло.

— А я ішла міма,— прамовіла Наташка, не рухаючыся ўсё ж з месца,— дай, думаю, зазірну да Мішкі, чаго-небудзь пра цябе распытаю. Тузанула за ручку — дзверы адчыніліся… і склеп насцеж. Добранькі адпачынак ты сабе наладзіла, сяброўка.

Наташка вывучальным позіркам акінула памяшканне, наблізілася да ложка, села побач са Святланай, выцягнула ў яе з рота кавалак шоўку.

— Падабаецца ўсё гэта? — спытала, паказаўшы навокал.

— Падабаецца,— задзірліва адказала Святлана.

— Зайздрошчу,— прамовіла Наташка, здзівіўшы Святлану.— Не таму, што ляжыш у такім выглядзе,— растлумачыла,— увазе і фантазіі мужыка. Я падазравала, што ў яго вялікі патэнцыял, як бачыш, не памылілася.

— Што будзеш рабіць? — трывожна прашаптала Святлана.

— Цябе сын шукае, ды і не толькі. Паўтара месяца ад цябе і пра цябе нічога не чуваць. Мішка аджартоўваецца, Віктар, былы твой, у ментоўку заяву накатаў аб знікненні чалавека.

Міхал увайшоў ціха і бясшумна, як злодзей. Святлана бачыла, як ён з’явіўся. Наташка спалохана здрыганулася, пачуўшы яго голас.

— У нас госці?! — усміхнуўся ёй з-за спіны.

— Я выпадкова,— спрабавала апраўдацца Наташка, адсоўваючыся далей ад яго.

Міхал вызваліў Святлану ад пут і накінуў на яе шаўковы халат, падаў сок, сам закурыў, прыхінуўшыся да вушака.

— Мне прыйдзецца сказаць у ментоўцы, дзе Светка, каб спынілі пошукі,— апусціўшы вочы ў падлогу, прамовіла Наташка.— А лепш,— падняла вочы,— каб Светка зараз жа вярнулася дамоў.

— Што мы здзейснілі супрацьзаконнага? — не разумела Святлана.

— Менты не зразумеюць,— казала Наташка,— калі знойдуць цябе тут. Пачнецца следства. Нічым добрым яно для вас абаіх не скончыцца.

— Права на прыватнае жыццё ў канстытуцыі ніхто не адмяняў,— запярэчыла Святлана.— Як жыць, тым больш, як кахаць і што выкарыстоўваць для гэтага кахання — толькі мая асабістая справа.

— Ты забылася, дзе мы жывём,— заўважыла Наташка.— Непрыманне ўсяго новага і незвычайнага — норма сучаснага грамадства. Мішку абвінавацяць у амаральных паводзінах, гэта ў лепшым выпадку. У горшым — пасадзяць за гвалтоўнае ўтрыманне ў рабстве ў сексуальных мэтах.

— Ты што такое вярзеш? — не верыла ўласным вушам Святлана.

— Я кажу тое, што будзе, калі ты да вечара не апынешся дома,— стаяла на сваім Наташка.

— Але гэта ж няпраўда! — выклікнула Святлана.

— Хто будзе правяраць і ўлічваць тваю праўду?

— Не разумею.

— Твой Мішка — чалавек, які неадэкватна ўспрымае рэчаіснасць,— заявіла Наташка.— З яго меркаваннем наогул лічыцца не будуць, зрэшты, як і з тваім.

— Што ты нясеш? — здзіўлялася, да чаго хіліць сяброўка.— Ты хочаш сказаць, што Міхал — псіх, ці што?

— А якому звычайнаму чалавеку прыйдзе ў галаву зрабіць тое, што я ўбачыла тут? — выклікнула Наташка.— Я так разумею, што гэта толькі кветачкі. А памеры ягадак я нават баюся ўявіць…

— Як ты… — ад абурэння Святлана не знаходзіла слоў,— як ты наогул можаш судзіць мяне і мае ўчынкі… Сама ж вешаешся на кожнага мужчыну, як апошняя…

— Я, можа быць, і апошняя,— пагадзілася Наташка,— але ты, сяброўка, пераплюнула ўсе мае дасягненні, можна сказаць, нявінныя, у параўнанні з тваімі.

Міхал не ўмешваўся, моўчкі курыў. Калі дакурыў, прамовіў:

— Я так разумею, хата ўжо абкружана. Табе чаго трэба? — Накіраваў свой позірк на Наташку.

— Адпусці Светку.

— Яе ніхто тут не трымае. Яна па добрай волі і па каханні.

— Па якім каханні? — засмяялася Наташка, але хутка спыніла сябе.— Карацей, я яе забіраю, і мы сыходзім.

Наташка падышла да Святланы, якая стаяла пад кніжнымі паліцамі, узяла за руку і пацягнула за сабой. Святлана вырвалася і кінулася да Міхала, устала за яго плячом.

— Светка, ты дура, ці што? — вырвалася ў Наташкі.

— Дура,— згодна кіўнула Святлана.— Толькі я кахаю яго і нікому не дазволю абгаварыць!

— А ён табе нічога не распавядаў? — здагадалася Наташка.— Ён жа ніякі не рэжысёр. І наогул, у вышуку! Ён злачынец, Светка! Яго злавілі па гарачых слядах на падобным штукарстве. Дзяўчына памерла, ён яе задушыў, замуміфікаваў у шоўк, цябе чакала тое ж самае!

— Ты хлусіш! — выпаліла Святлана.

— Ну, і пайшла ты! — выдыхнула Наташка і выскачыла ўгару па сходах.

Міхал апусціўся па сценцы на падлогу, зноў закурыў. Святлана прыладкавалася побач, нырнуўшы пад яго руку.

— Жарсць да шоўку,— прамовіў ён, памаўчаўшы, скіраваўшы позірк кудысьці ўдалячынь,— прышчапіла мне настаўніца французскай у апошнім класе школы. Яна працавала ў нас першы год, адразу пасля ўнівера. Не ведаю, чаму яна выбрала мяне, але аднойчы запрасіла ў госці, назвала адрас і як даехаць. Я думаў нядоўга. Што мне губляць? Яна ж выглядала, як аднагодка. Усе хлопцы жадалі яе. Яна была ў блакітным шаўковым халаце, калі адчыніла дзверы, ды і ўся аднапакаёвая кватэра, у якой яна жыла, таксама. Я разгубіўся, а яна ўпусціла мяне і пхнула на ложак. Праз секунду я цяміў толькі целам. Потым яна пачала распавядаць гісторыю шоўку і ўсё такое, прычым пры кожнай сустрэчы, якія не замарудзілі паўтарацца, і з кожным разам усё даўжэй і часцей. Яна казала, што шоўк — адзіная тканіна, якая сама выбірае сабе ўладальніка. Абраны шоўкам чалавек — шчаслівы. Паняцці «шоўк» і «секс» для яе былі сінонімамі, паколькі ў абранае кола шоўку ўваходзяць арыстакраты і прастытуткі. Вось такая няпростая філасофія сядзела ў яе галаве. Калі мы сталі сустракацца і яшчэ доўга потым, я не ведаў, што ў яе ёсць, дакладней, быў, прыхільнік з вельмі моцных і ўплывовых людзей краіны. Я сышоў у войска, потым патрапіў па кантракце ў французскі легіён, яна да мяне прыязджала, я да яе ў адпачынак. Аднойчы я знайшоў яе мёртвай. Ёй заштурхалі ў рот шоўк. Яна задыхнулася. Адзінае, што любіла і чым захаплялася ў жыцці, яе і забіла. Я быў апошнім, каго бачылі выходзячым з яе кватэры, і тут жа абвешчаны ў вышук. Яе прыхільнік з уладных людзей забіў яе і падставіў мяне з помсты.

Не мог прабачыць, што яна яго з усімі капіталамі і ўплывам у грош не ставіла. Яна была тонкай натурай, захопленай жарсцю да шоўку, пераняўшай ад шоўку, як яна лічыла, усё, чым валодала, ад характару да сэнсу існавання свайго. Не многія маглі зразумець яе. Ды і не жадалі мозг ламаць. Забілі і вызначылі забойцу, падобнага на яе і памяшанага на кавалках анучы, ды яшчэ з баявым мінулым. Я стаў ідэальным злачынцам. Аднак своечасова вярнуўся ў легіён, служыў да заканчэння кантракта, у краіну прыехаў па падробленых дакументах. Вось такая гісторыя.

— А тут як апынуўся? — спытала Святлана. Яна нават думаць не адважвалася пра вінаватасць Міхала.

— У інтэрнэце даведаўся, што патрабуецца рэжысёр, прачытаў некалькі кніжак, набыць дыплом нічога не каштавала, і прыехаў.

— А Наташка як змагла ўведаць?

— Можа быць, наткнулася на старыя газеты. Можа быць, твой былы муж раскапаў. Зразумела адно: паўторыцца ўсё спачатку.

У гэты момант загучаў голас у гучнагаварыцелі:

— Грамадзянін Ален Чарот, ці Міхась Котаў, звяртаемся да цябе па добраму! Адпусці грамадзянку Хмель і выходзь сам з паднятымі рукамі, не вымушай ужываць зброю. У нас загад страляць на паражэнне. Паўтараю: загад страляць на паражэнне! Адпусці грамадзянку Хмель і выходзь сам! Не пагаршай становішча! Даём табе на разважанне пяць хвілін. Адлік пайшоў!..

Цішыня аглушыла і кантузіла, як бомбавы выбух зблізку. Цішыня абвіла сваімі шчупальцамі Святлану з Міхалам, як спрут, уціскаючы іх у сябе, сціскаючы і выціскаючы, як сок з апельсінаў. Цішыня забівала сваім маўчаннем і сваёй прысутнасцю павольна, як газ.

— Так цябе Аленам клічуць? — атакавала Святлана цішыню, пераадольваючы кантузію, узіраючыся

ў вочы Міхала, як у разумную кнігу, нібы спрабавала знайсці там адзіную і бясспрэчную праўду.

— Мама захаплялася творчасцю Алена Дэлона,— сумна ўсміхнуўся Міхал.— Можна сказаць, была безнадзейна закаханая ў акцёра. Менавіта па яе патрабаванні я вывучаў французскую мову. Як бачыш, спатрэбілася.

— Што будзем рабіць? — устрывожана спытала Святлана.

— Табе трэба выйсці.

— А ты? Ты ж ні ў чым не вінаваты!

— Мы не дакажам. Мы нават не дакажам тое, што ты кахаеш мяне, а я цябе.

— Але чаму?

— Таму што супраць скарыстаны метад натоўпу. Натоўп не разбіраецца ў нюансах. Яму патрэбен відовішчны вынік, пажадана, з крывёй.

— Ты так думаеш?

— Я ў гэтым упэўнены. Каб не загінуць дваім, ты павінна выйсці.

— Але я кахаю цябе.

— Падумай пра сына. Апранайся.

Міхал дастаў з сумкі, у якой прынёс касметыку, чорныя ласіны і блузку, тую, у якой была Святлана, калі яны пазнаёміліся. Тая паслухмяна апранулася.

— Выходзь,— падпіхнуў яе да сходаў Міхал.— Я — следам. Са мной нічога не здарыцца.

Святлана павольна ўзышла па сходах наверх. Прайшла па калідоры да адчыненых уваходных дзвярэй, выйшла за парог. Да яе тут жа падбеглі двое з «хуткай дапамогі», накрылі ручніком, схапілі пад рукі і адвялі з ганка ўбок. Азірнуўшыся назад і паглядзеўшы вакол, Святлана зразумела, што ў Міхала будуць страляць, што жывы ён ім не патрэбен, што ўсё даўно вырашана. Аўтаматчыкі і снайперы чакалі толькі яго з’яўлення. Яны баяліся Міхала, баяліся яго праўды, і баяліся паверыць у яе. Прасцей заплюшчыць вочы і знішчыць

гэту праўду. Каму яна патрэбна?.. А Міхал усё бліжэй да парога. Вось ён ужо спыніўся ў дзвярным праёме, трымаючы рукі за спінай. З гучнагаварыцеля загадваюць падняць яму рукі ўгару…

Святлана вырвалася з рук суправаджаючых яе і кінулася да Міхала. Прастрачыла, нібы зрабіла шво швейная машынка, аўтаматная чарга. Святлана якраз паспела павіснуць на шыі Міхала і пракрычаць: «Яны будуць страляць!», падмінаючы яго пад сябе. Імгненна Міхал зрэагаваў. Падаючы пад вагой параненай Святланы, ён развёў абедзве рукі ў бакі па пісталецe ў кожнай, дакладна і прыцэльна страляючы, ні разу не прамахнуўшыся. Не ён аб'яўляў вайну. Яму вайну навязалі.

Святлана не загінула, ратуючы каханага чалавека. Але часам ёй хацелася, каб тады яе забілі. Яна доўга ляжала ў лякарні і доўга да яе хадзілі з пракуратуры горада, вобласці, а потым і сталіцы. Аднак прыйшлі да высновы, што Святлана псіхічна нездаровая, што розум яе пакаламуціўся ад перажытых катаванняў і катаванняў, якія ў трызненні яна прымала за задавальненні, выкліканыя каханнем і ласкамі абвінавачанага. Прызначаная псіхіятрычная камісія падчас назіранняў за хворай сваім эпікрызам пацвердзіла неадэкватны стан Святланы, які нясе пагрозу, як для сябе, так і для людзей. Таму будзе лепш для ўсіх, калі яе змесцяць у псіхіятрычную клініку, што і неадкладна было зроблена.

Міхала Котава, ён жа Ален Чарот, пасля перастрэлкі не знайшлі.

Цішыня задаволена замерла, абняўшыся з вечарам на лавачцы каля дома, з якога выносілі і спальвалі шоўк. Ёй ніколі не падабаўся фетышызм, ва ўсіх яго праявах.

*2010*

# АНТЫГЕРОЙ

*Аповесць*

Я — баязлівец. Напэўна. І няўдачнік.

Праяўленне баязлівасці і слабасці для мужчыны, верагодна, не самае прыемнае, асабліва ў прысутнасці каханай дзяўчыны ці проста сяброўкі. Адчуванне поўнай бездапаможнасці ўціскае вочы ў падлогу, а галаву — у плечы. І справа не ў тым, што ты баішся біцца. Магчыма, «махач» — твой адзіны талент. Усведамленне таго, што будзе балюча, ператварае цябе ў мыш ці, хутчэй, у пацука. І хоць табе не ўсё адно, што падумае пра цябе твая спадарожніца, масты ўжо спалены. Яна бачыла, што ты спалохаўся. Ёй напляваць, адкажаш ты ці не на абразу словамі альбо кулаком. Яна заўважыла твае разгубленыя вочы, што адчайна шукаюць выйсця з сітуацыі, але не могуць знайсці. Яна чула тваё маўчанне ў адказ на пагрозы ў твой жа адрас. Ты мог бы не кідацца на злом галавы на крыўдзіцеля, каб памерці ад нажа якога-небудзь дэгенерата, які толькі што адкінуўся з «зоны» і які ненавідзіць цябе толькі за тое, што ты доўгавалосы «акулярык». Ты мог бы, не спыняючыся, паказаць суперніку «фак» і абпаліць словамі не горш за агонь, а потым схапіць спадарожніцу за руку і зматвацца дварамі, замятаючы сляды, каб вас не дагналі, апынуўшыся ж у бяспецы, упіцца ў яе вусны, абменьваючыся адрэналінам. Ты мог проста спыніцца і памерці, як мужчына, абараняючы, засланяючы сабой сваю дзяўчыну. Але ты нічога не зрабіў, а яна бачыла

твае вочы. І гэта яна засланяла цябе сабой. А ты стаяў за яе спінай, жаваў губы і маліў Бога, каб толькі не білі. Ні цябе, ні яе. Ты забыўся, што яна нічога не баялася, таму што ніколі не трапляў у такія абставіны. Паўтара гады вашых сустрэч праплылі, як беласнежныя аблокі, не азмрочаныя ніводнай, нават самай маленькай, хмаркай. І вось — такое нешанцаванне. Што яна пра цябе падумае? Як будзе ставіцца пасля?..

Канфлікту не здарылася. Яго і быць не магло.

Вераніка інсцэніравала сітуацыю, вырашыўшы праверыць, на што я здольны не толькі ў пасцелі і на словах, але і на справе, праверыць, такім чынам, годны я чалавек, каб за мяне выйсці замуж ці не.

Ніякіх разборак і высвятлення адносін не адбылося пасля. Вераніка паводзіла сябе так, нібыта нічога дрэннага не здарылася. Усё гэтак жа любіла дзікі секс і шоўк, Дастаеўскага і Майкла Джэксана, амерыканскае кіно і рускі тэатр, бэз і клубнічны пудынг з апельсінавым сокам. Верагодна, гэтак жа яна кахала і мяне, толькі я ўжо баяўся заставацца з ёй сам-насам. Мы сталі радзей сустракацца. Пад любой падставай я адмаўляўся прыязджаць да яе і знаходзіў безліч прычын, каб яна не надумалася з’явіцца ў мяне. А потым мяне размеркавалі са сталіцы на перыферыю. Вераніка, як дзекабрыстка, пачала збірацца разам са мной на новае месца. Я прапанаваў ёй не рабіць гэтага, не ламаць сабе ні жыццё, ні кар’еру, якая якраз узляцела ўгару. Не задумваючыся, Вераніка пагадзілася са мной. Пажадала шчаслівай дарогі і пырхнула на новым «Бэнтлі», падораным бацькам на дзень нараджэння, пакінуўшы мяне аднаго на пыльным і смярдзючым аўтавакзале з двума чамаданамі ў руках.

Два абавязковыя гады адпрацоўкі пасля ўнівера цягнуліся, як катаржныя работы. Сяброў у мяне ніколі не было, а з калегамі па працы я не зблізіўся: баяўся быць абавязаным, вымушаным штосьці рабіць у адказ

і ўсё такое іншае. Вераніка не тэлефанавала і не пісала. Мабыць, ёй зусім нецікава было, што са мной стала. Перастаў тэлефанаваць ёй і я. У выніку мы адно аднаго страцілі.

Неўзабаве, пасля заканчэння тэрміну размеркавання, я пасяліўся ў вёсцы, у бацькоўскай хаце, уладкаваўся ў мясцовую школу настаўнікам удзёўбваць дзецям асновы гуманітарных навук, а менавіта рускай мовы і літаратуры; набыў DVD-прайгравальнік, нядрэнны плоскі тэлевізар, які заняў месца на сцяне замест карціны, сабраў даволі вялікую калекцыю добрага кіно на дысках. І для мяне ўсё вакол перастала існаваць. Хвалявала толькі тое, што адбывалася на экране. Тое, што адбывалася за вокнамі, на вуліцы, мала цікавіла. Я нават працу ў школе закінуў. Навошта засмечваць мазгі дзецям нейкімі Пушкіным, Булгакавым, Талстым, Ясеніным, Высоцкім, Гогалем? Усё, што я ім распавядаў на ўроках, усё тое, да чаго неабходна імкнуцца сапраўднаму чалавеку, яны выкідвалі са сваіх галоў, ледзь пакінуўшы мой кабінет.

З жанчынамі я не сустракаўся. Неяк выпадкова купіў жаночы манекен іператварыў яго ў копію Веранікі. У Мінск ездзіў раз у месяц — за DVD-дыскамі і шаўковай бялізнай і адзежай для манекена, які апранаў і любаваўся ім перад сном, абдымаў, цалаваў, распранаўся дагала і прыціскаўся да бяздушнай статуі, каб адчуць далікатнае дакрананне шоўку, якое я прымаў за подых і рукі Веранікі. Забываючыся, у алкагольным ап’яненні, укладваў манекен з сабой у ложак, каб прачынацца не аднаму. Я хацеў кахання, хацеў стварыць звычайную сям’ю і жыць як усе, але вобраз Веранікі, як насланнё, праследваў паўсюль і ўсюды. Забыць яе я не мог, шукаць не адважваўся. Што я ёй скажу? Што прапаную? Ды і ці захоча яна наогул нават чуць пра мяне? Калісьці я паабяцаў Вераніцы, што да трыццаці сваіх гадоў дамагуся ўсяго магчыма-

га і немагчымага, кіну да яе ног зорнае неба з усімі галактыкамі…

Трыццаты год жыцця мінуў. І што? Баязлівы маленькі чалавек, лузер па натуры, які, аднак жа, калісьці, было такое, падаваў надзею на перспектыву ў літаратуры, не бліскае красамоўствам у багемным асяроддзі і не рассякае паветра белым «Шэўрале», на якім абяцаў катацца разам з каханай дзяўчынай. Ён затрымаўся ў невядомасці і забыцці, спалохаўшыся жыцця, атрымаўшы адзін-адзіны нават не ўдар, а падзатыльнік з яго боку. Пахаваў і сябе, і свой патэнцыял у глухамані дэградацыі, атрымліваючы асалоду ад сузірання чужога жыцця з кіно. На сваё не хапіла адвагі.

Раней я ніколі не задумваўся, дакладней, задумваўся, але адразу гнаў думкі, як прусакоў, выціскаў іх з галавы чарговай порцыяй кіно, як гной з раны, і плакаўся ў камізэльку, а дакладней, у шоўк на манекене, прыдумаўшы і пагадзіўшыся з прыдуманым, паверыўшы ў сваё рашэнне, што гэта лёс. Што мне на родзе напісана здавольвацца тым, што паказваў тэлевізар ды сурагатам кахання ў выглядзе манекена. А так карцела быць, проста быць кімсьці, каб не было пакутліва балюча разумець, што ты ніхто, і што ў гэтым вінаваты ты сам!..

Я разумеў, што магу чагосьці дамагчыся ў жыцці. Я быў упэўнены, што Вераніка была б мая, калі б не змаладушнічаў у той сітуацыі, якая першапачаткова не несла ніякай небяспекі. Але я ж не ведаў, што Вераніка папрасіла сяброў дзяцінства разыграць спектакль і справакаваць мой страх. Хоць, у выпадку сапраўднай небяспекі, дзе гарантыя таго, што я б наогул не ўцёк, пакінуўшы дзяўчыну адну з невядомасцю. Бо я ж так баюся болю. Няўжо я і напраўду такі вырадак?..

Я ж так ненавіджу баязліўцаў і розных вылюдкаў, якіх граюць мае любімыя акцёры ў маім любімым кіно! Я не магу быць падобным на іх! Я не такі! Я ж

вырас на раманах Дзюма пра мушкецёраў, дзе гонар і годнасць шанаваліся вышэй усяго! Страціць гонар лічылася горш смерці, а я не проста жыву, а атрымліваю асалоду ад жыцця, якое б яно ні было.

Я вырашыў выправіць усё. Знайсці Вераніку і растлумачыць сябе самога, хай яна выпрабуе мяне зноў. Тое, што прайшло вельмі шмат часу з дня нашай апошняй сустрэчы, мала хвалявала. І тое, што яна магла быць замужам, прычым удала, з кучай дзяцей,— таксама. На Вераніку гэта было непадобна. Яна ненавідзела дзяцей. Вядома, дзяўчына магла змяніцца ў поглядах, ператварыўшыся ў хатнюю гаспадыню, але я слаба верыў у апошняе. Вераніка мела байцоўскі характар моцнай жанчыны, у адрозненне ад мяне.

Я тэлефанаваў па ўсіх вядомых мне тэлефонах і правяраў адрасы, дзе так ці інакш маглі ведаць, што стала з Веранікай і як яе знайсці. Аднак задума правалілася. Нічога канкрэтнага я не атрымаў. Тады паехаў у Мінск, якраз трэба было прыкупіць новых фільмаў і абнавіць гардэроб манекена, каб асабіста пахадзіць па былых знаёмых, пагутарыць сам-насам і, такім чынам, сабраць інфармацыю. Але і тут не пашанцавала. Са мной альбо не хацелі размаўляць, альбо наўмысна не пазнавалі, нават паслалі некалькі разоў, альбо нагул не адчынялі дзвярэй. Я адчуваў непрытоеную грэблівасць да сябе, калі не нянавісць, але што я ім усім зрабіў такога, каб так ставіцца да мяне? Поўню ўкраў? Я ж бяскрыўдны, мірны чалавек. Мне і патрэбна ўсяго нічога…

Безумоўна, непрыязь патрапіла не ў брыво, а ў вока. Я засумаваў і не ведаў, што рабіць. Цягнучыся па праспекце, я праходзіў міма «кропак», дзе прадавалі дыскі, не спыняючыся, і буцікі з жаночай бялізнай у вітрыне не прыцягвалі ўвагі. У пошуках выйсця я не заўважаў нікога і нічога вакол, таму і дарогу пераходзіў на чырвонае святло. У выніку чаго мяне збіла машына.

Я паваліўся, але ніякага болю не адчуў і не страціў свядомасці, ды і ніякіх траўмаў не атрымаў. На ногі ж падняўся, калі кіроўца вялікага чорнага джыпа, які мяне збіў, толькі адчыніў дзверцы машыны, каб выйсці. Ім аказалася прыгожая бландзінка ў чорным латэксе, з-пад якога вытыркаўся чырвоны шоўк блузкі.

— Ты чо, казёл! — наляцела яна на мяне фурыяй.— Страх зусім страціў?!.

Яшчэ б! У мяне адняло мову.

— Ты патрапіў, урод! — шалела дзяўчына і зарадзіла мне батфортам на высокім абцасе паміж ног. Я сагнуўся ў тры пагібелі, моршчачыся ад болю і затуляючы месца, у якое патрапіў удар, аберуч. Дзяўчына ўзяла мой падбародак далонню і прыпадняла мой твар да ўзроўня сваіх вачэй.— У вочы глядзі! — загадала.— Прозвішча, імя, імя па бацьку, хутка! — Я назваў.— Месца і кім працуеш, хутка! — Я прамаўчаў. Дзяўчына адпусціла мяне і гвазданула злёгку ў сківіцу, пасля чаго вярнулася ў машыну.

Я дробнымі кароткімі крокамі перабраўся на тратуар, прыхінуўся да слупа, на якім вісеў святлафор, часта дыхаючы, каб перасіліць боль у пахвіне. Чорны джып праехаў міма, потым раптам спыніўся, ірвануў назад і спыніўся побач са мной. Апусцілася акенца на адной дзверцы. Прыемная брунетка, што сядзела побач з бландзінкай-кіроўцам, зняла чорныя сонцаахоўныя акуляры і паглядзела ў мой бок.

— Дабрыдзень, Валера! — усміхнулася яна.

— Дабрыдзень,— абыякава адказаў я.— Мы знаёмыя?

— Не пазнаў? — працягвала дзяўчына ўсміхацца.— Я так моцна змянілася?

Гэта была Вераніка. Яшчэ прыгажэйшая, чым тады, хоць і з чорнымі валасамі. Упэўненая ў сабе, як ніколі раней.

Вось я і знайшоў яе, раздушаны чарвяк. Навошта? Уявіў з сябе невядома каго! Вось і атрымаў. Хацеў мужчынам перад ёй сучасным аб'явіцца, мача, а выйшла, як звычайна. Я нават не здзівіўся, што ў машыне была яна. Заканамернасць.

— Не чую адказу,— знікла ўсмешка з твару Веранікі.

— Не,— адказаў я.— Проста не чакаў цябе ўбачыць.

— Няўжо? — не паверыла яна.— А ў мяне іншая інфармацыя. Ты ж мяне шукаеш. Навошта?

— Сам не ведаю,— цяжка ўздыхнуў і падумаў: «Не выпадкова яна мяне збіла, калі ведала, што я яе шукаю; сачыла, мабыць».

— Добра,— дастала візітоўку і працягнула мне.— Гэта на ўсякі выпадак. Увечары, гадзінічкаў у сем, падвяслоўвай да рэстарана «Патсдам», сустрэнемся, пагаворым. Выбач за наезд і ўсё астатняе. Радая цябе бачыць, дарэчы.

Акенца паднялося — і джып пакаціў.

Я яшчэ пастаяў некалькі хвілін. Закурыў. Пошукі мае завяршыліся. Я ўжо шкадаваў, што задумаў іх. Мяркуючы па ўсім, Вераніка стала вялікім чалавекам. Што нас можа звязваць зараз? Яна і сустрэцца са мной вырашыла з жалю. Хоць што я губляю ад сустрэчы з ёй? Гутарка ні да чаго не абавяжа. Ізноў накрые пустэча. А папрысутнічаць побач з прыгожай дзяўчынай, тым больш, каханай, якая ператварылася ў супершыкоўную жанчыну, нават папрысутнічаць, хопіць надоўга. І раптам усё не так, як я думаю, і мне нарэшце пашчасціць.

Рэстаран «Патсдам» знаходзіўся на рагу вуліцы за ГУМам, трэба сказаць, у вельмі выйгрышным месцы. Ад кліентаў, мяркуючы па ўсім, адбою не было. Каля

дзвярэй, як у самых дарагіх гатэлях Еўропы, мяне сустрэў швейцар, з дзяжурнай усмешкай пажадаўшы добрага вечара. Увайшоўшы ў памяшканне, я трохі разгубіўся, не ведаючы, куды мне, уласна кажучы, трэба. Паход у рэстаран я здзяйсняў упершыню, а калі жыў і вучыўся ў Мінску, абмяжоўваўся таннымі кабакамі, дзе ўсё было зразумела з першага позірку. Сваім дурным выглядам я, напэўна, прыцягнуў увагу, і да мяне падышла дзяўчына-адміністратар. Сцісла я паведаміў ёй, што ў рэстаране ў мяне прызначана сустрэча, што я прыйшоў своечасова, але зала такая велізарная, што заблукаць у ёй для мяне не складзе вялікай працы, ды і вочы разбягаюцца ад колькасці людзей не толькі ў зале, але і ў люстраных сценах.

— Калі ў вас прызначана сустрэча,— выслухала мяне дзяўчына,— значыць, павінен быць замоўлены столік. Вы самі заказвалі?

— Я? Не.

— Тады, можа быць, вы назавяце прозвішча чалавека, які замовіў столік, каб я змагла вам дапамагчы, ці падкажаце, на чыё імя столік замоўлены?

— Мяне запрасіла адна… знаёмая…

— Хутчэй за ўсё столік замовіла яна на сваё імя,— запэўніла мяне дзяўчына-адміністратар.— Вам трэба толькі паведаміць мне яе прозвішча, і я правяду вас за столік.

Я назваў прозвішча Веранікі. Дзяўчына-адміністратар, нікуды не зазіраючы, каб праверыць мае словы, адразу ж правяла мяне праз усю залу ў глыбіню рэстарана і пасадзіла на ўтульнае крэсла-канапу ў своеасаблівай нішы за разьбяны круглы столік ручной працы, пажадала добрага вечара і прыемнага апетыту, паклікала афіцыянтку і сышла. Афіцыянтка ў чорнай шаўковай міні-спадніцы і белай шаўковай блузцы, не зашпіленай, а завязанай на вузел пад грудзьмі, працягнула меню. Яна стаяла побач, пакуль я разглядаў асар-

тымент страў і кошты на іх, жахаючыся дарагоўлі, на мой погляд, абедаў і закусак, чакаючы замовы, з нудным выглядам. Разумела і без слоў, што я кліент бесперспектыўны: навошта турбаваць сябе, дапамагаючы ў выбары ежы незразумела каму?..

Я папрасіў прынесці чаю.

— І ўсё?! — На твар афіцыянткі наляпілася штосьці накшталт шоку. Яна і так была ўпэўнена, што мой кашалёк мізэрны, але не да такой жа ступені… — Добра,— пацiснула плячамі і адправілася выконваць замову.

Я ж ламаў галаву, навошта Вераніка паклікала мяне ў гэты рэстаран? Яшчэ раз зняважыць? Паздзекавацца?..

— Прывітанне! — З'явілася Вераніка ніадкуль і села насупраць, такая прыгожая, такая блізкая і такая далёкая, у чырвонай шаўковай у абліпку блузцы з двума верхнімі расшпіленымі гузікамі, з чорнымі прамымі валасамі, што падалі хвалямі на плечы.

— Прывітанне,— глуха адгукнуўся я.

— Што-небудзь замовіў ужо? — зазірала яна сваімі выразнымі ярка акрэсленымі зялёнымі, як смарагды, кашачымі вачыма ў мае, блізарукія і завузкія.

— Так,— зрабіў я няўпэўнены жэст рукой, які азначаў, што магчыма ўхіляўся ад яе погляду.

— Не магу зразумець,— сказала яна.— Штосьці не так? Табе тут не падабаецца?

— Не-не, што ты,— паспяшаўся супакоіць яе,— усё выдатна!

— Ваш чай! — грэбліва падала маю замову афіцыянтка, не ў час вярнуўшыся.— Ой,— заўважыла яна Вераніку і шчасліва заўсміхалася, быццам яе Бог пацалаваў.— Добры дзень, Вераніка Юр'еўна!

— Добры дзень, Светачка,— у адказ усміхнулася Вераніка.— Гэты чалавек,— вачамі паказала на мяне,— мой госць. Чай аднясі і прынясі, сама разумееш…

— Я мігам, Вераніка Юр'еўна! — Афіцыянтка схапіла мой чай і паспяшалася выконваць распараджэнне Веранікі.

— Спрытна ты яе,— заўважыў я, маючы на ўвазе гутарку з афіцыянткай.

— Нічога дзіўнага,— засмяялася Вераніка.— Рэстаран мой.

— Праўда?! — не верыў я.— Ты жартуеш!

— Нікольки,— перастала смяяцца Вераніка.— Я валодаю сеткай рэстаранаў,— дадала:— Гэты ж самы любімы. Тут і галоўны офіс, і афіцыянткі, якіх я асабіста адбірала. Дарэчы, кожны столік замацаваны за асобнай дзяўчынкай. Ніякая іншая не да свайго століка не мае права нават падыходзіць, не тое, што абслугоўваць. Але гэта толькі тут.

— Крута,— захоплена сказаў я.

— Ну, так што прывяло цябе да мяне? — Вераніка абаперлася на столік.— Гэтулькі гадоў прайшло!.. З чаго раптам успомніў?..

— Я і не забываў,— прамовіў, пагладзіўшы яе далонь, якая не вызвалілася, як ад пракажонага, а засталася ў маёй.

— Працягвай,— падбадзёрыла Вераніка, уважліва гледзячы мне ў вочы, імкнучыся пракрасціся ў іх, каб разабрацца самой, зразумець, навошта яна сядзіць побач са мной і чаму я яе шукаў.

— Разумееш…— Погляду я не вытрымаў і апусціў вочы.

Далонь яе завагалася ў маёй, гатовая да адступлення, але мая ўтрымала. Я падняў вочы і сустрэўся з яе вачамі, адчуваючы, што заблытваюся ў іх, як у ціне. Такіх разумных і глыбокіх вачэй я не бачыў ніколі. Яны ведалі наперад, дзе я сфальшыўлю, а дзе зманю. Не дзіва, што Вераніка мела такі поспех. З дапамогай вачэй яна рабіла цуды.

Вярнулася афіцыянтка з падносам, з якога на столік перадыслакаваліся два бакалы з віном, асарці з садавіны, шакалад, нарэзаная вяндліна.

Мы ўзялі бакалы ў рукі.

— За сустрэчу,— сказала Вераніка, зрабіла вялікі глыток, паставіла бакал на столік і закінула ў рот адламаны кавалачак шакаладу.— Я слухаю цябе,— прамовіла потым.

— Разумееш,— выпіў я віно залпам,— я доўга думаў. Я ж не такі, якім ты мяне запомніла. І я хачу даказаць табе гэта. Увесь гэты час я не пераставаў успамінаць цябе. Ні з кім мне не было так добра. Я разумею, гучыць дзіка пасля гэтулькіх гадоў, але ты мне патрэбна, Вераніка. Нікога, акрамя цябе, побач з сабой я не бачу. Заўваж, вырашыў я гэта, нічога не ведаючы ні пра цябе, ні пра тваё становішча ў грамадстве, ні пра твой бізнес. Ты патрэбна мне любая…

— У якасці каго? — перабіла Вераніка.— Жонкі? Палюбоўніцы? Сябра?

— У якасці… каханай жанчыны, вядома.

— А ты не падумаў, што ты мне можаш быць не патрэбен? — спытала яна.— Да мяне мужчыны ў чаргу выстройваюцца, і не раўня табе. Паспяховыя, багатыя, прыгожыя. Што ты мне можаш даць?

— Каханне,— проста адказаў я.

Вераніка засмяялася.

— Каханне? — скрозь смех паўтарыла яна. Потым раптам рэзка пасур'ёзнела: — Я кахала цябе. Гэта я цябе кахала, Валера! А як ты паступіў са мной? Нагадаць?

— Павер, мне вельмі сорамна. Я гатовы што заўгодна зрабіць, абы ты прабачыла мяне.

Вераніка зрабіла яшчэ адзін глыток віна.

— Добра,— задуменна прамовіла яна.— Я прабачу цябе. Але,— загадкава ўсміхнулася,— ты зараз

жа павінен будзеш стаць перада мной на калені і вылізаць, як сабачка, мае туфлі.

Я не быў гатовы да яе просьбы. І наогул не чакаў, што яна папросіць такое… Я аслупянеў і тупа ўтаропіўся на яе. Вераніка ж ізноў засмяялася.

— Расслабся, Валера! — сказала яна.— Я пажартавала. Я так жартую, разумееш? — зрабіла яшчэ глыток віна.— Калі б ты мне быў абыякавы,— раптам сказала,— я б наогул з табой не сустракалася. Я дам табе другі шанец. Уставай, паехалі!

— Куды? — не ведаў я, ці радавацца мне, ці асцерагацца чаго-небудзь.

— Туды, дзе спраўдзяцца ўсе твае мары,— таямніча прашаптала Вераніка.

Мы селі ў джып на заднюю сядушку. Вераніка строга загадала дзяўчыне-кіроўцу: «Дамоў!», тая згодна кіўнула, і машына ахвотна кранулася.

У галаву стукнула, але не віно, хоць Вераніка прапанавала яшчэ выпіць, і я пагадзіўся. Мяне п’яніла сама яе блізкасць, яна была так блізка, сядзела напаўпаварота поруч ад мяне, штосьці казала, але слоў я не разбіраў, таму што не слухаў, таращчыўся ва ўсе вочы на жаночую прыгажосць. Рука Веранікі прапаўзла па маім целе знізу ўверх, залезла пад кашулю, папярэдне расшпіліўшы некалькі верхніх гузікаў, сама Вераніка падсунулася бліжэй да мяне. Я адчуваў біццё яе сэрца, дыханне яе абпальвала мяне і зводзіла з розуму. Мае рукі ляглі на яе стан, абхапілі крыжам. Я падаўся наперад, каб мацней сціснуць Вераніку ў сваіх абдымках і зацалаваць да непрытомнасці, упэўнены ў тым, што таго ж жадае і сама Вераніка. Але яна спрытна ўхілялася ад усіх маіх пацалункаў, як баксёр-прафесіянал ад удараў суперніка, а потым і зусім спыніла на сябе напад, прычыніўшы мне рот двума пальцамі.

— Не спяшайся! — сказала яна.— Неяк непрыгожа ў машыне, не лічыш? — спытала.

— Так,— адпусціў я Вераніку і, не ведаючы, куды дзець зараз рукі, як тапелец за саломінку, схапіўся за пададзены Веранікай бакал віна.— Напэўна, ты маеш рацыю.

— Вып'ем? — прамовіла Вераніка.

— Так,— кіўнуў я, але не зрабіў і глытка. Глядзеў, як піла яна, павольна, маленькімі глыточкамі.

— Ты не расчараваны ўва мне? — раптам спытала Вераніка.

— У сэнсе? — не зусім зразумеў я пытання.

— Ну, магло так аказацца, што ты чакаў зусім не таго, што аказалася насамрэч.

— Мае чаканні пераўзышлі самі сябе. Не думаў я, што ты станеш такой прыгожай і багатай.

— Гэта можа цябе спыніць? Бо, па-мойму, ты павінен быў стаць багатым і ўсё сваё багацце кінуць да маіх ног.

— Мы рассталіся,— сумна прамовіў я.— Не было дзеля каго напружвацца.

— Ну, цяпер мы разам,— заўважыла Вераніка.— Не з'явіўся стымул здзяйсняць подзвігі?

— Пакуль не ведаю,— паціснуў я плячыма.

— Што ж ты са мной тады будзеш рабіць? — ізноў падалася да мяне Вераніка, абпальваючы п'янкім шэптам.— Вельмі хутка мы прыедзем да мяне. Асабіста я...— Яна ўзяла бакал з віном з маіх рук і паднесла да маіх губ, паіла мяне, як дзіцяня, пакуль бакал не зрабіўся пустым.— Асабіста я,— працягвала,— збіраюся цябе звязаць і адхвастаць, як памаўзлівага хлапчука, калі, вядома, ты не апярэдзіш мяне і не звяжаш першым. Толькі ў гэтым выпадку ты можаш разлічваць на поўнае маё падпарадкаванне і выкананне любых сваіх жаданняў, нават самых страшных.

Вераніка лізнула мяне ў губы і адсела да краю, склаўшы рукі на грудзях.

Я не ведаў, што рабіць і чаму верыць. Так, я прагнуў сексу з Веранікай, пастаяннай блізкасці, але потым, не цяпер. Так, як прапаноўвала сябе і паводзіла сябе яна, быць не павінна. Мы не бачыліся шмат гадоў, а рассталіся дзіўна. Я не быў гатовы да прапановы Веранікі…

— Я ведаю, пра што ты цяпер думаеш,— нібы чытаючы думкі, перабіла яна мае развагі.— Не парся асабліва. Калі пачынаеш думаць — жыць не хочацца. Усё нашмат прасцей. Гэта чыстая фізіялогія. Да таго ж — я німфаманка. На што ты здольны — я даўно забылася: жадаю папоўніць прабелы. Але ты можаш адмовіцца. Я не пакрыўджуся. У любым выпадку запрашэння да мяне ў госці ніхто не адмяняў. Пасядзім, пап’ём чайку, паглядзім кіношку, успомнім, так бы мовіць, маладосць…

— Навошта ты так? — Узяў я Вераніку за руку.

— Добра, прабач,— ізноў заўсміхалася дзяўчына.— Усё добра! — Пагладзіла мяне па валасах.

Машына спынілася.

— Прыехалі,— сказала Вераніка, адчыняючы дзверцы. Яна адпусціла кіроўцу, дамовіўшыся пра прызначаны час на заўтра, прасунула сваю руку пад маю і павяла за сабой да пад’езда элітнага дзевяціпавярховіка элітнага раёна сталіцы. Менавіта ў гэтым доме мы з ёй калісьці і марылі жыць. Праходзілі міма, заўсёды спыняліся, выбіралі вокны, якія належалі «нашай» кватэры. Мара Веранікі спраўдзілася.

У вялікі і прасторны ліфт з адной люстраной сцяной мы ўвайшлі не адны. Адразу за намі ўбеглі трое: лысагаловыя, у скураных куртках, спартовыя. Я адчуў штосьці нядобрае ў іх з’яўленні, але Вераніка заставалася спакойнай, не звяртаючы на выпадковых спадарожнікаў ніякай увагі, тулілася да мяне. Я падумаў, што накручваю сябе дарма: элітны ж раён, што тут можа здарыцца?..

Выйшлі ўсе разам.

Мяне моцна штурханулі наперад. Я спатыкнуўся і расцягнуўся на халоднай бетоннай падлозе пляцоўкі, раздрапаўшы далоні ў кроў пры падзенні. Калі падняўся — убачыў, што адзін з лысагаловых трымае Вераніку за шыю, прыставіўшы да яе горла нож. Двое астатніх накіроўваліся да мяне. Спалоханы твар Веранікі крычаў аб дапамозе. З вачэй пакаціліся слёзы, пакідаючы чорныя палосы размоклай касметыкі.

Я застыў на месцы, не ў сілах варухнуцца. Гэта паўтаралася зноў. І зноў цела мне не падпарадкоўвалася. Я глядзеў на Вераніку з тым жа вінаватым позіркам, каб яна прабачыла мяне.

— Грошы на бочку! — Трасянуў мяне адзін лысагаловы.— Ці мы ёй горла перарэжам!

— У мяне… — ледзь варочаючы языком, усё гэтак жа нерухома, выдушыў я з сябе.

— Чо? — крыкнуў мне ў вуха лысагаловы.— Не чую! Чо ты мямліш там, дэбіл? Грошы гані!

Для пераканаўчасці таго, што становішча вельмі сур'ёзнае, нож да горла Веранікі прыціснулі мацней, з'явілася кроў. Я ж атрымаў кулаком у сонечнае спляценне і сагнуўся напалам. Да мяне нагнуўся той жа лысагаловы і зноў загарлапаніў у вуха:

— Калі ты яшчэ не зразумеў, казёл, мы тут не жартуем. Знішчым і кралю тваю, і цябе на раз!

— У мяне… — ізноў выдушыў я,— няма грошай.

— А ў каго ёсць?

— У яе,— поглядам паказаў я на Вераніку.

Тут жа адчуў палёгку. Цела зноў падпарадкоўвалася мне. Я адапхнуў таго, што нахіліўся да мяне і рвануў з усіх ног уніз па лесвіцы. Аднак ля пад'ездных дзвярэй сустрэў яшчэ дваіх лысагаловых, якія мяне схапілі, заламалі рукі і ўпіхнулі ў ліфт, не забыўшыся ўвайсці следам.

Вывалаклі мяне на тым паверсе, з якога я збег, дзе мяне чакала Вераніка. Прыхінуўшыся да падаконня,

яна нервова курыла. Лысагаловы, які яе параніў, асцярожна выціраў хустачкай кроў з яе шыі.

— Не хвалюйцеся, Вераніка Юр'еўна,— казаў ён,— ніякіх слядоў гвалту на вашай шыйцы не застанецца.

— Дзякуй, Багдан! — прамовіла яна.

Мяне паставілі перад Веранікай на калені, задралі галаву за валасы, каб я не апускаў вочы, а глядзеў на яе.

Вераніка дакурыла, села побач са мной на кукішкі, пагладзіла па шчоках.

— А як усё добра пачыналася,— сказала.— Ты зноў усё сапсаваў. Упусціў апошні шанец, апошнюю магчымасць застацца мужчынам. Шкада мне цябе, Валера, хоць ты і баба!

Вераніка паднялася і звярнулася да лысагаловых:

— Не біце яго, хлопцы! Няхай валіць туды, адкуль зваліўся. Рукі не брудзьце.

Мне выклікалі ліфт і ўпіхнулі ў яго. Адпусцілі. А я гатовы быў зямлю грызці, каб усё вярнуць і выправіць. Я павярнуў назад, але спыніўся на паўдарозе. Што я мог сказаць? Як апраўдацца? Усе ж усё бачылі! Аднак, калі глядзець з іншага боку, ніякая небяспека Веранікі не пагражала, можа быць, таму ўсё так са мной адбывалася. Была б пагроза рэальнай, я б не спалохаўся… Смешна і сумна. Каго я супакойваю? Мабыць, я сапраўды лузер, якіх яшчэ пашукаць, самы маленькі і нікчэмны чалавечак і ў прамым, і ў пераносным сэнсе.

Толькі ў электрычцы, якая везла мяне туды, куды я не хацеў і хацеў адначасова, я ўспомніў, што не купіў ніводнага новага фільма. Пераглядаць я не любіў, хоць некаторыя пераглядаў. У прыватнасці, «Аднойчы ў Амерыцы» з Робертам Дэ Ніра, сагу пра д'Артаньяна з Міхаілам Баярскім, «Матрыцу» з Кіану Рыўзам і «Малену» з Монікай Белучы. Не пераглядаць жа іх ізноў!..

Мяне ані не мучылі згрызоты сумлення наконт Веранікі, пакуль я не ўліў у сябе значнай кандыцыі алкаголю. Трэба было камусьці выгаварыцца, даказаць камусьці рэальнаму, што ненаўмысна я такі няўдалы. Я прагну кахання, прагну кахання Веранікі, хачу, каб яна апранула тое, у што я апранаў манекен, гэта ж першапачаткова для яе набыта; хачу прыціскацца да яе, абдымаць яе і цалаваць, лашчыць ды так, каб яна не толькі салодка енчыла, але і крычала ад задавальнення, патрапіўшы на сёмае неба…

Як хацеў я…

Таму вызваніў суседку, бясплатную, так бы мовіць, давалку, якая да мяне няроўна дыхала, зрэшты, як і да ўсіх астатніх, у каго ў портках што-небудзь варушылася. Яна пагадзілася скласці мне кампанію ў спажыванні таго, што засталося, і ўсмактаць у сябе ўсю маю п’яную гаворку, як губка.

Яна сядзела насупраць у маёй гасцінай за сталом, які стаяў пасярод пакоя, такая блізкая і такая даступная, не прыгажуня і не страшная. Штосьці ў ёй было такое, ад чаго мясцовая мужыцкая брацiя зляталася і ліпла да яе, як мухі на ліпучку. Яна і не працавала нідзе ніколі, наколькі я памятаю, а апраналася і выглядала не горш сталічных модніц. Мы з ёй за адной партай у школе адпіянерылі ўсе адзінаццаць гадоў. Можа быць, таму яна мне ні разу не адмовіла. Па старой памяці. І ў Мінск не з’ехала. Дзіўна. Але пытанняў я ёй ніякіх не задаваў. Пакрыўдзіцца яшчэ. Яна глядзела на мяне і ўсміхалася. Усмешка ў яе была нейкая светлая, ці што, не такая, як у Веранікі, шчырая, сапраўдная, не сапсаваная штучным апладненнем сілікону і жыццёвым досведам, што накладаюць асаблівы адбітак, як марка паспяховай фірмы.

Яна сядзела, глядзела на мяне і ўсміхалася.

— Што ты лыбішся, дзяўчынка? — сказаў я, не спытаў, і, хутчэй, сабе самому.

— Станіўся ты, Валера,— усё ж адказала яна.

— Станіўся,— кіўнуў я, згаджаючыся.— Усё, што не зраблю, не збяру па макулінках, рассыпаецца, як картачны дамок. Напэўна, рукі не адтуль растуць. Не, адтуль. Усё, як ва ўсіх, як у цябе, як у Веранікі.— Адзін толькі гук яе імя выклікаў немы стогн з маёй глоткі, з вачэй пацяклі слёзы.— Падла я, Люба (так клікалі маю аднакласніцу-суседку), а нічога з гэтым не магу парабіць,— усхліпнуўшы, вымавіў я.— Двойчы наступіў на тыя ж граблі, спужаўся, як апошні ніхто. Яна, напэўна, зараз мяне і за чалавека не лічыць. А я так хацеў паказаць сёння, які я герой і рыцар, каб яна зразумела, што толькі я ёй патрэбен і больш ніхто. Паказаў. Зараз з гэтым трэба неяк існаваць. Існаваць, разумееш? Я ж не павесіўся толькі таму, не зарэзаўся, не ўтапіўся, не застрэліўся, што суцяшэнне знайшоў у кіно. Хаця б у кіно, хаця б пару гадзін, атрымліваў асалоду ад жыцця. Так, прыдуманага, так, несапраўднага, але цікавага, поўнага прыгод і кахання, напоўненага сэнсам і смагай жыцця, якога ў мяне няма, якога я пазбаўлены. А я ж так прагну жыць таксама! Здзяйсняць подзвігі, прысвячаць вершы каханай жанчыне… а не атрымліваецца. У мяне атрымліваецца толькі добра глядзець кіно, удумліва і ўважліва. Я вельмі добры глядач, Люба. Гэтакі сузіральнік рэальнага нерэальнага, бездапаможны ў рэчаіснасці. Вось ты, Люба, любіш глядзець кіно?

— Табе, Валера, на працу трэба ўладкавацца,— ашаламіла раптам суседка,— цяжкую, фізічную, каб думаць не было калі. Усе твае думкі ад гультайства. І беды так званыя.

— Пачакай, пачакай,— спрабаваў я ўлавіць, куды яна хіліць.— Але ты ж не працуеш! — асяніла мяне.

— Памыляешся, Валера,— ізноў здзівіла Люба.— Я сваім целам зарабляю, можна сказаць, каханнем. І на думкі ўсялякія часу няма, ды і на кіно таксама.

У мяне жыццё, Валера, круцейшае за любое кіно. Насычанае і цікавае. З пагонямі, адданасцю, здрадай і ўласнай драматургіяй.

— Праўда?! — працягваў я дзівіцца.— Вось бы не падумаў ніколі. Я ж не плаціў табе ніколі! — выпаліў.

— Калі ты не плаціў,— прагучаў услед адказ,— не значыць, што і іншыя не плацілі таксама.

Яна ўстала з-за стала.

— Ты куды? — спалохаўся я, што Люба сыдзе і я застануся ў адзіноце.

— Нікуды,— падышла яна да мяне.— Табе адпачыць трэба. Давай абапрыся на мяне, у ложачак пойдзем, баінькі.

— Я не хачу баінькі, Люба,— закапрызіў я.

— Хочаш-хочаш.— Падняла мяне Люба на ногі, абхапіла за стан, а адну маю руку перакінула сабе на плячо.— Давай паволі патупаем у спаленку.

— А ты са мной застанешся? — ледзь перасоўваючы ногі, абапіраючыся на суседку, пацікавіўся.

— Застануся,— паабяцала яна.

Вельмі хутка мы апынуліся ў спальні. Люба сарвала покрыва з ложка і коўдру, потым адпусціла мяне. Я паваліўся тварам у падушку, але ногі забыўся дзесьці на падлозе. Іх неўзабаве падабрала Люба і закінула на ложак, пасля чаго мяне распранула і накрыла коўдрай.

— Толькі не сыходзь! — умольна праенчыў я, схапіўшы яе за руку. Але Люба на мяне не глядзела. Позірк яе ўвесь час, што мы знаходзіліся ў спальні, касіўся на манекен, які красаваўся ў спальным камплекце, што складаўся з шорцікаў і маечкі з чырвонага атласу. Люба ведала пра манекен, але ніколі яго не бачыла, таму што ніколі не заставалася ў мяне нанач і ў спальні была ўпершыню. Гэта я заставаўся ў яе. Як усякая жанчына, убачыўшы прыгожую шмотку, яна захацела яе займець.

— А што мне за гэта будзе? — Прысела Люба на кукішкі каля ложка побач з маім тварам, апякаючы гарачым подыхам і цікаўнасцю.

— А што ты хочаш? — спытаў я.

— Распрануць твой манекен,— адважна, не задумваючыся, адказала Люба.

— Распранай,— пагадзіўся я,— толькі не пакідай Вераніку голай.

— Так гэта Вераніка? — Падышла Люба да манекена.

— Ну, так.

— Добра.

Люба зняла з сябе ўсю адзежу, потым з манекена, апранулася ў абноўку, а на манекен нацягнула сваю бялізну, кінулася да люстэрка ў калідор, пакруцілася там, засталася задаволенай і вярнулася да мяне.

— Падабаецца? — спытаў я.

— Вельмі,— прашаптала Люба, пералазячы праз мяне на ложку да сценкі.

Я павярнуўся тварам да яе. Мы ляжалі вочы ў вочы. Мая рука лягла ёй на грудзі. Люба прыбрала руку.

— Давай дамовімся так,— прашаптала рот у рот.— Ніякага п’янага сексу! Але я магу легчы табе на грудзіну, а ты мяне будзеш пагладжваць. Я пачытаю табе вершы на памяць, і ты хуценька заснеш. Ідзе?

— Не ідзе,— не спадабалася мне Любіна прапанова.

— Не капрызь.— Пацалавала яна мяне.— Кладзіся на спіну.

Я падпарадкаваўся. Люба ўткнулася носікам мне ў падбародак, абняла за шыю, перапляла ногі з маімі нагамі і стала нашэптваць паэзію Ахматавай. Яшчэ са школы яна памятала неверагодную колькасць вершаў. Я хутка і ціха заснуў.

Сярод ночы нас пабудзіў гучны настойліва-патрабавальны і бесперапынны грук у дзверы. Я тузануўся было падняцца і пайсці да дзвярэй, але Люба мяне апярэдзіла.

— Супакойся,— сказала яна,— а лепш спі, я сама адчыню. Хутчэй за ўсё, гэта да мяне.

Яна пералезла праз мяне і саскочыла з ложка, зашлёпала босымі нагамі па калідоры, ён даволі даўгаваты, уключыла святло, адчыніла дзверы, не спытаўшы, хто там.

— Валера дома? — спытаў жаночы голас.

— Вы хто? — гэта Люба адказала пытаннем на пытанне.

— А сама ты хто? — ноткі незнаёмага жаночага голасу звінелі халоднай сталлю.

Люба, мабыць, хацела штосьці сказаць у адказ, але хтосьці ёй не дазволіў. Пачуўся гук некалькіх удараў, а затым гук асядаючага па сценцы цела. Па падлозе зацокалі некалькі пар абцасаў, і ў спальні загарэлася электрычнасць. З мяне сарвалі коўдру, а мае лыпаючыя вочы, што заслязіліся ад раптоўна ўключанага святла, утаропіліся на трох плацінавых бландзінак у латэксе, што абступілі ложак, на якім я ляжаў паўколам.

— Я не зразумеў… — вырвалася ў мяне.

— Цяпер зразумееш.— На крэсла побач з ложкам, змахнуўшы ўсе рэчы, што ляжалі і віселі на ім, уселася… Вераніка?! Яе таксама абліпаў латэкс. І ўсе яны былі падобныя на супергёрлз з галівудскага хорару.— Сядзь! — загадала яна.

Я звесіў ногі з ложка.

— Што адбываецца? — здзіўляўся я.— Што ты тут робіш?..

— Ці бачыш, Валера,— Вераніка нахілілася блізка да майго твару, ледзь не нос да носу,— ты не апраўдаў чаканняў. Не выправіў памылак, хоць шанец

у цябе быў, і немалы. Ты нікчэмны і нікому не патрэбны хлам, які не прыносіць карысці ні грамадству, ні сабе, ні каму б там ні было наогул. Ты паганіш усім сваім выглядам прызначэнне мужчыны. Ты — смецце, Валера, а я смяцяр, які гэтае смецце знішчае…

— Што за трызненне ты нясеш? — перабіў я дзяўчыну.— Зусім ужо ад грошай дах паехаў?

— Слухай сюды, урод! — спрытна сціснула мне кадык Вераніка двума пальцамі, я стаў задыхацца.— Ніхто тут з табой не жартуе. Ты — прышч на твары грамадства, і я цябе раздушу, не задумваючыся, але ў цябе ёсць выбар. Або ты памрэш сёння, або падпішаш кантракт.

— Які кантракт? — захрыпеў я.— З чаго гэта мне паміраць?..

Вераніка адпусціла мяне, я закашляўся, трымаючыся за горла, як за самую каштоўную рэч у свеце. Мая каханая дзяўчына зрабіла нейкі знак адной з бландзінак. Тая на некалькі секунд выйшла з пакоя, а з’явілася, цягнучы па падлозе за валасы Любу. Нерухомае цела яе кінула мне пад ногі. У яе была зламана шыя, галава апынулася тварам там, дзе павінна быць патыліца. Убачыўшы гэта, я падкурчыў пад сябе ногі, а потым і наогул забраўся з нагамі на ложак.

— Ты памрэш хораша і рамантычна,— сказала Вераніка.— Ад удушша шаўковага багацця. Загорнуты ў некалькі метраў тканіны і перавязаны атласнымі стужачкамі, як немаўля.

Нібы ў доказ яе слоў, тая ж бландзінка, якая прывалакла мёртвую Любу, ізноў выйшла і хутка вярнулася, акуратна паклала на ложак рулон зялёнага шоўку.

— Ёсць магчымасць пазбегнуць смерці,— працягвала Вераніка,— але толькі ў тым выпадку, калі ты падпішаш дамову на сваё бестэрміновае выкарыстанне ў якасці бязмоўнага выканаўцы любой волі твайго гаспадара.

— Гэта рабства, ці што? — не верыў я ні сваім вушам, ні вачам.

— Называй, як заўгодна,— адказала Вераніка.— Вось папера і ручка,— працягнула мне чырвоную шарыкавую ручку,— падпісвай!

— Гэта што, розыгрыш нейкі? — Правёў я рукой па твары.— Мяне ўтоенай камерай здымаюць?..

— Ды каму ты патрэбен! — выдала актыўная бландзінка.— Вырашай хутчэй! І так з табой няньчымся!

— Гэта трызненне нейкае!..— паўтараў я, не зважаючы на працягнутую руку з шарыкавай ручкай.

— Апрацуйце яго,— паднялася Вераніка з крэсла,— толькі не моцна.— Закурыла і выйшла ў калідор, затым на вуліцу.

Мяне сцягнулі з ложка на падлогу. Білі ўмела і дасведчана, так, каб было балюча, але па магчымасці бясшкодна для арганізма. А я боль не пераносіў, не было ў мяне цярпення і цягавітасці. На вайне мяне або забілі б адным з першых, або я выжыў бы, стаўшы здраднікам, але потым мяне ўсё адно б забілі. Я закрычаў, каб пінаць перасталі, што я ўсё падпішу, толькі біць больш не трэба.

Бландзінкі, як па камандзе, адышлі, ізноў стаўшы вакол мяне паўколам. Прыйшла Вераніка, схілілася нада мной.

— На каго ты падобны, Валера! — сказала яна.— Мне нават шкадаваць цябе агідна. Мужчына называецца. Падпісвай.— Працягнула шарыкавую ручку і паказала, дзе паставіць подпіс. Я ўсё падпісаў.— Зараз уставай! — загадала, перадаючы паперы і шарыкавую ручку адной з бландзінак.— Распранайся!

— Я ж і так распрануты,— запярэчыў я.

— Маўчаць! — Атрымаў я аплявуху.— Распрануты недастаткова. Распранайся!

Я падпарадкаваўся.

— Апранайся! — Кінула мне ў твар Вераніка поліэтыленавы пакет з нейкай адзежай. Гэта была чорная шаўковая піжама з каптуром.

— Спінай павярніся! — загадала Вераніка пасля таго, як я пераапрануўся, звязала мне рукі.— Пайшоў на выхад!

Яна наблізілася да манекена, дакладнай сваёй копіі, уважліва паглядзела на ляльку, дастала цыгарэту, шоргнула запалкай, паднесла да парыка на галаве манекена, затым да цыгарэты.

Манекен запалаў.

Мяне выштурхнулі на вуліцу, дзе яшчэ адна бландзінка аблівала хату бензінам, падвялі да джыпа.

Хутка ўсе дзяўчаты апынуліся каля машыны. У салон ніхто не заходзіў, пакуль не пераканаліся, што хата згарыць.

— Цябе больш няма,— сказала Вераніка і нацягнула мне на галаву каптур, перацягнуўшы на шыі яго атласнай стужачкай, пасля чаго ўпіхнула ў машыну.

Калі джып крануўся, я стаяў у яго салоне на каленях, а галава была заціснута паміж ног Веранікі.

Бландзінкі ўсю дарогу смяяліся, успаміналі сваіх кавалераў, захапляліся іх сілай і адвагай, шчодрасцю і нястомнасцю ў пасцелі. Вераніка маўчала. Рука яе ляжала на маёй галаве, часам пагладжваючы патыліцу. А я ламаў мозг у разважаннях, што адбылося і як такое магло наогул адбывацца? Ці ў секту якую патрапіла Вераніка, ці масонскія ложы аднавілі сваю дзейнасць, у адну з якіх дзяўчыну собіла трапіць? У тое, што я сам вінаваты, што менавіта я асабіста справакаваў Вераніку на падобныя дзеянні, тады я не верыў, у мяне і думак не ўзнікала пра ўласнае дачыненне да новай рэчаіснасці. Я ж бяскрыўдны чалавек, каму я зрабіў штосьці дрэннае? Але і нічога добрага — таксама. Любу толькі шкада.

Ехалі досыць доўга. Калі спыніліся, мяне выштурхалі з машыны. Паколькі ногі зацяклі, знаходзячыся доўгі час у аднолькавым становішчы, я зваліўся балазе на траву, а не на асфальт. Разбіў бы не толькі калені, але і нос. Каптур з мяне знялі, і вочы сустрэліся з яркім сонечным днём, пярэстым ад зеляніны вакол.

Я апынуўся перад барачнага выгляду жылым будынкам з трыма ўваходамі, адгароджаных адзін ад аднаго напаўгнілым плотам. Ля аднаго ўвахода і дзверы згнілі, пакінуўшы адну назву ад дзвярэй, і дах пакрывіўся. Прама насупраць, у пяці кроках ад гэтага ўвахода, стаяў драўляны сарцір, такі ж гнілы, як дзверы, і які развальваўся на вачах.

За спінай пахла хлебам. Я азірнуўся і ўбачыў будынак пякарні, а крыху наводдаль, справа, тры смеццевых паўпарожніх кантэйнеры. Прывезлі мяне, мяркуючы па ўсім, у нейкі малавядомы, сціплы гарадок, якога магло нават і на геаграфічнай карце не быць.

Вераніка пхнула нагой такую ж, як сарцір, які развальваўся, брамку, што вісела шмаццём на завесах, ведучы за сабой астатніх разам са мной у глыб двара, здзірванелага, спынілася каля іншай, жалезнай брамкі, перахопленай тоўстым дротам, зняла дрот, адчыніла брамку насцеж, прапусціла мяне і бландзінак наперад, зачыніла брамку.

Аркавы звод увахода ў будынак, у які мы ўвайшлі, не змяняўся і ў сярэдзіне памяшкання, які складаўся з двух пакояў, кухні і доўгага калідора. Прычым калідор праходзіў суцэльнай лініяй, якая канчалася вялікай залай, а пакоі мясціліся злева ад яго. У гэтую залу з двума задрапаванымі вокнамі мяне і прывялі. Тут стаяла сценная шафа, напалову са шкла, канапа, тэлевізар, стол, некалькі крэслаў, абабітых чырвоным шоўкам, голая падлога аж успудзілася ад волкасці. Хутчэй за ўсё ў доме не жылі, выкарыстоўвалі, як перавалачны пункт.

Мне развязалі рукі, загадалі распрануцца, пасадзілі на крэсла. Адна з бландзінак узяла са стала філіровачную машынку і агаліла мне галаву. Гэтак жа з майго цела часова выдалілі ўсю расліннасць, ад брывоў на твары да валасінак на пальцах ног. Поўную эпіляцыю мне давядзецца прайсці крыху пазней. Пасля гэтага вывелі на вуліцу, завялі ў прастакутны цагляны будынак, што нагадваў пенал, якраз разлічаны на сярэдні рост чалавека, каб паліваць са шланга вадой, папярэдне ўсунуўшы ў руку мыла.

Трэба сказаць, памыўся я з задавальненнем, хоць і з нязручнасцю, пазбавіўшыся такім чынам ад апошніх абдоймаў алкаголю. У галаве перастала звінець і не хацелася піць, а цікавасць да таго, што адбывалася, наадварот, набірала абароты, прымушаючы адчуваць сябе героем кіно, як я думаў.

Выключыўшы ваду і пераканаўшыся, што на мне няма больш ніводнай валасінкі і ні кроплі бруду, бландзінкі ўзнагародзілі мяне ручніком і правялі назад у дом.

Вераніка сядзела за сталом і запаўняла нейкія паперы, на маё вяртанне ніяк не прарэагавала.

Я выцерся дасуха, і ручнік забралі. Працягнулі такую ж самую піжаму, у якой я быў, толькі новую, пачакалі, пакуль апрануся, і зноў звязалі рукі за спінай. Пасадзілі на крэсла, прывязалі ногі да ножак крэсла, на шыі зацягнулі пятлю і прымацавалі да спінкі крэсла.

Вераніка адарвалася ад папер і павярнулася да мяне.

— Зараз ты будзеш жыць тут,— сказала.

— Менавіта тут? — спытаў я.

— Не зусім,— адказала Вераніка.— Я мела на ўвазе месца.

— І як яно завецца? — пацікавіўся я.

— Табе гэта ведаць неабавязкова,— запэўніла Вераніка.— Ты забыўся, што цябе няма? Шукаць цябе ніхто не будзе, нават калі менты зразумеюць, што труп у згарэлай хаце не твой.

— І што са мной будзе? — спытаў я.

— Ты ж усё добраахвотна падпісаў,— заўважыла Вераніка.— У кантракце ўсё падрабязна напісана. Трэба было спачатку азнаёміцца з ім, перш чым падпісваць. А будзе з табой тое, што ты падпісаў, з усімі вынікаючымі.

У дзверы пазванілі. Адна з бландзінак пайшла адчыняць і вярнулася з не старой яшчэ і даволі прывабнай жанчынай з меліраванымі валасамі, у белай абцягваючай футболцы з малюнкам Мікі Маўса на грудзях і ў джынсах. Прагным поглядам драпежніцы яна сфатаграфавала мяне, застаўшыся задаволенай, павярнулася да Веранікі, якая тут жа падсунула ёй загадзя прыгатаваныя паперы. Жанчына ахвотна падпісала там, дзе патрабавалася, падышла да мяне, каб разглядзець бліжэй.

— Як клічуць? — спытала.

— Валерый,— адказаў я.

— Колькі гадоў?

— Трыццаць.

— Жанаты?

— Не.

— Прыцягваўся?

— Не.

— Шкодныя звычкі?..

— Куру, выпіваю…

— Словам, як усе,— перабіла мяне жанчына.— Мазахіст? — раптам спытала.

— Не зразумеў,— адказаў я.

— Значыць, будзеш,— аж задрыжала ад салодкага прадчування жанчына.

Вераніка зрабіла нейкі знак сваім бландзінкам, і тыя адцягнулі ад мяне жанчыну, ужо гатовую кінуцца на мяне і разарваць на часткі.

— У вас строга прызначаны час,— сказала Вераніка жанчыне.— Калі будзеце сваволіць — угоды не будзе,— папярэдзіла.

— Так-так, я разумею,— згоднаківала жанчына, пажыраючы мяне вачамі. Яна ўзяла сумку, якую трымала адна з бландзінак, дастала з яе даволі тоўсты пачак грошай, перацягнуты гумкай, аддала Вераніцы і накіравалася да выхаду. Бландзінкі яе праводзілі.

Вераніка схавала грошы ў стол, адвязала мяне ад крэсла.

— Пайшлі! — пхнула наперад.

— Куды? — мімаволі вырвалася ў мяне.

— Убачыш,— адказала Вераніка.

Яна адчыніла дзверы ў пакой, у якім, апрача шырокага ложка, нічога больш не было, не было і вокнаў, рухам калена адсунула ложак, пад якім выявіўся ўваход у склеп, зачынены вечкам, як ад студні. Вераніка двойчы стукнула нагой па ёй, і вечка быццам правалілася, верагодна, спрацаваў нейкі механізм ці хтосьці, хто гэтым механізмам кіруе.

— Спускайся! — загадала яна.

Па вельмі зручных сходах мы спусціліся ў склеп, глыбінёй з калодзеж, апынуўшыся перад жалезнымі дзвярамі з ручным кальцом. Вераніка ўзялася за кальцо і некалькі разоў стукнула ім па дзвярах. Праз некалькі секунд дзверы адчыніліся, і нас сустрэлі дзве бландзінкі, якія ахоўвалі, мабыць, уваход. Вераніка аддала ім паперы. Адна з бландзінак патэлефанавала па тэлефоне, што знаходзіўся на стале, за якім сядзелі, гартаючы глянцавыя часопісы, дзяўчаты, а я разглядаў месца, у якім апынуўся.

Гэта быў доўгі калідор, ярка асветлены, з жалезнымі дзвярамі па баках, размешчанымі з дакладным інтэрвалам адны ад іншых. І было падобным усё гэта на каземат.

З глыбіні калідора, пераваливаючыся з нагі на нагу, плыла нейкая постаць, сваёй тушай займаючы ўсю прастору. Яна штосьці жавала і адрыгвала на хаду, боўтаючы ў паветры пасакам шаўковага доўгага шэрага халата.

— Прымай, Рыгораўна! — Падпіхнулі мяне да тушы тлушчу і сала, што называлася жанчынай, калі тая наблізілася да нас упрытык.

— Куды яго? — Рыгораўна схапіла мяне за шыю ззаду і сціснула яе мядзведжай хваткай.

— У трынаццатую,— адказала Вераніка.

— Ён у нас VIP? — удакладніла Рыгораўна.

— Тыпу таго,— прагучаў адказ.

Рыгораўна развярнулася на 180 градусаў разам са мной і, выкарыстоўваючы мяне замест сродку апоры, рушыла назад.

Мы спыніліся каля жалезных дзвярэй у сярэдзіне калідора. Рыгораўна стукнула па іх адзін раз кулаком, дзверы адчыніла бландзінка ў вобразе пакаёўкі, акінула мяне ацэньваючым позіркам, падсунула да парога таз з вадой, загадала вымыць ногі, што я і зрабіў. Пасля правядзення неабходнай працэдуры, дзверы зачыніліся, аддаліўшы калідор і Рыгораўну ад мяне, пакінуўшы сам-насам з «пакаёўкай».

Я застаўся ў даволі ўтульным пярэднім пакоі з яшчэ трыма дзвярамі, апроч уваходных. Адны з іх, па правую маю руку, «пакаёўка» адчыніла і рукой запрасіла перакрочыць парог новага для мяне жылля. Як толькі я апынуўся за парогам, дзверы зачыніліся.

Гэта быў вельмі кампактны пакойчык з выгляду. Сцены абабіты блакітным шоўкам, падлога выслана таксама блакітным. У адным куце — вялікі ложак з чырвонай шаўковай пасцеллю і з разьбянымі слупамі замест спінак, у іншым — featured рознакаліберныя ланцугі з наручнікамі, дубцы, дубінкі, што віселі на сцяне. Больш нічога.

Я прысеў на ложак і задумаўся.

З майго боку за ўвесь час не было здзейснена ні намёку на супраціў, ні нават думкі пра ўцёкі. Мяне ўсё задавальняла, наколькі я разумеў, змірыўшыся з уласнай доляй, тым больш што ніякай пагрозай для жыцця пакуль і не пахла. Ды і як супраціўіцца быццам бы магнетычным вачам бясконцых бландзінак, прыгожых,

упэўненых у сабе, але аднолькавых?.. Стоп! Праўда што! Усе дзяўчаты падобныя адна на адну, як сёстры-двайняты ці клоны. Ні страху, ні жалю, ніякіх наогул эмоцый яны не вылучалі, нібы канвеерныя, за выключэннем дзвюх-трох. Так, яны нагадвалі машыны, а не людзей, і нейкім чынам паралізоўвалі волю сваіх ахвяр, прынамсі, я так адчуваў. Хутчэй за ўсё, што я не першы і не апошні ў іх спісе: дзвярэй у склепе досыць, не выключана, што за імі ўтрымліваюцца такія ж, як я, несапраўдныя мужчыны.

Я не ведаў дакладна, але здагадваўся, што са мной адбудзецца ў бліжэйшым будучым. Дык вось як Вераніка зарабіла капітал, за кошт несправядліва пакрыўджаных і зняважаных жанчын, для якіх у гэтым падзямеллі наладжвала штосьці накшталт матча-рэванша, даючы дабро на катаванні і здзекаванні ўбогім над убогімі. Са сваімі паўчалавекамі-паўмашынамі блондзі Вераніка вылічвала падыходзячыя кандыдатуры мужчынскай асобіны, выкрадала іх і проста тупа рабіла на іх грошы. Цікава, як даўно яна гэтым зарабляе і адкуль цэлае войска дзяўчат з мёртвымі вачамі ў яе ў падначаленні? Ды і месца адкуль узялося?..

Вядома, я мог памыляцца, спаслацца на багатае ўяўленне, што разгулялася ў замкнёнай прасторы. Яно магло ўзнікнуць ад страху, таму што схільнасць да гэтага пачуцця ў мяне была вялікая. Але пераканацца ў зваротным давялося ўжо праз некалькі гадзін, калі дзверы адчыніліся і ў пакойчык увайшла тая мелiраваная жанчына, але ўжо не ў сімпатычнай футболцы з Мікі Маўсам на грудзях, а, як у латы, закаваная ў латэкс, у суправаджэнні «пакаёўкі», якая, мабыць, была прымацавана да пакойчыка і адказвала за ўсё тут і за мяне ў тым ліку перад Веранікай, як тая афіцыянтка ў яе рэстаране за столік.

На мяне пасыпаўся град udaраў. Моцных, рэзкіх, рэжучых. Меліраваная жанчына спускала ўвесь свой

гнеў, выкліканы мужчынам, які яе калісьці пакрыўдзіў, на мяне. Аднак я не крычаў, як, відаць, меркавалася, не енчыў, не скавытаў, не ныў, не маліў спыніцца і пашкадаваць, хоць было вельмі балюча, а боль я не мог пераносіць. Ува мне штосьці такое прачнулася, чаго я не разумеў і не мог растлумачыць, прынамсі, цяпер. А яна ўсё хвастала і хвастала, пыхкала і задыхвалася ад нянавісці і прыкрасці на маё маўчанне, абкладвала мяне такімі мацюкамі, якія я раней і не чуў ніколі, мабыць, атрыманыя, увабраныя са збіццём ад таго самага мужчыны, крыўдзіцеля.

— Час выйшаў! — спыніла занесеную было руку жанчыны для чарговага ўдару «пакаёўка» і вывела кліентку. Вярнулася яна праз нейкі час. Зняла з мяне, разрэзаўшы нажніцамі, мокрую ад поту і крыві адзежу, нанесла пэндзлікам нейкую мазь са слоіка, падобнага на ёмістасць для фарбы, на ўсю спіну, пачала ўціраць рукамі ў скуру. Спачатку папякло, потым стала нават прыемна. Тую ж самую мазь «пакаёўка» нашмароўвала і на плямы ад крыві на падлозе, якія ўмомант знікалі. Не так хутка, але за ноч мае раны гэтак жа знікалі, з кожным нанясеннем мазі дадаючы сілы і цягавітасці.

Амаль кожны дзень са мной хто-небудзь што-небудзь рабіў. Я трываў, ведаючы, што буду ўзнагароджаны, чакаючы, як манны нябеснай, чарговай порцыі мазі, пасля ўжывання якой мяне кідала ў моцны, але салодкі сон, у якім я бачыў сябе сапраўдным рыцарам і ваяром, які дамагаецца ратнымі подзвігамі кахання Веранікі. Яна прыходзіла раз у тыдзень, напэўна, па нядзелях, улік дням я не вёў, таму выказаў здагадку. Да яе прыходу мяне старанна падрыхтоўвалі. «Пакаёўка» ставіла на калені і скручвала так, каб я і паварушыцца не мог, але ніколі не заставалася ў пакоі з іншымі кліенткамі. Гэта і зразумела, Вераніка ж гаспадыня!

Яна залятала, як тыгрыца, у пакой і наносіла некалькі ўдараў. Праробляла гэта з зайздросным пастаянствам,

а зрабіўшы справу, гэтак жа імкліва, як залятала, так і вылятала з памяшкання.

Аднойчы яна засталася. Узнагародзіла мяне чарговай порцыяй і расцягнулася на ложку.

— Хутка ты будзеш гатовы,— прамовіла нараспеў.

— Гатовы для чаго? — пацікавіўся я.

Вераніка паднялася і села на ложку, звесіўшы ногі.

— Да здабывання грошай для мяне,— патлумачыла.— Ты думаў, мы проста так важдаемся з табой? Усё, што з табой адбывалася за апошні час, — штосьці накшталт трэніроўкі, як у баксёраў. У цябе ўкладвалі сродкі, зараз ты іх будзеш адпрацоўваць.

— Усё гэта трэніроўка?! — Палезлі ў мяне вочы на лоб.

— Так,— кіўнула Вераніка.— А ты думаў, мы жывадзёры якія, каты? Мучым цябе дзеля ўласнага задавальнення?

— А хіба не?

— Ну,— Вераніка зрабіла задуменны выгляд,— у чымсьці ты маеш рацыю. Грошы за цябе я выручыла прыстойныя, але яны нішто ў параўнанні з той сумай, на якую я разлічваю з тваёй дапамогай.

— Ты ўпэўнена, што я буду табе дапамагаць?

— А куды ты дзенешся? — весела ўсміхнулася Вераніка.— У цябе няма іншага выбару. Проста здохнеш.— Яна падышла да мяне, села побач, спінай абапіраючыся на маё цела, правяла па ім рукамі, патрапала за шчокі, як сабаку.— Прызнаюся адразу,— сказала,— вельмі не хочацца, каб ты памёр.

Вераніка паднялася з падлогі, паклікала «пакаёўку». Тая зняла з мяне ланцугі.

— Кладзіся на ложак,— сказала мне Вераніка,— толькі без дурасцяў, а то я пашкадую пра свае словы.

Я падпарадкаваўся. Вераніка лягла побач, рука яе загуляла па маёй грудзіне знізу ўгару і наадварот, язык аблюбаваў шыю, таксама шпацыруючы, як дэндзі па мосце.

— Можа, я зверху? — прапанаваў раптам.

— Не заслужыў яшчэ,— прашаптаў яе рот, выклікаючы мой на паядынак пацалункаў.

Раніцай, калі «пакаёўка» прынесла мне скураныя мяккія порткі, Веранікі ўжо не было. Яе знікненне не здзівіла. Хто я для яе? З боку Веранікі, можна сказаць, гаспадыні лёсу, праведзеная са мной ноч выглядала як літасць, няйначай. Наўрад ці я мог разлічваць на штосьці большае. Як той казаў, нічога асабістага, гэта бізнес. Здзівіла мяне іншае. Порткі. Прычым, не маючыя да шоўку, які ўсюды атачаў мяне, ніякага дачынення.

— Вы нічога не пераблыталі? — узяўшы іх у рукі, звярнуўся я да «пакаёўкі».— Гэта сапраўды для мяне?

— Апранай і не задавай лішніх пытанняў! — адказала мая наглядчыца.

Як толькі порткі апынуліся на мне, «пакаёўка» рукой паказала на дзверы.

Вось значыць як? Вызваленне, ці што?

— І не мар! — быццам прачытаўшы думкі, падпіхнула мяне да дзвярэй бландзінка.

Прайшоўшы праз «прылазнік», я апынуўся ў калідоры, уткнуўся ў лівер Рыгораўны, якая павярнула мяне да сябе спінай і лёгкім плясканнем у плечы загадала крочыць наперад.

Мы рушылі ў глыб калідора, што выгінаўся, як змяя, па ўсім шляху, з налепленымі адна на адну дзвярамі пакояў па баках ды абсалютна голымі сценамі. Хутка калідор павузіўся, вядучы да тупіка ў выглядзе вузкіх і маленькіх дзвярэй, да якіх мог прайсці толькі я адзін. Рыгораўна спынілася за некалькі дзясяткаў крокаў ад іх, таму што магла затрымацца ў праходзе. Яна па рацыі паведаміла камусьці пра мой прыход, і, калі я быў на падыходзе да дзвярэй, мяне ўжо чакалі.

За таямнічымі дзвярамі была круглая глядзельная зала на некалькі сотняў месцаў, размешчаная вакол

арэны, акружанай у вышыню трохметровай клеткай, цалкам запоўненая глядачкамі самага рознага ўзросту, ад школьніцы да састарэлых бабулек. Яны дружна скандзіравалі, улюлюкалі, свісталі, пішчалі, крычалі, раўлі, ствараючы невыносны шум і гам, цікавячыся і перажываючы хутчэй за ўласныя кішэні, якія маглі або спусцець, або напоўніцца выйгрышам, чым за тых, на каго яны рабілі стаўкі і якія змагаліся на арэне ў клетцы, як гладыятары, за сваё жыццё. Я гэта адразу зразумеў, ледзь пераступіў парог. Так, Вераніка не дура, калі арганізавала такую вытворчасць! Паймець двойчы сваіх ахвяр і кліентаў, як мінімум, гэта крута! Але мяне навошта сюды прывялі, я не разумеў. Бо і біцца-та не ўмеў, у жыцці нікога ні разу не стукнуў. А сутычкі тут адбываліся сур'ёзныя. Не на жыццё, а насмерць, без усякіх правіл.

Верагодна, мэта Веранікі складалася ў тым, каб нікчэмным мужчынам, накшталт мяне, даць апошні шанец і паказаць, на што тыя здольныя. Урэшце, памерці, як мужчыну, у паядынку. Высакародная мэта, што і казаць.

Міма пранеслі безжыццёвае цела, падобнае на крывавыя кавалкі мяса. Не пашанцавала небараку. Следам за ім пад канвоем нязменных бландзінак пракрочыў пераможца. Яны здалі яго маім павадырам і павярнуліся да мяне.

— Тупай да арэны! — загадалі.

— Навошта? — пад дурылку закасіў я.

Адна з бландзінак зарадзіла мне ў сонечнае спляценне кулаком. Я сагнуўся ад болю, схапіўшыся за жывот. Другая бландзінка развярнула тварам да арэны і лёгенька падпіхнула штурхялём у патрэбным кірунку.

Апынуўшыся ў клетцы, ярка асветленай электрычнасцю, я зацкавана-спалохана агледзеўся. Нікога не было. Але гэта і насцярожвала. Знаёма па фільмах. У любы момант чакай падвоху. Сэрца пачашчана забі-

лася, спрабуючы вырвацца з грудной клеткі і ўцячы куды далей, як заяц ад ваўка. Я кружыў на адным месцы на напаўсагнутых нагах, як гладыятар у кіно, чакаючы раптоўнага нападу. Але нічога не адбывалася. Ад напругі і невядомасці пот сцякаў ручаём, у роце перасохла, сэрца бухкала так, што здавалася, вось-вось узарвецца.

І тут мяне адкінула да процілеглай сценкі клеткі з такой сілай, што я цудам не раскроіў сабе башку аб жалезныя яе мацаванні. Не паспеў ачухацца і сяк-так узняцца на калені, як быў падняты ў паветра на нечых выцягнутых руках і зноў кінуты ў іншы кут арэны. Усім тулавам плазам я шмякнуўся на драўляную слізкую ад крыві і поту, падлогу. Пякельны боль ад зламаных рэбраў працяў мозг тысячай іголак. Мяне схапілі за нагу, раскруцілі над сабой, як дыск, і кінулі, куды вочы глядзяць. На вышыні двух метраў мяне прыняла сетка клеткі і адшпурнула назад спінай на падлогу. Я падціснуў пад сябе ногі ад нясцерпнага болю ва ўсім целе, прайграўшы бой, нават ні разу не ўбачыўшы суперніка, і адрубіўся.

Апрытомнеў ужо ў сваім пакоі. Ляжаў на падлозе, прадбачліва накрыты цыратай, тварам уніз, скавычучы ад болю.

Пачуліся імклівыя крокі, якія спыніліся побач.

— Падняць! — Пазнаў я голас Веранікі.

Дзве бландзінкі рыўком паднялі мяне за рукі, але ногі не трымалі. Я літаральна павіс на дзяўчатах.

— Зрабіце так, каб ён стаяў! — загадала Вераніка.

З дапамогай ланцугоў мяне паставілі літарай Ж, але галава ўсё адно валілася.

— Трымайце галаву! — ізноў аддала загад Вераніка.

Бландзінкі зрабілі прасцей. Яны і галаву прысабачылі ланцугом так, каб яна ўвесь час знаходзілася ў адным становішчы, і адышлі ўбок.

Вераніка заціснула па кастэце ў кожнай руцэ і пачала мяне малаціць, як грушу, чаргуючы ўдары па твары і па корпусе, толькі зубы паспявалі адскокваць ды кроў пырскаць ва ўсе бакі.

— Ты што, казёл, нарабіў?! — каментавала Вераніка кожны ўдар.— Я на цябе гэтулькі грошай паставіла! У цябе, дэбіла, гэтулькі ўбухала! Каб дзірку ад абаранка атрымаць, так, ці што? Ты кім сябе ўявіў? Ты перад кім мяне зганьбіў? Гэта ж немцы! Ты ж іх так ненавідзіш! На словах, сука! А як да справы дайшло, не стукнуў ні разу! Ты сам горш за фашыста! Ці ты лічыш, як некаторыя дэгенераты, што нашы сяброўскія адносіны з гансамі ды фрыцамі правераны гадамі? Ты ж не такі! Памятаеш, як абураўся паводзінамі іх? Што яны забыліся тут? Хто іх наогул пускае сюды пасля таго, што яны нарабілі? Ты павінен быў заваліць гэтага немца, а не лётаць па арэне, як страказа!..

З апошнімі словамі Веранікі спыніліся і ўдары. Яна стамілася. Села на ложак, перарывіста дыхаючы, адвяла душу. Пасядзеўшы так некалькі хвілін, паклікала «пакаёўку».

— Зрабі з ім што-небудзь,— сказала ёй.— Заўтра ён павінен быць у адэкваце.

— Паспрабую,— прамовіла дзяўчына.

— Не паспрабую! — раўнула Вераніка.— А зрабі!

«Пакаёўка» кіўнула, што ўсё зразумела. Вераніка перапранулася ў чыстае, вышмаравала маззю косткі пальцаў і ў суправаджэнні бландзінак пакінула пакой.

«Пакаёўка» зняла мяне з ланцугоў, я з ціхім стогнам зваліўся на падлогу, нічым не ўтрыманы. Яна паклала мяне на ложак спачатку на жывот, сцягнула порткі, нашмаравала мазь па ўсім целе пэндзлікам, але рукамі ўпітвацца мазі ў цела ўжо не дапамагала, як раней. Мабыць, мазь была іншая і ўпітвалася імгненна, загойваючы раны з большай хуткасцю, чым ранейшая. Тое ж самае «пакаёўка» прарабіла і

са спінай, затым паўтарыла працэдуру на твары і на галаве. Пасля гэтага перавярнула мяне на бок, распранулася дагала і лягла да мяне ў пасцель, апляла рукамі і нагамі мяне, прыціскаючыся ўсім сваім целам да майго. Такім чынам, наколькі я ўсведамляў, дзяўчына дзялілася са мной сваімі жыццёвымі сіламі. Іх пераход я адчуў адразу. Боль спыніўся, галава праяснела, асэнсаваным поглядам я патануў у яе вачах. Прасунуўшы свой язык мне ў рот, «пакаёўка» доўга залізвала крывацечныя дзёсны, выкалуплівала абломкі зубоў, на месцы якіх тут жа вылуплялiся, як пупышкі на дрэвах, новыя зубы. Потым я адчуў, што ўваходжу ў яе, як у залаты раскошны палац, паднімаюся на самы дах, да залатога пеўня, і валюся ўгару, вось-вось дасягну аблокаў, на адным з якіх сядзіць яна і ўсміхаецца.

Не адрываючы вачэй ад майго твару, ні на секунду не пакідаючы рота, абвіваючы мяне, нібы ліяна дрэва, дзяўчына павольна тузанулася, уціскаючыся ў мяне, упітваючыся, як у губку вада, пранікаючы, як вельмі далікатны клешч, каб я дасягнуў аблокаў, на якіх яна чакала мяне.

Яе ўсмешка, што сустрэла мяне на небе, выключыла ўсе мае рухальныя функцыі і накаўтавала ў сон.

Расплюшчваючы вочы, выбіраючыся з улоння сну, як з ямы, убачыць побач з сабой «пакаёўку» я не чакаў. Яна ціха і спакойна спала, уткнуўшыся носікам мне ў плячо, але ўсім сваім целам маё працягвала трымаць у палоне, салодкім палоне, калі папраўдзе. Я правёў рукой па яе шчацэ, схаваў за вуха рассыпаныя пасмы валасоў. Дзяўчына расплюшчыла вочы. Такія ж па колеры, як сцены пакоя, напоўненыя святлом і радасцю.

— Прывітанне! — сказаў я.

— Прывітанне! — прашаптала яна ў адказ.

Вельмі доўга глядзелі мы адно на аднаго, амаль не міргаючы. Потым яе вусны крануліся маіх, і яна з новай сілай прыціснулася да мяне ўсім целам, каб

праз секунду ўжо адштурхнуць, вызваліць ад сябе, перакаціцца да краю, імгненна ўстаць і апрануцца ў ранейшы ўбор «пакаёўкі».

— Я радая, што змагла табе дапамагчы,— сказала яна пасля.

— Навошта? — спытаў я, застаючыся ў пасцелі.

— Іншага выбару не было,— адказала дзяўчына і прысела на край ложка.

— Выбар ёсць заўсёды.— Узяў я яе за руку, і дзяўчына рукі не адняла.

— Не ў гэтым выпадку,— сумна канстатавала яна.

— Штосьці здарылася? — зразумеў я, што «пакаёўка» гняцецца нейкай таямніцай і ёй нестае моцы больш стрымліваць яе ў сабе.

— Здарылася,— кіўнула дзяўчына.

— Распавядзі,— папрасіў я.

— Табе гэта трэба?

— Трэба, калі прашу,— настойваў я на сваім.

— Добра,— пагадзілася тая.— Я не па сваёй волі знаходжуся тут,— пачала.— Яшчэ невядома, хто з нас дваіх больш палонны.

— Не зразумеў,— пачаў я ўважліва ўслухоўвацца ў словы «пакаёўкі».

— Я мясцовая,— працягвала дзяўчына.— Жыла ў хаце наверсе, працавала ў мясцовым Доме культуры метадыстам. Хата не мая, бацькі знялі, але мяне ўсё задавальняла. Аднойчы ўначы я прачнулася ад шоргату ложка, на якім спала і які рухаўся сам па сабе. Я нават не ведала, што пад ложкам хаваецца ўваход у склеп, які аказаўся зусім не склепам, а нямецкім бункерам, пабудаваным яшчэ ў 1941 годзе. Натуральна, я спалохалася, убачыўшы ў прыцемку атрад аднолькавых бландзінак, якія выходзілі з-пад падлогі, як у лепшых сцэнах галівудскіх фільмаў жахаў. Закрычала так, што шкло павысыпалася з вакон. Мяне злёгку прыдушылі, потым паабяцалі жыццё ўзамен на згоду супрацоўнічаць. Ведала б я, што гэта будзе за

супрацоўніцтва!.. Хоць, хутчэй за ўсё, таксама пагадзілася б. Усё ж лепш, чым памерці. Чаго толькі са мной не вытваралі, табе і не снілася! Падкладалі да самых вычварэнлівых вычварэнцаў і падонкаў: такія істоты плацілі велізарныя грошы за забаўкі са мной. Дзіва што, я адзіная дзяўчына ў гэтай клаацы. Самым агідным былі не катаванні, якім я ўвесь час падвяргалася і ўжо звыклася да іх, нават задавальненне навучылася атрымліваць, а калі прымушалі смактаць і глынаць, сам разумееш што. Мяне выварочвала навыварат пасля такіх кантактаў. Кліентам, зразумела, гэта не падабалася, і яны збівалі мяне да паўсмерці. Але на наступны дзень на мне не выяўлялі ні драпіны, ні нават намёку на якое-небудзь калецтва. Менавіта тады Вераніцы Юр'еўне і прыйшла ў галаву думка наладзіць баі без правіл, запрашаючы прадстаўнікоў Нямеччыны ў супернікі тым людзям, якіх яна не лічыла мужчынамі, але давала магчымасць стаць імі на арэне ў баі. Любога знявечанага байца я ставіла на ногі на наступны ж дзень. Дзякуючы свайму дару лекавання я атрымала гэта месца, назіраць цябе, а заадно вырабляць мазь, якая дапамагае ад усіх атрыманых ран.

— А сысці не спрабавала? — перапыніў я дзяўчыну.

— Я лекарка, а не чараўніца,— сумна ўсміхнулася яна.— Ды і не сысці адгэтуль.

— Ну, гэта мы яшчэ паглядзім,— хутчэй сабе, чым «пакаёўцы», сказаў я і спытаў: — А што за дзіўны выбар супернікаў? Чым Вераніцы немцы не дагадзілі?

— Падчас Другой сусветнай вайны,— прагучаў адказ,— немцы знішчылі ўсю сям'ю яе бабулі і дзядулі, а некалькі гадоў назад у Нямеччыне загінулі яе муж і брат. Немцаў яна ненавідзіць люта.

Вось яно што. Зараз зразумелая кіпучая жыццядзейнасць Веранікі. Зразумелая і мая роля ў яе дзействе. Вераніка выдатна запомніла маё стаўленне да

нямецкай нацыі, прадстаўнікоў якой я і цяпер называю фашыстамі, праз гэтулькі часу. Але я не веру ніводнаму слову новых немцаў, размаўляючых пра свет і сяброўства народаў, хоць забіце, таму што яны дзеці і ўнукі тых, хто прыйшоў на нашу зямлю, каб знішчыць усё жывое на ёй. У іх адна кроў, адны гены. Калі ў славянскіх краінах бясчынствуюць неанацысты, размаляваныя ў свастыку, значыць, немцы да гэтага датычныя. Гэта маё суб'ектыўнае меркаванне. Адно толькі бянтэжыла: раней, калі я бачыў у кавярні ці проста на вуліцы немцаў, ды яшчэ гергечучых на сваёй мове, ні разу не падышоў і не ўрэзаў па іх нахабных мурлах, якім не сядзіцца дома. Чаго вы прэцеся сюды? Чаго вам тут трэба?..

— Гэй, ты што, заснуў? — Страсянула маю руку «пакаёўка». Мабыць, я так сышоў у думкі, што ненадоўга адключыўся.

— Як тваё імя? — раптам выпаліў я, хоць мяне даўно падмывала спытаць.

— Яна,— адказала дзяўчына.

Я назваў сябе. І толькі мы памкнуліся абмяняцца пацалункамі, нібы заручальнымі пярсцёнкамі, як у пакой фурыяй уляцела Вераніка, нібы ў браню, закаваная ў латэкс.

— Вуркочыце, галубкі? — адшпурнула яна Яну ад мяне так, што дзяўчына адляцела да дзвярэй і, стукнуўшыся галавой, спаўзла на падлогу.— Я не для таго цябе перавыхоўвала,— накінулася на мяне,— каб ты марнаваў мною падораныя табе сілы на ўсякіх патаскух!

— Яна не патаскуха! — запярэчыў я спакойна і ўпэўнена, не дрогнуўшы і не пасунуўшыся ні на міліметр з месца.

— О, паглядзіце на яго! — запляскала ў ладкі Вераніка.— Які герой! Які абаронца зняважаных і абражаных! Сам даўно з іх лагера? — Устала яна побач

са мной з выглядам ільвіцы.— Але такім ты мне больш падабаешся.— Хутка супакоілася.— Я ведала, што з табой усё атрымаецца. Усё-ткі на высакародных кніжках выхоўваўся.

— Некаторыя з іх,— перабіў я яе,— напісалі Гётэ, Томас Ман, Гейнэ, Шылер, Ханс Фалада, Брэхт, Келерман… Спіс працягваць?

— Толькі не трэба цяпер інтэлектам душыць,— запярэчыла Вераніка,— я і без цябе ведаю, што не ўсе немцы — ублюдкі.

— Усе,— не пагадзіўся я.

— Праўда? — Упершыню за апошні час з цікавасцю паглядзела на мяне Вераніка.

— Пісьменнікі — не людзі,— растлумачыў я.— Яны — зоркі, якія ляцяць на зямлю з вышыні, і ніякіх нацыянальнасцей не маюць.

— Сам прыдумаў, ці падказаў хто?

— Падказалі.

— Значыць, вернеш мае грошы?

— Вярну.

— Ну, глядзі,— відавочна ўзрадаваная зыходам гутаркі, прамовіла Вераніка і накіравалася да выхаду.— Адказваеш башкой за яго! — прыстрашыла кулаком Яну, якая паднялася ўжо з падлогі і стаяла, прыхінуўшыся спінай да сценкі каля дзвярэй.— Чао! — Паслала мне паветраны пацалунак і сышла.

Я кінуўся да Яны, але яна мяне спыніла адным рухам рукі.

— Не цяпер,— сказала і таксама выйшла.

Бой меўся быць жорсткім. Я гэта зразумеў адразу, як толькі апынуўся перад закратаванай арэнай. Пасярэдзіне яе мяне чакаў той самы супернік, што і ў мінулы раз, якога я ні разу не ўгледзеў і якому ні разу не змог даць здачы. У думках я абазваў яго Рамштайнам. Тыповы фашысцкі кабан, яркае пацвярджэнне продка —

нацыста-эсэсаўца, што гаспадарыў у свой час на нашай зямлі. Рамштайн таксама выглядаў заваёўнікам-пераможцам, ні кропелькі страху. Упэўненасць у сваіх сілах і магчымасцях аж вытыркаліся з яго. Дзіва што, з такім тулавам і мускулатурай! Гэта я худзенькі ды маленькі, шчаўбаном можна напалам пераламаць.

Як забрала ў рыцарскім шлеме, падняліся ўгару дзверы клеткі, і мяне выпхнулі на арэну. Бы загнаны ў кут звер, я сціснуўся ў камяк, зыркаючы па баках. Рамштайн павольна, працуючы на публіку, якая аглушальна сустракала яго, набліжаўся да мяне, пагульваючы біцэпсамі.

Уся нянавісць зняважаных і забітых у 1940-я фашысцкімі ваўкалакамі нібы ўпаўзла ў мяне, абвіла ахоўнай сцяной. Кулакі сціснуліся да храбусцення ў костках. Я выпрастаўся і падскочыў угару, як Нэо ў фільме «Матрыца», разганяючыся ў паветры, каб збіць суперніка нагамі ў галаву. Аднак быў збіты сам, схоплены за нагу, раскручаны і адкінуты ў далёкі кут арэны, на рашотчатыя сцены клеткі, з якіх мяшком костак грукнуўся на падлогу. Дзіўна, болю я не адчуў, у скачку ўскочыў на ногі, як героі Ван Дама гэта ўмеюць, стаў у стойку цмока ў стылі Джэкі Чана. Інстынктыўна ці інтуітыўна памяць падказвала мозгу, а той ужо адсылаў загады мышцам, як і што трэба рабіць. Вось і спатрэбілася маё захапленне кіно. Не ведаў, што маё цела здольнае на падобныя мерапрыемствы. Тым лепш. Мабыць, падсвядома я заўсёды хацеў быць байцом, але штосьці замінала ажыццяўленню запаветнай мары, верагодна, боязь болю. Перамогшы яе, я адкрыўся прыроджанаму жаданню, якое не затармазіла развіццё навыкаў і ўменне іх ужываць. Я быў гатовы да сапраўдных подзвігаў і прыгод, не да кіношных, у крэсле або на канапе, а да рэальных і жыццёвых.

Рамштайн зрабіў выпад, я ўвярнуўся. Я спрытна сыходзіў ад усіх яго намераў пакалечыць мяне, але мае

ўдары, то па нагах яго, то па корпусе, не прыносілі выніку, былі падобнымі, калі параўноўваць, на ўкусы камара. А публіка апантана патрабавала кульмінацыі, мабыць, мы затрымоўвалі працэс наладжанага канвеера баёў. І Рамштайн іх відавочна расчароўваў. Нейкую саплю на палачцы не можа ўтаптаць у падлогу і размазаць. Кінг-Конг, блін, недароблены! Ты ж немец, вікінг, берсерк, каб табе чэрці скуру папісалі! Арыец хрэнавы! Я вымотваў суперніка, і гэта яму не падабалася. Ён пачашчана дыхаў, адкрываўся раз-пораз, атрымліваў з-за памылак неслабыя ўдары, як я лічыў, раз'юшваўся і губляў кантроль, чаго мне, у прынцыпе, і было трэба. Я падставіў яму падножку, калі ён нёсся, не памятаючы сябе, у мой бок. Рамштайн з грукатам расцягнуўся на выцягнутых руках, насілу перавярнуўся на спіну, спрабуючы ўстаць, але тут ужо я яму не дазволіў. Спачатку я зламаў яму рукі, потым асядлаў яго шыю і сціснуў кадык. Страх афарбаваў яго вочы, але маліць пра літасць я не дазволіў. Нашы жанчыны, дзеці і старыя таксама малілі не забіваць іх твайго дзеда і сяброў твайго дзеда. Хіба слухалі яны сваіх ахвяр? Толькі смяяліся, спальваючы жыўцом у замкнёных свіранах ды адрынах. Няўжо ты думаеш, я пашкадую цябе? Я ненавіджу ўсю вашу паганую нацыю!

Такім чынам, я стаў забойцам. Націснуў на кадык, і ніякага жалю не варухнулася ўсярэдзіне. Такім павінен быць сапраўдны мужчына?..

Можа быць, я б яшчэ што ўчудзіў, бо стаў выкрыкваць нейкія абразлівыя словы ў адрас глядачак, калі б мяне не адвялі і не замкнулі ў маім пакоі.

Я расцягнуўся на ложку, склаўшы на грудзіне рукі, а потым прыйшлі Вераніка і Яна, адначасова.

— Ну,— прысела на край ложка Вераніка,— можаш жа, калі хочаш! Я не чакала, што ты наогул здольны біцца, а тут такое майстэрства…

— Я сам не чакаў. Шмат зарабіла? — спытаў я.

— Больш, чым разлічвала,— рушыў услед адказ.— Ты — малайчына і годны ўзнагароды. Прасі, чаго жадаеш, акрамя, натуральна, волі ад мяне.

Я задумаўся. Чаго папрасіць бы?

— Можа, тэлевізар з дзівідзішкай занесці? — прапанавала Вераніка.— Ты ж любіш кіно. Пацешышся ў вольны час.

— Не,— рашуча адмовіўся я, сам сабе не верачы, паколькі сапраўды знудзіўся па кіно і карцела вельмі чаго-небудзь паглядзець, але жыццё цікавей, а жыць яшчэ цікаўней. Толькі цяпер я зразумеў, што жыву, што прачнуўся, паколькі ўсё, што было раней са мной, інакш, чым сном, не назавеш. Толькі вось у далейшым маім жыцці ніяк не знаходзіў месца для сённяшняй сучаснасці. І ў мяне раптам паўстаў план, як ад гэтай сучаснасці пазбавіцца.— Ведаеш, чаго я хачу? — паглядзеў прама ў вочы Веранікі.

— Ну, вядома, хачу,— прамовіла яна,— мне ўсёткі цікава. Не стамляй, калі ласка.

— Я жадаю, каб ты памянялася месцамі з Янай,— шмальнуў я, як з пісталета, ва ўпор.

— Як гэта? — Мэта была дасягнута. Цяжка было не прамахнуцца.

— Ты станеш Янай, а Яна табой,— растлумачыў і дадаў, каб мазгі Веранікі не закіпелі, вышукваючы падвох: — На некалькі гадзін.

— Навошта гэта табе? — усё адно дапытвалася Вераніка.

— Так,— нявызначана пражэстакуляваў я.— Ты ж сама сказала, прасі, чаго хочаш,— тут жа нагадаў.

— Ну, добра,— пагадзілася яна і загадкава ўсміхнулася.

Вераніка падышла да Яны, якая пра мой план не падазравала, але якой маё рашэнне спадабалася больш, чым мне, так загарэліся яе вочы. На гэта я і спадзяваўся.

— Ну,— звярнулася Вераніка да Яны,— што мне зрабіць?

— Распранайся! — загадала Яна.

— Зусім? — не перастравала загадкава ўсміхацца Вераніка.

— Зусім,— строга, але спакойна адказала Яна.

Не паспешліва, але паслухмяна Вераніка зняла шаўковую шэрую блузку, апранутую на ёй, шаўковыя чорныя штаны, туфлі, ніжнюю бялізну.

— Што далей? — усё гэтак жа ўсміхалася Вераніка. Мне нават стала цікава, чым усё гэта скончыцца.

— На калені! — загадала Яна.

— Ведаеш, гэта нават пацешна,— апускаючыся на калені, прамовіла Вераніка.

— Маўчаць! — Урэзала ёй з усёй моцы кулаком у твар Яна. Вераніка расцягнулася ва ўсю даўжыню свайго цела, зваліўшыся ніц.— Устаць! — загадала Яна.— І рукі за спіну!

Яна не крычала, не патрабавала, яна загадвала спакойным ураўнаважаным тонам. Вераніка ўстала на калені, завяла за спіну рукі. Іх тут жа Яна звязала. На скуле пазначыўся сіняк.

— Ты лягчэй,— сказала Вераніка,— не забывайся, Яна…

— Гэты ты, мабыць, забылася,— заявіла Яна,— што Вераніка Юр’еўна — я, а Яна — ты! — І зноў удар, але лягчэйшы, звычайная аплявуха.

На нейкі час Яна знікла ў сваёй каморцы, вярнулася з нейкай збруяй у руках, якую прысабачыла на галаве Веранікі, замацавала кляп у роце і ашыйнік на шыі з доўгім лёгкім ланцугом.

Пакуль Яна забаўлялася з Веранікай, я праверыў выхад. Ён аказаўся забарыкадаваны Рыгораўнай. У сумцы Веранікі выявіў баявы пісталет з поўнай абоймай, непрадбачліва пакінуты без нагляду. Хоць на месцы Веранікі я таксама не асцерагаўся б за форс-мажоры.

Па вялікім рахунку збегчы ахвяры адгэтуль было нерэальна. Плацінавыя бландзінкі, якія былі паўсюль, былі мала падобныя на людзей, хутчэй на робатаў, не ведаючых ні жалю, ні болю. І выконвалі строга свае функцыі. Страляць на паражэнне яны будуць пры кожнай нагодзе, пры кожнай пагрозе. Ніякі закладнік ім не перашкодзіць. Але паспрабаваць выбрацца варта было. Вераніка мела статус выдатнага закладніка. Яна, відаць, адразу зразумела мой план. Я не ведаю, што яна рабіла з Веранікай і ці рабіла наогул. Калі я іх пакідаў, Вераніка стаяла на каленях аголеная. Потым апынулася ў сваіх шаўковых штанах і ва ўціхамірвальнай кашулі на ложку. Нават дзіўна было бачыць яе ў такім стане. І падазрона. Бо Вераніка з вельмі моцных людзей. Хоць, можа быць, яна заўсёды марыла апынуцца на месцы ахвяры. Хто ведае?

— Што далей? — спытала Яна, калі я падышоў да іх, паказваючы сваёй «пакаёўцы» пісталет.

— Будзем выбірацца,— адказаў я, сустрэўшыся з кплівым поглядам Веранікі. Яна вельмі сумнявалася ў нашым паспяховым выратаванні.

— Як? — пацікавілася Яна.

— Напралом і нахабна,— вырашыў я.— Як зайшлі, так і выйдзем. Я забяспечваю праход, ты адказваеш за закладніцу.

— Добра,— пагадзілася Яна.

— Вазьмі нож,— параіў ёй,— прыстаў да горла былой гаспадыні.

Яна зноў пабегла ў сваю каморку і вярнулася з доўгім вострым стылетам.

— Уставай! — пацягнула за ланцуг. Вераніка паднялася з ложка. Яна прыставіла да яе горла клінок, і мы рушылі.

Дзверы я расчыніў насцеж і чатыры разы націснуў на спускавы гаплік пісталета. Усе кулі ўвайшлі ў лівер Рыгораўны, як у цеста. Яна пахіснулася, як

падбіты танкер на хвалях, і паваліласся з грукатам падарванага хмарачоса. Мы выскачылі ў вузкі калідор. Яна прыхапіла сумку Веранікі, павесіўшы яе на шыю гаспадыні.

Ззаду і спераду насоўваліся ўзброеныя аўтаматамі бландзінкі. Колькі іх набліжалася ззаду, мы не ведалі, але наперадзе нас чакалі чатыры лялечкі.

— Стаяць! — крыкнуў я, спыніўшыся і накіраваўшы ў іх бок пісталет.— Ці мы заб'ём вашу гаспадыню!

Дзяўчаты пераглянуліся і, дзіўная справа, спыніліся, нават збочылі, прапускаючы нас. Я ўзрадаваўся, што ўсё абышлося малой крывёй. Наверх мы выбраліся бесперашкодна, селі ў машыну Веранікі і з'ехалі. Падазроным такая лёгкасць удалых уцёкаў мне не здалася. Наадварот, я палічыў, што план мой спрацаваў ідэальна. Вось толькі куды зараз? Хату маю спалілі, а ў хаце Яны ўся гэта хрэнь. У міліцыю таксама не сунешся, ты ж яшчэ і вінаватым апынешся. Але доўга галаву я не ламаў. За рулём сядзела Яна. Мабыць, яна ведала, куды ехаць. Я ж прымасціўся на задняй сядушцы побач з Веранікай, твар якой заставаўся абсалютна бясстрасным. Яна так была ў сабе ўпэўнена, што мне захацелася ўведаць, чаму? Я выняў з яе рота кляп, яна тут жа весела засмяялася.

— Штосьці смешнае адбылося? — спытаў я.— Ці гэта нервовае ў цябе?

— Ды весела проста! — выклікнула Вераніка.— Даўно я так не забаўлялася!

— Для цябе нашы уцёкі забаўка? — ніяк я не мог зразумець яе паводзін.

— А што ж яшчэ? — шчыра ўсміхнулася Вераніка.— Часам карысна развязваць рукі сваім супрацоўнікам у літаральным сэнсе. Яны такія выдумшчыкі!.. Дарэчы, куды мы едзем?

— Ты або дурнаватая, або хворая,— прамовіў я.

— Хворы ты, Валера,— запярэчыла Вераніка.— Дакладней, мёртвы. Сячэш, чым усё можа абярнуцца?

Ну так. Яна мае рацыю. Мяне не было па ўсіх дакументах. Мне нават маю магілу на фота паказвалі аднойчы, каб я не сумняваўся ў сваёй смерці і ў магчымасцях кампаніі, якую ўзначальвае Вераніка.

— Куды мы едзем, Яна? — пацікавіўся я, але дзяўчына не адказала. А праз цёмнае шкло машыны, да таго ж уначы, наогул не было бачна, дзе мы едзем. Раптам машына спынілася.

— Прыехалі,— сказала Яна і першай пакінула салон. Следам выпаўз я.

Гэта была нейкая пустка. Пустэльны ўзгорак. Вакол ні душы, ні агеньчыка, ні паблізу, ні ўдалечыні. Толькі святло ад фар ды ў салоне.

— Дзе гэта мы? — спытаў я Яну.

— Не важна,— адказала тая. Яна выцягнула за ланцуг Вераніку і паставіла на калені перад сабой. З-за пояса выхапіла пісталет і ствалом накіравала ў лоб Веранікі.

— Стой! — З-за чаго гэта спалохаўся я за Вераніку? — Ты што творыш? Адкуль пісталет узяла?

— Не важна! — адназначна адказвала Яна.— Не замінай мне! — накіравала ствол на мяне.

Вераніка заходзілася ад смеху. Яна або звар’яцела ад страху, што малаверагодна, або ёй сапраўды даваў задавальненне гэты спектакль. Ніяк інакш нашы дзеянні яна не расцэньвала.

Але я не мог дазволіць Яне забіць Вераніку. Я ж кахаў яе, не гледзячы ні на што. Вось такое каханне ў мяне! Ды і ўдзячны ёй да скону жыцця. Яна мяне змяніла да лепшага, зрабіла сапраўдным чалавекам. Метады, вядома, жорсткія, але дзейсныя!

— Паслухай,— звярнуўся я да Яны,— давай не будзем спяшацца. Давай пагаворым, абмяркуем…

— Што абмяркоўваць? — не жадала зразумець мяне Яна.— Гэта наш адзіны шанец. Не заб’ём яе мы,

яна заб'е нас. Так што не падыходзь! — Нібы ў доказ таго, што цырымоніцца не мае намеру, Яна стрэліла мне пад ногі. Я адскочыў, але паспеў выбіць з яе рук пісталет. Сашчапіўшыся клубком, мы качаліся па траве і пяску. Вокрык Веранікі спыніў нас. Яна стаяла з накіраваным на нас пісталетам.

— Час выйшаў,— сказала яна.— Я зноў Вераніка Юр'еўна. Бывай, Яна!

Прагучаў стрэл. Яна звалілася, забітая напавал, прама ў сэрца.

— Як гэта магчыма? — не верыў я ўласным вачам.

— А ты сапраўды паверыў, што я дазволю табе сысці? — Здзіўлена нахмурыла бровы Вераніка.— Але ты малайчына, абараняў мяне. Лічы, што выправіўся.

— Але як ты?..

— Развязалася? — улавіла яна працяг майго пытання.— Вельмі проста. Я і не была звязаная. У нас жа была дамоўленасць, не памятаеш, памяняцца месцамі з Янай на пару гадзін? Час мінуў. А мае супрацоўніцы не асмеляцца не паслухацца маіх распараджэнняў. Яна паспрабавала ў канцы. Яна ведала, што яе чакае.

— Значыць, гэта сапраўды быў спектакль? — зразумеў я раптам усё.

— А ты як думаў? Ты такі смешны быў, ты ўжо прабач, ад смеху не ўтрымалася.

— А Рыгораўна? Я ж яе забіў?

— Забіў,— пагадзілася Вераніка.— Бедная Рыгораўна. Але ты не турбуйся. Незаменных людзей няма.

— Што будзе са мной? — спытаў я, хоць выдатна ведаў адказ.

— Хіба незразумела? — усміхнулася Вераніка.

— Але ж я кахаю цябе! — усклікнуў я.

— Ты лічыш гэта важкім аргументам для таго, каб жыць?

— Вядома! — не сумняваўся я.— Няма нічога важней кахання ў жыцці чалавека!

— Пэўна, ты маеш рацыю,— задуменна прамовіла Вераніка.— Садзіся за руль! — раптам сказала.

— Але я не ўмею вадзіць машыну,— прыйшлося прызнацца.

— Бачыш, Валера, ад цябе ніякай карысці,— заўважыла Вераніка.— А ад твайго кахання мне ні холадна ні горача.

І тут я паваліўся. Не скажу, што наўмысна, але своечасова. Прычым змог яшчэ і паспець зрабіць падсечку, апынуўшыся на зямлі, каб мая каханая таксама апусцілася да нізкага ўзроўню. Валячыся, Вераніка націснула на спускавы гаплік. Стрэл пракраўся ў цела ночы, як скальпель, і згубіўся ў ім. Пісталет, аднак, дзяўчына з рук не выпусціла. Але я наваліўся на яе іададраў зброю ад яе моцна сціснутых на дзяржальні пальцаў. Потым хутка скаціўся з Веранікі, перавярнуўся некалькі разоў праз сябе і ў скачку падняўся. Пісталет засунуў за пояс. Зараз іх у мяне было два. Адкуль з'явіўся другі — невядома. Ды і не важна, калі праблема вырашана і больш няма ніякай пагрозы. Вераніка таксама паднялася на ногі праз некаторы час, з асцярогай паглядаючы на мяне. Монстр з яе паволі выпараўся, паступова агаляючы чалавечыя рысы і якасці.

— Табе трэба пераапрануцца,— паказаў я позіркам на забітую Яну.

— Навошта? — не зразумела Вераніка або зразумела выдатна.— Не буду я гэта на сябе апранаць!

— Пераапранайся, я сказаў! — пагрозліва загадаў. Дзіўна, але мой камандзірскі голас, пра які я і не падазраваў раней, падзейнічаў. Мабыць, прыказка пра тое, што клін клінам выбіваюць, у дачыненні да Веранікі падыходзіла, як нельга дарэчы. Моцнай жанчыне патрабаваўся моцны мужчына. Яшчэ нядаўна зусім я гэтай якасцю пахваліцца не мог. Затое зараз не жалюся. Ды і страх кудысьці знік. Я больш нічога

і нікога не баяўся. Нават за наступствы ўцёкаў не асцерагаўся. Паколькі ніхто нас шукаць не будзе, калі Вераніку ці тое, што ад яе застанецца, выявяць.

Дзяўчына апранулася ва ўбор «пакаёўкі». Ён ёй вельмі пасаваў. Доўгія прамыя валасы спускаліся чорнымі стужкамі з плячэй на грудзі, а на спіну падалі штофам. Апрануць труп у свае шмоткі Вераніка пагрэбавала. Я гэта зрабіў за яе, пасля чаго пасадзіў труп у машыну за руль.

— Што ты робіш? — занепакоілася Вераніка.

— Знішчаю цябе,— ахвотна адказаў я,— гэтак жа, як ты знішчыла мяне.— Я праверыў сумку на наяўнасць асабістых рэчаў Веранікі. Пашпарт быў на месцы, кіроўчыя правы таксама, мабільны тэлефон, касметыка… Усё ў парадку.

— Усё адно мяне будуць шукаць! — заявіла, хоць і не ўпэўнена, Вераніка.

— Сумняваюся,— усміхнуўся я, прасоўваючы ў бензабак скручаны нейкі глянцавы часопіс, выяўлены на заднім сядзенні.

— Што ты робіш? — усхвалявана выклікнула Вераніка.— Гэта мая машына!

— Праўда што,— не адмаўляў я.— Як ты казала, памятаеш, незаменных людзей няма? Калі знойдуць рэшткі машыны і абгарэлы труп, ніхто не будзе разбірацца, чаму ты загінула, а прымуцца дзяліць твае грошы і твой бізнес…

— Набрыдзь! — Кінулася Вераніка на мяне з кулакамі.— Сволач! Ты сам тут цяпер здохнеш, а не мяне пахаваеш! Я яшчэ цябе перажыву!..

— Супакойся! — лёгка адшпурнуў я яе.— Мы зараз у аднолькавым становішчы.— Я падабраў ашыйнік і накіраваўся да Веранікі, якая напаўсядзела на зямлі, падабраўшы пад сябе ногі.

— Не падыходзь да мяне! — засучыла яна нагамі, адсоўваючыся ад мяне, але выдатна разумеючы, што выйсця няма, што нікуды ёй ад мяне не дзецца.

— А чаго ж ты не ўцякла? — спытаў я яе.— Вакол жа пустэча і цемрадзь. Хутка б схавалася ад мяне.

— Ад цябе? — мабыць, Вераніку закранула, што ёй даводзіцца баяцца, ды і каго?..

— Ну, прызнайся, адна баялася застацца? — настойваў я.— Ці цемры з дзяцінства баішся?

Спрытным рухам рук я нібы заарканіў дзяўчыну, замацаваў ашыйнік на яе шыі, а рукі звязаў за спінай, ланцуг жа наматаў на сваю руку, для надзейнасці. Вераніка не супраціўлялася. Паслухмяна дазволіла прарабіць усё гэта з сабой, быццам наравістая, але аб’езджаная кабылка.

Я падпаліў часопіс, пацягнуў за ланцуг Вераніку, каб яна хутчэй перастаўляла ножкі і паспявала за мной адбегчы на бяспечную адлегласць, аднак выбуховая хваля ад узарванай машыны ўсё ж нас зачапіла, збіла з ног, перавярнула некалькі разоў і пракаціла па зямлі. Калі ўсё змоўкла, я апынуўся над Веранікай зверху, падтрымліваючы яе за спіну, але не лежачы на ёй, затое — вачамі ў вочы. Яна ўважліва глядзела на мяне, нават даверліва, палахліва лыпаючы, яе вусны цягнуліся да маіх, дакрануліся, абпалілі пацалункам.

— Развяжы мяне,— прашапталі.— Куды я ўцяку?..

Я падняўся сам, дапамог устаць Вераніцы, вызваліў ёй рукі, але ашыйнік не зняў, пакуль было рана. І мы рушылі скрозь цемрадзь і невядомасць у нікуды.

Ішлі доўга, як у смузе, задыхаючыся ў цямрэчы і заблытваючыся ў чарноцці, як у павуцінні. Вакол толькі цішыня, якая парушалася гукамі нашых крокаў і нашага дыхання. Нікога і нічога жывога. Добра, што хоць ліхтарык быў, але ён ледзь свяціў, вось-вось гатовы здрадзіць нам. Толку ад яго было мала.

Хутка ліхтарык здох.

— Я стамілася,— тут жа заенчыла Вераніка.— Які сэнс хадзіць упоцемку? Давай пасядзім крыху. Ногі баляць…

— Паспеем наседзецца яшчэ.— Стомленасць і я адчуваў, але трэба было рухацца, тым больш што я заўважыў нейкую пабудову наперадзе, калі зрок не ашукваў.— Кроч давай!

— Ты — монстр! — прашыпела Вераніка мне ў спіну, плятучыся ззаду.

— Монстр — гэты ты! — запярэчыў я.

Вераніка прамаўчала.

Праз некалькі дзясяткаў крокаў мы апынудіся каля пабудовы. Дакладней сказаць, руін. Гэта быў нейкі разбураны аднапавярховы каменны будынак, з дзенідзе захаваным дахам, але гнілой і няўстойлівай падлогай. Я папярэдзіў Вераніку, што небяспечна на гэтых дошках, але яна вельмі стамілася, ёй карцела хоць бы сесці дзе-небудзь, калі не легчы. Прыхінуўшыся да сцяны, яна аб'ехала па ёй на дошкі, выпрастала ногі, абаперлася рукой на адну з іх. Тут жа ўсё цела яе павяло на руку, дошкі затрашчалі. Вераніка нават не паспела ўскрыкнуць, праваліўшыся ўніз і цягнучы мяне за сабой. Дзякуй богу, ніхто нічога не зламаў. Пасадка сталася мяккай. Мы зваліліся, мабыць, на нейкія матрацы, напалову вытрыбушаныя, у падвал ці ў склеп. Сапраўды вызначыць можна толькі са святлом, хоць бы дзённым. Але стаяла ноч.

— Давай адпачнём тут пакуль,— папрасіла Вераніка.— Усё адно нічога не відаць і выхад шукаць марна.

— Ты маеш рацыю,— пагадзіўся я.— Як развіднее, тады…

— Нарэшце… — Вераніка пацягнула ланцуг на сябе так, каб я паваліўся на яе.

Матрац стаў нам ложкам, а я падушкай для Веранікі. Усюды знойдзе сабе карысць. Але я не ў крыўдзе. Прыемна адчуваць на сваёй грудзіне жаночае трапяткое цела, хоць і стомленае, і адчуваць сябе моцным

і бясстрашным рыцарам, што ахоўвае сон сваёй каханай, якая безагаворачна даручыла табе сваё жыццё. Ну, ці штосьці кшталту таго.

Вочы не адкрываліся, быццам іх хтосьці заляпіў. Галава расколвалася, як з цяжкага пахмелля. Рукі і ногі не слухаліся, нібы іх наогул не было. Дзіўна. Так добра заснулася, а прачынацца няма сіл. Магчыма, ад стомленасці, як фізічнай, так і ад стрэсу. Хоць не, непадобна. Штосьці не так. Ды і сапення Веранікі не чуваць. А я выразна памятаў, як яна засапла, засынаючы, уткнуўшыся носікам мне ў грудзіну.

Насілу, але вочы я ададраў, як зліплыя лісты, запячатаныя стагоддзямі. Цьмяная лямпачка боўталася ледзь не перад носам на доўгім, звісаючым са столі, шнуры. Падрапаная і ўся ў павуцінні. Волкая прахалодная прастора ў выглядзе своеасаблівай клеткі, штосьці накшталт свірну, але з халоднай цаглянай падлогай, хоць і пасыпанай саломай, трымала мяне за рукі, прыкаваныя па-над галавой да сцяны. Сам я сядзеў на падлозе з выцягнутымі наперад нагамі, клапатліва захутаны кімсьці байкавай коўдрай. Насупраць мяне, на адлегласці выцягнутай рукі, у тым жа становішчы, што і я, сядзела Вераніка, ступні нашых ног датыкаліся.

— Божа, як баліць галава! — яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, праенчыла Вераніка.— І вочы! — Гэтак жа, як і мне, ёй прыйшлося папрацаваць, каб іх разляпіць. Яна глядзела то на мяне, то задзірала, спрабавала падняць галаву ўгару, не жадаючы прымаць відавочнага. Вераніка заюліла на месцы, занервавалася, намагаючыся вызваліцца, ствараючы аглушальны шум, як мне здавалася, ледзь стрымліваючы сябе, каб не разраўціся ад адчайнага становішча.

— Супакойся, Вераніка! — накрычаў я на яе.

— Супакойся?! — У дзяўчыны пачыналася істэрыка.— Дзе мы? Чаму мы? Зрабі што-небудзь! Што ты

сядзіш, як статуя! Ты ж мужчына, урэшце! Мне балюча! У мяне ўсё баліць! Валера, міленькі, ну, прыдумай, што-небудзь, ну, ты ж разумны і знаходлівы! Ну, што, табе цяжка, ці што?..

— Супакойся! — пачынаў я раздражняцца.— Што я прыдумаю?.. Я ў такім жа становішчы, што і ты!

— Мы памром, Валера! — узбуджана, але страшным шэптам, з вытарашчанымі вачамі, прамовіла Вераніка.— Як ты не разумееш? Калі мы нічога не распачнём, то памром абавязкова! Гэта адплата, Валера! Зло заўсёды вяртаецца бумерангам да таго, хто прычыніў боль іншаму чалавеку! Валера! Разумееш! Але я не хачу паміраць! Чуеш, Валера! Зрабі штонебудзь, я вельмі цябе прашу!..

— Ды што я зраблю? — неяк асуджана ў мяне выйшла.— Тут без варыянтаў. Прынамсі, да таго моманту, пакуль не ўведаем, навошта мы тут і, уласна, у каго.

— Ты што,— шаптала Вераніка,— фільмы жахаў ніколі не глядзеў? Ты ж кінаманьяк, Валера! Не ведаеш, як усё пачынаецца і чым канчаецца? Мы ж нібы патрапілі ў гэтае жахлівае кіно! Усе прыкметы навідавоку!..

— Магчыма,— не адмаўляў я.

— І што рабіць?

— Нічога,— адказаў.

Пачуліся гукі крокаў, жаночых. Дзве пары абцасаў працокалі па каменнай падлозе. Заскрыгаталі, адчыняючыся, мабыць, цяжкія дзверы. У нашу будку вясёлым бестурботным шчанюком уварваўся сонечны прамень, на імгненне асляпіўшы вочы. Цьмяная лямпачка тут жа згасла і паднялася да столі, падвешаная да папярочнай бэлькі. Цяжкія дзверы, зашклёныя такім жа цяжкім брудным шклом, пры дапамозе механічнай прылады падняліся ўгару, агаліўшы нашы бездапаможныя целы на агляд дзвюм эфектным дзяўчатам у высокіх скураных батфортах і ў нейкай чорнай уніформе

з нашыўкамі на рукавах, якія сведчылі аб прыналежнасці іх да нейкай фірмы ці, хутчэй, фермы. Валасы, доўгія, нявызначанага колеру, ад бруду, звісалі ўніз паклямі, а калі дзяўчаты загаварылі, я заўважыў гнілыя чорныя зубы. Сапраўды, фільм жахаў. І галасы ў іх былі нейкімі дзіцячымі, калі не наўмысна скажонымі.

— Людк, а, Людк,— звярнулася адна да другой, яшчэ не гледзячы на нас.— Ты не перабрала з дазіроўкай?

— Не, Ксю,— адказала Людк, гледзячы мне прама ў вочы. Позірк яе быў настолькі цяжкім і падаўляючым, што я не вытрымаў яго і адвёў вочы ўбок.— Кліенты ўжо гатовыя да супрацоўніцтва.

— Праўда? — запляскала ў ладкі Ксю.— Цур, хлопец мой! — І прыскокнула да мяне. Прысела на кукішкі, уважліва агледзела твар. Паколькі я спрабаваў увесь час адварочвацца, схапіла мой падбародак доўгімі кашчавымі пальцамі без пазногцяў, утрымліваючы яго ў адным становішчы. Потым раптам лізнула шчаку.

Вераніка закашлялася, а потым яе званітавала. На коўдру.

Ксю тут жа кінулася да яе. Размахнулася і адарыла звонкай аплявухай.

— Гэта была мая любімая коўдра! — заявіла яна.

Мяне таксама асільвала млоснасць, такім гніллём несла з рота Ксю.

— Нічога,— пагладзіла па галаве дзяўчыну Людк.— Хутка зможаш купіць сто такіх коўдраў.

— Але гэта была мая любімая! — выскалілася Ксю.

— Я сказала — сто! — падвысіла голас Людк, і Ксю супакоілася.

Мабыць, Людк была галоўнай у іх дуэце. Яна стала ў дзвярным праёме, склаўшы на грудзях рукі. Звярнулася да нас з Веранікай:

— Страшна? Гадаеце, што з вамі будзе? Як вы патрапілі сюды? Хто мы такія? Бачу, непакоіцеся. Не бойцеся, есці мы вас не будзем. Мы ж цывілізаваныя людзі. Усё нашмат празаічней і банальней. Вы — тавар, які патрапіў да нас выпадкова, але вельмі своечасова. Паверце, не вы, так іншыя былі б абавязкова. Проста вам пашанцавала менш. Пры вас не выяўлена ніякіх дакументаў, значыць, шукаць вас ніхто не будзе. У прынцыпе, калі б і шукалі, не вялікая праблема. А так вы проста нечаканая ўдача для нас. Нічога асабістага. Бізнес ёсць бізнес.

— Паслухайце! — выклікнула Вераніка.— У мяне ёсць грошы! Шмат грошай! Дайце мне патэлефанаваць, і любая названая вамі сума неадкладна будзе пераведзена на ваш рахунак у любой краіне свету!..

— У дадзены момант,— запярэчыла Людк,— грошы — гэты ты. Ніякіх іншых грошай мне не трэба.

— Паслухайце! — Як тапелец, які хапаецца за саломінку, Вераніка словамі ўчапілася за дзяўчыну:— Вы ж разумны чалавек! Любая сума…

— Я ж па-беларуску табе сказала,— спапяляючым позіркам пaглядзела Людк на Вераніку,— ці ты непісьменная?

Прасігналіла машына. Хтосьці прыехаў. Ксю кінулася на сігнал, Людк, не спяшаючыся, таксама рушыла ўслед за ёю. Нас не зачыніла, або наўмысна, або забылася. За межамі пабудовы, у якой мы знаходзіліся, ці ферма, ці стайня, пра штосьці ажыўлена размаўлялі, але пра што — незразумела. Хоць, зразумела, што пра нас, але, як я не напружваў слых, нічога разабраць не мог, ды яшчэ Вераніка ныла і хныкала пад бокам.

— Нас прададуць, Валера! — захлынаючыся, шаптала яна.— У лепшым выпадку, для сексуальных паслуг, а калі на органы ці на доследы якія-небудзь, ці яшчэ на што-небудзь горшае?..

— Што ты нервуешся? — ахапіла мяне раптам нейкая злосць на Вераніку.— Ты сама падобным зарабляла.

Не раскайваешся? Нідзе за сэрца не кранула? Сябе ніколі не ўяўляла на месцы ахвяры? Бачыш, і грошы твае нікому не патрэбныя. І дапамагчы яны табе не могуць.

— Паслухай, Валера! Выцягні нас адгэтуль! — маліла яна.— Ты ж кахаеш мяне! Ты не дазволіш, каб са мной штосьці зрабілі дрэннае! Я буду заўсёды слухаць толькі цябе. Твае слова — закон, і жаданні таксама. Я стану рабыняй тваёй назаўжды, толькі выцягні нас, калі ласка!

Які пераменлівы чалавек у сваіх адзнаках іншага чалавека. Яшчэ зусім нядаўна Вераніка лічыла, што я не варты нават дыхаць, не кажучы ўжо пра тое, каб па зямлі хадзіць. Я быў такім жа таварам, якім яна стала сама, і ёй гэта зусім не спадабалася. Але я кахаў яе. Мне цяжка было глядзець на яе пакуты. Я проста абавязаны штосьці прыдумаць, каб выратаваць Вераніку, але што?

Вярталіся Людк і Ксю. З імі ішоў яшчэ хтосьці трэці.

Трэцяй аказалася вельмі прыгожая, як мне здалося, жанчына ў гадах, вельмі падобная на нейкую знакамітую артыстку. Зрэшты, усе жанчыны нагадваюць актрак. Гэта ўмела велічна падаць сябе. Людк і Ксю проста поўзалі перад ёй, ліслівілі, перабіваючы адна адну, спрабуючы дагадзіць, але не як пакупніку. Тут было штосьці іншае. Безумоўна, грошы былі не на апошнім месцы, але жанчына відавочна валодала нейкай незвычайнай уладай над дзяўчатамі.

Дагледжаны пародзісты твар, уладныя і адначасова вабныя вусны, строгі погляд дасведчанага чалавека, які ведае сабе кошт, бялявыя, пакладзеныя ў акуратную прычоску, валасы, шырокія свабодныя штаны, туфлі на абцасе, мужчынская белая кашуля, гальштук, камізэлька, запанкі — усё разам глядзела на мяне, як

на рэч, мяркуючы, ці варта марнавацца на такую нікчэмнасць, як я. Мая асоба відавочна не асацыявалася з мужчынам. Дзіва што! Мужчына не дазволіў бы сябе так зняважыць. Аднак погляд жанчыны я вытрымаў. Не адвёў вачэй. Яна толькі хмыкнула, але ўсміхнулася, куткамі вуснаў, ледзь прыкметна. Мабыць, ёй спадабалася, што я не безнадзейны, што са мной можна будзе папрацаваць.

Яна зацікавілася Веранікай. Не ў лепшай форме, але ўсё ж нават у такім непрывабным становішчы Вераніка не страціла ні прыгажосці, ні цікавасці да сябе.

— Вельмі рэдка можна сустрэць у наш час падобны ўзор прывабнасці,— заўважыла жанчына, маючы на ўвазе, вядома, Вераніку.— Як вы самі ставіцеся да свайго становішча? — звярнулася да яе.— І, самае галоўнае, як так здарылася, што прадстаўніца такога тыпу апынулася ў такой непрывабнай кампаніі і ў такой далікатнай сітауцыі? — Голас яе, з прыемнымі кутасамі хрыпатцы, зачароўваў, нават закалыхваў.

— Я не ведаю,— адказала Вераніка, дакладней, праенчыла.— Але паслухайце,— тут жа вочкі загарэліся, учапіліся за позірк жанчыны,— дапамажыце мне! У мяне шмат грошай, паверце, я заплачу любую суму! Я апынулася тут па непаразуменні. Мяне ведаюць у Еўропе і нядрэнна ставяцца да майго бізнесу. Ён прыносіць велізарны прыбытак. Паверце мне, я не хлушу!

— Я вам веру,— спыніла яе жанчына,— супакойцеся. Мы ўсё з вамі абмяркуем. Ксю,— абярнулася жанчына да адной з дзяўчат,— дапамажы дзяўчыне дабрацца да маёй машыны.

Ксю заўзята кінулася выконваць загад. Яна адчапіла Вераніку ад сцяны, але наручнікаў не зняла, пацягнула яе за сабой прочкі з «вязніцы». Неўзабаве я пачуў, як пляснулі дзверцы машыны, а потым вярнулася Ксю.

— Усё ў парадку,— даклала жанчыне.— Яна вас чакае.

Жанчына выцягнула з кішэні штаноў перацягнуты гумкай пачак стадоларавых купюр, працягнула Ксю. Але тую апярэдзіла Людк і перахапіла грошы, якія тут жа зніклі кудысьці, нібы выпарыліся па чараўніцтве.

— А што рабіць з хлопцам? — спытала Людк.

— Адвядзіце яго ў кабінет,— адказала жанчына.— Хай падрабязна напіша, якім чынам тут апынуўся. А там відаць будзе.

Не ўзнагародзіўшы мяне сваім поглядам, жанчына накіравалася да машыны. Вельмі хутка машына з’ехала. Ксю начапіла на мае ногі кайданы, каб я не збег, але змог рухацца, і адчапіла ад сцяны. Павяла на святло.

Мы сапраўды апынуліся з Веранікай на нейкай ферме. Нас трымалі ў хляве, але хлеў гэты не для жывёл будаваўся. Мы не першыя былі гасцямі фермы. Не разумею толькі, як апынуліся тут? Верагодна, да фермы вёў падземны ход, у які мы праваліліся. Мабыць, нам зрабілі нейкія ўколы і бесперашкодна даставілі на месца.

Было два хлявы на тэрыторыі, тры адрыны, вальер з велізарнымі сабакамі, двухпавярховы вялікі катэдж з кветнікамі, траўнікам і брусчатай сцежкай. Мяне правялі на другі паверх, даставілі па прызначэнні, пасадзілі за стол, паклалі перад носам стос паперы і дзве шарыкавыя ручкі. Пакінуўшы аднаго, замкнулі кабінет. Гэта быў сапраўды кабінет. З абавязковымі стэлажамі кніг і ўсім іншым, як прынята.

І я прыняўся за працу. Ніколі не пісаў, а тут, нібы накаціла, нібы хтосьці дыктаваў, і я радкаваў, баючыся не паспець за тым, хто быццам бы дыктаваў, спрабуючы апраўдаць сябе, разабрацца, знайсці прычыну і следства ўчынкаў, як сваіх, так і Веранікі. Не ведаю, напэўна, атрымалася непераканаўча і ненатуральна. Але я ж не пісьменнік, я звычайны кінаман, а глядзець, як вядома, значна лягчэй, чым пісаць. Я пісаў

некалькі гадзін і мяне ніхто не турбаваў. Праз пяць гадзін я спыніўся. Больш пісаць не было пра што. Я ўсё напісаў. Але ніхто не прыходзіў, каб праверыць, чым я займаюся. Я задрамаў, галава звесілася…

*Гэта Ксю. Ксю таксама ўмее пісаць. Яшчэ як умее. Але не толькі. Таму што Ксю не жадае чакаць. А хто і што Ксю зробіць? Людк толькі і ведае, што дагаджаць гэтай вядомай артысцы. Але Ксю яна зусім не падабаецца. Ксю падабаецца ён. Навошта Ксю яго камусьці аддаваць?*

*Так што пакуль-пакуль.*

*2010*

# МЫЛА

*Раман*

I

Снег хрумсцеў пад нагамі, як выпадкова рассыпаны цукар. Вецер слабы, але даволі адчувальны, нахабна лез у твар, як спартсмен на баксёрскім рынгу.

Прайшоўшы міма Цэнтральнага гастранома, у якім за доўгай стойкай ля вокнаў стомлены за дзень народ паядаў адзін за адным гамбургеры, хот-догі, сандвічы і запіваў ці гарачай гарбатай, ці халодным кефірам альбо сокам, гледзячы які ў каго густ; пазіраючы сабе пад ногі і толькі цудам абмінаючы выпадковых прахожых, трымаючы рукі ў кішэнях курткі, Вадзім Корбут спусціўся ў падземны пераход. Выцягнуўшы з унутранай кішэні пляшку «Льва», ён адкаркаваў яе запальнічкай і паставіў піва на карніз зачыненага кіёска, побач з якім спыніўся. Шпурнуўшы ў сметніцу пусты пачак «Форту», Вадзім закурыў апошнюю цыгарэту.

Як і заўсёды, ці то сметніца была далёка, ці ён не разлічыў траекторыі палёту, пачак не даляцеў да сметніцы і шмякнуўся ў лужыну, дзе тут жа быў расціснуты цяжкай нагой панурага таўстуна.

Вадзім зрабіў адзін вялікі глыток, зацягнуўся цыгарэтай. І клаў ён на ўсіх з прыборам, і на восьмы тэлеканал, і на свае абавязкі рэкламнага агента. Ён не для таго народжаны, каб бегаць ці, хутчэй, мыкацца, па розных агентствах, прапаноўваючы і агітуючы глядзець адзіны восьмы канал толькі таму, што ён,

Вадзім, з’яўляецца яго рэкламным агентам. Затое з сённяшняга дня ён вольны, як вецер. Куды хачу, туды лячу. Пра брата, з якім жыў разам, Вадзім яшчэ не ўспамінаў і нават думаць не хацеў, што той скажа.

Іх падабенства пачыналася і заканчвалася аднолькавым вялікім ростам. Вадзім быў бландзінам з блакітна-вадзяністымі халоднымі вачыма. Каротка стрыжаны, ён ніколі не насіў шапкі дый куртку не зашпільваў ніколі. Зімой і летам — душа наросхрыст. «Да пары да часу»,— папярэджваў брат, старэйшы на дваццаць гадоў, і акрамя брата, у Вадзіма нікога больш не было.

Ён, што называецца, фарсіў у нязменнай чорнай скуранцы, джынсах-«трубах», ботах-«казаках», без пальчатак, без шаліка. На працу Вадзім апранаў строгі касцюм і гальштук, чаго трываць не мог, адчуваючы сябе сардзінкай у кансервавай бляшанцы. Але пакуты скончыліся.

...Вадзім папіваў піва, невідушчым позіркам праводзячы прахожых у метро, як пачуў сваё імя даволі знаёмым голасам.

— Вадзім, кораш! — Хлопнуў Корбута па плячы п’янаваты, аднаго з ім росту, хіпаваты хлопец, закаваны, як у бронежылет, у чорную скуру, з прыбамбасамі ў выглядзе брэлокаў-шкілетаў-тэрмінатараў-бэтменаў. Саламяныя валасы спускаліся на яго плечы домікам, у даволі густой барадзе заблыталіся, як мухі ў павуціне, крупінкі батона, з левага вуха звісала завушніца — мініяцюрны распяты Хрыстос.— Якім лёсам тут?

— Руслан?! — з цяжкасцю пазнаў Вадзім аднакласніка. У школе той насіў прычоску пад Элвіса, а зараз і валасы адпусціў, і пафарбаваў іх пад Кабэйна. Ці не стары ён для фаната «Нірваны»? Звычайна, падлеткі захапляюцца такой музыкай...

— Ну, нарэшце! — шчыра ўсміхнуўся Руслан, узрадаваны, што Вадзім пазнаў яго.

— Што гэта з табой? — разглядваючы колішняга аднакласніка, дзівіўся Вадзім.

— Нічога,— смяяўся Руслан.— Ты ў сваіх Печах за паўтары гады адстаў ад жыцця.

— Я ў Віцебску служыў,— пакрыўдзіўся Корбут і падумаў: «А ці не ўмазаць гэтаму Руслану пару разоў між вачэй. Хаця, можа, і не трэба».

— А, дэсантура, значыць? — працягваў радавацца Руслан.— Тады прабач, калі што. Я ж ведаю, усе дэсантнікі крыўдлівыя і задзірлівыя.

— Эй, Русла! — пачуўся з-за спіны Вадзіма сімпатычны дзявочы голас.— У твайго кораша грошы ёсць?

— На самай справе,— падхапіў Руслан ідэю, спыняючы Вадзіма рукой за плячо, калі той хацеў павярнуцца на сімпатычны голас,— можа, ты багаты на «бабкі»? Па старой дружбе…

«Нешта не памятаю, каб мы з табой вельмі ўжо і сябравалі,— падумаў Вадзім.— Так, «прывітанне» ды «пакуль», яшчэ паштовымі маркамі абменьваліся, разам у гурток філатэлістаў хадзілі».

— Ды чаго ты ўсё верцішся! — смяяўся Руслан, плячо Вадзімава, аднак, не выпускаючы.

Корбут не адказаў і паволі ўсё ж павярнуўся назад, у той бок, адкуль пачуў прыгожы голас.

За яго спінай, у метрах пяці, сценкай стаяла купка нефармалаў, пярэстая, як па ўзросце, так і па вопратцы.

Сімпатычны голас, ён быў упэўнены, належаў невысокай, але прыгожай, на яго погляд, брунетцы з некалькімі зялёнымі пасмамі, у байцы з Куртам Кабэйнам на грудзях, у чорных вузкіх джынсах і ў высокіх красоўках. Нечым яна нагадвала спявачку Яну.

Дзяўчына, не звяртаючы ўвагі на нефармалаў, пільна пазірала ў Вадзімавы вочы, паволі падносячы цыгарэту да сваіх вуснаў, паволі зацягваючыся і выдыхаючы дым, паволі апускаючы руку з цыгарэтай…

— Дык ёсць у цябе грошы? — Падышла да Вадзіма, прапанавала цыгарэту.

Вадзім моўчкі згадзіўся, зачараваны вачыма дзяўчыны — вялікімі, бяздоннымі, цёмнымі і густымі, як гушча кавы на донцы філіжанкі, зацягнуўся.

— А што будзе… калі ёсць? — хрыпла прагучаў яго голас.

— Нічога не будзе,— паціснула плячыма дзяўчына.— Як табе? — пацікавілася наконт цыгарэты.

— Што гэта? — яшчэ раз зацягнуўся Вадзім.

— Анаша,— проста адказала дзяўчына, нібыта гэта была цукерка.

— Н-да,— пацягнуў шыю Вадзім.

— А чаго ты здзіўляешся? — прамовіла дзяўчына.— Ці табе апошнія мазгі ў войску адбілі?

— Не апошнія.

— Тады не цягні гуму, а скажы, згодны ты з намі тусавацца ці не?

— За свае грошы?

— Цябе ніхто не прымушае. Аднак, што табе важней: чарговая серыя «Санта-Барбары» ці добрая кампанія? Толькі кажы праўду…

— Тэлевізар мне няма часу глядзець,— адрэзаў Вадзім,— а вось вы, спадарыня, даволі добра дасведчаная пра серыялы па тэлебачанні…

— Яшчэ б,— згадзілася дзяўчына,— калі бабуля з мамуляй памяшаліся на серыялах, да таго ж, пачалі па чарзе параўноўваць гераінь са мной.

— Гэта сумна.

— Няўжо весела? Але ты не адказаў.

— Згаджайся, кораш,— шапнуў яму на вуха Руслан, які ўвесь час моўчкі стаяў за спінай Вадзіма і ў размову не ўмешваўся.— Па-мойму, Пума на цябе паклала вока.

— Пума? — уголас паўтарыў Вадзім.

— Гэта мая клікуха,— растлумачыла дзяўчына.— Сапраўднае маё імя Леся.

— Вадзім,— з ходу ляпнуў Корбут.

— Ну вось і пазнаёміліся,— адзначыла Леся і ўзяла яго за руку.— Спадзяюся, супраціўлення не будзе?

Аб якім супраціўленні магла весціся гаворка? Калі побач з табой прыгожая дзяўчына, няважна з якой нагоды! Вадзім стараўся не думаць, што, хутчэй за ўсё, калі б грошай у яго не аказалася, Леся нават не зірнула б у яго бок. А ў яго грошы ёсць, і моладзь жадае выпіць. Чаму б і не дапамагчы?

Яны купілі дзве бутэлькі «Пшанічнай», чатыры — «Міража», чатыры — «Холстэна», два боханы чорнага хлеба, батон, пакет кефіру, палку каўбасы і пару гамбургераў для Лесі, якая вельмі хацела есці. Потым пачакалі, пакуль Руслан злётае за таннымі цыгарэтамі, бо на «L&M» ужо не хапала грошай. Калі вярнуўся Руслан, паўстала, як адзінка ў школьным дзённіку, пытанне: куды пайсці? Па-першае, час позні; па-другое, холадна і ні аб ніякім парку можна нават і не заікацца, а ў пераходзе не застанешся, бо менты і так ужо скоса пазіраюць і ходзяць вакол зігзагамі; сунуцца да каго-небудзь на хату таксама адпадала, бо правільныя бацькі паднімуць вэрхал і выклічуць міліцыю, пажарных і «хуткую дапамогу» разам.

Думаць трэба было хутчэй, бо набліжаўся час спынення грамадскага транспарту.

Твары кампаніі пахмурнелі ў цяжкіх думках, быццам кожны з іх сядзеў за сталом на экзамене па вышэйшай матэматыцы і рашаў задачу для акадэмікаў.

— А з якой нагоды фуршэт? — весела пацікавіўся Вадзім.

— Цябе сустрэлі,— прамовіла Леся,— вось і трэба адзначыць.

— Тады паехалі да мяне,— усміхнуўся, падміргваючы Лесі, Вадзім.

— Чаго ж ты раней маўчаў! — усе разам накінуліся на Корбута з папрокамі. Адна Леся моўчкі дакурыла цыгарэту і пстрыкнула недакуркам у бок ад сябе.

— Куды ехаць? — спыталася.

— На Пушкінскую.

— У метро! — дружна крыкнула кампанія і адзіным цэлым кінулася да шкляных дзвярэй, вядучых у метро.

Яны ледзь не спазніліся на апошнюю электрычку, Вадзім паспеў учапіцца за дзверы вагона і стаць паміж імі, утрымліваючы, каб не зачыніліся, пакуль усе не апынуліся ў вагоне.

— Ты адзін жывеш? — пасля пацікавілася Леся.

— Не, з братам. А што?

— Ён нас пусціць?

— Ён пісьменнік,— адказаў Вадзім, закрыўшы гэтай фразай тэму, нібы яна была адзіным адказам на пытанне.

Аўтобусы ўжо не хадзілі, давялося ісці пешшу. Але было недалёка. Да дзевяціпавярховіка, у якім жыў Вадзім, што насупраць будаўнічага тэхнікума па вуліцы Матусевіча,— усяго дзесяць хвілін хады.

...Як назло, брата не было дома. А ў Вадзіма не было ключоў ад кватэры. Засталіся ў касцюме.

— І тут не шанцуе,— заўважыў нехта з кампаніі.

— Мой брат — пісьменнік! — са значэннем павысіў голас Вадзім.— Калі яго няма, пойдзем уніз. Не «люкс», але цярпіма.

— Галоўнае, што не холадна.

— Гарэлкі мала.

— Не праблема. Па дарозе «начнік» бачыў?

— А грошы дзе браць?

— Знойдуцца.

Калі ўсе паселі на пляцоўцы першага паверха, пад лесвіцай, насупраць ліфта, каму як было зручна, Вадзім адкаркаваў першую бутэльку. На дзіва, дзяўчаты, якіх было чацвёра, не лічачы Лесі, ад гарэлкі адмовіліся, акрамя Лесі. Адна з іх, рыжая, вяртлявая, падобная на ваверчаня, палезла ў свой рукзак і дастала сапраўднае

«Кліко». Растлумачыла тым, што рэквізавала з дня нараджэння старэйшай сястры.

Калі пітво разлілі, Руслан падняўся з лесвічнай прыступкі, на якой сядзеў адзін, і проста сказаў: «За нас!»

Гарэлку хутка выпілі, «чарніла» таксама не затрымалася. Душы патрабавалі працягу. Руслан згадзіўся збегаць. Вадзім адлічыў грошы, тое, што засталося.

Разбіліся па парах, зашыліся, як мышы ў норах, па кутах. Пачуліся чмокі пацалункаў, гарачыя шэпты, гук расшпільваемых куртак з аднаго боку і прыглушанае пастагванне, з другога — звон аплявухі, нібы разбітага посуду; ціхае, але абуранае «…куды палез, ёлупень?!», зноў аплявуха, тузаніна, хуткія крокі…

Побач села тая, рыжая, Надзя, прычэсвала адной рукой валасы, другой зашпільвала куртку. У глыбіні душы Леся аблаяла Надзю і паслала падалей, бо ёй хацелася застацца з Вадзімам побач адной.

Вадзіму, у сваю чаргу, таксама замінала Надзя, але ж не прагоніш яе.

З'явіўся задыханы румяны Руслан, з ледзяшамі на барадзе, з трыма пляшкамі «Двух буслоў».

## II

Мікіта Міхайлавіч Корбут прывык пісаць з раніцы. Пасля, вядома, ранішняга рацыёну, які складаўся з нязменных двух кубкаў кавы з цукрам і цыгарэты.

Сядаючы за пісьмовы стол, Корбут спачатку перачытваў старонкі, напісаныя ўчора, калі-нікалі правіў іх і прымаўся за працу. Не заўсёды работа задавальняла, калі ўсё ішло гладка, як тканіна ці роўная асфальтаваная дарога. Часам пісаніна здавалася суцэльным пеклам, калі ён выціскваў па кропельцы, нібы падлогавую анучу, сказы, марнуючы на іх па чатыры, а то і па шэсць гадзін, каб напісаць хаця б старонку.

Не пісалася. Корбут вывеў толькі адно слова на белым, як малако, аркушы паперы. Далей, як не напружваўся, нібы рожаніца ў раддоме, нічога не нараджалася. Як ступар усё роўна нейкі адбыўся.

Ён закурыў, аблакаціўся аб стол, прабягаючы вачыма яшчэ раз па папярэдніх радках папярэдняй старонкі.

— Дэбілізм нейкі! — вылаяўся Корбут. Ён зграбастаў спісаныя аркушы, скамячыў у няправільную акружнасць і падпаліў, шпурнуў, ужо ў агні, у попельніцу. Цяжка ўздыхнуў. Усё ж не кожны дзень нішчыў плады тыднёвай працы. Аднак так лепш. Не хапала яшчэ паглыбіцца ў безгустоўшчыну сучасных трылераў! Трэба шукаць штосьці іншае, пажадана без ужывання мата, які запаланіў усю сучасную прозу. Дзе наша эстэтыка падзелася? Ці яе, як і каханне, спіхнулі ў бардэль на агледзіны новых рускіх за пару тысяч даляраў? Танна. І не шкада? Была б яго воля… Хаця навошта марыць аб нязбыўным? Марыць ніколі не зашкодзіць, гаворыць народная мудрасць, але… лепш… так.

Корбут сумна ўсміхнуўся.

Вось так і ўсе, як ён. Мая хата ўбаку. Свая кашуля бліжэй да цела. Галоўнае, каб ніхто ніколі не закрануў асабісты побыт. Жыць пад дэвізам шэрай будзёншчыны: гэта мяне не тычыцца. Калісьці ён быў не такі, у маладосці. Не было куды энергію дзяваць. І куды ўсё знікла?

— Няўжо я так дэградаваў? — уголас прамовіў Корбут.

Ён зазірнуў у пакой малодшага брата. Але Вадзіма ўжо не было. Ці яшчэ не было? Памятаецца, Корбут заснуў, так і не дачакаўшыся яго, пад іранічныя і зусім не страшныя ўскрыкі Фрэдзі Кругера па тэлебачанні, а сніў зноў Вераніку Бердник, маладую і абаяльную, якой яна была пятнаццаць гадоў таму. Зрэшты, яна і зараз не выглядае на свае трыццаць шэсць. Па ролях у

кінастужках ёй не дасі болей дваццаці пяці—дваццаці сямі гадоў…

Працяжна зазваніў тэлефон. Неахвотна адарваўшыся ад прыемнага ўспаміну, Корбут падняў слухаўку.

— Мікіта, гэта ты? — пазнаў ён калегу па пяры Канстанціна Цімашэнку, таленавітага, але гультаяватага празаіка, які займаўся ў Доме літаратара творчай працай з моладдзю. І атрымлівалася нядрэнна. З-пад яго лёгкай рукі выйшаў ужо не адзін цікавы паэт.

— Я. Здароў, Косця,— адгукнуўся Корбут.

— Прывітанне. Мікіта, ты ж не забыўся пра сённяшні вечар?

— А што сёння ўвечары? — не зразумеў Корбут.

— Ну, блін… — нязлосна вылаяўся Цімашэнка.— Мы ж з табой яшчэ калі дамовіліся, не памятаеш?

— А, наконт тваёй тусоўкі літаб’яднання? — дапяў Корбут.— Не хвалюйся, я буду.

— Толькі ж не прывалачыся на аўтапілоце,— папярэдзіў яго Цімашэнка.— Усё-ткі школьніцы будуць, студэнткі… Які ты ім прыклад падасі?

— Твае школьніцы, Косця, бачылі не тое, што п’янага пісьменніка, а…

— Добра, добра, нічога не маю супраць,— спыніў яго Цімашэнка,— але абяцай, што прыйдзеш цвярозы.

— Ты дрэнна мяне ведаеш, Косця,— прамовіў Корбут.— Я магу і пакрыўдзіцца. Апошні раз я піў на тваім дні нараджэння, калі ты памятаеш…

— Ды добра, Мікіта, я жартую,— рассмяяўся ў трубку Цімашэнка.— Папярэдне рыхтуйся да шквалу пытанняў. Абяцаю, што цябе імі засыплюць, як снегам.

— Не сумняваюся.

— Ну, тады давай!

— Шчасліва.

Корбут асцярожна паклаў трубку на апарат і выйшаў на балкон. Звычайна свежае паветра і павевы ветру яму дапамагалі засяродзіцца і адшукаць патрэб-

ныя словы для новага твора, але не ў гэты раз. Корбут змерз, стоячы на холадзе ў адной цяльняшцы, а ў галаве замест думак гуляў вецер.

З Веранікай Берднік ён пазнаёміўся восенню. Здаецца, у верасні, у самыя апошнія дні верасня, калі было ні халодна ні цёпла і, не спыняючыся, ішлі дажджы.

Тады Корбут ужо вучыўся ў тэатральным і быў заняты ў спектаклі пра дзекабрыстаў аматарскага тэатра аднаго з рэжысёраў-мецэнатаў-альтруістаў, якому цікавей працавалася з непрафесійнымі і абавязкова маладымі артыстамі.

На рэпетыцыю, як і звычайна, Корбут прыйшоў а васямнаццатай без спазнення. Па зале ўжо і па сцэне насіліся акцёры, па ходу абмяркоўваючы нейкія свае праблемы.

Не прымусіў сябе чакаць і рэжысёр, высокі, плотны мужчына гадоў пад сорак з хвалістымі валасамі і сівой барадой. Нечым ён нагадваў ката з мульціка пра папугая Кешу.

— Мікіта тут? — яшчэ з парога пачуўся яго грамавы бас.

— Тут,— адгукнуўся Корбут, скідаючы куртку на спінку крэсла.

— Ларыса тут? — спытаўся рэжысёр ужо са сцэны, адолеўшы за некалькі секунд даволі доўгі праход сваімі аграмаднымі кінг-конгаўскімі крокамі.

Няпоўная трупа акцёраў азірнулася па баках у пошуках Ларысы, але той нідзе не было.

— Мне гэта вельмі падабаецца! — задумліва прамовіў рэжысёр.— Праз два тыдні — спектакль!..

— Сяргей Міронавіч, Ларыса не зможа граць у гэтым спектаклі,— прамовіла нікому не знаёмая дзяўчына, што хутка набліжалася да сцэны.

— Гэта яшчэ чаму? — здзівіўся рэжысёр.— А хто будзе граць? Я?

— Яна дзіка прабачаецца,— працягвала дзяўчына.— Але за ёю прыехаў муж з Поўначы, і толькі што я праводзіла іх у аэрапорт.

— Фантастыка! — прамовіў рэжысёр, правёўшы рукою па барадзе.

Увесь гэты час Корбут стаяў спінай да дзяўчыны, намагаючыся скруціць папяросу з газетнай паперы. Але то тытунь рассыпаўся, то папера расклейвалася, то папяроска такая ўжо хударлявая атрымлівалася, што Корбуту рабілася сорамна за яе: а калі хто пабачыць, што падумае? Дый замучыўся ён торгаць нагой па паркеце, распіхваючы такім чынам рассыпаны тытунь па кутах.

— А хто будзе граць? — хутчэй самому сабе, чым прысутным, сказаў рэжысёр, паволі сыходзячы са сцэны па рыпучых прыступках.— Ты? — утаропіўся ён у незнаёмую дзяўчыну.

— А чаму б і не? — нахабна прамовіла тая.

Некаторае імгненне рэжысёр моўчкі глядзеў на яе, муляючы губамі, затым істэрычна моцна засмяяўся, балансуючы вялікім жыватом, абцягнутым белым цёплым гольфам, які нагадваў бочку з півам.

— Не, ты ўяўляеш, Мікіт,— праз смех вымавіў рэжысёр,— што яна заяўляе? Засталося два тыдні. Яна, не цямячы нічога ў рабоце тэатра, заяўляе, што выканае галоўную жаночую ролю?

Упэўненыя словы дзяўчыны прымусілі Корбута звярнуць на яе ўвагу.

Яна свабодна стаяла насупраць рэжысёра, трымаючы рукі ў кішэнях доўгага чорнага паліто. На ёй былі вязаны белы швэдар і раскляшоныя штаны. Каштанавыя валасы, расчасаныя на прабор і за маленькія вушкі, крыху не даставалі плячэй; вочы, колеру цёмнай моцнай гарбаты, без страху і сумнення пазіралі то на яго, то на рэжысёра. Скура на твары дзяўчыны вы-

лучалася матавай чысцінёй і непараўнальнай гладкасцю ядвабу; нервовыя вытанчаныя бровы, іх узлёт, у меру і з густам нафарбаваныя вусны, тонкі, невялікі, крыху зусім непрыкметна ўздзёрнуты цікаўны носік і пікантна-эратычнае зернейка радзімкі над верхняй губкай нявольна прымушалі надоўга спыніць свой позірк на іх. Вочы мелі ледзь заўважную раскосасць, але гэта прыдавала своеасаблівы шарм агульнаму партрэту дзяўчыны.

— А, можа, паспрабуем, Сяргей Міронавіч? — не адводзячы позірку з ейнага твару, прамовіў Корбут.

— Ты ўяўляеш, у што мне гэта абыдзецца? — чамусьці выбухнуў рэжысёр.— Толькі на Ларысу колькі мы забамбілі часу, памятаеш?

— Я ведаю цалкам увесь тэкст,— паведаміла дзяўчына.

— Ды ведай ты хоць дзесяць тэкстаў! — не сціхаў рэжысёр.— Ты разумееш, што такое сцэна? Што такое пот? Калі пад пахамі толькі ў выніку аднаго выхаду смярдзіць, як…

— Сяргей Міронавіч!..— абарваў яго Корбут.

— І на самай справе, чаго гэта я? — нібыта апамятаўся рэжысёр.— Назавіце сябе! — звярнуўся раптам да дзяўчыны.

— Вераніка,— усміхнулася пераможна тая.— Вераніка Берднік.

— Берднік? — пераглянуліся рэжысёр з Корбутам.

— Я малодшая сястра Ларысы,— дадала Вераніка.

— М-да,— вымавіў рэжысёр.— А дзе вучышся?

— Першы курс тэатральнага.

Рэжысёр зірнуў на Корбута, нібыта пытаючыся парады ў яго.

— Добра,— прамовіў ён пасля непрацяглай паўзы.— Паспрабуем. Для больш глыбейшага ўспрымання парэпетуем у касцюмах. Даю дзесяць хвілін на пераапрананне. Мікіта, час пайшоў!

…Вераніка паказала сябе даволі падрыхтаванай для той ролі актрысай. Корбут адчуваў сябе на сцэне з ёю не вядучым, а вядомым, хаця лічыўся ўжо даволі вопытным, маючы за спінай тры кінаролі ў партнёрстве з яшчэ невядомым тады Харацьянам, Корбутавым аднагодкам, дарэчы, Карачанцавым і Алісай Фрэйндліх.

Яму прарочылі шумны поспех і ўдалую кар'еру, як у Савецкім Саюзе, так і за яго межамі. Але ўжо тады, калі толькі-толькі Корбут пазнаёміўся з Веранікай, ён падумваў пра Афганістан, пра свой удзел у той вайне. Корбут кінуў Купалаўскі тэатр і пайшоў да Сяргея Міронавіча, пацціху збіраючы рэчы ў далёкую дарогу. Але гэта потым. Спачатку была рапсодыя кахання…

Да Дома літаратара Корбут прыйшоў без пяці хвілін на шостую. Пакурыў ля ўвахода, пасля зайшоў у памяшканне, дзе каля лесвіцы яго сустрэў Цімашэнка — каранасты, сівавусы, з невялікім жывоцікам мужчынка.

Яны парукаліся, і Цімашэнка павёў сябра за сабою ўверх па лесвіцы на трэці паверх.

Моладзі ў пакоі было багата, што вельмі ўзрадавала Корбута; радавала яго і тое, што большасць з прысутных — дзяўчаты, хоць яго раманы даволі жорсткія для ўспрыняцця. Пільны і назіральны позірк майстра адзначыў для сябе і вельмі прыгожага маладога чалавека, што сядзеў ля акна, бадай, адзінага сярод дзяўчат.

— Бачыш, Корбут,— ляпнуў па плячы Цімашэнка,— хлопцы вершы пішуць…

— Прыгожыя хлопцы павінны пісаць і прыгожыя вершы,— усё яшчэ пазіраючы на таго юнака, прамовіў Корбут.

— Так,— пагадзіўся Цімашэнка.— Тарас наш Кутняк сёння прыйшоў узрадаваны, вершы новыя напі-

саліся,— кінуў позірк на прыгожага хлопца.— Аднак сядай, Мікіта,— прапанаваў Корбуту крэсла побач з сабой за рэдактарскім сталом.

Моладзь чамусьці падзялілася як бы на два лагеры. Дзяўчаты — з аднаго боку, хлопцы — з другога, калі не ўлічваць маладога паэта Кутняка, які знаходзіўся паміж.

Корбут не ведаў, што ім казаць, маладым, прыгожым, таленавітым, мабыць, многія з прысутных друкаваліся ўжо і неаднойчы, некаторыя займелі ўласныя зборнікі вершаў. Пачынаць з банальнага «як трэба пісаць», Корбут саромеўся, таму што сам не ведаў, як трэба. А пачні, гэтыя маладыя геніі абвергнуць яго з маланкавай хуткасцю, прыводзячы ў доказ свае творы.

На шчасце, пачаў гаворку Цімашэнка. Ён распавёў моладзі Корбутаву біяграфію і пра свае стасункі з ім, пакуль сам Корбут абмацваў сваім вострым прымружаным позіркам, нібыта пальцамі, кожны твар, кожныя вочы прысутных. Ён часта спыняўся на бездакорным, з правільнымі рысамі, твары Кутняка. Корбут ніколі не чуў і не чытаў яго вершаў, але па ўсёй яго паставе, па сумнай засяроджанасці вачэй адчувалася, што перад ім асоба, хай не паэт, але асоба. А гэта значней, чым…

Цімашэнка штурхануў яго плячом, вачыма загадваючы казаць што-небудзь. Не для таго ж яго паклікалі, каб сядзеў, як слуп, а ім любаваліся б, быццам статуяй Свабоды, хаця гэта было б нядрэнна.

Аднак не паспеў Корбут вымавіць і слова, як узнікла першае пытанне, затым другое, трэцяе…

Пытанні задаваліся самыя розныя, нават пра інтымнае жыццё. Відаць, каму што баліць, пра тое і пытаецца.

Але сустрэча адбылася. Сустрэча спадабалася. Спадабаліся твары творчай моладзі, што нагадвалі лішні раз аб неўміручасці беларускай літаратуры.

— Ну як, ты задаволены? — спытаўся Цімашэнка Корбута, калі той падпісваў апошняй жадаючай сваю кніжку.

— Вельмі,— усміхнуўся Корбут, хаваючы асадку ў кішэню пінжака.

Яны засталіся ўдвух. Цімашэнка прапанаваў прыняць па маленькай, Корбут не адмовіўся.

— Яшчэ б,— смяяўся Цімашэнка, адкаркоўваючы бутэльку.— Калі такое было, каб Корбут адмовіўся выпіць!

— Я нават не ўяўляю, калі такое будзе,— у тон яму адказаў Корбут.— За што п'ем?

— Давай,— Цімашэнка задумліва падняў чарку,— за нашу моладзь. Усё-ткі гэта наша змена, Мікіта. А ведаеш, колькі мне псуе нерваў розная свалата з-за таго, што я моладдзю займаюся? Я не буду называць табе імёнаў, ты сам іх добра ведаеш… Ды і хрэн з імі…

— Не забывай,— кульнуўшы чарку і вымаючы цыгарэты, прамовіў Корбут,— што літаратура — тая самая вайна, толькі на іншым узроўні.

— Так, гэта сумна,— хітнуў галавой Цімашэнка.— Але, Мікіта, я хачу сказаць табе па сакрэце,— разліваючы яшчэ па адной, працягваў ён,— самае болей праз месяц маладым будзе дзе друкавацца, акрамя «Маладосці». Хаця, што такое, па сутнасці, «Маладосць», калі пад рубрыкай «Упершыню» — друкуецца сарака—пяцідзесяцігадовы дзядзька.

— Цікава-цікава,— прыслухаўся Корбут.

— Мы адкрываем часопіс менавіта маладых, даючы магчымасць усім, каго ты сёння бачыў, сказаць сваё слова ў літаратуры. І яшчэ,— дадаў Цімашэнка,— ад цябе я б хацеў якое-небудзь апавяданне ці ўрывак з рамана на першы нумар. Я мяркую ў кожным нумары даваць аднаго-двух сталых аўтараў.

— Не пытанне, Косця,— падняў чарку Корбут.— Патэлефануй, калі спатрэбіцца. Дарэчы,— задумліва

прамовіў ён, прымружыўшы па звычцы вочы,— што ты можаш сказаць пра Тараса Кутняка?

— Харошы хлопец, а што? — зацікавіўся Цімашэнка.

— Нічога,— усміхнуўся Корбут,— проста цікавая ў яго знешнасць.

— Прыгожы, нічога не скажаш,— згадзіўся Цімашэнка,— дзеўкі ў чаргу выстрайваюцца. Вершы таксама прыгожыя, калі хочаш ведаць, але вельмі адрозныя ад знешнасці аўтара. Змрочныя нейкія, закручастыя, цынічныя… у такія-то гады.

— І колькі яму?

— Чацвёрты курс філфака, значыць, гадоў дваццаць. Яго падборка будзе адкрываць першы нумар часопіса.

— Як ён будзе называцца хоць?

— Як выйдзе, пабачыш,— засмяяўся Цімашэнка.

— Добра, калі ты такі прымхлівы, змаўкаю…

…З Дома літаратара выйшлі таксама ўдвух. Цімашэнку было ў іншы бок, дый жонка раўнівая чакала, не дазваляючы доўга дзе-небудзь бавіцца. Таму ён хутка развітаўся.

Корбут спыніўся на ганку, зашпільваючы куртку і падымаючы каўнер ад моцнага ветру і мокрага снегу. Павярнуўшыся спінай да ветру, запаліў цыгарэту.

Нацягваючы пальчаткі, ён заўважыў постаць непадалёк ад сябе, што, хаваючыся, цікавала за ім. Корбут прыкмеціў яе яшчэ, як развітваўся з Цімашэнкам, і чамусьці быў упэўнены, што постаць дзявочая.

— Што ж вы хаваецеся? — застаючыся на месцы, спытаўся Корбут.— Я не кусаюся. Выходзьце, пабалакаем, калі што.

Нетаропка, сумняваючыся, дзяўчына ў белым футры наблізілася да Корбута, не даходзячы, аднак, крокаў двух.

— З кім маю гонар? — ветліва спытаўся Корбут.

— Саша,— не адразу адказала дзяўчына, ці то баючыся Корбута, ці то саромеючыся.

— Алеся, значыць,— нібыта для сябе, адзначыў Корбут.— Прыгожае імя.

— Не,— запярэчыла дзяўчына.— Проста Саша.

— Ой,— весела ўсміхнуўся Корбут,— лісанька кіпцюрыкі выпусціла.

— І зусім не лісанька,— нібыта пакрыўдзілася Саша.— Хутчэй, кошачка.

— Шкада, што я не кот,— адзначыў Корбут.— Але,— зірнуў на бяззорнае сіняе, як Сашыны вочы, неба,— стоячы на адным месцы, нядоўга замерзнуць. Хадземце куды-небудзь. Я так разумею, што вы дзеля гэтага чакалі мяне?

Саша не адказала, але прасунула сваю руку ў чырвоных пальчатках пад яго руку.

Дзяўчына падалася Корбуту сімпатычнай. Асабліва ўразілі доўгія бялявыя валасы, што падалі суцэльнымі хвалямі на плечы і вочы, сінія, як ноч, прычым разумныя.

Не пытаючыся адно ў аднаго, яны павярнулі налева, перайшлі дарогу і накіраваліся ў парк Горкага.

Лянівыя сняжынкі, як парашутысты, спускаліся з неба, каб усласць сваімі крохкімі цельцамі магутнае цела зямлі. Шкілеты дрэваў у цёмных кутах здаваліся персанажамі фільмаў жахаў.

— Вы мяне зусім не помніце? — раптам спыталася Саша.

— Чаму, помню,— прамовіў Корбут.— Ты сядзела побач з прыгожым маладым паэтам, здаецца, Тарасам Кутняком.

— Не,— засмяялася дзяўчына,— не ў гэтым сэнсе.

— А ў якім?

— Не, гэта не важна.— На секунду Саша задумалася, затым спытала, нібы спахапіўшыся: — Я, мабыць, вас затрымліваю?

— Ды не, не вельмі,— здзівіўся Корбут.— Але, калі вы мяне выкралі, гэта можна і так назваць,— то ў чым прычына?

— Я… я прачытала нядаўна ваш раман,— раптам прамовіла Саша.

— Я ведаў, што зараз вы гэта скажаце! — рассмяяўся ад душы Корбут.— І як вам?

— Цудоўна! — захоплена адказала дзяўчына.— Праўда! Толькі фінал мне не спадабаўся. Навошта вы ў кожным сваім рамане забіваеце галоўных герояў?

— Затым, што такая рэчаіснасць. Іншага выйсця няма.

— Гаворыце вы нейкімі штампамі,— заўважыла Саша.— Я таксама магла б так сказаць пра вашы раманы, але вы аўтар, а карыстаецеся тэрмінамі крытыкаў, чый слоўны запас не вызначаецца багаццем.

— Гэта цікава,— усміхнуўся Корбут.— Дзе вы вучыцеся, спадарыня?

— На філфаку, чацвёрты курс,— адказала дзяўчына.— А што?

— Нічога. Проста хацелася ведаць, з кім маю справу.

— І вы задаволены?

— На пяцьдзясят працэнтаў.

Белая сцяжына ў ранах ад абцасаў крута заварочвала да дзвюх лавак, пастаўленых адна насупраць другой, на якіх сядзелі, асядлаўшы, і стаялі побач, хаваючы за спіну аднаразовыя стаканчыкі з «Міражом» ці «Вермутам» маладыя літаратары, што паўгадзіны назад, з цікавасцю ці без, слухалі Корбута. Быў сярод іх і Тарас Кутняк. Ён адзін не засаромеўся набліжэння пісьменніка, выпіў, паставіў пустую тару на «дыпламат», на якім ужо месціліся батон і мінералка.

— Мікіта Міхайлавіч,— падышоў да Корбута Тарас,— не пагрэбуеце з намі выпіць?

Відавочна, што Кутняк сярод сваіх сяброў быў лідарам, і ўсе чакалі, што зробіць Корбут, як адрэагуе на рэпліку Кутняка. Корбут, пакінуўшы Сашу, яна адышла да адной з дзяўчат і нешта зашаптала той на вушка, наблізіўся да Тараса.

— Налівай,— прамовіў ён.

Малады паэт не прымусіў сябе чакаць. Ён да краёў напоўніў шкляначку і падаў Корбуту. Той, падняўшы яе, агледзеў прысутных.

— А вы ведаеце,— прамовіў ён,— што самае галоўнае ў выпіўцы?

— Закусь! — нехта гаркнуў.

— Бабы, дурыла!

— Сам дурыла!..

— Сяброўскі кагал!

— Грошы — галоўнае!

— Гарэлка ці віно, бо як жа без іх піць!

— Не, хлопцы,— усміхнуўся Корбут у бараду.— Самае галоўнае, з кім п'еш.— І залпам выпіў.

## III

Корбут зайшоў у пад'езд і натыкнуўся на брата, які сядзеў на халоднай лесвічнай прыступцы з цыгарэтай у адной руцэ і з пляшкай піва ў другой. На каленях Вадзіма, нібы ў сядле, сядзела дзяўчына з зялёнымі валасамі. Яна курыла, а Вадзім раскачваў яе на каленях.

Відаць, кампанія добра пагуляла, бо некаторыя, як заўважыў Корбут, нават слова не маглі вымавіць. Вадзім, аднак жа, брата пазнаў, пракрычаў, узняўшы рукі:

— А гэта мой брат!

— Добрай ночы,— цалкам цвяроза прамовіла дзяўчына, што сядзела на Вадзімавых каленях, працягваючы Корбуту руку для знаёмства.— Леся.

— Вельмі прыемна, Леся,— сказаў Корбут.— Я так разумею, вы адзіная з прысутных яшчэ ў стане неяк разважаць, таму я вас папрашу дапамагчы завесці Вадзіма да ложка. Калі вы не супраць, вядома.

Леся зірнула на Руслана, які лавіў апошнія кроплі гарэлкі з перакуленай дагары пляшкі. Краем вока ён заўважыў Лесін позірк, пакінуў пляшку ў спакоі і прамовіў:

— Ты можаш рабіць, што захочаш. Гэта не мая справа. Мы абяцаем пакінуць гэты раён, калі спадар нам падаруе колькі не шкада на пляшку, за дзесяць хвілін. Згода?

«Яшчэ адзін цвярозы чалавек»,— адзначыў для сябе Корбут. У словах гэтага валасата-барадатага хлопца Корбут пачуў прыхаваную пагрозу. Інакш кажучы, яны адбяруць грошы сілком. Корбут не баяўся. Але палічыў разумным на гэты раз абысціся без крыві, бо і сам быў на добрым падпітку. А калі хто-небудзь выкліча міліцыю?..

Корбут адлічыў грошы і працягнуў іх Руслану.

— Грошыкі лік любяць,— сквапна пасміхнуўся той, хутка пералічваючы купюры, слінячы праз раз палец.— О’кей,— павярнуўся да сваіх, стаў штурхаць і будзіць усіх, хто паснуў.

Увесь гэты час Вадзім пазіраў невідушчымі вачыма то на брата, то на Лесю, то на Руслана, нічога не разумеючы. Ён хацеў было зацягнуцца цыгарэтным дымам, але адчуў, што цягае фільтр. Вадзім гідліва шпурнуў яго ад сябе, фільтр ціхенька шмякнуўся ў стаканчык з гарэлкай, які падносіў да губ адзіны стрыжаны пад нуль сярод усёй кампаніі хлопец, ледзь трымаючыся на нагах.

Калі пад’езд апусцеў, Леся злезла з Вадзімавых каленяў, Вадзім заплюшчыў вочы.

Пакуль Корбут выклікаў ліфт, Леся нямоцна пляскала далонямі па Вадзімавых шчоках, каб той не засынаў.

— Мікіта,— праз сілу расплюшчыў вочы Вадзім,— гэтая… дзяўчына… начуе… у нас.

Вочы яго зноў закрыліся, галава звалілася на грудзі.

Ліфт нарэшце прыйшоў. Корбут перадаў дзяўчыне свае рэчы, падхапіў брата на рукі і зайшоў у ліфт.

Леся націснула кнопку патрэбнага паверха. Яна ж адчыняла і дзверы ў кватэру Корбутаў, бо Вадзім без пастаронняй дапамогі не стаяў на нагах. Яна ж разаслала і ложак у Вадзімавым пакоі.

Калі Вадзіма распранулі і паклалі спаць, Корбут прапанаваў дзяўчыне пайсці на кухню папіць гарбаты.

— Вам на самай справе няма дзе начаваць? — спытаўся ён, падпальваючы газ.

— Дзіўнае пытанне,— села на табурэт ля акна Леся. Аблакаціўшыся на стол, падперла галаву рукамі, закінула нага за нагу. Хістаючы адной нагой, працягвала: — Я жыву на другім канцы горада, транспарт ноччу не ходзіць, а мае сябры пайшлі бухаць далей і наўрад ці іх знойдзеш зараз. Да таго ж на вуліцы зіма, таварыш брат Вадзіма, не ведаю вашага імя.

— Мікіта Міхайлавіч.— Сеў насупраць яе Корбут.— Насамрэч пытанне ідыёцкае,— пагадзіўся ён.

— У вас ёсць цыгарэты? — раптам спытала Леся і, калі Корбут працягнуў ёй пачак «Астры-люкс», заўважыла: — Відаць, усе перайшлі на танныя цыгарэты без фільтра. На чым вы эканоміце?

— Прабачце, не зразумеў.

— Ну і не трэба,— усміхнулася Леся.— Не звяртайце ўвагі. Дарэчы, вы зусім не падобныя з братам.

— Я ведаю,— згадзіўся Корбут.— Вадзім падобны на маці. Яна памерла, калі ён нарадзіўся.

— Зразумела,— прамовіла Леся.— Па-мойму, чайнік кіпіць.

…Гарбату яны пілі моўчкі. Леся — без цукру, Корбут — вельмі салодкую. Нечым Леся нагадвала Корбу-

ту Вераніку, нават не нечым, а ўсім: тыя ж нервовыя бровы, колер і выраз вачэй, манера гаворкі… нават фігура нагадвала фігуру Веранікі Берднік. Мабыць, гэта проста ачмурэнне нейкае, бо не можа Леся быць падобнай на Вераніку, а вусны іх усё бліжэй і бліжэй, а думкі, што насупраць яго ніякая не Леся, а Вераніка,— мацней і мацней…

І раптам аглушальнае «Одинокий голубь на карнизе за окном смотрит на меня, стучится в дом…».

Леся неасцярожна, незаўважна для сябе націснула клавішу магнітафона, што стаяў побач, на стале. Яна спалохалася, прыкусіла вусны, апусціла вочы. Корбут спакойна, рады, што небяспечнае насланнё лопнула, як мыльны пухір, выключыў магнітафон.

— Вам падабаецца Яна? — спытаў ён.

— А вам падабаецца Кабзон? — у сваю чаргу запытала Леся.

…Моўчкі яны зноў дапівалі гарбату. Леся яшчэ раз закурыла, адвярнулася да акна. Корбут зашумеў вадою з-пад крана, спалосквaючы шклянкі.

Ён наўмысна марудзіў выключаць кран. Напор вады і плёскат ад падстаўленых пад струмень рук раздражнялі Лесю, перашкаджалі думаць аб сваім.

— Ды выключце вы ваду! — выгукнула яна, шпурнуўшы недакуркам у Корбута, трапіла ў ракавіну.— Даруйце, я не хацела.— Апусціла вочы.

— Нічога,— сумна ўсміхнуўся Корбут.— Спаць вы можаце на канапе ў пакоі Вадзіма. Пасцель у шафе.

— А вы дзе? — наіўна вырвалася ў Лесі.

— Я ўвесь час знаходжуся ў сваім кабінеце. Там таксама канапа. Добрай ночы,— прамовіў Корбут і накіраваўся да сябе.

Леся, не ведаючы, што ёй рабіць, доўга не магла зрушыцца з месца. Яе зацікавіў гэты суперсучасны мужчына, які не задае лішніх пытанняў і не пытаецца, ці не хворая яна часам чым-небудзь, але паводзіны яго да таго

непрадказальныя, што яна таблялася ў паводзінах з ім. Да таго ж, Вадзім падкрэсліваў, што яго брат пісьменнік, а Леся, да свайго сораму, не чытала ніводнай яго кніжкі. Можа, гэта і да лепшага. Яна ж не абавязана чытаць усё, што трапляе на вочы, ці ўсіх, пра каго чула…

— Вечар добры, спадарыня. Гэта ўсяго толькі я,— прамовіў Корбут, пераступаючы парог у інтэрнацкі пакой Веранікі Берднік, які яна дзяліла яшчэ з дзвюма аднакурсніцамі.

— Табе да твару гэты капялюш,— заўважыла Вераніка то раскрываючы, то закрываючы веерам фалды пышнай цыганскай спадніцы.— У ім ты падобны на сапраўднага мушкецёра Баярскага.

Корбут акідвае постаць Веранікі пільным вокам і прамаўляе ў нос:

— Але вам, сіньярыта, далёка да пушкінскай Земфіры.

— Цынізм табе не да твару, Корбут,— адказвае Вераніка,— у адрозненне ад капелюша.

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Уся справа ў капелюшы.

Вераніка праводзіць па ягоных губах указальным пальцам, які Корбут спяшаецца пакрыць пацалункамі, пакуль той не знік, як дзьмухавец. Корбут заплюшчвае вочы, абдымаючы стан дзяўчыны, але стан чамусьці аказваецца цвёрдым і халодным, як жалеза. Корбут расплюшчвае вочы, здзіўлена пазірае ў нежывыя вочы дзяўчыны. Ён дакранаецца да ейнай шчакі пальцам, і палец правальваецца ў шчаку, але з першай спробы выцягнуць палец не ўдаецца. Галава Веранікі, быццам так і трэба, боўтаецца на Корбутавым пальцы, які захраснуў у дзявочай шчацэ, а з рота галавы Веранікі, як з размаўляючай лялькі, даносіцца адасобленае «мама, ма-ма».

З жудасцю Корбут пазірае на безгаловае цела, якое спрабуе лашчыць яго сваімі жалезнымі кіпцюрамі.

Корбут дзіка крычыць і бяжыць вонкі з інтэрната, але калідор чамусьці не заканчваецца, а на пальцы ўсё яшчэ боўтаецца галава дзяўчыны. Не разумеючы, што ён робіць, Корбут грукае гэтую галаву аб сцяну. З ног да галавы яго залеплівае крывёю. Ногі дрыжаць, як разладжаныя гітарныя струны, вочы бегаюць з неймавернай хуткасцю па гадзіннікавай стрэлцы, а палец, які застраў у шчацэ галавы Веранікі, набухае на вачах, як прэзерватыў з вадою, і ператвараецца ў нейкае палена. Так цяжка яго трымаць! Ён хіліць Корбута да зямлі.

Міма праходзіць марожаншчыца з цялежкай.

— Купі, саколік, халодзенькае, салодзенькае,— прапаноўвае.

Няўжо яна не бачыць, на што ён падобны?..

Здаровай рукой Корбут лезе ў кішэню джынсаў, дастае ўсё, што знаходзіць, і працягвае марожаншчыцы. Яна складвае ў вялікі цэлафанавы пакет дваццаць пяць штук ледзянога марожанага ў шакаладнай глазуры.

Падхапіўшы пакет, Корбут бяжыць далей па калідоры. Ён ледзь не прабег люстэрка. Вярнуўся: чым не Ален Дэлон? Слядоў крыві не назіралася. Можа, іх і не было ніколі?

— Мікіта? Чаму не танцуеш? — перапыняе яго думкі Людміла Іосіфаўна, харэограф спектакля «Цыганы», у якім ён выконвае ролю маладога цыгана.— Ты ж так добра танцаваў! — Па звычцы яна курыць «Беламор» і страсае попел у пусты пачак з-пад «Беламору».

— Прабачце,— праз сілу, аддыхваючыся, гаворыць Корбут,— але я падвярнуў нагу і…

— Парніша? — Перад ім ужо не Людміла Іосіфаўна, а павеўна з бульвара Ружаў.— Ты спяшаешся? — абвівае сваімі рукамі яго плечы.

— У іншы раз,— адхіляецца ён ад пацалункаў.— Насамрэч, няма калі! Вось на, лепш з’еш! — Корбут частуе яе марожаным і бяжыць далей.

Калідор звужаецца.

З’яўляюцца лесвічныя мармуровыя прыступкі.

Дзверы, абкружаныя калонамі-кіпарысамі.

— Ой, Корбуцік,— сустракае яго за дзвярыма Лёля — аднакурсніца — у чорных акулярах,— чаму ты так позна? Ты што, не збіраешся здаваць іспыт?

— А Вераніка здала? — пытаецца ён.

— Па-мойму, яшчэ не. А што ў цябе ў пакеце?

— На, частуйся.

Корбут уручыў ёй два марожаных і паспяшаўся да аўдыторыі, на хаду раздаючы ўсім астатняе марожанае.

У яго засталося толькі адно, калі знайшоў Вераніку, дый тое раставала і моцна капала з рук. Корбут хацеў, пакуль не позна, пачаставаць Вераніку, але марожанае выслізнула, як змяюка, з-пад шакаладу і абгорткі і разбілася аб падлогу, як яйка, абпырскаўшы выкладчыка-экзаменатара, што выходзіў з прыбіральні.

Вераніка гучна засмяялася, Корбут вінавата ўсміхнуўся.

— Спадар Корбут,— прамовіў выкладчык,— вы не дапушчаны да здачы іспыту.

— Не вельмі і хацелася,— сказаў Корбут. Ён апусціў вочы, выкалупваючы дзірку ў падлозе мыском ботфорта, паклаўшы руку на эфес шпагі.

Выкладчык шпурляе яму ў твар скураную пальчатку, Корбут перахоплівае яе і сціскае ў руцэ, Вераніка кідаецца паміж імі, зазірае то аднаму, то другому ў вочы, фалды яе спадніцы пераліваюцца вясёлкавым колерам, а ў валасах — асляпляльна-белая ружа.

— Мікіта! Не рабі гэтага! — перахоплівае яго руку са шпагай Віконт. Пад гэтай мянушкай хаваецца лепшы сябар Корбута Дзіма Зуеў.— Гэта твой бацька!

— Бацька?! — губляецца Корбут і прапускае ўдар выкладчыка. Лязо прабівае лёгкае і выходзіць са спіны, слізгануўшы па рабрыне. Корбут падае на рукі Віконта, які, у сваю чаргу, на падлогу, ледзь утрымліваючы сябра.

Над ім схіляецца Вераніка. У позірку яе — закаханасць і жаль.

— Я кахаю цябе, Мікіта! — шэпча яна праз слёзы, абціраючы яго слёзы вышыванай сваёй насовачкай.— Толькі не памірай! Не трэба…

Позірк Корбута затуманьваецца, вочы заплюшчваюцца…

…«Д’ябальшчына! — правёў Корбут рукой па ўспацелым ілбе, прагна хапаючы паветра.— Гэта ўсяго толькі сон»,— супакоіў сябе.

— Як вам мой новы ліфон? — раптоўна з’явілася перад пасцеллю Корбута Леся. З задраным пад горла швэдарам, на сон зусім не падобная. Не чакаючы адказу, задаволеная сваімі дзеяннямі, яна скінула швэдар і юркнула да Корбута пад коўдру. Ад нечаканасці, здзіўлення і непаразумення Корбут інстынктыўна адсунуўся да сценкі, ці то спалохаўшыся, ці то даючы месца побач дзяўчыне.

— Чаго вы спалохаліся? — прашаптала дзяўчына, намацаўшы яго нагу, але не падсоўваючыся бліжэй.

— Па-мойму,— хрыпла, не валодаючы голасам, прамовіў Корбут,— вы перабольшваеце меру паводзін у гасцях, спадарыня.

— Прызнайцеся, што вы не гэта хацелі сказаць.— Падымалася яна рукой уверх па назе Корбута.

— Калі ты зараз не пакінеш гэтага памяшкання, я цябе выстаўлю голай за дзверы, у пад’езд,— паволі, але пагрозліва вымавіў Корбут.

Леся адкінула коўдру, села, звесіўшы ногі.

— Добра, добра. Нават пажартаваць нельга,— прамовіла яна.

Хутка дзяўчына зашлёпала па падлозе да ваннага пакоя.

— Між іншым,— пачуўся адтуль ейны голас,— ужо шэсць гадзін раніцы.

Корбут не паверыў, бо было яшчэ цёмна, але праз колькі хвілін зайграла радыё.

Уставаць не хацелася, хаця звычайна Корбут падымаўся разам з радыё, каб пачытаць і напісаць нешта на свежую галаву. Якраз учора ён, лічы, нічога і не напісаў. Але ўчора і дзень прайшоў недарэмна, з гэтым трэба пагадзіцца. Знаёмства з Сашай і з Тарасам Кутняком, які, па словах шмат каго з літаратараў, выклікаў вялікія надзеі ў паэзіі, не пашкодзяць у будучым.

Кутняк аказаўся добрым суразмоўцам, хоць і не пазбаўлены некаторай вульгарнасці і правінцыйнасці.

— Я і не саромеюся гэтага,— заявіў Кутняк Корбуту.— Мая радзіма — Мікуцічы, у якой няма ні сваёй бібліятэкі, ні клуба, ні лазні. Хлеб, які прывозяць у вясковую краму, прадаюць па большым у два разы кошце, а мая маці, працуючы за траіх на кароўніку, не зарабляе нават на хлеб па сабекошце. І гэта ў Мікуцічах! — абураўся Кутняк.— Якія далі беларускай літаратуры такога волата як Колас. Дык чаго мне саромецца, калі я выхоўваўся старэйшымі хлопцамі на аўтобусным прыпынку пад брынькanne гітары і бульканне сэма, бо нам больш не было куды падзецца, і старэйшымі дзяўчатамі за прыпынкам, у кустах, якія вельмі калолі голыя азадкі. Між іншым, зараз сучасная моладзь Мікуцічаў нічым не адрозніваецца ад майго пакалення. Іх нічога не цікавіць, акрамя выпіўкі, цыгарэт і думак аб тым, якую б дзеўку дзе прыціснуць…

— Тарас, перастань,— зморшчылася Саша, абхапіўшы яго руку. Відаць, дзяўчына наўмысна заманіла Корбута да маладых літаратараў, якія не ведалі, як ім прабівацца ў літаратуру са сваімі мадэрновымі і авангарднымі творамі, не з’яўляючыся членамі «Бум-Бам-Літа» і не маючы надзейнага даху ў выдавецтвах, пазбаўленыя нават часопіса «Першацвет» — адзінай магчымасці сказаць сваё слова.— Не будзь хоць ты такім, як твае аднакласнікі.

— Я і так не такі,— ціха прамовіў Тарас.— Але кахаць проста таму, што можна кахаць і трэба кахаць, нават не спадзеючыся на ўзаемнасць, на адлегласці, нічога не патрабуючы ўзамен, прабачце, не магу. Ужо не магу.

— Прытрымліваючыся слоў і паводзін бальзакаўскага Расціньяка? — уголас падумаў Корбут.

— Я кахаю па іншых прычынах,— адказаў Тарас. І было незразумела, ці ён згодны з думкай Корбута, ці абверг яе.

Яшчэ выпілі пакрыху, і Корбут заўважыў у дачыненні да Тараса:

— Вашы амбіцыі, малады чалавек, наколькі я зразумеў, жыццёвыя, ні ў якім разе не праяўляюцца ў творчасці. Паэзія вас залічыла ў апошнія рамантыкі байранаўскіх часін. Як вам удаецца спалучаць у адной асобе двух вельмі розных людзей?

— А як вам, спадар Корбут, удаецца рабіць тое самае? — падлавіў малады літаратар сталага.— Я прачытаў усе вашы раманы і, не ведаючы вас, уяўляў аўтара гэтакім грамілам-шафай, накшталт Шварцэнегера, з квадратнай сківіцай і гідлівым паглядам. Вы разумееце, чаму. Усе вашы галоўныя героі жорсткія, раскачаныя, у асноўным, колішнія «афганцы», і ўсе не могуць знайсці сабе месца ў мірным жыцці, з-за чаго і гінуць. Я прыемна расчараваны, што вы не такі, як я спачатку думаў.

— Дзякуй,— усміхнуўся Корбут.

— Дарэчы,— Тарас палез у сваю сумку і выцягнуў стос папер, спісаных дробным нечытэльным, на першы позірк, почыркам, скрэплены дзвюма скрэпкамі,— вось мая паэма ў поўным варыянце. Першую частку друкаваў «Першацвет», пакуль выходзіў. Калі вы не супраць, вазьміце пачытаць.

— З задавальненнем,— узрадаваўся Корбут. Тарас усім выклікаў прыязнасць да сябе, нават сваёй мужыцкай вуглаватасцю, якая яшчэ не сцерлася, не

раструшчылася пад прэсам сталічнага жыцця.— Тады, можа, пяройдзем і на «ты»? — прапанаваў.

— Хоць мы і пілі на брудэршафт, але звяртацца да вас, як да свайго равесніка, не змагу да таго часу, пакуль мае вершы не пераўзыдуць вашы раманы,— адмовіўся малады паэт, і тут праявіўшы свой хворы гонар, які прывядзе яго да заўчаснага канца.

Корбут нічога не адказаў на гэта, толькі паляпаў па Тарасавым плячы.

Паціху пачалі разыходзіцца. Корбуту і Тарасу было па дарозе: Тарас праводзіў Сашу. Яны спусціліся ў метро, ды тут малады паэт прапанаваў раптам яшчэ выпіць. Дамоў у інтэрнат яму не хацелася, а Сашу не вельмі чакалі дома. Дый не было каму чакаць: маці працавала ў начную змену на хлебазаводзе.

Корбут застаўся задаволены праведзеным вечарам. Напрыканцы ён пакінуў Тарасу свой хатні тэлефон, а Сашы — адрас, бо тая збіралася ўзяць інтэрв'ю з ім для радыё.

«Прыгожыя хлопцы — прыгожыя вершы»,— так ён сказаў Цімашэнку наконт Тараса. А прыгожыя дзяўчаты? Леся прымусіла зашчымець яго даўно адвыклае ад эмацыйных усплёскаў сэрца сваім неверагодным падабенствам з Веранікай. У пад'ездзе, пры цьмяным міргаючым святле, гэта было не так заўважна, але на кухні, калі яны ўдваіх пілі гарбату, Корбут адчуваў Вераніку, а не Лесю. Хаця, можа, ён сябе заводзіць дарэмна, як гадзіннік, перабольшваючы прысутнасць Лесі і яе падабенства. Што толькі не ўявіцца на п'яную галаву!

Але аб чым можна думаць у дачыненні да Лесі, калі ён, Корбут, годны ёй у бацькі? Аб чым можна думаць?

Мабыць, ён застаўся такім самым наіўным і рамантычным, якім быў і пятнаццаць гадоў таму, толькі на паперы ператвараючыся ў жорсткага, дужага мужчыну з непрабіваемым чэрапам. Ён жа такі, па сутнасці, як і яго малодшы калега Тарас Кутняк! Што не можа

ці не ўмее здзейсніць у рэальным жыцці, робіць на старонках раманаў і апавяданняў.

Корбуту прыгадаўся гатовы саскочыць з губ пацалунак там, на кухні, уначы, які так і не саскочыў па асабістай віне Лесі. Цікава, што б здарылася, калі яны ўсё ж пацалаваліся? Напэўна, у такім разе, Корбут не пасаромеўся б блізкасці дзяўчыны ў сваёй пасцелі, а раніцай баяўся б зірнуць ёй у вочы, зрэшты, як і Вадзіму, бо, па сутнасці, Лесю прывёў брат, значыць, ён нешта меў да яе, а Корбут толькі перашкодзіў.

І ўсё ж Леся прыцягвала яго, як магнітам. Так бывае; так было некалі і з Веранікай. Толькі тады Корбут не даразумеў, не дапяў цалкам сваіх пачуццяў, а калі апамятаўся — было позна.

…Прэм'ера «Цыганоў» адбылася на самым бліскучым узроўні. Выканаўцаў галоўных роляў Вераніку Берднік і Корбута выклікалі на біс тройчы. Вераніка ў вобразе Земфіры, адчуваючы непадробны трыумф, заслужаную перамогу, як актрыса, і гэта ў дэбютнай ролі, нагадвала казачную фею з «Тысячы і адной ночы». Да яе ног кідалі кветкі і нават грошы. Такога яшчэ Сяргей Міронавіч, рэжысёр, не бачыў. Калі апусцілася заслона і Корбут пацягнуў Вераніку за сабой у касцюмерную, глядацкая зала быццам звар'яцела. Маладыя «львы» сталіцы, як на амбразуру, рынуліся за кулісы, патрабуючы ўсмешкі чароўнай Земфіры. Хлопцы з трупы ледзь стрымлівалі натоўп, даходзіла ўжо да бойкі. Сяргей Міронавіч нават сваім грамавым басам не мог супыніць скораны прыгажосцю і талентам актрысы мужчынскі кагал.

Спусціўся Корбут.

— Корбут! — пачуў ён тут жа знізу рэжысёра.— Цягні сюды Вераніку, пакуль яе фанаты ўвесь тэатр не разнеслі!

Корбут не прымусіў сябе чакаць. Ён пагрукаў у дзверы касцюмеркі са словамі:

— Ты пераапранулася ўжо?

— Пачакай, дай джынсы нацягну! — данеслася па той бок дзвярэй.— А што здарылася? — запытала дзяўчына, калі выйшла з займаемага памяшкання, зачыняючы за сабой дзверы. Джынсы і чорная навыпуск кашуля нікольк не псавалі вобраз цыганкі Земфіры ў шыкоўнай спадніцы і валасамі, шоўкам раскіданых па спіне.

— Ідзі зірні сама,— позіркам паказаў Корбут уніз.— Цябе патрабуе сталічная залатая моладзь і іншыя ў гэтым родзе.

— Табе гэта не падабаецца? — задаволена ўсміхнулася Вераніка і нямоцна ўшчыкнула Корбута за шчаку.— Ці ты не задаволены, што за табой няма такога ж, толькі дзявочага, ажыятажу, га?

— Не параўноўвай сябе са мной,— вырвалася ў Корбута, але ён ні кроплі не пашкадаваў.

Вераніка прамаўчала. Яна спусцілася да натоўпу, які ўжо адольваў лесвічны пралёт, што вёў у касцюмерную, ламаючы і падмінаючы пад сябе супрацiўленне. Убачыўшы Вераніку, мужчыны супакоіліся. Ветліва, сквапна, пажадна, захоплена, раўніва, закахана пазіралі на яе, лавілі кожны позірк актрысы. Але вочы дзяўчыны глядзелі паўзверх. Побач з рэжысёрам ля ўвахода на сцэну з вялікім букетам белых ружаў (любімых кветак Веранікі) чакаў яе малады імпазантны светлавалосы і высокі чалавек. Проста стаяў і чакаў, не мітусіўся, не нерваваўся, хаця, можа, і нерваваўся, бо дзяўчына заўважыла, як ён кусаў вусны, пакуль яна спусціцца.

— Мне можна прайсці? — запытала Вераніка ў першага, хто стаяў бліжэй усіх да яе, бо не магла ж яна ісці па галовах, хоць і мужчынскіх, а лятаць не ўмела.

Маладыя людзі расступіліся, нібы скала, што раскалваецца на дзве часткі.

Паволі, каралевай, Вераніка спускалася да рэжысёра і хлопца з кветкамі, адорваючы кожнага ўсмешкай

і правам пацалаваць яе руку. Але надоўга яе каралеўскай грацыі не хапіла. Як звычайная дзяўчынападлетак, яна кінулася на шыю маладому чалавеку з кветкамі, цудам іх не раздушыўшы. У паклоннікаў у адначассе скіслі міны; яны зайздросцілі шчаслівчыку, але радыя былі, што той шчаслівчык не яго сусед справа ці злева.

— Гэта Віктар! — пазнаёміла хлопца з Сяргеям Міронавічам Вераніка, тулячы да грудзей ружы, удыхаючы іх водар і трымаючы Віктара за руку.

Паклоннікі, па адным, чарадою, разыходзіліся, дасылаючы Вераніцы паветраныя пацалункі. Яна адказвала ім прыемнай ветлівай усмешкай.

— Задаволена? — хітра пасміхнуўся рэжысёр і, не чакаючы адказу, сам за яе адказаў: — Па вачах бачу, што задаволена. Малайчына! Такога фурору нават я не чакаў! — прызнаўся Сяргей Міронавіч.

— А вы не хацелі мяне браць у трупу! — упікнула Вераніка.— Памятаеце?

— Грэшны, каюся,— тэатральна схіліў галаву рэжысёр. Ужо сур’ёзна спытаў: — Я так разумею, што вы разам з Віктарам не застаецеся на неафіцыйную частку спектакля?

— Яна з радасцю засталася б,— адказаў за Вераніку Віктар,— але іншым разам.

— Зразумела,— развёў рукамі Сяргей Міронавіч.— Тады пытанняў больш няма.

Вераніка, заўважыўшы Корбута, які стаяў на лесвіцы, папрасіла прынесці яе паліто.

«Ты гэта бачыў? — пытаўся сам у сябе Корбут, вяртаючыся ў касцюмерную.— Не, ты гэта бачыў? Я павінен, як нейкі лакей, хадзіць за ейным паліто! Хай бы Віктара свайго адправіла. Дык навошта, калі ёсць добрая душа Корбут, які не толькі паліто прынясе, але і выслухае, які гэтакі і разгэтакі Віктар, што ён учора з’еў на абед, а сёння не з’еў. Паскудства!»

Корбут перакінуў паліто цераз руку і спусціўся ўніз.

— Ваша паліто, Ваша Вялікасць! — схіліўся перад Веранікай Корбут, падаючы вопратку.

— Што з табой сёння, Мікіта? — апранаючыся пры дапамозе Віктара, спыталася яна.

— Нічога. Я ўваходжу ў новую ролю,— адказаў Корбут, абмяняўшыся з Віктарам шматзначнымі позіркамі.

Толькі калі Вераніка з Віктарам пакінулі тэатр, Корбут скінуў свой надакучлівы касцюм і батфорты, у якіх нылі ногі. Усунуўшы іх у красоўкі, ён зноў адчуў сябе чалавекам.

Пасля, седзячы з Віконтам у кавярні і папіваючы піва, якое прынеслі з сабой, Корбут прызнаўся сябру, што адчувае да Веранікі нешта незразумелае і гатовы ў любы час пусціць юшку гэтаму Віктару.

— Здаецца мне, Мікіта,— сказаў Віконт,— гэта каханне.

— Думаеш?

## IV

Леся ні ў якім выпадку не адчувала сябе чужой у кватэры Корбутаў, хоць і трапіла сюды ўпершыню, і ніколькі не перажывала за свае паводзіны. Дзяўчына лічыла, што так і трэба, ніколі не думаючы перад тым, як што-небудзь зрабіць, зрэшты, як і пасля. Яна жыла эмацыйнымі імпульсамі. Нарадзіўшыся і пасталеўшы ў трушчобах Мінска, яна страціла нявіннасць у трынаццацігадовым узросце, але ў той жа час заставалася нявінніцай. Калі б запыталі, чаму, яна б і сама не адказала, проста так адчувала сябе. Увесь час знаходзячыся ў брудзе, як фізічным, так і слоўным, Леся марыла пра чысціню палацаў, крэмавы колер гатэляў і пра свой уласны салон, накшталт салона княгіні Валконскай у XIX стагоддзі. Леся разумела, што яе мары

наіўныя і нязбыўныя, на першы погляд, але магчымыя. Было б жаданне, упартасць і цярпенне. Так яна думала раней. Зараз і гэтага мала, бо ўсё ўпіраецца ў грошы. Калі яны ёсць — ты пуп зямлі, калі няма — чарвяк.

Не, безумоўна, не ў грошах шчасце, але іх прысутнасць у кішэні не тое, што радуе, неяк супакойвае.

Леся дакурыла (на халяву яна курыла шмат), прайшла ў пакой, дзе яшчэ зусім нядаўна спаў пісьменнік Корбут, які цяпер плёскаўся ў ванне ці прымаў душ. Дзіўна, па ідэі, з'яўляючыся дзяўчынай малодшага брата, яна больш ведала пра старэйшага. Не так ужо і шмат, калі падумаць, але дастаткова, каб легчы з ім у пасцель. Жарт. На самай справе Леся — вельмі добрая, прыгожая і паслухмяная дзяўчына. Таксама жарт.

Непрыбраная канапа са змятай падушкай і скамечанай коўдрай, што нагадвала Альпы, яшчэ захоўвала цяпло мужчыны. Можа, не трэба было прыбіраць пасцель, але Леся любіла ўпарадкаванасць. Упарадкаванасць гаварыла за чалавека і адказвала за яго.

Леся ўзбіла рукамі падушку, прысела, аглядаючыся вакол. Яна адчула сябе не ў кватэры з нармальнымі пакоямі і ўмовамі для жыцця, а ў адным з аддзелаў бібліятэкі. Сапраўдную бібліятэку яна наведвала мала, але гэта не азначала, што дзяўчына не любіла чытаць. Леся чытала і вельмі шмат, у асноўным раманы Дзюма, Вальтэра Скота, Фенімора Купера, Даніэлы Сціл, Сідні Шэлдан, Робінса, пра Анжаліку, але гэта было ў іншым жыцці…

Прама насупраць яе ўзвышалася магутным целам Геракла кніжная шафа-сценка, і імёны аўтараў кніг, што знаходзіліся ў ёй, яна прамаўляла, як вершы, бо ніколі не чула пра іх: Бадлер, Рэмбо, Апалінэр, Стэндаль, Бавуар, Сартр, Анаіс Нін, Зюскінд, Керуак, Кундэра, Амаду, Бёль, Кафка, Хакслі, Пруст, Картасар, Саган…

На многіх паліцах побач з кнігамі стаялі фотакарткі, на якія Леся спачатку не звярнула ўвагі, бо

не ўбачыла ніводнага знаёмага твару. Яна пальцамі, як некалі ў дзяцінстве палкай па жалезным плоце, з незразумелай захопленасцю праводзіла па тоўстых тамах. Яна раней не магла ўявіць, што столькі кніг (!) могуць належаць аднаму чалавеку. Гэта ж якім ён павінен быць разумным!..

Побач з кнігамі, ля балкона, мясціўся тэлевізар на жалезнай падстаўцы ў выглядзе нагі ці лапы, вельмі падобнай на вырабы Спілберга. Ля балкона, насупраць тэлевізара, знаходзіўся стол, завалены спісанымі аркушамі паперы, пад якімі выглядвалі кругленькія ножкі-бочачкі пішучай машынкі.

Леся ўзяла адзін аркуш у рукі, але нічога не магла разабраць з напісанага. Почырк у вялікага пісьменніка быў дзярмовы, што парадавала дзяўчыну, бо ейны почырк заняў бы першае месца па прыгажосці почыркаў, калі б існавваў такі конкурс.

На два крэслы, што стаялі паабапал стала, былі звалены падшыўка «ЛіМа» за 1978 год (першае крэсла) і стосы капіравальнай паперы розных колераў.

Стол перастаў Лесю цікавіць пасля таго, як яна зразумела, што піша ў мільён разоў лепей за Корбута, і яе зацікавілі фотакарткі з кніжнай сценкі. Спачатку Леся толькі разглядала твары і адзенне, нікога не ведаючы на іх, але ўсё адно было цікава, дый заняцца больш не было чым.

Потым на адным фотаздымку Леся пазнала Корбута, яшчэ маладога, але такога ж барадатага. Ён быў не адзін, а ў кампаніі яшчэ двух маладых людзей. Як жа дзяўчына здзівілася, калі ў другім маладым хлопцы разгледзела зорку расійскага кінематографа, душку-гардэмарына Дзіму Харацьяна! Корбут спакойна абдымаў яго за плечы, усміхаючыся ў фотааб’ектыў. На другой фотцы Корбут сядзеў за рулём матацыкла, а ў люльцы, з цыгарэтай у роце,— Карачанцаў! Пра акцёраў Леся

ведала шмат чаго і збірала альбом з іх фотакарткамі. Фантастыка нейкая!

Далей Корбут усё больш быў у вайсковай форме і з аўтаматам у коле сяброў, на бране БТРа, ля верталёта, а вунь Корбут паранены, у бальніцы, з кветкамі і сябрамі.

Больш за ўсё дзяўчыне спадабаўся партрэт маладой абаяльнай і прыгожай жанчыны, якая была адлюстравана ва ўвесь рост на фоне нейкага замка. На ёй была доўгая сіняя сукенка з аксаміту, а на руках такія ж пальчаткі да локця. Жанчына ветліва ўсміхалася, ветрык, відаць, кранаў нясмела яе пышныя валасы, сонца стварала здымку шчаслівы і радасны настрой.

Тая ж жанчына была яшчэ на некалькіх фотаздымках, усё такая ж непараўнальна прыгожая. Лесі яна падабалася на першым фота. Дзяўчына нават узяла ў рукі фотакартку, на адваротным баку якой было напісана «Корбуту ад Веранікі. 1984 г.».

— Гэта ж Вераніка Берднік! — прамовіла Леся гучна.

— Так, Вераніка Берднік,— ледзь не ля самага Лесінага вуха прагучаў хрыплаваты голас Корбута. Ад яго патыхала свежасцю і шалфеем (у апошнім вінаваты шампунь), і, як ні дзіўна, маладосцю. Корбут асцярожна ўзяў фотакартку з Лесіных рук і паставіў яе на месца.

— Вы так не палохайце,— павярнулася да яго дзяўчына, перасмыкнуўшы плечукамі.

— Я ўсяго толькі вярнуў вам доўг,— прамовіў Корбут.— І мы квіты.

— Ах, вы пра тое! — зразумела Леся, да чаго хіліць Корбут. Але размаўляць ёй хацелася на іншую тэму.

Корбут між тым параўноўваў вобраз Веранікі з Лесіным вобразам. Яны, як кінакадры, мільгалі перад вачыма ў розных варыяцыях. Леся і была падобнай на Вераніку, і не была, што яшчэ больш падштурхоўвала Корбута да непакою.

— Вы ведалі яе? — спыталася Леся.

— Гэта можна назваць і так,— задумліва прамовіў Корбут.

— Тады зразумела,— развяла рукамі дзяўчына.

— Што табе зразумела? — цяжка апусціўся на канапу Корбут.— Што табе ўвогуле можа быць зразумела, калі ты нічога не ведаеш пра Вераніку Берднік, як пра чалавека, і нават уявіць сабе не можаш, што яна за чалавек! — у парыве захопленасці Корбут забыўся, дзе і з кім ён знаходзіўся, чаго з ім даўнавата не здаралася. Відаць, са з'яўленнем Лесі, гэтага вольнага двайніка Веранікі, усё перавярнулася.

— Уявіць я сабе магу,— паволі вымавіла Леся,— мяркуючы па вашым раптоўным усплёску эмоцый. Вы кахалі яе? — пацікавілася яна.— І, можа быць, кахаеце і зараз? Я не здзіўлюся, калі гэта так. Вераніка Берднік — жанчына з вялікай літары.

— А вось гэта цябе не павінна хваляваць,— сказаў Корбут.

— Добра,— паціснула плячыма Леся.— Хто я такая? Дзяўчынка з памыйкі. А яна — каралева, у прамым сэнсе. Але ж вам да яе, як да зорак у небе. Можа, я чаго-небудзь і не разумею, але маю рацыю.

— Замаўчы,— нязлосна прамовіў Корбут. Яму спадабалася, як ахарактарызавала Леся сябе, і як яна была падобна ў той момант на Вераніку!..

— А я і маўчу,— сказала Леся і па інерцыі ўзяла ў рукі адзін з аркушаў са стала, бо стаяла побач.

— А гэта пакладзі на месца! — ледзь не выбухнуў Корбут.

Леся не на жарт спалохалася, калі Корбут гаркнуў. Яна хуценька кінула аркуш, дакладней, ён сам выпаў, развяла рукамі, паказваючы, што ў яе больш нічога няма ў руках.

З суседняга пакоя пачуўся грукат падаючага цела, затым брыдкая лаянка і хуткае шлёпанне босых ног

да прыбіральні, пасля спецыфічны гук, што нараджаецца ў горле чалавека, калі яго ванітуе.

Леся зморшчыла носік, як далікатная кошачка.

Корбут усміхнуўся, калі яго брат зазірнуў у кабінет у забруджанай майцы, з ускудлачанымі валасамі і невідушчым позіркам.

— Мікіта, мяне няма дома,— прамовіў ён, Лесю, відаць, і не заўважыў, і пашлёпаў да сябе.

— Як мне надакучылі п'яныя пысы, калі б вы толькі ведалі! — выдала дзяўчына.

— Мне таксама,— падтрымаў Корбут.— Радуе хіба тое, што нехта трывае мяне п'янага, таму крыўды адно на пяцьдзясят працэнтаў. Дарэчы, падсілкавацца не жадаеце? — пацікавіўся.

— Ваш брат адбіў усю ахвоту,— адказала Леся.

— А я, на шчасце,— рассмяяўся Корбут,— магу есці ў любых абставінах. Хадземце на кухню, складзеце мне кампанію…

За колькі хвілін Корбут прыгатаваў яешню — любімую страву, хаця яйкі з'яўляліся дэфіцытам, як некалі соль. У крамы іх прывозілі ўдзень, а чарга за яйкамі выстройвалася, як сапраўдны полк, яшчэ з трох гадзін раніцы.

— Ты сур'ёзна не хочаш есці? — пераскокваў з «вы» на «ты» Корбут, але Лесю гэта не бянтэжыла. Ён паліў яешню кетчупам і яшчэ раз папытаўся. Не чакаючы, пакуль дзяўчына пачне ламацца, бо па вачах бачна, яек яна не каштавала даўненька, Корбут падзяліў яешню на дзве часткі.— Трымай,— працягнуў ёй відэлец і хлеб.

— Вы вельмі смачна гатуеце,— не прымушала больш сябе ўгаворваць Леся і ў спешцы апякла язык.

— Не спяшайся,— ласкава прамовіў Корбут, любуючыся, як дзяўчына колькі разоў дзьмухае, астужаючы кавалачкі яешні, затым асцярожна іх перажоўваючы. Леся была падобная зараз на звычайнае галод-

нае дзіця. У каторы раз Корбут пашкадаваў, што ў яго няма дачкі.

—У вас столькі кніг,— сказала, каб не маўчаць, дзяўчына.— Вы, мабыць, усе іх і прачыталі?

— Далёка не ўсе,— усміхнуўся Корбут,— але большую палову.

— Добра вам. Я таксама хацела б мець столькі кніг і чытаць.

— Няўжо ў вас дома няма сваёй бібліятэкі?

— Была,— уздыхнула Леся.— Але татулечка пазаганяў на гарэлку. Ды і што там былі за кнігі… так… лабуда. Мне нават сорамна прызнацца, што я не чытала і вашых кніг, нават уяўлення не маю, як яны выглядаюць.

— Гэта не страшна,— павесялеў Корбут.— Маіх кніг шмат хто не чытаў. Калі хочаш, можаш карыстацца маёй бібліятэкай,— прапанаваў,— пры ўмове, канечне, што не загоніш на гарэлку.

— Не, што вы,— вочы дзяўчыны загарэліся непараўнальным бляскам захаплення.

«Каб жа ва ўсіх так загараліся вочы ў дачыненні да кнігі, як у цябе,— падумаў Корбут,— мы б горы звярнулі…»

— Я, ведаеце, у дзяцінстве,— прамовіла Леся,— гэта мне мама распавядала, на пытанне, кім хачу стаць, калі вырасту, адказала — чытачом. Уяўляеце? Усе здзівіліся. Сталі тлумачыць, што такой прафесіі не існуе, а я стаяла на сваім: буду чытачом і кропка.

— І многа ты прачытала? — спытаўся Корбут. Яму падабалася размова з дзяўчынай. Ён нібы адкрываў яе для сябе як… усё роўна што кнігу. Здаецца, нічога асаблівага, а на самай справе…

— Не так ужо і многа,— паціснула плячыма яна.— Дзе мне было чытаць і калі? Дзядзька прывозіў на дзень нараджэння: я прачытаю — бацька прадасць. У школе, калі быў час, хадзіла чытаць у чыталку, бо,

калі б прынесла дамоў, бацька загнаў бы і бібліятэчную кнігу. Калі сябравала з адным хлопцам, ён мне чытаў раманы пра Анжаліку перад тым, як, як… — нечакана дзяўчына засаромелася, апусціла вочы, пачырванела.

— Цікавы падыход да… гэтага самага,— задумаўся Корбут.

— Мне хацелася быць падобнай на Анжаліку,— прамовіла з захапленнем Леся.— Што я бачыла ў жыцці? П'янкі, сваркі, бойкі, брудныя пасцелі ды лаянку. А тут… шыкоўныя ўборы, грацыя, этыкет, жанчына адчувае сябе жанчынай, а не машынай ці ламавой кабылай.

— Па ўсім відаць,— заўважыў Корбут,— хлопец той быў не дурны…

— Звычайны кабель і апошняя сволач! — перапыніла яго Леся.— Мастак задрыпаны! Ён лічыў сябе геніем і па сто разоў на дзень маляваў мяне ў розных позах. Я неяк глянула на яго карціны: ледзь інфаркт не атрымала. І гэта была я! Ён маляваў мяне па частках! Маньяк нейкі! Педафіл хрэнаў! Дасюль мне вінны дваццаць баксаў, а курс расце. Вось вам, калі ласка!

Леся, напэўна, яшчэ доўга абуралася б паводзінамі свайго мастака, калі б не зазваніў тэлефон.

Гэта быў Цімашэнка. І ён клікаў Корбута пад'ехаць да Дома літаратара.

— Леся,— кінуў Корбут дзяўчыне,— ты пакуль можаш выбраць сабе кнігі.

— Якая Леся! — абурыўся ў трубку Цімашэнка.— Ты чуў, што я сказаў?

— Ды гэта я не табе,— усміхнуўся Корбут.— Што ў цябе здарылася?

— Не тэлефонная размова, Мікіта,— адказаў Цімашэнка,— але вельмі важная. Мне патрэбна твая дапамога, неадкладна.

— Добра, не панікуй. Калі да цябе прыехаць?

— Як мага хутчэй.

— Зараз, ці што?

— Лепей было б, калі зараз.

— Добра, чакай.— Корбут паклаў слухаўку і прайшоў у кабінет, да Лесі.— Ну як, выбрала?

— Ой, разумееце,— разгублена вымавіла тая.— Тут столькі шмат усяго…

— Тады я сам табе выберу,— сказаў Корбут. Колькі секунд ён, мружачы вочы, углядаўся ў назвы кніг, пасля выцягнуў дзве.— Як наконт гэтых? — падаў ёй.— Гэта былі «Лаліта» Набокава і «Выбранае» Франсуазы Саган.— Пачнем з лёгкай класікі? — падміргнуў.

— Можна,— падміргнула Леся ў адказ.

На пытанне, ці застанецца яна ў кватэры, бо Корбут сыходзіў па справах, Леся сказала, што ёй таксама трэба некуды забегчы.

Яны выйшлі разам. Корбут правёў дзяўчыну да аўтобуснага прыпынку. Праз хвіліну прыйшоў транспарт.

— Ну,— усміхнуўся Корбут,— ты ведаеш, дзе я жыву. Заходзь.

— А не прагоніце? — загадкава ўсміхнулася Леся.

— Не,— рассмяяўся Корбут.

Леся доўга думала, ці пацалаваць яго на развітанне, ці не, і шафёр ужо, мабыць, дзверы зачыняў. Дзяўчына махнула яму рукой, каб пачакаў, той згодна хітнуў. Леся падбегла да Корбута і моцна пацалавала ў шчаку, пакінуўшы на ёй след ад губной памады, як аўтограф.

— Ой,— засаромелася яна,— я вам запэцкала бараду.— Вымаўляючы гэтую фразу, яна ледзь стрымлівалася ад вясёлага добрага смеху.

— Нічога,— сказаў Корбут. Шафёр, відаць, спяшаўся, ён некалькі разоў прасігналіў.— Не затрымлівай аўтобус,— па-добраму ўпікнуў дзяўчыну Корбут.

— Я вам патэлефаную,— ужо з прыступкі аўтобуса крыкнула Леся.

Як ніколі, у той момант, яна была падобная на Вераніку.

…Рэпетыцыі новага спектакля праходзілі так дрэнна, як яшчэ ніколі. Рэжысёр Сяргей Міронавіч захапляўся Веранікай і заплюшчваў у адчаі вочы, калі ўступаў са сваімі маналогамі Корбут. Многія не разумелі такога хуткага спаду сіл, лічы, не без зларадства. Няўжо Корбут выдахся і на ім можна ставіць кропку, як над скончаным чалавекам? Іншыя меркавалі, што акцёр проста стаміўся ці страціў цікавасць да аматарскага тэатра, у думках лунаючы над кінапляцоўкамі. Аднак ён жа сам асэнсавана кінуў і кіно, і прэстыжны тэатр, калі ішоў да Сяргея Міронавіча!

Корбут пачаў худзець, зарос камкаватай рэдкай барадзёнкай, ні кроплі не сачыў за сабой, а ў вачах трымцеў, як сонечны прамень, незразумелы ліхарадачны бляск, які ўзмацняўся ў прысутнасці Веранікі.

Не з першага разу разгадаў загадку любімага акцёра Сяргей Міронавіч, спасылаючыся на стомленасць і занятасць Корбута, які працаваў яшчэ і над лірычнай паэмай, першыя раздзелы якой ужо з'явіліся ў друку.

Вераніцы ж быў патрэбны партнёр, і рэжысёр на некаторы час замяніў Корбута Зуевым.

Корбут саромеўся падысці да дзяўчыны, ведаючы, што ў яе ёсць малады чалавек, і баяўся сваімі словамі аб каханні яшчэ больш наэлектрызаваць стасункі паміж імі. На заўвагі Віконта, што пакуль дзяўчына не замужам, яна нікому нічога не павінна, і што ў яго ёсць шанс,— Корбут не звяртаў ніякай увагі. Ён проста любаваўся дзяўчынай з боку і вельмі шмат курыў, пішучы за ноч па дзесяць санетаў, каб ранкам спаліць і не здавацца самому сабе смешным.

— Ды зразумей ты, дурыла,— ушчуваў Корбута сябар,— што сваім цюхцяйствам ты нічога не дакажаш! Дзяўчаты любяць рашучых, настойлівых людзей, як Віктар…

— Не ўспамінай пры мне яго імя! — выбухаў Корбут.

— Добра, не буду,— згаджаўся Віконт,— толькі паслухай мяне. Платанічнае каханне, увогуле, рэч нармальная, але не ў дачыненні да цябе. Няўжо табе не хочацца пацалаваць Вераніку, не хочацца дакрануцца да яе грудзей, абняць яе і ўсё такое?..

— Ага, табе лёгка казаць,— не падымаючы вачэй, адказваў Корбут.

У рэшце рэшт Віконту надакучыла няньчыцца з Корбутам, і ён махнуў на яго рукой. «Рабі, як ведаеш».

Корбут раўнаваў Вераніку ўжо і да Віконта, які замяніў яго на сцэне.

Не сказаць, што Віконт быў прыгажуном, але дзяўчаты па ім млелі. Зуеў быў такога ж высокага росту, як і Корбут, з дужымі мускулістымі рукамі і нагамі, з доўгімі, па тых часах, светлымі валасамі, заўсёды сабранымі ў коску, і блакітнымі вачыма.

Аднойчы Корбут сядзеў у зале, як глядач, ішла рэпетыцыя, і піў піва. Гульня Віконта яго цалкам не задавальняла і раздражняла. Корбута прарвала, як плаціну, нават Сяргей Міронавіч здзівіўся раптоўнай перамене яго.

— Што ты за балет паказваеш?! — накінуўся Корбут на Зуева.— Няўжо і на спатканні з дзяўчынай ты так сябе паводзіш? А фразы? Як ты іх вымаўляеш? Гэта ж не XX стагоддзе, а XIX, а ты як гаворыш? Нібыта прапаноўваеш, як апошняй шлёндры, пераспаць за грошы: не хвалюйся, не пакрыўджу. Ты разумееш, што ты князь! А яна — княгіня! Што яны не могуць звяртацца адно да аднаго на «ты»!..

Віконт апусціў галаву, прыкрыў рот кулаком, каб Корбут не бачыў, што той смяецца. Толькі плечы, уздрыгваючы, выдавалі яго. Як потым прызнаўся Віконт, усе недакладнасці ён рабіў наўмысна на сцэне, каб раскатурхаць сябра і вярнуць да жыцця. І гэта яму ўдалося.

Корбут выйшаў на сцэну. Ніхто не чакаў, нават Ве-

раніка, што ён так бліскуча, без ніякіх папярэдніх рэпетыцый, выканае сваю ролю.

Сяргей Міронавіч, рэдка каго хвалячы, не ўстрымаўся:

— Вось так ты павінен мне правесці прэм'еру!

Безумоўна, Корбуту было прыемна, што яго хвалілі, але ад празмернай напружанасці яго ўсяго калаціла і карцела курыць. Ён сышоў са сцэны адразу, як пабачыў Віктара, які ўпэўненай хадою набліжаўся, як заўсёды, з іголачкі апрануты і далікатна-імпазантны.

Корбут зашыўся, як мыш, у куток, але краем вока сачыў за залай. Ён бачыў, як Вераніка падбегла да Віктара, павісла на яго шыі, усміхалася нечаму, таму, мабыць, што нашэптваў ёй Віктар, які таксама ўсміхаўся. Як да горла і вышэй падкрадаецца воўк да лані, так і да Корбута падкрадалася вялікімі штуршкамі нянавісць. І да Віктара, і да Веранікі. З ім такое рабілася ўпершыню. Як ніколі, карцела падысці да Віктара і смачна заехаць кулаком па яго чысцютка-бялюткай фізіяноміі.

Корбут так задумаўся, што не заўважыў, як Вераніка падышла да яго і ўзяла за руку. Імгненна ўся нянавісць знікла, як дым.

— Мне спадабаўся твой сённяшні настрой,— прамовіла дзяўчына.— Хацелася б, каб ён застаўся ў цябе надоўга.

— Мне таксама,— вымавіў Корбут. Як заварожаны ён пазіраў у яе вочы і адчуваў, што яшчэ крыху і не стрымаецца, моцна, па-дзікунску, прыцягне дзяўчыну да сябе і будзе цалаваць у… шакаладную плямінку над верхняй губкай.

— Тады,— сказала Вераніка,— прыходзь заўтра раней… — памаўчала,— калі зможаш.

У позірку, кінутым на Корбута, было ўсё: і каханне, і жаль, і сум, і расчараванне, і жаданне. Так яму, прынамсі, здалося. Нават руку Вераніка марудзіла пакідаць, яго руку, так таксама яму здавалася, перад тым, як зноў пайсці да свайго Віктара.

— У колькі? — дагнаў яе запознены ўскрык Корбута, усхваляваны і поўны надзеі.

— А пятай гадзіне,— азірнулася дзяўчына і падаравала самую чароўную ўсмешку, на пальцах паказаўшы час.

Корбут з прыемнасцю дакурыў.

Рабіць у тэатры яму больш не было чаго, бо Сяргей Міронавіч працаваў з масоўкай, чый выхад меў даволі значнае месца ў спектаклі, роўнае па значэнні з выхадам Корбутавага героя, а Віконта звялі нейкія дзеўкі.

Корбут вырашыў пайсці дамоў, у інтэрнат.

— Пачакай! — запыніў яго трубны бас рэжысёра.

Корбут павярнуўся да Сяргея Міронавіча, які ў чатыры крокі адолеў адлегласць, што першапачаткова падзяляла іх.

— Я не памылюся,— паклаў рэжысёр сваю мядзведжую лапу на Корбутава плячо так, што той ажно прысеў ад нечаканага цяжару,— калі скажу, што твая іпахондрыя з-за прадстаўніцы жаночага полу?

— Вы пранізлівы, як ніколі,— усміхнуўся Корбут.— Віконт ведаў аб гэтым з самага пачатку.

— Не перапыняй, калі з табой старэйшы па ўзросце размаўляе,— не залюбіў Сяргей Міронавіч, але руку прыняў з пляча хлопца.— Я дайшоў да ўсяго сваімі метадамі і спадзяюся, што мая дэдукцыя не падвяла і гэтым разам.

— Не старайцеся, Сяргей Міронавіч,— смяяўся з яго Корбут,— Шэрлака Холмса з вас не атрымаецца.

— Што за моладзь пайшла! — абурыўся не на жарт рэжысёр. Голас яго раскатамі пракаціўся па ўсім тэатры, напалохаўшы артыстаў масоўкі, якія пачалі прыслухоўвацца да размовы Сяргея Міронавіча з Корбутам. Устрывожаны маўчаннем на сцэне, рэжысёр павярнуўся да масоўкі: — У чым справа? Працуйце! Ці я за вас павінен працаваць? — І да Корбута: — Ты

яму слова, ён табе — дзесяць у адказ. Ты мне дасі сказаць ці не?

— Калі ласка.

— Я кораценька,— сказаў рэжысёр.— Імя дзяўчыны Вераніка, так? І ты меў нахабнасць закахацца ў яе, так?

Корбут сумна павесіў галаву.

— У чым справа? Гэта ж цудоўна! — усклікнуў Сяргей Міронавіч.— Яна на цябе таксама вока паклала.

— Што? — прыслухаўся Корбут.

— А чаго ты здзіўляешся? Мая дэдукцыя яшчэ ніколі не падводзіла. Толькі шмат не пі.

— Не буду.

Седзячы ў аўтобусе ля акна, Корбут усміхнуўся з прыхаваным сумам у вачах, прыгадаўшы апошнія фразы цяпер ужо такога далёкага ўспаміну. Побач з ім села прыгожая дзяўчына з вельмі кідкім макіяжам у белым футрыку. Але вельмі хутка выйшла, праз два прыпынкі.

Загледзеўшыся на яе, прыгадваючы яе правільныя рысы твару, Корбут ледзь не праехаў свой прыпынак. Ён выйшаў ля гасцініцы «Мінск», каб вярнуцца назад да станцыі метро «Кастрычніцкая». Вядома, ён мог паехаць і іншым маршрутам. Напрыклад, сесці на 28-ы ці на 49-ы, альбо 107-ы аўтобусы, выйсці ля станцыі метро «Пушкінская», спусціцца ў метро і спакойна даехаць да плошчы Перамогі, праглядаючы свежы выпуск «Навін», але сеў на 40-ы, нічога не папішаш, падоўжыў шлях. Затое атрымаў узнагароду — Лесін пацалунак, пацалунак дачкі. Хаця ў глыбіні душы хацелася, каб Леся была кімсьці больш за дачку. Але гэта між іншым.

Як у тумане, з-за снежнай каламуці, праплывалі Валадарка, Цэнтральная кнігарня, ГУМ, Цэнтральны

ўнівермаг, пакуль нарэшце не паказаўся спуск у метро. Такім надвор'ем лепш было зусім не выходзіць з дому. Людзі натыркаліся адно на аднаго, як у цемры ўсё роўна, зрэдку лаяліся, часцей прабачаліся. З кім, зрэшты, не бывае?

«Што здарылася ў Кастуся Цімашэнкі?» — гадаў Корбут, стоячы на адной назе і ледзь трымаючыся мезінцам за парэнчы ў перапоўненым вагоне. Цягнік крануўся, і на плячах Корбута павісла нейкая дзяўчына.

— Прабачце,— сказала яна яму на вуха,— пхаюцца…

— Нічога,— ледзь сам трымаючыся на нагах, адказаў Корбут.

З палёгкай уздыхнуў, калі ўжо выйшаў з метро і ўдыхнуў свежага, хоць і сырога паветра. Падзямелляў Корбут не любіў, нават калі тое падзямелле называлася «метро».

Цімашэнка ў сваім кабінеце быў адзін. Сядзеў за пісьмовым сталом, праглядаючы газеты. Жучыныя яго вусы варушыліся пад вострым, цікаўным, амаль жаночым носам.

— Здароў, Косця! — яшчэ ў дзвярах павітаўся Корбут.

— Заходзь, Мікіта! — зняў акуляры і папрасіў Цімашэнка, падымаючыся насустрач госцю.— Што гэта ў цябе на твары? — парукаўшыся, заўважыў шэрахаватасць скуры над і пад вачыма з белымі парушынкамі, падобнымі на перхаць.— Алергія нейкая?

— Угадаў,— прамовіў Корбут і падышоў да шафы з люстэркам.

— Здаецца, учора ж яе не было,— успомніў Цімашэнка.

— Надвор'е вінаватае,— сказаў Корбут, разгладжваючы пальцамі скуру пад вачыма.

— Ад гэтага скура не шалушыцца,— смяяўся Цімашэнка.

— Ды ідзі ты,— незалюбіў Корбут.— У мяне яшчэ з дзяцінства алергія на сырасць.

— Добра, добра, я жартую,— супакоіўся Цімашэнка.

— Чым парадуеш? — сеў у крэсла насупраць стала Цімашэнкі Корбут, расшпіліўшы куртку.

— Мне ўчора тэлефанаваў нейкі рэжысёр Дзмітры Зуеў,— прамовіў той, пільна ўзіраючыся ў вочы Корбута, скура пад якімі пачырванела і пайшла плямамі. Добра, што хоць барада больш-менш хавае гэтую чортаву алергію. Аднак Корбут ніяк не адрэагаваў.— Ён пытаўся пра цябе,— працягваў Цімашэнка,— і прасіў перадаць, што ў студзені наступнага года будзе ў Мінску.

— І што? — пасля непрацяглай паўзы прамовіў Корбут.— Гэта твая нетэлефонная размова? Толькі дзеля гэтага ты вымусіў мяне па такім надвор’і матацца па горадзе? Прабач, але ты ідыёт, Косця, і я разам з табой! — Корбут падняўся.— Бывай!

— Пачакай! — схапіў яго за руку Цімашэнка.— Няўжо табе незразумелы падтэкст паведамлення?

— Ніякага падтэксту я тут не бачу,— адвёў руку сябра Корбут, пачаў зашпільвацца.— А з гэтым рэжысёрам апошні раз я бачыўся пятнаццаць гадоў таму, і тады ён быў пасрэдным акцёрам.

— Ён быў тваім сябрам, наколькі я ведаю,— асцярожна прамовіў Цімашэнка.

— Быў,— пагадзіўся Корбут.— Толькі чамусьці,— ён павярнуўся тварам да твару Цімашэнкі, яго драпежны нос дрыжэў ад злосці, а шэрыя, хвіліну назад спакойныя, як мора ў час брызу, вочы і абыякава-цёплыя, як дрыгва, раптам займелі халоднасць сталі і бляск выцягнутага з похваў мяча.— Толькі чамусьці,— паўтарыў Корбут,— я ніводнага разу не бачыў яго, калі валяўся па медсанбатах і наноў вучыўся хадзіць. Мог

бы ён прыйсці проста даведацца, як мае справы, ці не падох яшчэ, як прыходзіў ты, ці не, калі ён сябар? Дык не, яму даражэй былі авацыі, слава, фестывалі і прыгожыя статысткі, што без размоў кладаліся з ім у пасцель, разлічваючы такім чынам трапіць у кіно! Віконт запанеў да такой ступені, што забыўся аб сваім байстручным паходжанні і аб нашых адносінах разам! І ўсё з-за таго, што поспех яму прынесла Вераніка Берднік! Вераніка Берднік, разумееш ты мяне, Косця! Вераніка, якую я кахаў і кахаю ўсё жыццё!

Корбут змоўк, усё роўна, як абарваў песню на паўслове. Ён выйшаў у фае, падышоў да сметніцы, нервова чыркаючы запалкамі. Тры з іх зламаліся, пакуль падкурыў цыгарэту.

— Я не здзіўлюся,— ужо спакайней вымавіў ён,— калі Зуеў і з Веранікай пераспаў. Як казаў герой Баярскага, не памятаю, у якім фільме: «Шустрый да быстрый выйдет в министры. С честью, с отвагой станет бродягой». Вось так, Косця.— Памаўчаў.— Тое, што Віконт збіраецца зрабіць зараз, ён павінен быў зрабіць даўно, калі я… хаця… не будзем аб гэтым.

Корбут шпурнуў недакурак у сметніцу, кінуў Цімашэнку «бывай» і хутка збег уніз па лесвіцы.

Цімашэнка некалькі разоў аклікаў Корбута, але той, напэўна, ужо быў за дзвярыма Дома літаратара.

Корбут тым часам прымусіў сябе супакоіцца. Урэшце, чаго расхваляваўся, ажно ціск падскочыў? Урачы забаранілі яму хвалявацца з-за раны ў галаве, але ж як тут застанешся спакойным, калі Віконт надумаў наведаць родны горад і старога сябра Корбута, ды яшчэ тэлефануе не асабіста сябру, а шукае пасрэднікаў? Хай прыязджае, яму што да гэтага? Ніводнага фільма Віконта ён не бачыў і не будзе глядзець прынцыпова. Хай хоць застрэляць і хай у кожным з іх выконвае галоўную ролю Вераніка!

Напамін пра Вераніку абудзіў застарэлы боль у сэрцы, нібы наноў адкрылася даўно загоеная рана. Корбуту стала так дрэнна, што захацелася плакаць. Ён і заплакаў ціха, па-мужчынску, аднымі вачыма.

## V

Надвор'е сапсавалася, як і настрой.

Чым больш аддалялася Леся ад прыпынку, на якім Корбут пасадзіў яе на аўтобус, тым больш сэрца сціскалася ў нейкай невытлумачальнай самоце, быццам Леся страціла нешта каштоўнае, сваё, побач з Корбутам, самым загадкавым чалавекам з тых, каго яна ведала, з бязгучным яго смехам, калі смяюцца толькі вочы, а твар застаецца сур'ёзным.

Яна хацела вярнуцца назад і адначасова разумела, што зараз гэта немагчыма, як немагчыма проста так, знянацку, як стоп-кранам цягнік, спыніць гэты аўтобус, які вёз яе невядома куды. Леся не ведала, куды едзе. Па ідэі, яна магла на ім даехаць да свайго дома, але дамоў не хацелася.

Леся выйшла ля першай станцыі метро, што была па дарозе, даехала да «Аўтазаводскай», прайшлася колькі сот метраў пешшу да будынка, у якім меў уласную кватэру Арцём Кухарчык, той самы мастак, які вінен ёй дваццаць баксаў.

Непрыветлівы, абшарпаны, трохпавярховы дом на Катоўскага сустрэў Лесю абыякавасцю і халоднасцю, як і заўсёды. У невялікім дворыку з жалезнай горкі каталіся блізняты, хлопчык і дзяўчынка, непадалёк на лавачцы сядзела не старая яшчэ кабета, напэўна, маці, бо некалькі разоў запар прыкрыкнула на хлопчыка.

Яе Леся бачыла ўпершыню, у адрозненні ад дзяцей, але вітацца не стала ні з дзецьмі, з якімі заўсёды і пагаворыць, і пагуляе, ні з іх маці, якая, мабыць, і не заўважыла дзяўчыну, занятая сваім.

Голая алыча, як і звычайна, уявілася Лесі кінутай заплаканай жанчынай. У кожнага сваё бачанне, як кажуць.

Чаго прыехала да Кухарчыка, Леся і сама не разумела, да таго ж яго магло і не быць дома. Чалавек жа творчы, не жанаты, адзін у кватэры, хоць і аднапакаёвай, мог сабе дазволіць любую вольнасць і крайнасць, калі захоча.

На яе шчасце (не дарэмна ўсё ж згубіла час), Арцём нікуды не «зліняў». З ускудлачанай галавой, з недагледжанай, даўно не голенай барадой, у спартовых штанах, босы, ён адчыніў дзверы.

— Ты? — Арцём зусім не здзвівіўся яе прыходу, і слова, вымаўленае ім, гучала проста як «ты купіла хлеба?»

— Ты не рады? — спыталася Леся, праходзячы ў калідор, намагаючыся праз шырокія плечы Кухарчыка зазірнуць у адзіны пакой кватэры ў надзеі ўбачыць там якую-небудзь наіўную лахудрыцу, зацікаўленую Кухарчыкавымі байкамі і аповедамі. Што, што, а распавядаць ён быў мастак. Па такіх, як ён, тэатральны плача, толькі чамусьці сам Арцём гэтага не разумее. На вялікі жаль, Лесі не ўдалося паскандаліць, на што яна вельмі спадзявалася, бо адзінай госцяй Кухарчыка была яна сама.

— Ты мяне здзівіў, Арцём,— прамовіла Леся, сядаючы на падваконне, улюбёнае месца, да якога прывучыў Кухарчык, калі яна пазіравала.

— Чым? — не зразумеў той. Ён прыхіліўся плячом да вушака, склаўшы на грудзях рукі.

— Ну, сваім адзінокім выглядам,— сказала Леся.— Ці яшчэ рана да прыходу новай пасіі? — цікаўна ўтаропіла на яго вочы. Кухарчык пачухаў свой востры нос, адказаў:

— Калі ты маеш на ўвазе секс, то я магу ім займацца ў любы час дня і ночы.

Ён паволі набліжаўся да Лесі. Зрэшты, не так далёка да яе было і ісці, усяго два крокі. Але Кухарчык любіў усё ўскладняць. Ён падкрадваўся, як драпежнік да ахвяры, паволі перастаўляючы ногі. Раней гэта ўзбудзіла б Лесю, але не зараз:

— Паспрабуй толькі дакрануцца да мяне. Лепей дваццаць баксаў гані.

Кухарчык расчаравана адвярнуўся ад дзяўчыны.

— Ты толькі за гэтым і прыехала? — спытаўся ён.

— А што ты мне яшчэ можаш прапанаваць? — абурылася Леся.— Мае партрэты па частках цела, адасобленых адзін ад аднаго, ці кансервы, ад аднаго выгляду якіх цягне на ваніты? Дзе мае дваццаць баксаў?

Кухарчык сеў на канапу, яшчэ не прыбраную, што стаяла далёка ад акна, у самым куце пакоя, але насупраць акна. Рука яго палезла пад падушку, выцягнула не тоўсты, але і не тонкі пачак «зялёных» дзесяцідоларавых купюр, перацягнутых гумкаю. Леся на імгненне страціла дар мовы, ва ўсе вочы пазіраючы на грошы, не ў сілах адвесці ад іх позірк. Кухарчык працягнуў ёй дзве дзясяткі:

— Трымай.

Дзяўчына саскочыла з падваконня. Вочы яе гарэлі:

— Дзе ты ўзяў столькі грошай? Толькі не кажы, што знайшліся ідыёты купіць твае карціны.

— Менавіта знайшліся,— з выглядам пераможцы Арцём расцягнуўся на канапе, закінуўшы рукі за галаву,— і менавіта з часткамі твайго цела.

— Я заўсёды гаварыла, што твае вушы — вушы генія,— ласцілася, як кошка, дзяўчына.

— Пры чым тут мае вушы? — не зразумеў Арцём, пачынаючы злавацць.

— Пры тым, што мая настаўніца, калі я вучылася ў школе, казала: усе геніяльныя людзі лапавухія.

— Гэта я і без цябе ведаю,— прыкрыў валасамі сапраўды вялікія свае вушы Кухарчык.

— Дурань ты, Арцём,— прамовіла Леся, падняўшыся з канапы, на якую плюхнулася неспадзявана для сябе, ачмураная на некаторы час грашыма.— У твае гады людзі сабе шыкоўныя кар'еры робяць. А ты так і спруцянееш у гэтай клетцы.

— Ды калі ты хочаш ведаць,— ускрыкнуў Кухарчык,— мяне ўзялі на работу! Выдавецкая фірма! Зразумела?

— Я рада за цябе,— сказала Леся.— Але па інтэр'еры тваёй кватэры не скажаш, што ты багата жывеш.

— А навошта? — рассмяяўся Арцём.— Мне хапае маёй канапы, майго тэлевізара, майго магнітафона і маіх кансерваў. Больш мне нічога не трэба, ну, акрамя яшчэ фарбаў і паперы.

— Шкада, што табе больш нічога не трэба,— паволі вымавіла Леся.

— Ды што з табой? — захваляваўся Арцём.— Я цябе не пазнаю. Ты часам не захварэла?

— Сам ты… хворы,— незалюбіла Леся.— І ўсе вы хворыя! Усе!

Яна хутка выбегла з кватэры, бразнуўшы цяжкімі дзвярыма, якія Кухарчык сам з цяжкасцю зачыняў і якія, вядома, не зачыніліся, моцна бахнуўшы аб вушак.

Лесіны крокі ўжо чутны былі на вуліцы, калі Арцём выбег следам за ёй на лесвічную пляцоўку, але хутка вярнуўся, бо холад бетону працінаў босыя ногі, як іголкі. На паліцы ў калідоры, ля тэлефона, ён заўважыў дзве кнігі. У яго кніг не было. Значыць, кнігі Лесіны. Ён палез з імі ў фортку, намагаючыся спыніць дзяўчыну, вярнуць яе хаця б за кнігамі, не разумеючы, чаму яна пакрыўдзілася. Здаецца, нічога такога і не сказаў. Аднак на яго позвы Леся не звяртала ніякай увагі. «Крычы, хоць закрычыся!»

Снег аблепліваў яе з ног да галавы, і Леся пашкадавала, што не апранула свайго футра. У байцы хоць

і цёпла, але з футрам не параўнаеш. Холад быў адчувальны, але ў гэтым, хутчэй, вінаваты вецер, чым мароз. Леся здзівілася, як могуць у такое надвор'е гуляць дзеці, якія працягвалі катацца з горкі, апранутыя ў аднолькавыя спартовыя касцюмы з балоні, але ў розных шапках і паўбоціках. Якая маці пусціць сваіх дзяцей на вуліцу ў такі час? Леся не разумела. Але ж і тая жанчына працягвала сядзець на лаўцы. Яна сцялася ўся, угнула плечы і схавала твар у каўнер. Чорт іх усіх разбярэ ў гэтым праклятым доме, дзе кожны сам па сабе, дзе чалавек чалавеку вораг, дзе кожны падазрае другога ва ўсіх злачынствах свету!

І Арцём туды ж!

Хаця, наконт Арцёма… Леся проста пазайздросціла. Ён падабаўся ёй, пакуль быў няўдачнікам, пакуль яму патрабавалася другая маці, якой ён быў пазбаўлены, бо выхоўваўся ў дзіцячым доме. Нарэшце Арцём нечага дамогся сам. Тымі самымі, відаць, часткамі цела, якія маляваў з яе. Каму былі патрэбны тыя часткі, Леся не разумела. Няўжо можна павесіць на сценку руку ці нагу, альбо грудзі асобна і любавацца цэлы дзень? Гэта ж… брыдота нейкая. Цьфу і ўсё!

Магчыма, у дачыненні да такога віду мастацтва Леся праяўляла проста свае жаночыя амбіцыі. Не згодная з ім, Леся ведала, што больш не вернецца ў той дом з паўпустой кватэрай Кухарчыка, у якога нават шпалераў звычайных не было. На сценах віселі голыя дзеўкі, выдраныя з «Плэйбоя», а ванны пакой і прыбіральня абклеены наклейкамі з жуяк таксама з адлюстраваннем аголеных жанчын. Што ён з імі робіць, чорт яго разбярэ! Безумоўна, калі яму гэта падабаецца, калі ласка! Але так можна з глузду з'ехаць…

Пра кнігі Леся ўспомніла, ужо стоячы на парозе сваёй кватэры. Дакладна, яна забыла іх у Кухарчыка, аднак не вяртацца ж да яго зараз зноў. Яна і так адчувала сябе дрэнна. А тут яшчэ дзверы ў кватэру

адчыненыя. Пiхнi рукой i забiрай, што будзе душы заўгодна. Значыць, бацька зноў п'яны, i нiякага спакою ў хаце не будзе.

Леся цiха разулася, скiнула байку i на дыбачках прайшла ў свой пакой. Праходзiць трэба было, мiнуючы кухню, i Леся не памылiлася ў сваiх меркаваннях наконт бацькi. Той сядзеў за сталом, апусцiўшы галаву, i нешта бубнiў, ледзь варушачы губамi, не расплюшчваючы вачэй. Перад iм стаяла пустая пляшка з-пад гарэлкi i круглая мiска з салатай. Кавалкi хлеба валялiся па ўсiм стале, як i салата. «Што ён, кiдаўся ёю, цi што?» — падумала Леся. Заўважыла дзяўчына i тое, што шклянак было дзве, i другi зэдлiк стаяў паблiзу. Ён пiў не адзiн. Ну, нiчога. Сёння ён ужо не вып'е.

Леся зачынiлася, на выпадак, калi сабутэльнiк бацькi пабег за дагонкай. Цэны павышаюцца, ды для п'янiц, вiдаць, нiякая трасца не перашкодзiць напiцца. Толькi дзе бяруць грошы? Складваюцца хiба, бо звычайна бацька пiў адзiн.

Леся села на краёк ложка. Хацелася есцi, але кухня занята бацькам. Iсцi ў кавярню халодна, дый грошай пакуль не было, акрамя дваццацi баксаў, што вярнуў Кухарчык. Ды ў кавярнi не было чаго i браць. Кава падаражэла ў тры разы, пiражкi з павiдлам, якiя Леся вельмi любiла, таксама. Можа, бабуля заўтра чаго смачнага прынясе? Сама Леся рэдка наведвала яе, спасылаючыся на занятасць. У некаторым сэнсе занятай Леся была сапраўды. Палову дня яна праводзiла ў «Рэзервацыi», пасля некалькi гадзiн прадавала бiлеты на спектаклi ў Маладзёжны тэатр, потым зноў «Рэзервацыя» цi «Труба» на станцыi метро «Кастрычнiцкая». Продаж бiлетаў хоць неяк паляпшаў грашовае сямейнае становiшча, дакладней, выручка ад яго. Калi не лiчыць, што Леся падпрацоўвала ў тым самым Маладзёжным тэатры прыбiральшчыцай цi зрэдку падмяняла прыхварэўшых актрыс, iншага заробку ў яе не

было. Не, яшчэ ў «Рэзервацыі» плацілі падчас, калі яна выходзіла на сцэну праспяваць адну-дзве ўласныя песні. Яны шмат каму падабаліся, але дапамагчы прабіцца Лесі далей ніхто не меў ахвоты. Леся не вельмі і перажывала. Раз у месяц на яе імя старэйшы і адзіны брат з Масквы пералічаў энную суму. Тых грошай хапала б, калі б бацька палову не забіраў. А што яна зробіць яму? Даводзілася падпарадкоўвацца. Інач ён шалеў і кідаўся з кулакамі ці здымаў рэмень, звязваў ёй рукі і лупцаваў па азадку, пакуль дзяўчына не згаджалася аддаць палову.

— Лёха,— казаў ён,— не толькі твой брат, але і мой сын. Значыць, у грошах, што ён прысылае, ёсць і мая доля.

— Ты ж іх усе прап'еш! — размазвала слёзы па твары Леся.

— А гэта ўжо цябе не тычыцца! — прамаўляў бацька і, пералічыўшы атрыманае, сыходзіў, каб прыпаўзці позна ўначы на карачках.

…У кватэру настойліва і нецярпліва пазванілі, мабыць, пасля марнай спробы адчыніць іх лёгкім штуршком пляча.

Леся не зварухнулася з месца.

Затое бацька быццам бы ажыў. Бубненне яго стала больш разборлівым.

За дзвярыма жаночы голас папярэдзіў, што, калі ёй не адчыняць, яна пакрыўдзіцца і больш ніколі не прыйдзе да яго.

«Ах, ты ж п'янь паршывая!» — зазлавала на жанчыну пад дзвярыма Леся і рашуча кінулася ў прыхожую, насцеж адчыніла дзверы.

П'яна-салодкая ўсмешка жанчыны змянілася незразумелай насцярожанасцю. Яна гучна прысвіснула па-мужчынску.

— Чаго трэба? — запытала Леся ў паставе рукі ў бакі. «Ну і апусціўся татуля,— падумала,— яе ж і жанчынай нельга назваць. Тоўстая, тлустая, скура вісіць,

як сала, вачэй зусім не відаць, горла схавалася пад трэцім ці чацвёртым падбародкам. Затое вусны намаляваны, як у апошняй шлёндры, і валасы пафарбаваныя ў ледзяны колер».

— Прабачце,— відаць, жанчына разгубілася, але вымусіла вывесіць на твары, як сцяг дружбы, ліслівую ўсмешку,— Віктара Пятровіча можна?

— Ён спіць,— адказала Леся.— Што яшчэ? — акінула грэблівым позіркам жанчыну.

— Прабачце… з кім ён спіць… з вамі? — усмешка пачала змяняцца і крывіцца, нават вочы паявіліся, бясколерныя і сонныя.

— А хаця б і са мной,— з выклікам прамовіла Леся, але не павышаючы голас.

— Як з… табой? — відаць, да такога адказу жанчына не была падрыхтавана.

— А вось так,— сказала Леся.— А ты дратуй, цёця, перастаўляй ножкі, занята!

Леся зачыніла дзверы, задаволена ўсміхаючыся. Яна яшчэ прыслухалася, што будзе рабіць тая жанчына, але так і не дачакалася ніякага дзеяння. Напэўна, жанчыну схапіў стаўбняк.

Бацька нешта прагугнеў. Локаць яго саскочыў са стала. Калі б Леся не паспела ў час падхапіць бацьку, грукату было б на ўвесь пад'езд, не іначай. Перакінуўшы яго руку цераз галаву сабе на плячо, Леся сказала яму трымацца і марудна-марудна пацягнула да канапы. Дзякуй богу, што ён здагадаўся яшчэ перасоўваць ногі.

Нарэшце, закінуўшы апошнімі на канапу бацькавы ногі, Леся з палёгкай уздыхнула. Бацька захроп у падушку.

Дзяўчына прайшла на кухню, прыбрала крыху, наскрэбла бульбы ў невялікую каструльку, слухаючы радыё, па якім нічога слушнага не перадавалі, так, песенькі ў выкананні Алесі з просценькімі словамі кшталту: «Ты мая саперніца, я яго палонніца».

…Не паспела Леся падсмажыць бульбу, як прагучаў чарговы званок у дзверы. Каго яшчэ прынесла нялёгкая? З нажом у руцэ, якім перамешвала бульбу, яна адчыніла дзверы і… аслупянела.

Перад ёй стаяў Арцём Кухарчык з букетам белых ружаў — яе любімых кветак.

— Ой! — шчыра здзівілася Леся, а нож выкінуўся з рук на падлогу. Яна засаромелася.— Пачакай! — кінула Арцёму і шуснула за дзверы. Забегла на кухню, паклала нож, які не ўтрымала на лесвічнай пляцоўцы, на стол, таропка абцерла рукі аб брудны ручнік. Дзіўна, яшчэ пазаўчора ён быў чысты. Відаць, бацька пастараўся. Мінаючы люстэрка, кінула позіркам у сваё адлюстраванне, папраціла прычоску, усміхнулася сама сабе. Раптам падумала, як жа прымаць Арцёма? Бацька можа прачнуцца! Усчыніць скандал! Што ж рабіць?

Леся вызірнула за дзверы аднымі вачыма і носікам, як мышка з норкі, шэптам прамовіла:

— У мяне бацька п’яны.

— Ды д’ябал з тваім бацькам! — сказаў Арцём.— Я да цябе, а не да яго прыйшоў і зусім не планаваў заходзіць у кватэру да вас.

— Зараз.— Леся зноў схавалася за дзвярыма. Яна хутка ўлезла ў красоўкі, зашнуроўваць не стала, на плечы накінула любімае леапардавае паўфутра. «Здаецца, усё? Ой, патэльню забылася з газу зняць». Гэта было своечасова. Бульба як раз добра падсмажылася, але каштаваць яе не было часу.

Спярша Леся не пазнала Кухарчыка. Перад ёй стаяў высокі прыгожы малады чалавек у скураной куртцы, мокрай ад снегу, з кветкамі ў руках. Нyголенасць яго ператварылася ў мушкецёрскую бародку, а валасы былі зачасаны назад і перахоплены гумкай, ад чаго вушы яго хоць і тырчэлі, але ні кроплі не псавалі выгляд, наадварот.

— Я цябе не пазнала,— прызналася Леся.

— Нічога. Бывае,— весела адказаў Арцём і нарэшце працягнуў букет, стаміўшыся трымаць.

— Дзякуй,— схавала твар у кветках Леся.— Як ты яго данёс? — данеслася праз паўзу з-за кветак.

— Нармальна данёс, дакладней, давёз,— прамовіў Арцём і пстрыкнуў запальніцай «Ротманс», прыкурваючы цыгарэту.— Ты думаеш, я пешшу ці ў аўтобусе захаваў бы іх прыгажосць? На таксоўцы, без праблем.

— Што гэта з табою здарылася? — працягваў здзіўляць яе Кухарчык, які эканоміў нават на ежы.

— Ведаеш,— прамовіў Арцём,— мне прапанавалі работу, я табе ўжо казаў, плоцяць «зялёнымі» і не блага. Пачалося ўсё з карцін, на якіх ты намалявана. Не часткі цела, а ты, разумееш? Так што нейкім чынам я абавязаны сваім поспехам табе.

— А чаму я не бачыла ніколі тых карцін? — пацікавілася дзяўчына.

— Яны б табе не спадабаліся.

— Гэта яшчэ чаму? Я заўсёды сабе падабаюся.

— Разумееш, у мяне выпрацаваўся свой стыль і ўспрыманне свету, праз які… увогуле…

— Добра,— спыніла яго Леся,— лекцый мне чытаць не трэба. Рада, што ў цябе ўсё атрымалася.

Арцём падняў кейс, што стаяў за яго спінай, паклаў яго на парэнчы, адчыніў, прытрымліваючы.

— У мяне сёння свята,— прамовіў ён.— Я хачу, каб і ў цябе таксама было свята. Гэта табе,— працягнуў Лесі вялікую каробку шакаладных цукерак і бутэльку марачнага лікёру.— А гэта тваё,— у апошнюю чаргу вынуў кніжкі, што забылася Леся ў яго дома.

— Столькі ўсяго! — павесялела дзяўчына.— Я ж не ўтрымаю!

Некалькі разоў прасігналіў аўтамабіль.

— Гэта за мной,— зачыняючы кейс, сказаў Арцём.— Спадзяюся, я магу разлічваць на цябе. Усё-ткі ты мне прынесла ўдачу.

Твар дзяўчыны спахмурнеў.

— Калі ты ў сэнсе кахання,— паволі вымавіла яна,— то не тэлефануй мне больш і не прыходзь. Нічога не атрымаецца. І забірай свае падарункі назад!

— Падарункі ад чыстага сэрца, Леся,— паспяшаўся заспакоіць дзяўчыну Арцём.— Ніхто не збіраецца цябе купляць, зразумей.

— Добра,— згадзілася Леся.— Але я цябе папярэдзіла.

— У цябе нехта ёсць?

— А якая твая справа? Няма, так будзе.

— Прабач. Можна тады пацалаваць цябе на развітанне?

Аўтамабіль прасігналіў другі раз.

Леся падставіла Кухарчыку шчочку, якую ён пацалаваў вельмі мякка і прыемна, усё роўна, як дакрануўся да фарфору, і ў краёк вуснаў, затым хутка, не абарачваючыся, збег па прыступках уніз. Праз некалькі секунд пачуўся гук заведзенага матора і віск колаў па снезе.

Леся прыкусіла ніжнюю губку, той самы краёк, якога крануўся пацалунак, змахнула няклікаую адзінокую слязінку, што выкацілася на шчаку бязгучным пытаннем «навошта?», і схавала твар у кветках.

Ля ног яе туліўся лікёр, побач — кніжкі, а на іх — цукеркі. Карціна для мастака.

## VI

…Корбут пазваніў у дзверы тройчы, пакуль яму адчыніў Віконт. Без ніякіх слоў Корбут садануў яму кулаком пад правае вока. Віконт не ўпаў толькі таму, што за спінаю знаходзілася шафа, бо рука ў сябра была цяжкая. Корбут ударыў яшчэ, па сківіцы, таксама моўчкі. На гэты раз Віконта павяло і, чапляючыся за вушак, ён расцягнуўся на падлозе, галавой у вітальні, нагамі ў калідоры.

Корбут захлопнуў дзверы і зняў шапку.

— Ты чо? Белены аб'еўся? — спалохана крыкнуў з падлогі Зуеў. З пабітай губы цурчэла кроў.

Не адказваючы, Корбут наблізіўся да яго, падняў за майку. Рот Корбута крывіўся, вочы шалёна бегалі…

На разасланай канапе ён заўважыў перапалоханую бландзінку, што забілася ў куток, закрыўшыся коўдрай да вачэй, нацягваючы коўдру яшчэ вышэй, быццам гэта дапаможа ёй выратавацца.

— Ск'юзмі, міс,— прамовіў Корбут і зачыніў шкляныя дзверы, што вялі ў вітальню. Віконта ён падцягнуў да сценкі, што вяла на кухню, нагой паправіў палавік, які скруціўся гармонікам ад няўдалага падзення Віконта.

— Ты не збіраешся мяне больш біць? — Хутка-хутка міргалі вочы Зуева, паглядаючы на наведзены кулак Корбута, які ўсё-ткі ўдарыў, але не ў галаву Віконта, а ў сцяну. На пабітых касцяшках паказаліся рысачкі крыві.

— Растлумач хаця б, у чым я вінаваты? — крыкнуў Віконт. Яго напружвалі і паводзіны, і маўчанне сябра.

— Растлумачыць табе? — прахрыпеў Корбут.— А ты сам не здагадваешся?

— Ты чо… наконт Веранікі? — здаецца, з палёгкай уздыхнуў Віконт.— У нас нічога не было, Мікіт, клянуся!

— Ілжэш! — прымружыў вочы Корбут.— А сябру лгаць нельга, ці ты забыўся пра нашу клятву там, на ўзгорку?..

— Нічога я не забыўся! — нервова адказаў Віконт, адпіхнуўшы Корбута ад сябе.— Яна сама можа падцвердзіць мае словы, калі ты ў яе папытаешся!

— Я і без цябе ведаю, што яна скажа,— стомлена ўздыхнуў Корбут, прыхіліўшыся да сцяны. Складвалася такое адчуванне, што ў яго гара з плячэй звалілася.

Віконт пусціў на кухні ваду з-пад крана і плюхаў рукой у ракавіне, змываючы кроў з твару.

— Ідыёт,— бубнеў ён, зірнуўшы мімаходзь у люстэрка над ракавінай.— У мяне ж фінгал будзе дай божа,— вымавіў грамчэй.

— Шнары ўпрыгожваюць мужчын,— адзначыў Корбут.

— Але мне не вельмі прыемна асвятляць сваім ліхтаром вечаровыя вуліцы горада.

— Цябе ніхто і не просіць аб гэтым.

— Слухай, Мікіт,— зірнуў Віконт на Корбута, які ўжо сядзеў на кухні за сталом і вымаў цыгарэты,— ты мне вінны за нанесеныя пашкоджанні… Ты не збіраешся папрасіць у мяне прабачэння?

— Пацалуй мяне сам ведаеш куды,— кінуў, пагасіўшы, запалку паўз Віконта ў сметніцу Корбут.— Збірайся, паедзеш са мной у інтэрнат да яе. У тваёй прысутнасці яна мне скажа, што ў вас нічога не было, а я буду пазіраць вам абаім у вочы. Збірайся.

— Мікіт, ты нічога разумнейшага не мог прыдумаць? — нацягнута ўсміхнуўся Зуеў. Ехаць яму не вельмі хацелася, нават з дому выходзіць, бо ў вітальні на канапе чакала мілая дзяўчынка, якую ён толкам і пацалаваць не паспеў, а айчым зваліў толькі да заўтрашняй раніцы, і ўсё з-за Корбута, у якога з-за кахання ўжо галюны пачаліся. То тое яму мірсціцца, то іншае. Лячыцца трэба. Вераніка такіх адносін не вытрывае, калі ўжо не… — Нас не пусцяць у інтэрнат, бо наведванні строга да дваццаці дзвюх гадзін, гэта па-першае…

— Я без цябе ведаю. Калі ты хутка апранешся, мы яшчэ паспеем,— адказаў Корбут.

— Я нікуды не паеду з такім тварам,— занюніў Віконт.— Не смяшы людзей… Што ты хочаш і каму даказаць?.. Да таго ж я не адзін… сам бачыў…

— Ты выбачышся перад сваёй Машай ці як там яе, апранешся і паедзеш,— цвёрда сказаў Корбут.

— Я не паеду! — настойліва адмаўляўся Віконт.

— Лілька бачыла, як вы цалаваліся, сволач! — схапіў Корбут сябра за горла.— Ці ты скажаш, што ёй таксама прымроілася, як і мне?

— Усё… можа быць,— няўпэўнена адказаў Віконт.

— Збірайся! — адпусціў яго Корбут і дакурыў цыгарэту.

Віконт абцёр твар рушніком і схаваўся ў вітальні, якая была адначасова і спальняй. Другі пакой займаў айчым. Праз дзверы Корбуту было чуваць, як Віконт тлумачыў Людачцы, што ўзніклі нечаканыя неадкладныя справы. Сама ж бачыла, завітаў сябар, у яго праблемы, трэба дапамагчы. Але Віконт доўга не забавіцца і вернецца праз гадзінкі дзве, а каб Людачка не сумавала без яго,— можа паслухаць магнітафон, у яго ёсць добрыя запісы «Аббы», «Бітлз», Элвіса Прэслі, ці паглядзець тэлевізар; як раз праз пятнаццаць хвілін пачнецца цікавае кіно, пра Штырліца. Нашто ёй той Штырліц? Так, для прафілактыкі. Штырліц — не Віконт, дакладней, не Дзімуля, але таксама хлопец нічога сабе.

— Блазан! — гулліва прагучаў голас Людачкі, затым — чмокі пацалункаў, шчаўчок націскаемай клавішы магнітафона…

— Не сумуй без мяне.

Чароўная песня «Естэдэй» праводзіла маладых людзей за дзверы.

Корбут выклікаў таксоўку, каб не спазніцца ў інтэрнат, бо на грамадскім транспарце можна было ўвогуле не даехаць.

Сябры не размаўлялі і не глядзелі адзін на аднаго ўсю дарогу.

Даехалі хутка.

Пайшоў дождж.

Корбут разлічыўся з кіроўцам. Віконт здзівіўся, адкуль у таго грошы.

— Банк абрабаваў,— кінуў Корбут, адчыняючы ўваходныя дзверы ў інтэрнат.

— Не самы твой дасціпны жарт,— заўважыў Віконт, ідучы следам за Корбутам.— Дарэчы,— ляпнуў сябра па плячах, калі яны падымаліся на трэці паверх па лесвіцы,— ты не ўлічваеш таго, што Вераніка ўжо магла легчы спаць?

— Толькі такому ідыёту, як ты, магла прыйсці ў галаву такая бязглуздая думка,— прагучаў адказ.

— Чаго ты мяне ўвесь час сёння прыніжаеш? — незалюбіў Віконт.

— Можаш прынізіць мяне.

Віконт прамаўчаў, як больш разумнейшы з двух.

Корбут спыніўся перад дзвярыма ў пакой, у якім жыла Вераніка і яшчэ дзве дзяўчыны.

— Ты першы,— сказаў Віконту.

— Як скажаш,— згадзіўся той і пакорліва штурхануў дзверы пасля нямоцнага стуку.— Добры вечар, Вераніка! — развёўшы рукамі, сказаў, апынуўшыся пасярод пакоя. Як цень, за ім паявіўся Корбут.— Прымай гасцей!

Ім пашанцавала. Вераніка была адна. Яна ляжала ў белым шаўковым халаціку на сваім ложку, перагортваючы старонкі «Па кім звоняць званы».

Дзяўчына зусім не здзівілася прыходу сяброў, яны былі частымі наведвальнікамі гэтага памяшкання, таму проста прапанавала ім сядаць куды-небудзь, як і заўсёды, і папіць гарбаты, толькі каму-небудзь трэба злётаць на кухню паставіць чайнік. Як і заўсёды, у такіх выпадках, адпраўлялі Віконта.

Корбут сядзеў на Светкіным ложку, заціснуўшы рукі між каленяў, насупраць Веранікі, і на дзяўчыну не глядзеў. Прагульваў, па звычцы, вочы па сценках пакоя, разглядваючы ўзоры на шпалерах: завітушкі, ружачкі, паралелепіпеды, ромбікі, колькасць якіх ужо вывучыў на памяць. Толькі крадком, ціхутка, непрыкметна

скошваў на яе вока. Вераніка ў сваім халацiку вабіла яго яшчэ больш. Але сама дзяўчына не ўздымала вачэй на Корбута, працягваючы гартаць кнігу.

Вярнуўся Віконт.

Чакаць болей Корбут не мог. Як яму не было цяжка і як усё замінала гаварыць, усё ж ён сказаў, падняўшыся з ложка і звяртаючыся да Веранікі:

— Вераніка, да мяне дайшлі чуткі, што ты… што вы… з Віконтам… наогул… — далей язык не паварочваўся, як ты ім не круці, а Вераніка адарвалася ад кнігі і пазірала на Корбута зацікаўлена. Хлоп-хлоп лялечнымі павейкамі.

— Што ты хочаш пачуць? — паднялася і яна з ложка. Пасак халата развязаўся і на момант мільганулі, як прыемныя малюнкі, яе грудкі.

Віконт, закрыў вочы рукамі і адвярнуўся.

Вераніка падхапіла пасак, які затрымаўся на спінцы ложка, і спрытна перапаясалася.

Корбут страціў дар мовы.

— Што ты хочаш пачуць? — паўтарыла Вераніка. Кончыкі яе вушак пачырванелі. Толькі па гэтай прыкмеце льга было здагадацца пра хваляванне дзяўчыны, бо твар яе заставаўся такім жа матава-белым, як і раней, хаця рэжысёр даказваў адваротнае, што Вераніка, як тая малпачка, працуе ўсім тварам, прычым кожнай часткай паасобку.

— Я… — прахрыпеў Корбут.

— Так, мы з ім пераспалі,— прамовіла Вераніка.— Ты гэта хацеў пачуць? А што, нельга?

Віконт схапіўся за галаву і цяжка апусціўся на крэсла ля стала.

Губы Корбута не варушыліся, нібы здранцвелі, а на вочы набягалі, як цунамі, слёзы. Ён адвярнуўся, каб гэтага не бачыла тая, якую ён да самазабыцця кахаў.

Адным узмахам рукі Корбут выцер вочы.

— Няўжо ты плачаш? — здзекліва прамовіла Вераніка.— Каўбоі не плачуць, і князі не стаяць спінамі да жанчын!

Як па загадзе, Корбут павярнуўся тварам да яе. Рот яго крывіўся, намагаючыся нешта вымавіць, але нічога не атрымлівалася.

Нібы агеньчык свечкі, мільгануў спалох у вачах Веранікі. Але, як успыхнуў, так і пагас.

Віконт хаваў вочы і ад Корбута, і ад Веранікі. На Вераніку ён увогуле не мог і не хацеў глядзець.

Корбут так нічога і не сказаў дзяўчыне, марудна адвярнуўся ад яе, вылупіўся на Віконта, ляпнуў рукой па яго плячы, пайшоў да выхаду.

Яны марудна выходзілі з інтэрната. Марудна і моўчкі.

На вуліцы, пад дажджом, Корбут зноў без папярэджання з'ездзіў Віконту па вуху. Той адказаў тым жа.

— Яна лжэ, а не я! — крыкнуў Віконт, адбіваючыся ад Корбутавых удараў і сам наносячы іх Корбуту.— Мы нават ніколі не цалаваліся, калі не лічыць вымушаных пацалункаў на сцэне. Каму ты больш верыш урэшце, ёй ці мне, лепшаму сябру?

— Ты чуў, што яна сказала! — упарта стаяў на сваім Корбут.

Удар… Яшчэ ўдар… Выпад… Адыход… Атака… Контратака.

На нейкай лужыне Корбут паслізнуўся, тут жа яго дагнаў удар Віконта пад дых. Корбут упаў на калені, трымаючыся рукамі за жывот.

Нечакана для сябе Віконт зірнуў наверх. У акне ён убачыў Вераніку. Яна плакала, выціраючы слёзы хусцінкай. Безумоўна, яна ўсё бачыла.

Віконт схапіў Корбута за галаву, падымаючы яго.

— Глядзі! Глядзі на яе акно! — крычаў ён.— Яна наўмысна гэта зрабіла, каб падражніць цябе, а зараз плача ад таго, што перабаршчыла!

Але калі Корбутаў затуманены позірк спыніўся на акне Веранікі, яе там не было, а само акно было захінута фіранкай.

— Адыдзі ад мяне! — прахрыпеў ён Віконту.

— Я невінаваты! — крычаў Віконт.

Корбут падняўся, абціраючы мокры, з якога капала вада, твар рукавом, але дождж не сціхаў.

Хоць і было цемнавата, двух «пеўняў» заўважылі і загадалі разысціся, пакуль не выклікалі міліцыю.

Корбут зноў не ўбачыў, а Віконт заўважыў, што Вераніка яшчэ раз падыходзіла да акна, адчыніла яго. Мабыць, хацела крыкнуць, паклікаць Мікіту, але сяброўкі адцягнулі яе.

На адлегласці адзін ад аднаго Корбут з Віконтам, мокрыя, пабітыя, стомленыя, адною дарогай вярталіся дамоў…

…Корбут не ведаў, што Вераніка знарок не абвергла яго падазрэнняў, таму менавіта яе словы адыгралі вырашальнае значэнне ў далейшым яго жыцці.

Больш нічога і ніхто не ўтрымліваў яго ў горадзе, нервы трымцелі, як струны, але галава заставалася на дзіва яснай, як сонечны, без хмурынкі, дзень, хаця як для каго.

Корбут пайшоў у ваенкамат…

У канцы месяца яму неабходна было з’явіцца на зборны пункт. А гэта азначала, што яшчэ дзесяць дзён трэба было недзе бавіцца.

Ад няма чаго рабіць Корбут снаўдаўся ад рэдакцыі часопіса «Маладосць» да Купалаўскага тэатра. Віконта ён не бачыў, Вераніку таксама.

Неяк выпадкова ў падземным пераходзе сутыкнуўся з Сяргеем Міронавічам. Той купляў кветкі, і першы яго заўважыў.

— Мікіта! — прагучаў на ўвесь пераход бас рэжысёра.— Здароў!

Аграмадная лапішча яго сціснула далонь Корбута, як прэс.

— Чаму не з'яўляешся на рэпетыцыі? — пацікавіўся.

— Не магу,— адказаў Корбут.— Праз некалькі дзён сыходжу ў войска.

— Як сыходзіш? — не зразумеў рэжысёр.

— Па ўласным жаданні,— паспяшаўся растлумачыць Корбут,— добраахвотнікам.

— Зразумела,— памаўчалі.— Ну, ты ж не забыўся пра прэм'еру?

— Не. Хто мяне замяняе?

— Зуеў.

Корбут здагадваўся, што Віконт зноў зойме яго месца. У прынцыпе, так яно і павінна быць. Віконт зараз адзіны акцёр у тэатры, на якога робяць вялікія стаўкі, як некалі на Корбута.

— Не шкадуеш? — спытаўся Сяргей Міронавіч.

— Позна шкадаваць. Я даўно да гэтага кроку рыхтаваўся.

— Ну, што ж, поспехаў табе,— паляпаў рэжысёр Корбута па плячы,— у вайсковай службе. Не забывай нас.

І ўсё.

Больш не знайшлося ў яго для Корбута ніякіх слоў. Безумоўна, яго можна прабачыць, Сяргей Міронавіч, відаць, спяшаўся, а Корбут яго затрымліваў.

Але тым не менш…

Корбут быў лепшым акцёрам яго трупы.

Быў.

Увесь сэнс таго, што адбывалася зараз, закладзены менавіта ў тры гэтыя літары. І нічога не вернеш назад.

Адным словам… быў.

…Як не дзіўна, але Корбут з'явіўся на прэм'еры. Апошні раз зірнуць на Вераніку.

Гэта быў спектакль пра рэвалюцыю. Вераніка выконвала ролю галоўнага камісара, Віконт — белага афіцэра з накладнымі вусамі.

Корбут захапляўся гульнёй Веранікі. Ніколі раней, на яго думку, лепш, чым у гэтым спектаклі, яна больш не грала.

Часткова ў гэтым быў вінаваты сам Корбут.

Вераніка заўважыла яго адразу, як выйшла на сцэну. Ён сядзеў ля самага праходу ў трынаццатым радзе і ва ўсе вочы пазіраў на яе.

Як толькі скончыўся спектакль і ўсе акцёры павінны былі выйсці на паклон, Вераніка спрытна саскочыла ўніз са сцэны і пабегла па праходзе да Корбута.

Корбут падсвядома прыўзняўся з крэсла і паволі выйшаў на сярэдзіну прахода, каб злавіць праз колькі секунд у абдоймы самую каханую дзяўчыну на свеце.

Яна плакала.

Ён гладзіў яе валасы, аслабаніўшы іх ад шорсткай скураной фуражкі з чырвонай зоркай.

Гледачы назіралі за імі, як на яшчэ адну дзею спектакля.

У скуранцы, перахопленай рэменем, у чорнай спадніцы да каленяў, у кірзавых ботах і з браўнінгам у кабуры на баку Вераніка-камісарша, загартаваная сталлю, расплакалася на плячы Корбута.

— Прабач, Мікіта,— шаптала яна.— Я тады нагаварыла абы-чаго. Нічога не было, разумееш, нічога. Я проста хацела напалохаць цябе, а напалохала больш сябе саму. Ты мяне прабачыш? — зазірала яму ў вочы.

Корбут гладзіў яе валасы.

— Ну скажы што-небудзь, не маўчы! — не адводзіла сваіх вачэй ад яго позірку.

— Заўтра я сыходжу ў войска,— сказаў Корбут.

— Як? — залыпала Вераніка вачыма.— Навошта? — не разумела яна.

— Так атрымалася.

— А тэатр? А я? — разгубілася дзяўчына.— Паслухай, ты ж можаш забраць заяву назад. Я ведаю, што цябе не могуць забраць у войска па позве. Хочаш, я пайду з табой, і мы разам забярэм…

— Позна, Вераніка,— сумна адзначыў Корбут.— Усё позна.— Ён узяў яе за рукі, паглядзеў на ейныя пазногці, доўгія, прыгожыя, пакрытыя блакітным лакам, і ўсміхнуўся: — У камісараў не было такой раскошы.

— Прычым тут камісары? — не зразумела Вераніка.

— Бывай, Вераніка! — прамовіў Корбут, а адвесці позірк з яе вачэй не мог.— Спадзяюся, мы больш не пабачымся.

— Што? — утрымала яго рукі ў сваіх дзяўчына.— Ты мяне больш не кахаеш?

— Калі б я мог цябе не кахаць, ты б не бачыла мяне зараз тут.

— Тады чаму?..

— Я не веру табе, Вераніка,— адказаў Корбут.— Таму што ты ў першую чаргу актрыса, а пасля ўжо дзяўчына. Не перапыняй мяне. Гэта добра і выдатна, Вераніка, для цябе, але не для мяне. Ты будзеш вялікай актрысай!

— А ты?

— А я… я «умываю рукі», як сказаў нехта з класікаў.

— Калі… калі ты кахаеш мяне… ты не пакінеш… мяне зараз,— перарывіста вымавіла Вераніка.

— Толькі таму я цябе і пакідаю, Вераніка,— сумна прамовіў Корбут.— Жадаю шчасця.

Ён горача пацалаваў яе ў вусны, Вераніка павісла на ім, не адпускаючы. Нямоцна, але ўпэўнена, Корбут адвёў рукі Веранікі, апошні раз зірнуў на яе, павярнуўся спінай, хутка, але не вельмі, пакінуў залу.

— Ну і дратуй! — крыкнула яму ў спіну дзяўчына, раззлаваная і пакрыўджаная.— Дратуй!

Вераніка не залілася слязьмі, як зрабіла б у іншым выпадку, толькі таму, што зала выбухнула апладысментамі. Гледачы ўспрынялі яе сцэну з Мікітам вольным працягам спектакля.

З усіх бакоў да Веранікі паляцелі кветкі і віншаванні з поспехам.

Вымушаная, але выразная ўсмешка паявілася на твары дзяўчыны, рызыкуючы ўсё ж змяніцца слязьмі.

Яе падтрымаў рэжысёр Сяргей Міронавіч. Ён выгукнуў і без таго моцным голасам у мікрафон:

— Вераніка Берднік!

Усмешка на яе твары стала больш праўдзівай.

Актрыса ўзяла верх над проста дзяўчынай.

Нават з асабістых пачуццяў яна зрабіла спектакль. І калі Корбуту так падабаецца пакутаваць, няхай пакутуе.

Дапіваючы апошнія кроплі «Сяброў», Корбут самотна ўсміхнуўся з сябе самога тагачаснага, рамантычнага і наіўнага ідэаліста.

Ён ішоў пешшу з плошчы Перамогі ў кірунку да плошчы Свабоды. Вецер шкамутаў крысо яго расшпіленага паліто, як не зачыненую на зашчапку брамку.

Снег залепліваў вочы, камікадзэ-сняжынкі заблыталіся ў барадзе і ў вусах. Вецер шпурляў іх у твар Корбута аграмаднымі жменямі, быццам асколачныя гранаты, што выбухалі прама перад вачыма.

Пустую пляшку з-пад піва Корбут шпурнуў праз левае плячо з моста ў Свіслач.

Насустрач ішлі не людзі, а нейкія марыянеткі, што апусцілі і панурылі галовы ў плечы.

«Няўжо мяне так моцна ўразіла навіна аб хуткім прыездзе Віконта? — спытаў сам у сябе Корбут.— Няўжо толькі з-за яе я так расклеіўся, усё роўна, як каробка з паперы? Гады ж прайшлі, і не малыя,— думаў Корбут, усё болей аддаляючыся ад Дома літаратара і амаль параўняўшыя з будынкам цырка.— Не,—

пярэчыў сам сабе,— не прыезд Віконта ўсхваляваў цябе, спадар Корбут, а неасцярожныя словы Кастуся Цімашэнкі пра магчымы прыезд і яе, той, аб кім ты думаеш кожны вечар перад тым, як заснуць, каго не можаш ніяк забыць і кожную гераіню сваіх раманаў надзяляеш яе рысамі і яе характарам, ад чаго крытыкі абураюцца, бо жаночыя персанажы Корбута, маўляў, аднолькавыя, як сёстры-блізняты. А як жа іначай, калі яны спісаны з аднаго вобраза, з адной жанчыны?..

А ці хочаш ты, спадар Корбут, каб яна прыехала разам з ім?

Маўчыш?

Хочаш і маўчыш.

Ты пятнаццаць гадоў чакаеш, каб яна ўспомніла пра цябе; як малітву, прамаўляеш яе імя, як песню, як верш, як…

Але, хто ты такі для яе? Ты, звычайны правінцыйны пісьменнік, выкладчык беларускай мовы і літаратуры ў мінулым, для яе — кіназоркі, чыя слава і поспех на ўзроўні славы і поспеху Мэрылін Манро? Скажаш, што ў Манро быў Артур Мілер? Але ты не Артур Мілер, спадар Корбут, дый яна — Вераніка Берднік, а не Мэрылін Манро. Нічога не паўтараецца, і няма аднолькавых людзей. Ты можаш жыць з ёю разам у нейкіх сваіх фантазіях ці на старонках рамана, які яшчэ пішаш, цалаваць, абдымаць, дарыць падарункі, здзекавацца, біць, прыніжаць, але толькі там. Наяве ты нічога не можаш, нават дакрануцца, бо яна далёка ад цябе, як неба, што здаецца такім блізкім.

Не паўтарай прапісных ісцін,— паўшчуваў сябе Корбут.— Неба… блізка… далёка… Ты ж пісьменнік, спадар Корбут. Хутка — саракоўнік, а розуму, як у пляменніцы Наташкі, якая толькі на той год пойдзе ў школу.

Калі б я толькі мог,— падумаў ён,— калі б мне было дазволена, перакуліў свет дагары б, каб вярнуць

той вечар у тэатральнай зале пятнаццаць гадоў таму і застацца з Веранікай.

Так, я хачу, каб яна прыехала, каб адорвала ўсмешкамі прылізаных гладзенькіх дзеячоў кінамастацтва, і не толькі ўсмешкамі, каб мне было балюча.

Стоп.

З якога часу, спадар Корбут, ты стаў мазахістам?..»

—…Падайце, дзеля Хрыста!..— вярнуў Корбута ў рэчаіснасць пракураны, хрыпаты, кашляючы голас старога жабрака, побач з якім ён спыніўся невядома чаго, і жабрак, мабыць, не першую хвіліну звяртаўся да яго са сваёй просьбай. Валасы яго нейкага попельнага адцення злёгку прыкрывала зімовая шапка, якая распаўзалася і вісела ашмёткамі на галаве, нагадваючы кошку з аблезлымі бакамі. У барадзе, таго ж колеру, што і валасы, такой густой і доўгай, можна было заблукаць, як у лесе, што і здарылася з парушынкамі тытуню і батона. Ватоўка, такая ж падраная, як і шапка, і валёнкі, зверху заматаныя нейкімі бруднымі анучамі, і мыліцы заканчвалі партрэт старога. Але ў вялікіх блакітных вачах, як начною часінай зоркі — у возеры, зіхцела маладосць. Толькі вось твар, калі стары ўсміхаўся, рабіўся падобным на старое дрэва, ператвараючыся ў суцэльныя тоўстыя рысы зморшчын.

— Падайце, дзеля Хрыста!..— працягнуў стары руку да Корбута ў дзіравай спяцовачнай рукавіцы, напханай выдранай ці скрадзенай недзе ватай.

Корбут толькі зірнуў у вочы старога і адразу зразумеў, што дасць яму грошай, чаго ніколі не рабіў, заўсёды мяркуючы, што ўсе жабракі — алкаголікі і абібокі, і грошы збіраюць толькі на выпіўку ці апахмелку.

Ён сунуў руку ў кішэню штаноў: што трапіцца — тое трапіцца. У выніку — пяць тысяч рублёў адной купюрай схаваліся ў руцэ старога. Невялікія грошы, але той быў ім рады.

Стары затрымаў Корбута за руку:

— Пачакай. Бачу, у цябе добрыя вочы. Такія вочы бываюць толькі ў творчых людзей. Ты не музыкант?

— Чаму вы так лічыце? — зацікавіўся Корбут.

— Валасы, зачасаныя назад, барада… — правёў рукой па сваёй барадзе стары.

— Не, я проста пісьменнік,— сумна ўздыхнуў Корбут.

— Па сённяшнім часе быць пісьменнікам — недазволеная раскоша,— заўважыў стары.

— Я згодны з вамі.

— Вядома, па-беларуску пішаце?

— Так.

— Мне імпануе ваша шчырасць,— блiснулі вочы старога.— І я рады, што не памыліўся ў вас. Паверце, я ніколі не думаў, што калі-небудзь накіну торбу жабрака і буду стаяць у пераходах з працягнутай рукой і збіраць пустыя бутэлькі. Час такі. І дзеці такія. Мая гісторыя самая будзённая і тыповая. Любога чалавека майго ўзросту папытайце пра акалічнасці падзення — кожны раскажа аналагічныя адна ў адну сітуацыі.

— Я разумею,— кіўнуў Корбут.

— Мая вам парада,— прамовіў стары,— не судзіце чалавека па тым, як ён выглядае і як апрануты, што ён еў на абед, а што на сняданак,— памылкі і расчараванні могуць быць такімі, якіх не выправіць. Дайце мне вашу руку,— раптам далікатна, але ўчэпіста схапіў стары руку Корбута.— Я ў некаторым сэнсе хірамант,— растлумачыў. Ён некаторы час вадзіў рукавіцай па рысах на далоні Корбута, твар яго паморшчыўся і вочы цямнелі, набываючы сапраўдны холад.— Я не буду вам нічога казаць,— прамовіў стары пасля,— бо не падабаюцца мне вашы рысы на далоні. Толькі папярэджу: асцерагайцеся колішніх знаёмых, каб не наклікаць бяды. Бывайце здаровы!

Стары падхапіў свае мыліцы, але не пакульгаў, як разлічваў Корбут, а спрытна пабег, як марафонец, у бок метро. Праз колькі секунд ён знік у натоўпе.

Корбут зірнуў на сваю руку, павярцеў ёю. Пасля сунуў абедзве рукі ў кішэні паліто і павярнуў ля гадзінніка направа, мяркуючы прагуляцца па мінскаму Манмартру, аднак ля «Пінгвіна» перадумаў і вырашыў папіць кавы. Заняў месца ў кутку за круглым столікам, грэючы далоні гарачым пластыкавым кілішкам з кавай, і паволі маленькімі глыткамі адхлёбваў, назіраючы за нешматлікімі наведвальнікамі кавярні, чый узрост зрэдку пераўзыходзіў лічбу 25.

Раптам у чарговым наведвальніку «Пінгвіна», хутчэй па паводзінах, чым па знешнім выглядзе, Корбут пазнаў Тараса Кутняка. Відавочна, малады паэт быў не адзін, бо замовіў дзве кавы і дзве булачкі з макам. Корбут не памыліўся. Як толькі Тарас разлічыўся, да яго падскочыла нейкая дзяўчына ў чорным футры да каленяў, з кучаравымі валасамі, якая тут жа забрала булачкі і ад адной адкусіла. Тарас з кавай, адвярнуўшыся ад прылаўка, сустрэўся позіркам з позіркам Корбута. Ён шапнуў нешта дзяўчыне, тая кіўнула, згаджаючыся, і яны накіраваліся да століка, занятага Корбутам.

— Вітаю вас, спадар Корбут! — паставіў каву на столік Тарас і працягнуў руку для вітання.

— Здароў! — парукаўся з ім Корбут.

— Вы дазволіце да вас далучыцца? — спытаў Тарас.

— Калі ласка.

Малады паэт дапамог зняць дзяўчыне футра і павесіў яго на спінку крэсла, падсунуў яго, каб дзяўчына села, пасля чаго сеў сам насупраць Корбута.

— Не думаў вас сустрэць тут,— прамовіў.

— Я таксама не разлічваў цябе тут пабачыць,— сербануўшы кавы, сказаў Корбут, скоса пазіраючы на дзяўчыну.— Дарэчы, пазнаём з сяброўкай.

— Так, прабачце,— захваляваўся, зразумеўшы сваю памылку, Тарас.— Гэта Оля, паэтка-пачатковец. Пачатак даволі ўдалы.

— Вельмі прыемна,— усміхнуўся Корбут. Яму насамрэч было прыемна, што Оля глядзіць на яго ва ўсе вочы, баючыся паверыць, што вось так проста сядзіць побач са знакамітым пісьменнікам. Корбут таксама бачыў і тое, што яна хоча і запытацца пра што-небудзь у яго, але баіцца ці хвалюецца. Напэўна, школьніца яшчэ. Хаця гэтая акалічнасць, зрэшты, нічога не мяняе.

— Якім вы ветрам сюды? — пацікавіўся Тарас.

— Проста так. Захацелася кавы папіць,— прагучаў адказ.

— А я-та думаў! — расчаравана ўсклікнуў малады паэт.

— У чым справа?

— Я падумаў, што вы нейкім чынам даведаліся пра наш «Вулей» і вырашылі паглядзець, што гэта такое. Справа ў тым, што кожны аўторак у гэты час мы збіраемся тут.

— Хто вы?

— Ну, наша суполка. Сам я не здолею нічога растлумачыць. Але хутка прыйдзе, можна сказаць, галоўны наш прадстаўнік, і папулярна ўсё распавядзе.

— Добра,— пагадзіўся Корбут.— Я так зразумеў, што ваша суполка літаратурная, кшталту «Бум-Бам-Літа»?

— Не, «Бум-Бам-Літ» ні пры чым,— запярэчыў Тарас.— Мы самі па сабе.

— Антон ідзе! — у акно ўбачыла Оля.

— Выдатна,— пляснуў у ладкі Тарас.— Зараз ён вам падрабязна ўсё раскажа.

Корбут яшчэ крыху сербануў кавы і паставіў кілішак на стол у той час, калі да невялікай кампаніі далучыліся яшчэ два чалавекі. Адзін з іх быў русява-кучаравым хлопцам з сінімі вачыма і з выступаючай наперад сківіцай; другі — шатэн з залізанымі назад валасамі і крыху кірпатым, з дробнымі рысамі, тварам.

Хлопцы вылучаліся аднолькавым ростам і ўзростам. Яны павіталіся і паселі за столік. Тарас назваў Корбуту іх як Антона Блакіта і Алеся Хворага.

— Антон,— пасля непрацяглай паўзы сказаў Тарас,— я тут пачаў распавядаць спадару Корбуту пра «Вулей», але ў мяне нічога не атрымліваецца, як і заўсёды. Я не майстар на расповеды.

— Так,— прамовіў Блакіт і паглядзеў на Корбута, які дапіваў апошнія кроплі сваёй кавы.

— Я слухаю вас, малады чалавек,— сказаў той.

— А дазвольце спытацца, чаму вас зацікавіла наша генерацыя? — гаварыў Блакіт, злёгку картавячы.

— Нават генерацыя? — перапытаў Корбут.— Яна мяне не цікавіць нікольі,— адказаў,— таму што я пра яе нічога не ведаю.— З першага позірку малады чалавек не спадабаўся Корбуту. Можа, з-за таго, што быў не ў меру самаўпэўненым ці лічыў сябе самым разумным з усіх прысутных. Блакіт яшчэ нічога, лічы, не сказаў важкага, толькі па паводзінах Корбут прыйшоў да такой высновы. Магчыма, ён і памыляўся, але першае пачуццё рэдка бывае памылковым. Гэтаму навучыў яго Афган.

Блакіт ні кроплі не разгубіўся, толькі ноздры яго шырока раздзьмуліся, але тут жа набылі свой звычайны выгляд.

— «Вулей» — паняцце ёмістае,— прамовіў ён.— Гэта не арганізацыя і не месца для збораў, гэта — проста сацыяльная і, можна сказаць, культурная сфера. Па-першае — гэта новая галіна ў мастацтве, якой яшчэ не было дагэтуль. А па-другое — гэта людзі, аб'яднаныя аднолькавым пачуццём безвыходнасці, нечым незадаволеныя, нонканфармісты. І яны не згодныя з жыццём не менавіта ў нашай краіне, а з жыццём увогуле. І гэтае пачуццё — не песімізм, а менавіта безвыходнасць. І кожны, хто кантактуе з намі,— ужо частка «Вулля» незалежна ад таго, якіх ён прытрымліваецца

прынцыпаў. Ён можа быць чалавекам вясёлым і наогул — усім задаволеным. Проста кожны, хто адчувае на сабе наш уплыў,— ужо частка «Вулля». «Вулей» — гэта сфера, а пчолы — тыя людзі, якія працуюць у ёй. Вось іх ужо можна назваць суполкай.

— Зразумела,— хітнуў галавой Корбут.— І ў чым жа праяўляецца вашае пачуццё безвыходнасці, калі так? Вы ж, пэўна, выказваеце яго…

— Па-першае, творчасць,— працягваў Блакіт.— А па-другое, сам лад жыцця. Кожную раніцу, калі дзень пачынаецца з шорсткага камяка ў сэрцы — з гэтым нават немагчыма змагацца,— можна проста рабіць, каб гэта не было чутно, знаходзіць сабе паратунак, як гэта робіць большасць людзей: скажам, у калекцыяванні марак альбо ў выпіўцы, а можна гэткі стан выкарыстоўваць для творчасці.

— Яшчэ адна секта, літаратурная,— працягнуў Корбут.

— Вы памыляецеся,— урэшце насмелілася загаварыць Оля. Відаць, яе закранулі за жывое словы пісьменніка, які, на яе думку, павінен быў усё зразумець адразу і падтрымаць «Вулей», бо аналагаў на дадзены час няма. Але хто падтрымаў «Першацвет», якому аналагаў таксама не было? — Вы памыляецеся,— паўтарыла Оля.— Мы не секта. Не секта і вядомы ўсім «Бум-Бам-Літ». Проста кожны па-свойму хоча самавыявіцца і самавыяўляецца настолькі, наколькі яму хопіць таленту…

— А ты ведаеш, што такое талент? — перапыніў яе Корбут.— Талент — вельмі страшная рэч. Ён, як рана, якая можа і загаіцца, а можа загнаіцца ў любы час. Што тады?

Корбут паволі пераводзіў позірк з аднаго маладога паэта на другога і г. д. Кожны з іх лічыў сябе лідарам, кожны з іх марыў горы звярнуць, вядома, на карысць Беларушчыны. Але ці ў кожнага хопіць таго самага таленту дайсці да задуманай мэты?

Яны маўчалі.

Корбут таксама не спяшаўся адказваць на сваё ж пытанне.

— Вы лічыце сектамі і вашых «Тутэйшых» з «Кварталам»? — паспрабавала Оля вярнуцца да хвалюючай яе тэмы, зіркаючы на Корбута хуценькімі, як вавёркі, загадкавымі вачыма.

— Я не лічу іх сектамі,— адказаў ён.— Таму што яны далі нам вельмі моцных аўтараў. Хаця сам я ні да першай суполкі, ні да другой ніколі не належаў.

— У такім разе чаму вы лічыце «Вулей» сектай і «Бум-Бам-Літ»? — запытаў Блакіт. Тарас сядзеў моўчкі. Ён апусціў галаву і разглядваў мокрыя плямы на скураных паўботах Олі, у размову не ўмешваўся. Зрэшты, ён не меў ніякага дачынення да «Вулля» і прыйшоў упершыню на так званае паседжанне, часткова з-за дзяўчыны Олі, якая належала да суполкі, а часткова з-за рамана Дугласа Коуплэнда «Пакаленне Х», які Блакіт абяцаў яму прынесці. Тарасу здавалася нецікавай і бязсэнсавай спрэчка паміж «Пчоламі» і вядомым пісьменнікам. Абодва бакі мелі ў нечым рацыю і ў нечым памыляліся. Астатняе не грала ніякай ролі.

— Дзярмо гэта ўсё,— цяжка ўздыхнуў Корбут, гледзячы на Блакіта,— акрамя таго, што ў цябе асабіста вельмі добрая беларуская мова.

Корбут падняўся, крануўся рукой пляча Тараса:

— Хадзем пакурым.

Калі выйшлі на вуліцу і закурылі, Корбут сказаў:

— Чым вы займаецеся, спадар Кутняк? Не гэтага чакае ад нас Беларусь дый не толькі Беларусь.

— Я тут толькі з-за дзяўчыны,— адказаў Тарас.

— Не лічыш, што іх занадта шмат у цябе? — усміхнуўся Корбут у вусы.

— Пакуль не,— у адказ усміхнуўся Тарас.— Жыццё кароткае, а дзяўчат на зямлі столькі, што баюся не паспець з усімі пазнаёміцца.

— Глядзі, не падчапі чаго-небудзь,— параіў Корбут,— «тарапыга».

Ён пацiснуў маладому чалавеку руку на развітанне, спаслаўся на неадкладныя справы, пашыбаваў да метро.

Цямнела.

Цямнелі і думкі Корбута, нібы нехта спіхнуў іх з-пад сонечнага святла ў чорную бездань калодзежа.

Корбут пашкадаваў аб сваіх паводзінах з моладдзю ў кавярні. Чым яны правініліся, што ён на іх справіў сваю злосць, як патрэбу. Разагнаўся б ды галавою — у бэльку! Каб назаўсёды ніякіх праблем. Дык не! Калі яму дрэнна, павінна быць дрэнна і ўсім. Калі ён ужо навучыцца стрымліваць свой эгаізм, як каня за аброць? Напэўна, ніколі. А так нельга. Ну, хай яны робяць свой «Вулей» на здароўе і нонканфармізм (слова-то якое адшукалі падлеткі), што да гэтага табе? Хлеба з-за гэтага заўтра не купіш, ці вайна пачнецца? Чым яны перашкодзілі?..

Так, пагарачыўся, спадар Корбут, слоў няма. Доўгі час хаваў ад усіх і падрабязнасці біяграфіі, і прынцыпы, і вось на табе, раскрыўся. Ешце, пакуль даюць, як хлеб з маслам. Вось і пакаштавалі маладыя геніі, з чым Корбута ўжываць. Ведаюць цяпер, што ён апазіцыянер усіх пачынанняў, як і пенсіянеры ў рэдактарскіх крэслах, якія нікога не хочуць друкаваць, акрамя сябе, што, зрэшты, і робяць, не саромеючыся.

«Зараз прыехаць і адразу спаць! — з асалодай падумаў Корбут.— Да д'ябла ўсе ўспаміны і думкі! Адпачыць трэба».

... Вадзіма дома не было, што Корбута і не здзівіла, значыць, прывалачэцца пад ноч, выспішся! З ежы гатовага нічога не мелася,— трэба было гатаваць. Але і пасля таго, як зварыў макароны, перамяшаў іх з падсмажанай яешняй і павячэраў — не да сну.

Зазваніў тэлефон.

— Алло! — злосна падняў слухаўку Корбут. Абурэнне яго не мела межаў, ні хвіліны спакою ж, толькі закімарыў, аднак голас апаненткі аказаўся бальзамам. Ён палагоднеў і радасна ўсміхнуўся.

— Мікіта Міхайлавіч, я вам не перашкодзіла? — ён адразу пазнаў сваю нечаканую начную госцю і быў рады ейнаму тэлефанаванню, хаця прызнаўся не адразу, знаходзячыся яшчэ пад уражаннем змрочных думак, навеяных непрыемным успамінам.

— Леся, вы? — прамовіў ён.— Але як… вы ж не ведаеце майго нумару… — «Вось жа, баран,— тут жа аблаяў сябе.— Як бы яна патэлефанавала, калі б не ведала?»

— Значыць, ведаю,— у трубку было чуваць, што дзяўчына ўсміхнулася задаволена.— Гэта не цяжка было зрабіць, я маю на ўвазе нумар вашага тэлефона, ведаючы адрас. Я набрала даведку, і мне выдалі ўсю інфармацыю на вас. Дарэчы, як там Вадзім? — пацікавілася.

— Вадзім…— разгубіўся Корбут.— Ведаеце, не маю ніякага ўяўлення, дзе ён. Вадзіма дома няма.

— Ён што, вельмі гуллівы ў вас?

— Не думаю. Мабыць, затрымаўся на працы.

— Вы ўпэўнены ў гэтым?

— Іншых варыянтаў у мяне няма.

Паўза.

— Ой, што гэта я ўсё пра вашага брата ды пра вашага брата,— прамовіла Леся.— Я ж патэлефанавала таму, што хацела пачуць ваш голас і папрасіць прабачэння за свае паводзіны. На самай справе я не такая і дрэнная…

— Я веру вам.

— Дарэчы, хутка Новы Год. Што б вы хацелі, каб я вам падаравала?

— ?

— Вы не здзіўляйцеся. Я вельмі люблю рабіць падарункі.

— Ну, што ж, тады падарыце мне сваю ўсмешку.

— Я сур'ёзна.

— Я таксама, Леся.

— Добра. Я буду мець гэта на ўвазе. А… што вы зараз робіце?

— Нічога. Хаця, не, не зусім. Размаўляю з вамі.

— Гэта камплімент?

— Ну… можна лічыць і так.

— Беражыцеся, Мікіта Міхайлавіч…

— Гэта чаму?..

Але адказу Корбут не пачуў. Леся, відаць, знарок паклала трубку, каб ён падумаў над яе апошняй фразай. Аднак, што тут думаць? Яе голас прыўзняў Корбутаў дрэнны настрой, дый, трэба прызнацца, узрадаваў. Яму было прыемна, што дзяўчына патэлефанавала менавіта яму.

## VII

—…Якія гладкія каленкі,— абдымаў і мацаў рукамі Вадзім сценкі ўнітаза, быццам гэта была дзяўчына.— Толькі чаму такія халодныя, усё адно, як ледзяшы, што кідаюць у шклянку з содавай, і не толькі, каб захаваць смак холаду, як смак першага пацалунка.— Вадзім быў у белай майцы з цьмянымі плямамі і ў сямейных трусах. Памяты твар яго нагадваў футбольны мяч, накачаны паветрам напалову. Ён некалькі разоў сплюнуў і адкінуўся да сцяны, задраўшы галаву. Вочы падрэзала святло лямпачкі, і некаторы час ён лавіў рукамі, нібы муху, фіялетава-сінія колцы.

Здаволіўшыся, Вадзім выпаўз з прыбіральні і накіраваўся да кухні, дзе падсунуў галаву пад рукамыйнік і доўга адфыркваўся пад струменем вады, праціраючы вочы. Пасля адчыніў шафачку ля акна, намацаў пачаты пачак «Астры-люкс» (брат заўжды, як заначку, клаў сюды цыгарэты), закурыў.

Памалу хмель сыходзіў. Відаць, учора Вадзім перабраў, а з кім піў і калі, не памятаў. Толькі адзін тварык мільгаў перад вачыма, як фотаздымак, і ўсміхаўся, і чамусьці спяваў голасам спявачкі Яны пра адзінокага голуба.

Вадзім напружваў памяць так, быццам змагаўся з запорам, які перажыў некалькі гадоў назад.

Чамусьці гэты непрыемны ўспамін (хто такім хваліцца?) здаўся Вадзіму даволі прыемным. Дзякуючы яму малады чалавек прыгадаў, каму належыў той сімпатычны тварык і дзе ён мог яго бачыць.

Паціху, прыступка за прыступкай, нібы да запаветных дзвярэй, як Бураціна з залатым ключыкам, Вадзім дабраўся да таго завулка памяці, у якім Леся засталася начаваць у іх з братам доме. Напрошвалася пытанне: з кім яна спала? З ім ці з Мікітам? Хаця з якой нагоды гэта Леся павінна была спаць з Мікітам? І з якой нагоды тады з ім самім, з Вадзімам? Знаёмства з Лесяй адбылося амаль адначасова што ў Вадзіма, што ў Мікіты.

Так, так, так. Брата ў хаце няма. Дзяўчыны таксама. Адсюль зноў пытанне. Хаця, не. Мікіта, пэўна, пайшоў у якую-небудзь рэдакцыю, Леся вярнулася дамоў ці гуляе дзе-небудзь, у «Трубе» ці на плошчы Якуба Коласа, альбо ў парку Горкага. Ці мала куды яна магла пайсці!

Аднак Вадзіму было не да лямпачкі месцазнаходжанне Лесі. Ён яшчэ не забыў, дакладней, успомніў ейныя гарачыя вусны, што сквапна кусалі і шчыпалі яго губы, і яе кававыя вочы.

Да вар'яцтва карцела яе пабачыць.

Вадзім набраў нумар тэлефона Руслана, каб распытаць, каб даведацца хаця б яе нумар тэлефона, але таго не было дома.

Значыцца, трэба выходзіць на вуліцу і аббегаць усе кропкі тусовак.

Вадзім уціснуўся ў джынсы. Часу не бракавала. Дзякуй богу, з учарашняга дня ён вольны, як вецер.

Абмацаў кішэні, знайшоў скураны партманет з каляндарыкам Сіндзі Кроўфард, з напалову спісаным нататнікам і з вельмі танюткім пачачкам, падобным на сялёдку пад гальштукам, грошай,— усё, што засталося пасля ўчарашняга. Вадзім пералічыў. Дзесяць дваццатак і адзінаццаць пяцёрак. Малавата. Амаль усё прапіў. Але нічога. Брацельнік у яго — міравы мужык, зразумее. Ды нават калі на тое пойдзе, ён, Вадзім, здаровы ж бугай, знойдзе, дзе ўзяць грошы! Абы было цікава працаваць. Роля рэкламнага агента хутка надакучыла. Штодзённа — аднолькавыя вузкія касцюмы шэрага колеру з гальштукам-«бабачкай». У такім убранні Вадзім адчуваў сябе пацуком. А ад туфель з вузкімі мыскамі пальцы пасля здаваліся раструшчанымі, як у таго Ла Моля з «Каралевы Марго». Кожны дзень прыходзіць на працу чыста паголеным, надзяваць, як маску, усмешку — і наперад па розных фірмах і прадпрыемствах: клянчыць, прасіць, маліць, прычым не прыніжаючы гонару кампаніі, у якой працуеш. Надакучыла. Можа, Вадзіму хацелася адгадаваць бараду, як у Мікіты, ці пэйсы, як у Руслана. Нельга. Падарвеш прэстыж. Можа, яму хацелася апрануць свабодную скуранку і байку пад ніз. Не, ты павінен выглядаць салідна і рэспектабельна. Словы якія!.. Няўжо ў скуранцы нельга салідна выглядаць? У яго ж плечы — амаль як у Арнольда, грудак — як у Дольфа, а біцэпсы — ад Ван Дама. Летам у майцы выйдзеш на вуліцу — паўгорада дзяўчат вачэй не зводзяць. Праўда, у войску прапаршчык неяк заўважыў: «Табе, Корбут, хутка ліфчык прыйдзецца насіць. Ніводная кашуля не сыходзіцца на тваіх «банках».

Але гэта між іншым. Цяпер галоўнае — знайсці Лесю.

Вадзім на хуткую руку падсілкаваўся хлебам з гарбатай. Кефір вырашыў папіць у Цэнтральным гастраноме, дый усё адно ў лядоўні яго не было. І хоць не

быў упэўнены, што зарана рушыў на «кропкі», але, хто ведае, можа пашанцуе. Такім надвор’ем толькі ў пераходах і акалачвацца.

Спачатку паехаў на плошчу Якуба Коласа, але там нікога не было, на плошчы Перамогі — таксама. Заставалася надзея на «Трубу».

…Моладзь купкамі тоўпілася ў пераходзе на Кастрычніцкай. Ля самага ўваходу ў метро гандлявалі кніжкамі і часопісамі, крыху правей — аўдыа і відэакасетамі. Там, падняўшыся на тры прыступкі, мясціліся кнігарня і абутковая крама «Агдам». Насупраць — яшчэ адзін шапік — з газетамі і поліэтыленавымі пакетамі з выявамі суперзорак блакітнага экрана. Асартымент пераважна складалі ў розных іпастасях Ды Капрыа і Філіп Кіркораў. Чаму не?

Перавальваючыся з нагі на нагу, як качкі, ледзь не наперагонкі дзве старэнькія бабулькі кароткімі перабежкамі, як пад абстрэлам, мітусіліся з аднаго кута ў другі за пустымі пляшкамі з-пад піва.

Моладзь жыла, моладзь піла, моладзь курыла і ўсміхалася. Моладзь травіла анекдоты і нейкія страшныя гісторыі. Моладзь плакала і цалавалася, апранутая то ў байку з Кабэйнам ці з «Металікай» або з Цоем на грудзях і на спіне, то ў скуранку-касуху з разнастайнымі заклёпкамі і прыбамбасамі, то ў пікантнае футра ці паўфутра; абутая ў боты, паўботы «казакі», красоўкі, чаравікі, батфорты на высокай платформе; патлатая, няголеная, лысая, аж бліскучая, як мыла на святле, барадатая, чыста паголеная і з бакенбардамі, з завушніцамі і без; мілая, сімпотная, прыгожая, як Мадонна, раскошная, як Мэрылін Манро, руглівая, цвярозая, як школьніца, і п’яная, як Дзепардзье; разборлівая і пераборлівая, таленавітая і бяздарная, багатая і не; бландзіністая, чарнявая, зялёная, чырвоная, шэра-бура-малінавая; рознаўзроставая і святая, як гадавалае дзіця.

Моладзь паўсюль моладзь.

…Русланаву шавялюру Вадзім заўважыў адразу, у цэнтры нешматлікай, але галасістай хлапечай купкі, што знаходзілася насупраць увахода ў метро, за кніжнымі шапікамі ля рашотчатага акна нейкай крамачкі.

Руслан нешта смешнае распавядаў сябрам, бо хлопцы ажно заходзіліся ад смеху і пралівалі на падлогу піва, што ўздрыгвала ў руках.

— Обана, кораш, здароў! — прыкмеціў Вадзіма, што ўжо падыходзіў, і Руслан, працягваючы руку для вітання.— Якім ветрам да нас?

— Па справе,— адказаў Вадзім. Пажадана было б паразмаўляць з Русланам без сведак, але як яму сказаць пра гэта?

— Піва хочаш? — прапанаваў Руслан, але Вадзім адмовіўся і паморшчыўся.

— А, зразумела! — рассмяяўся Руслан, абціраючы мокры ад піва рот.

— Слухай, ты не ведаеш, дзе я магу знайсці Лесю? — плюнуў на ўсю сакрэтнасць пытання, але пачырванеў Вадзім.

— Гэта якая Леся? — хітрыў той.

— Ці не Пума? — здагадаўся адзін з Русланавых сябрукоў.

— Яна,— згодна кіўнуў Вадзім.

— Пума, стары,— ляпнуў яго па плячы Руслан,— стварэнне каштоўнае і непрадказальнае. Ніколі не ўведаеш дакладна, дзе яна можа быць сёння, а дзе заўтра. А навошта, калі не сакрэт, яна табе спатрэбілася? Наколькі я памятаю, ты нават уяўлення не меў да ўчарашняга, што такая ўвогуле ёсць.

— Затое зараз маю,— прамовіў Вадзім. Яму не падабаўся тон колішняга аднакласніка, але ён трываў.

— Ды ты не кіпяшуй,— папярэдзіў той самы Русланаў сябрук, што здагадаўся пра Лесю, такі ж самы

патлаты, як і Руслан, з мушкецёрскай бародкай.— Пума ў нас — на вагу золата. Таму без прычыны мы незнаёмым маладым людзям нічога не падказваем і не раім.

— Калі ты маеш віды на яе за тое, што яна пераспала з табой,— сказаў Руслан,— раю забыць аб тым, што ўвогуле ведаў такую дзяўчыну. Уяўляеш, колькі было ў Пумы такіх як ты?

— Яна не пераспала са мной,— адказаў Вадзім.— Я не ўпэўнены… Не помню ўвогуле нічога.

— Ну, ты, стары, даеш! — зарагаталі хлопцы, а Руслан яшчэ і пажартаваў: — Дык ты хочаш яе знайсці, каб спытацца, зрабіла яна цябе мужчынам ці не? — ізноў рогат.

Нядоўга думаючы, Вадзім схапіў Руслана загрудкі і штурхануў да сцяны. Яму ўсё больш не падабаўся тон размовы. Руслан своечасова адхіліў галаву, грукнуўшыся глуха спінаю аб сценку, іначай ад Вадзімавага ўдара выцеклі б мазгі, як смятана.

— Ты можаш жартаваць,— працадзіў Вадзім,— над кім заўгодна, але толькі не нада мной. Засячы гэта сабе на носе, чувак!

— Добра, алес! — спалохана хутка-хутка заміргаў вачыма Руслан, як сапсаваны святлафор, трымаючыся рукамі за шыю, каб Вадзім выпадкова не схапіўся і за яе.— Я яшчэ не забыўся, што ты толькі дэмбельнуўся з дэсантуры.

— І не забывайся,— адзначыў Вадзім. Ён акінуў позіркам Русланавых сяброў. Тыя на ўсялякі выпадак адышлі ад яго на крок. Відаць, звязвацца з Вадзімам ніхто не збіраўся. Каму патрэбны лішнія непрыемнасці кшталту пары выбітых зубоў, зламанага носа ці ліхтароў пад вачыма.

— Я не ведаю, дзе Пума,— прамовіў Руслан.— Пакуль яна нідзе не з’яўлялася. Спытайся, можа, у Блюмы. Яны з Пумай сяброўкі, як-ніяк.

— Дзе яе шукаць? — папытаў Вадзім.

— Вунь, бачыш, будку, дзе рамонт гадзіннікаў? — паказаў Руслан пальцам.

— Ну.

— Ля слупа два хлопцы з півам стаяць…

— Ну.

— Побач купка дзевак. Блюма з фарбаванымі чорнымі валасамі, у берэце і ў паліто. Глядзі, тая, што зараз прыкурвае цыгарэту.

— Зразумела,— прамовіў Вадзім і накіраваўся да дзяўчат, вымаючы з кішэні «астрыну». Не «Мальбара», як у Блюмы, але таксама нічога.

Блюма, відавочна, распавядала ўдзячным слухачкам пра свайго новага кавалера. Дзяўчаты ва ўсе вочы пазіралі на аратарку і ўсміхаліся.

— Прабачаюся, агеньчыку не знойдзецца? — з цыгарэтай у губах Вадзім спыніўся побач з Блюмай. У вочы адразу кінуўся яе востры доўгі нос і вялікія, ледзь не на ўвесь твар, зялёныя вядзьмарскія вочы. Здавалася, такой і павінна быць прыгажосць.

Блюма не звярнула ніякай увагі на Вадзіма, не гледзячы, каму, працягнула запальніцу, працягваючы распавядаць пра нейкага Славіка. Астатнія дзяўчаты адным вокам зіркалі на Вадзіма, другія працягвалі ўважліва слухаць Блюму.

Вадзім падзякаваў і, падкурыўшы, вярнуў запальніцу, але не сыходзіў, стаў спінай да спіны Блюмы, разважаючы і ламаючы галаву, як распачаць размову з дзяўчынай. Не выпаліш жа вось так адразу, з бухтыбарахты, прывітанне, маўляў, я новы Лесін знаёмец, не падкажаш часам, дзе яна можа зараз быць? Зрэшты, можна і так. Але неяк непрыгожа.

На шчасце Вадзіма, да дзяўчат падышлі міліцыянты, вядома, не для таго, каб спытаць, як праехаць на вуліцу Энгельса, ці колькі цяпер часу? Некалькі хвілін

таму яны нешта хацелі ад Русланавай хеўры, паказвалі на піва. Урэшце Руслан з сябрукамі змянілі дыслакацыю. Дзяўчаты таксама частаваліся півам. Ва ўсялякім разе, Блюма запівала ім кожную цыгарэтную зацяжку.

Адзін з міліцыянтаў, белабрысы, з квадратнай сківіцай, высакаваты, злёгку пастукваючы дубінкай па сваёй назе, звярнуўся ні да кога і да ўсіх адначасова:

— Тут што для вас, бар?

— А вы што, нам піва праставіце ці, можа, чаго мацнейшага? — задзірліва, з выклікам вымавіла адна з слухачак Блюмы — фарбаваная бландзінка.

Позірк міліцыянта перамясціўся з Блюмы, якая, скарыстаўшы момант, адсунула пляшку за спіну пад руку Вадзіма, які, таксама, скарыстаўшы момант, змачыў перасохлае горла, на маленькую, яму да плячэй, бландзінку. Дзяўчына далікатна адставіла ў бок руку і страсла попел з цыгарэты, які трапіў на наваксаваны бот міліцыянта.

— Ты куды попел страсаеш?! — зароў пакрыўджаны міліцыянт. Сківіцы яго хадзілі, як жорны.

— Няўжо я не туды трапіла? — паціснула плечукамі дзяўчына, наіўна лыпаючы сінімі вочкамі, і страсла попел у кішэню міліцыянтавай курткі.

Ні яе сяброўкі, ні міліцыянты, ні Вадзім не чакалі такога павароту сюжэта. Вадзім, праўда, разумеў, чым можа скончыцца гэты інцыдэнт.

Міліцыянт занёс руку над дзяўчынай. Што ён хацеў зрабіць: даць аплявуху, выцягнуць з кутка за куртку ці за каршэнь,— ніхто не ведаў, аднак Вадзімава рука перахапіла руку міліцыянта.

Адначасова і Вадзім, і міліцыянт з жудасцю заўважылі бліскучыя, крытыя лакам драўляныя мыліцы і адну левую нагу ў джынсавай у абліпку калашыне і паўбоцік на высокай платформе, што сарамліва, як правінцыялка ў штопанай-параштопанай спадніцы, трапіў-

шая ў свецкае асяроддзе, аслепленая шыкам убораў і разумеючы сваю шэрасць, тулілася падалей у цёмны куток. Правай нагі па калена не было.

Міліцыянт з цяжкасцю адвёў позірк ад страшнага відовішча. Ні ён, ні Вадзім не заўважылі, акрамя Блюмы і дзяўчат, назіраўшых за нямой сцэнай, што іх вымушаны поціск рук, які дрыжэў ад напружання, працягваўся больш за хвіліну.

Міліцыянт першы выйшаў з ступара. Ён быў на службе і запатрабаваў у Вадзіма дакументы. Працягваючы міліцыянту ваеннік (пашпарт ніколі не насіў з сабой), Вадзім усё яшчэ пазіраў на адзіную левую жаночую ножку.

Міліцыянт не стаў прабачацца, хоць і прачытаў у ваенніку Вадзіма, што той меў званне старэйшага сяржанта запасу, у самога ж міліцыянта былі лычкі сяржанта, але нічога і не сказаў. Моўчкі вярнуў ваеннік, казырнуў і хутка рушыў некуды з напарнікам. Чапляцца да людзей сённяшняе відовішча надоўга адаб'е ахвоту.

— Дзякуй вам, што заступіліся,— сказала дзяўчына, крануўшыся Вадзімавай рукі.— Каб не вы, не ведаю, што б ён вытварыў. Хаця я і сама вінаватая.

— Нічога,— губляўся побач з ёю Вадзім, баючыся глядзець уніз, каб не ўбачыць яе адной сіратлівай ножкі, і саромеючыся глядзець ёй у вочы. Але ўсё ж прымусіў і сустрэўся з ейным позіркам, аж сэрца ёкнула. Якая яна прыгожая! Ды як супрацьпастаўленне паўставала яе інваліднасць, і Вадзім стрымліваўся, каб не расплакацца, хоць ніколі не быў сентыментальным. Выратавала яго Блюма.

— Мабыць, не проста так ты схаваўся за маёй спіной? — спытала яна.

— Так, гэта праўда,— пагадзіўся Вадзім.

— І ў чым прычына?

— Адзін харошы чалавек параіў звярнуцца да цябе па адной справе.

— Так,— зацікавілася Блюма.

— Я расшукваю Лесю ці Пуму, не ведаю, як правільна,— сказаў Вадзім, хаваючыся ад позірку бландзінкі, якая пасля яго пытання дасадліва прыкусіла вусны.— Я адразу растлумачу, каб па сто разоў ты не перапытвала, справа ў тым, што… — па ходу пачаў сачыняць,— учора яна забылася адну рэч у адным доме. Што за рэч, называць не буду, але мне б хацелася вярнуць тую рэч ёй з рук у рукі.

— Ты што, і з сабой носіш тую таямнічую рэч? — засмяялася Блюма.

— Гэта не тое, пра што ты падумала.

— А што іншае можа Леся забыцца, цікава, у чужым доме? — працягвала смяяцца Блюма.

— Ну, ці мала што,— паціснуў Вадзім плячыма.— Ва ўсялякім разе, я магу спадзявацца на дапамогу?

— Давай тую рэч мне і ўсё, я а ёй перадам,— прапанавала Блюма.

— У мяне няма яе з сабой,— адказаў Вадзім.— Я разлічваў даведацца адрас Лесі і проста выслаць па пошце невялікай бандэроллю.

— Ліфон у бандэролі? Арыгінальна,— пахваліла Блюма.— Толькі ты ж колькі секунд назад казаў, што хочаш з рук у рукі перадаць?

— А што, яна іх так часта губляе? — прапусціў заўвагу Блюмы Вадзім.

— Не так ужо і часта,— няўпэўнена адказала дзяўчына,— але здараецца. Толькі звычайна за сваімі рэчамі яна вяртаецца сама, бо яны не змяняюць месца свайго знаходжання.

— Зразумела,— пачухаў патыліцу Вадзім.— Але ўсё адно тая рэч, якую забылася Леся, не ліфчык.

— Пума ведае цябе? — ужо сур’ёзна запытала Блюма.

— Так. Нас Руслан пазнаёміў.

— Тады запісвай.— Блюма назвала хатні адрас і месцы, дзе Леся часцей за ўсё бывала.— Толькі глядзі,— папярэдзіла,— па другім адрасе жыве былы «афганец». Дарэчы, Леся нярэдка бывае і тут, але цяпер для яе надта рана. Калі што, падыходзь сюды недзе каля дзесяці вечара. Калі ёсць што ў «Рэзервацыі» — Пума абавязкова будзе там.

— Дзякуй за інфармацыю,— прамовіў Вадзім.— Ну, што ж. Я тады пайшоў.— Ён развітаўся з дзяўчатамі, прымусіў сябе ўсміхнуцца беднай бландзінцы, якая таксама ў адказ ветліва ўсміхнулася, і паспяшаўся наверх. Зараз яму не хапала паветра.

Мокры халодны снег, нібы скотч, залепліваў твар. Вадзім схаваўся ад снегу пад дах прыбудоўкі да спуску ў пераход, закурыў. Ён усё яшчэ знаходзіўся пад уражаннем страшнага відовішча. Бедная дзяўчына! Колькі ёй гадоў? Дзевятнаццаць? Дваццаць максімум!

Непадалёк ад сябе Вадзім заўважыў знаёмых міліцыянтаў, суседства з якімі нікольki не радавала. Ён хутка дакурыў і выйшаў пад снег. Прайшоў колькі метраў, забег у Цэнтральны гастраном. Вельмі захацелася кефіру. Наконт Лесі Вадзім яшчэ не вырашыў, мяркуючы ўсё абдумаць за кефірам.

Даверліва прыхіліўшыся да стойкі, якая трымала на сабе шклянкі, аднаразовыя пластмасавыя талеркі, сурвэткі, скамечаныя абы-як, і локці людзей, зусім як цуда-юда-рыба-кіт з нейкага мульціка, Вадзім даверыў ёй хот-дог і дзве шклянкі кефіру разам з нецікавымі думкамі, што трэсліся ў галаве, як сівая казліная бародка ў стогадовага старога.

Ён невідушча глядзеў праз акно, за якім усё адно нічога не было відаць з-за снегу і электрычнага святла

ў памяшканні, а перад вачыма стаяла дзяўчына-бландзінка без… Нават у думках Вадзім баяўся прамаўляць апошняе слова. Ён забыўся пра Лесю і ўвогуле пра тое, дзе знаходзіўся, машынальна, як робат, падносіў да рота шклянку з кефірам і ставіў яе на стойку. Пра хот-дог ужо і не памятаў.

Ніколі не думаў Вадзім, што яго можна нечым шакіраваць. Аказваецца, можна.

— О, так і ведала, што сустрэну цябе тут,— пачуў Вадзім знаёмы голас. Павярнуўся на яго і ўтаропіўся ў глыбокія выразныя вочы той самай бландзінкі, пра якую толькі што думаў. Цяпер яна абапіралася на мыліцы, але так лоўка і непрыкметна, што здавалася ў парадку рэчаў яе інваліднасць.— Я — Ілга,— прамовіла дзяўчына.— Не здзіўляйся, што такое імя, я латышка, хоць у Рызе ніколі не была.

Вадзім назваў сваё імя, змоўк. Ён не ведаў, што гаварыць, аб чым, баючыся параніць Ілгу выпадковым словам. Ёй чаго-небудзь папіць, як яна сама?

Дзяўчына згадзілася на прапанову, дастала грошы, папрасіла, каб ён купіў ёй вінаграднага соку. Вадзім адмовіўся ад працягнутых грошай і хутка апынуўся ў чарзе: спачатку — да касы, пасля — да аддзела, пакінуўшы Ілгу вартаваць занятае месца і яго хот-дог.

Пакуль стаяў у чарзе, колькі разоў аглядаўся назад, да Ілгі. Дзяўчына пазірала ў акно, пальцам выводзіла нешта на шкле. Нават са спіны яна была прыгожай. Белакурыя локаны, хоць і фарбаваныя, а мо проста асветленыя, нагадвалі прычоску Анжалікі з французскага фільма, і іх хацелася кранаць і кранаць.

Вадзіму карцела спытаць у Ілгі, як атрымалася так, што… якое няшчасце з ёй адбылося, якім чынам… Але баяўся здацца бестактоўным. Дый увогуле, якое ён меў права ўлазіць, як трубачыст у трубу, у чужую душу!

Вярнуўшыся да стойкі, Вадзім падаў Ілзе сок, тая ўдзячна ўсміхнулася, прымаючы шклянку. Тут жа Вадзім заўважыў, якія ў дзяўчыны вельмі прыгожыя пальцы, пальцы піяністкі, доўгія, тонкія, з доўгімі дагледжанымі пазногцямі.

Гаворкі не атрымлівалася.

Яны моўчкі папівалі: яна свой — сок, ён — кефір.

Калі б не яе калецтва, хто ведае, Вадзім, мажліва, закахаўся б у яе. Аднак, калі б Ілга была паўнавартасным чалавекам, ці б сустрэў ён яе ўвогуле? Дзяўчына прыгожая, хто ведае, кім яна магла б стаць? Пытанне гэта вельмі складанае.

— Прабач,— прагучаў голас Ілгі,— ты вучышся дзе-небудзь?

— На шчасце, ужо не,— адказаў ён.

— Чаму, на шчасце?

— Пасля школы нікуды не цягне.

— Няўжо… — дзяўчына з цяжкасцю падбірала патрэбныя словы, хоць і размаўляла без усякага прыбалтыйскага акцэнту, мажліва, яна проста хвалявалася.— Няўжо табе не цікава даведвацца аб тым, чаго яшчэ не ведаў раней і нават не ўяўляў, што такое ўвогуле можа быць?

— Навошта? — пацiснуў плячыма Вадзім.— У мяне ёсць сумны прыклад — мой старэйшы брат. Толку з таго, што ён вучыўся? Добраахвотна пайшоў у войска, трапіў у Афган, ледзь не загінуў. А вучыўся ж і на філфаку ў БДУ, і ў тэатральным і, нават смешна сказаць, у кіно здымаўся па маладосці. Зараз піша раманы, якія ніхто не чытае на радзіме, толькі за мяжой.

— Але ж ён вучыўся,— заўважыла Ілга,— як-ніяк. Я магу толькі марыць пра БДУ,— сумна ўздыхнула.— Мне б вельмі хацелася адчуць на сабе водар лекцый і хваляванне перад іспытам. На жаль, гэта ніколі не спраўдзіцца.

— Ты так хочаш вучыцца? — спытаўся Вадзім і сам сабе адказаў: а што ёй яшчэ застаецца ў яе становішчы.

— Я вучуся,— прамовіла Ілга,— але не так, як мне хацелася б,— дзяўчына засаромелася, але ў вачах Вадзіма прачытала ледзь не жаночую цікаўнасць.— Справа ў тым, што мае бацькі наймаюць для мяне рэпетытараў, якія прыходзяць кожны дзень да нас і выкладаюць мне кожны сваю дысцыпліну.

— Сур'ёзна? — шчыра здзівіўся Вадзім. Пра такі від навучання ён ведаў, але не думаў, што ён магчымы ў нас.— І што ты вывучаеш?

— У асноўным, літаратуру і мовы,— сарамліва адказала Ілга,— крыху гісторыі і юрыспрудэнцыі.

— І якія мовы? — Вадзім пачынаў забываць пра калецтва дзяўчыны.

— Англійская, французская, нямецкая, іспанская, італьянская, польская, ідзіш, хіндзі, кітайская, крыху японскай. Ну і, безумоўна, абавязкова латышская, беларуская, украінская і руская.

— І ўсімі гэтымі мовамі ты валодаеш? — усё больш дзівіўся Вадзім.

— На хіндзі яшчэ не магу размаўляць, але разумею, калі чытаю.

— Ну, ты даеш! — захоплена ўсклікнуў Вадзім.— Дык ты ж вундэркінд нейкі! А яшчэ плачаш па ўніверсітэцкіх сценах. Табе самой выкладаць трэба!

— З задавальненнем, але…

Нібы з нябёсаў на зямлю спусціўся Вадзім, як успомніў калецтва дзяўчыны. Якая ж несправядлівасць творыцца ў свеце! Разумныя таленавітыя людзі часта пакутуюць ад свайго калецтва. А якім-небудзь прайдзісветам, якія прагуляюць-прап'юць стыпендыю, паздаюць іспыты на тройкі, удала ажэняцца — усе шляхі адкрыты.

— Эй… — паматляла рукой перад вачыма Вадзіма Ілга.— Ты дзе? — засмяялася.

— Прабач,— замаргаў ён,— задумаўся.

— Я так і зразумела. Дзякуй табе, што склаў мне кампанію.

— Гэта табе дзякуй.

— За што? — спыталася дзяўчына, але адказаць Вадзіму не дазволіла.— Калі будзе час, патэлефануй мне.

Ілга ўзяла яго далонь і надрапала на ёй шарыкавай асадкай нумар свайго тэлефона.

Вадзім хацеў правесці яе, але дзяўчына адмовілася, падаравала на развітанне чароўную ўсмешку.

Хутка, нібы ўсё жыццё яна хадзіла на мыліцах, Ілга накіравалася да дзвярэй. Перад ёй усе расступаліся, даючы дарогу, нехта з хлопцаў адчыніў дзверы.

Вадзім жаваў хот-дог і прыгадваў словы дзяўчыны наконт тэлефанавання. Яна вымавіла іх упэўнена, нібыта ведала, што ён абавязкова набярэ яе нумар. Дзіўная дзяўчына!

Не ведаючы яшчэ, куды пойдзе, Вадзім спусціўся ў «Трубу». Ногі самі панеслі да метро, але іх супыніў знаёмы голас Руслана:

— Эй, ну як, дазнаўся, чаго хацеў?

Вадзім павярнуўся да Руслана. Той стаяў адзін ля тэлефоннага апарата. Мабыць, толькі што некаму тэлефанаваў, бо сціскаў у руцэ тэлефонную картку, а можа, яшчэ толькі збіраўся.

Вадзім не адказаў на запыт Руслана, але задумліва спытаўся, ці ведае ён такую дзяўчыну Ілгу?

— Хто ж яе не ведае,— сумна ўздыхнуў Руслан.— Прыгожая чыкса, толькі вось каб не калецтва яе.

— Што ты пра яе ведаеш?

— Амаль усё,— прамовіў Руслан.— Я ведаў Ілгу ў лепшыя яе часы,— удакладніў,— калі за ёй бегалі табунамі. Проста не пашанцавала ёй.

— Што здарылася?

— Аварыя. Ілга заканчвала школу, сустракалася з крутым «перцам», які катаў яе на шыкоўнай тачцы, вадзіў у рэстараны і клубы, знаёміў са сваймі корашамі. Аднойчы пасля добрай вечарынкі, позна ўвечары, ён п'яны сеў за руль адвезці Ілгу дамоў. На адным з перакрыжаванняў дарог на поўнай хуткасці ўмазаўся ў КАМаз ці самазвал, не памятаю. Таго «перца» па частках збіралі, каб пахаваць. Ілга, не ведаю, як там адчыніліся дзверцы, пры сутыкненні, нават раней, выпала з машыны, але нага трапіла пад колы, па-мойму, ці дзверцамі падрэзала. Ніхто дакладна не ведае, што там адбылося. Ілга не вельмі любіць успамінаць той выпадак, а падрабязнасці я вычытаў у газеце. Лічы, дзяўчыне пашанцавала, калі параўнаць з тым бедным чуваком, яна гэта і сама разумее. Але калецтва таксама… сам разумееш… тым больш для такой прыгажуні…— Руслан памаўчаў.— А чаго яна цябе так зацікавіла? — папытаў.— Толькі зразумей правільна, я нічога такога… Дзіўна проста,— усміхнуўся.— Не паспеў паявіцца, як пазнаёміўся з самымі файнымі нашымі гёрламі.

Вадзім расціснуў кулак і паказаў Руслану далонь з надрапанымі асадкай рукою Ілгі лічбамі. Руслан прысвіснуў.

— Зайздрошчу я табе, чувак! — працягнуў ён.— Ілга рэдка каму пакідае свой тэлефон, не тое, што сябрам, сяброўкам! Хаця… якія ў яе сябры… так… пажывіцца на халяву, бо Ілга далёка не бедная, дакладней, яе бацькі. Такія «бабосы» ўбухалі на яе навучанне! Я нічога не маю супраць, ты не падумай там… Ілга вельмі разумная. Такой, як яна, ніколі не сустракаў. Але ж, каб не няшчасны выпадак гэты, ператварылася б у такую самую прастытутку, як і астатнія.

— Я ўсё разумею,— супыніў яго Вадзім,— аднаго не ўцямлю, чаму мне пашанцавала?

— От дзівак-чалавек! — па-змоўніцку падміргнуў Руслан.— Ды каб… сам падумай… Навошта яна пакінула табе тэлефон? Пераспаць з табой хоча!

— А калі не? Калі проста паразмаўляць? Як з сябрам? — запярэчыў Вадзім.— Такі расклад не прыходзіў табе ў галаву?

— Аб чым яна будзе з табой размаўляць? — засмяяўся Руслан.— Ды яшчэ як з сябрам? Ёй нават з бацькам-акадэмікам няма аб чым словам перакінуцца! Ды што я, Ілгу не ведаю? Яна галодная, як павучыха-самка! Кідаецца на кожнага самца, толькі самцы тыя на яе нуль увагі, сам разумееш, каму ахвота звязвацца? Вядома, калі б Ілга засталася той, ранейшай Ілгай, самцоў тых мяняла б, як пальчаткі…

— Пачакай, пачакай,— перапыніў яго Вадзім,— ты ж толькі што казаў, што яна рэдка каму свой тэлефон пакідае.

— Я і не адмаўляюся ад сваіх слоў.

— Дык ты зараз супярэчыш сам сабе.

— Я не супярэчу. Я ўводжу цябе ў курс справы, імя якой Ілга,— прамовіў Руслан.— У яе няма сяброў з тае прычыны, што яна сама выбірае сабе сяброў. А як вядома, сяброў, як і бацькоў, не выбіраюць. Можа, з табой яна і сябраваць хоча, я ж не ведаю. Толькі сваёй натуры ёй не пазбавіцца ніколі. А ўвогуле паспрабуй,— ляпнуў па Вадзімавым плячы і падміргнуў,— параўнаеш, які цымус у інвалідаў, ха-ха.

— Ты гавары, ды не загаворвайся,— страсянуў з пляча Русланаву руку Вадзім.— Я сам разбяруся.

— Твая справа. Толькі Пума куды лепш за Ілгу. Праўда, ніжэй па сацыяльным статусе.

— З чаго ты ўзяў, што я з імі толькі спаць збіраюся? Нейкія заклапочаныя вы ўсе тут, я гляджу.

— Як кажуць, танцуй, пакуль малады,— зарагатаў Руслан.— А наконт Ілгі,— пасур'ёзнеў,— мне шчыра яе шкада. Можа, я і наплёў чаго лішняга, на тое ёсць прычыны, але не табе мяне судзіць. Добра, бывай!

Руслан дэманстратыўна павярнуўся спінай да Вадзіма, усунуў картку ў тэлефон-аўтамат, зашчоўкаў пальцам па кнопках. Значыць, яшчэ не тэлефанаваў, і Вадзім перашкодзіў яму. А званок, мабыць, важны, вунь як прыціснуў трубку да вуха і нахмурыў бровы, як хмары: вось-вось грымне громам. Што ж, Вадзім удзячны яму за інфармацыю. Не трэба будзе пытацца ў Ілгі, што ён рана ці позна зрабіў бы, пра аварыю. А наноў траўміраваць чужую душу не вельмі хацелася. Хаця з якой прычыны ён так мяркуе? Ілгу ведае ўсяго колькі хвілін, а ўжо… Так, яна вельмі зацікавіла Вадзіма, і цяпер ён дапетрыў, чаму дзяўчына так упэўнена і смела напісала яму свой нумар тэлефона. Яна па вачах убачыла зацікаўленасць сабой, і не памылілася.

Ужо ў метро Вадзім падумаў, а чаму б Ілзе не зрабіць пратэз? Бацькі ж, як кажуць, багатыя. Дый сам Прэзідэнт ведае пра яе. А можа, Ілга сама не хоча.

Вадзім зусім забыўся пра Лесю і ўспомніў пра яе толькі на парозе свайго дома. Ён жа так хацеў пабачыць дзяўчыну! З-за яе толькі і выйшаў з цёплай утульнай кватэры на такое надвор'е! Ну, ці не ідыёт ён пасля гэтага? Каму сказаць — смяяцца будзе. Калі распавядзе Мікіце, што пайшоў шукаць Лесю, а знайшоў Ілгу, той скажа, што яго малодшы брат вычварэнец, ці ў яго не ўсе дома. Хаця не, не скажа, бо сам ненармальны. Нармальны чалавек не будзе пісаць раманы, апісваючы ў іх жорсткасць і насілле. Ён сам такі ж, як і Вадзім, толькі ў іншым накірунку.

А чаго, Ілга — вельмі прыгожая! Леся — таксама. Толькі… толькі ён, Вадзім, даўбак. Ведае і першую,

і другую лічаныя хвіліны, а ўжо перабірае, якая з іх лепшая. Яшчэ б узяў рамонак і паваражыў на пялёстках — зусім добра было б.

…Мікіта з цыгарэтай у губах сядзеў за пішучай машынкай. На стале з аднаго боку ляжалі аддрукаваныя аркушы, на другім баку стаяў літровы слоік з вадой, паўзверх якой плавалі недакуркі. Паляцеў і яшчэ адзін у воднае падарожжа. Калі Корбут пісаў — курыў страшэнна, не звяртаючы ўвагі на колькасць выкарыстаных цыгарэт.

— Усё кляпаеш? — каб нешта сказаць, сказаў Вадзім. Ён сеў на канапу, узяў у рукі газету з праграмай тэлебачання.

— Між іншым, толькі што тэлефанавала Леся,— выдаў Корбут, не адрываючыся ад працы.

Імклівая здагадка кальнула камаром Вадзімаў мозг.

— І з-за гэтага ў цябе з’явілася натхненне? — уголас падумаў ён.— Ты ж заўсёды пішаш толькі раніцай.

— Можа, і з-за гэтага,— не аспрэчваў Корбут.

— Добра,— адклаў газету ў бок Вадзім,— я не пытаю, што там у вас было…

— А што ў нас магло быць? — прымружыў Корбут вочы, павярнуўшыся да брата.

— Не мруж вочы,— адказаў той.— Баярскі з цябе ніякі. Я нічога такога не кажу. Проста факт канстатую. Дарэчы, менавіта і толькі з-за яе я сёння ўвесь горад аббегаў.

— І як поспехі? — зноў закулямёціў на машынцы Корбут.

— Шукаў адну, знайшоў іншую,— таямніча адказаў Вадзім.— Добра, не буду табе перашкаджаць, пайду музыку паслухаю.

…Нават калі Вадзім засынаў, братава пішучая машынка ўсё яшчэ спявала сваю незразумелую песню.

## VIII

...За акном мільгануў нечы цень. Корбут мог яго проста не заўважыць ці спісаць на галюцынацыю, але пачуліся хуткія крокі, звон бітага шкла... За дзвярыма затупацелі боты, аддыхваючыся, у памяшканне шумна ўваліўся ардынарац, з левага вока якога цурчэла кіношная кроў, а само вока боўталася на грудзях, як залаты гадзіннік на ланцужку.

— Ваша благароддзе! Чырвоныя ў горадзе!

Корбут у адначассе накідвае на плечы кіцель з пагонамі капітана, лезе пад ложак за шашкай, але чутны ўжо крыкі, чужыя загады... Не паспее... Яшчэ боты не абуў... Ён суне босыя ногі ў боты, хапае ў рукі наган, выбягае за дзверы.

Цёмна, хоць вока выкалі. Ардынарац некуды пабег упярод і напароўся, як сляпы, на чырвонаармейскі штырх, што пранізаў яго наскрозь і, падняўшы ў паветра, адшпурнуў пад ногі Корбуту.

Корбут цудам ухіляецца ад штырха і сігае ў густы кустарнік, бяжыць, не ўхіляючыся ад вострых галін, якія пакідаюць на яго твары свае адмеціны.

Корбут аглядаецца, аднак штырх не адстае ні на крок. Корбут націскае курок нагана, не цэлячыся. Міма. Яшчэ раз... Міма.

Здаецца, што штырху патрэбна толькі яго, Корбутава, жыццё.

Кусты заканчваюцца крутым пясчаным абрывам. Не ведаючы гэтага, не знайшоўшы апоры пад нагамі, Корбут з дзікім адчайным ускрыкам коціцца ўніз. Здаецца — падзенне доўжыцца некалькі гадоў.

Цішыня.

Корбут прыўздымаецца на рукі, сплёўвае пясок, але той усё адно застаецца на засмяглых губах і балюча адзываецца на зубах. Закурыць бы зараз! Але

толькі што атрыманы партсігар з дваццаццю новымі якаснымі папяросамі ад палкоўніка Сямёнава застаўся ў тым доме, ля якога загінуў ардынарац.

Корбут зацкавана, як воўк, аглядаецца вакол (вочы прызвычаіліся да цемры), з палёгкай уздыхае: штырха нідзе не відаць.

Корбут вытрасае боты, з якіх сыплецца пясок, прадувае ствол нагана, ідзе берагам возера. Вада пад позіркам светлых зорак адсвечвае чырванню. Магчыма, гэта кроў. Учора сюды скінулі траіх закатаваных партызан.

Корбут ні пра што не думае. Яму трэба толькі выбрацца з гэтай лагчыны.

Раптам ззаду чуе нейкі свіст. Інстыктыўна, як кошка, адскоквае ўбок, падае на рукі. Ледзь не ля самага носа ўтыркаецца штырх.

Круцячыся цераз сябе, Корбут коціцца бліжэй да возера, разлічваючы, што штырх паспяшаецца за ім і ўтопіцца. Але той, паспрабаваўшы ваду, грэбліва строс пырскі, спыніўся на беразе. Плысці куды-небудзь Корбут не мог, бо не ўмеў плаваць. Стоячы па пояс у вадзе, ён корчыў рожыцы штырху, як Бураціна, і пагражаў наганам. Як ён раней не здагадаўся?

Корбут страляе, але куля адскоквае ад штырха і вяртаецца назад у наган, які разрываецца ў руцэ Корбута. Ад нечаканасці Корбут плюхаецца на спіну ў вадзе, захлёбваецца, крычыць: «Тану! Дапамажыце!»

Штырх, не ведаючы, што яму рабіць, бегае тудысюды па беразе, затым кідаецца ў ваду, выцягвае Корбута на сухое.

Некалькі хвілін абодва аддыхваюцца.

Апамятваюцца.

Корбут ускоквае і, што ёсць моцы,— дзёру ад штырха. Той за ім.

Пагоня працягваецца.

Святлее.

Сонца выглядвае, як злодзей з-за вугла, зноў хаваецца. Аднак, відаць, нехта старэйшы за яго, выштурхоўвае назад, як футбольны мяч.

Хочаш не хочаш, будзеш свяціць.

Але свеціць вельмі цьмяна.

Сонцу самому гэта не падабаецца. Яно вымае кішэннае люстэрка, любуецца сваімі пышнымі формамі, як апошняя прастытутка, раптам сарамліва прамаўляе «ах!», паварочваецца да ўсіх у профіль, слюнявіць пальцы і выцірае пачырванелы жывот і азадак. Той, хто пнуў сонца, мабыць, з тыдзень не чысціў абутак.

Корбуту ад гэтага ні халодна, ні цёпла. Ён нават спыніцца не можа, каб выліць з ботаў ваду. Вада хлюпае і пырскамі, як дэльфін, паказваецца і зноў вяртаецца ў боты, а бегчы вельмі цяжка.

Зноў Корбут не заўважае крутога спуску. Куляючыся цераз галаву, коціцца ўніз, балюча ўдараецца аб нечыя брудныя халявы.

Яго падымаюць двое чырвонаармейцаў. Адзін хоча адразу пусціць на распыл афіцэра, другі гаворыць, што трэба дакласці камісару. Але камісар сам з'яўляецца, лёгкі на ўспамін, і ў спадніцы.

Корбут здзіўляецца, што ў чырвоных камісары — бабы. Адно радуе, што прыгожыя.

Корбут з гонарам уздымае галаву, выцягваецца ў струнку, дакладвае, што ён капітан такі-та, але камісарша толькі гучна, па-дзіцячы, смяецца з яго і працягвае люстэрка.

Мокры, худы, падрапаны, абарваны, адзін пагон вісіць на плячы, другі з'ехаў за спіну, у калючках… ён выклікаў толькі смех і шкадобу.

У дадатак да гэтага невядома адкуль узяўся штырх і так садануў яму ў копчык, што Корбут скокнуў упярод, як жаба, і расцягнуўся на бруднай зямлі тварам у лужыну, што выклікала дружны агульны смех.

Корбут і сам рассмяяўся. Але смех яго знік адразу, як толькі пачуў загад камісаршы расстраляць.

Як жа так? За што? Без суда? Без следства?

Тады камісарша з таямнічай усмешкай згаджаецца на следства і суд, але па-свойму.

Яго запіхваюць у нейкую хату, на колькі хвілін пакідаюць аднаго, затым уваходзіць камісарша і зачыняе на замок дзверы. Паварочваецца да яго, а пад скуранкай нічога няма з адзежы.

— Ты мяне не пазнаеш? — пытаецца камісарша.

— Вераніка? — чамусьці адразу выпальвае, нават не падумаўшы, Корбут.

— Правільна,— аблізвае яна вусны.— Хадзі да мяне,— шэпча.

Не чакаючы, пакуль Корбут зробіць першы крок, яна сама набліжаецца да яго, усміхаецца. У паўзмроку бліскаюць белыя клыкі і налітыя крывёю вочы.

Чуецца гук пракусваемай плоці…

Корбут ажно падскочыў у ложку, як зразумеў, што прысніўся чарговы эпізод жашкаў, пасля з палёгкай абцёр успацелы твар.

Але ж і сны яму сняцца апошнім часам. Сны-маньякі, не іначай.

Корбут зноў лёг, аднак спаць больш не хацелася, ды і ўставаць хутка. Праз паўгадзіны радыё загаворыць.

Корбут склаў на грудзях рукі, пазіраючы ў столь, якая раптам пачала рабіцца шырокім экранам, як у кінатэатры. Кінамеханік-памяць уключыла праектар, толькі цітраў не было. Адразу высветлілася тэатральная зала і сцэна, на якой ён, Корбут, сядзеў, звесіўшы ногі, і курыў.

Ён прыйшоў першы, але не таму, што хваляваўся, будуючы ў думках замак прамовы ці магчымага дыялогу

з Веранікай, хоць і не без гэтага. Корбут доўга бавіўся ў рэдакцыі «Маладосці», чытаў карэктуру новай падборкі сваіх вершаў, затым папіў піва з сябрамі. Зірнуўшы на гадзіннік, перадумаў вяртацца ў інтэрнат, не мела сэнсу, мог спазніцца на рэпетыцыю, якую замовіла сама дзяўчына.

Аднак Вераніка спазнілася, праўда, на дзевяць хвілін. Зрэшты, так яно і павінна было быць. Гэта прывілея жанчын, да таго ж жанчыны, як вядома, ніколі не спазняюцца, а затрымліваюцца.

Нягледзячы на такі выкрутас словаў, Корбут нецярпліва чакаў яе, кусаў губы і праз кожную хвіліну пазіраў на гадзіннік.

Вераніка яшчэ з прахода пачала выбачацца, але хто такі Корбут, каб крыўдаваць на яе за спазненне! Дзяўчына была, як і заўсёды, на вышыні, і зводзіла хлопца з розуму.

— Ты даўно тут? — запытала яна, здымаючы паліто.

— Не,— зманіў Корбут,— перад табой зайшоў. Калі б ты прыйшла крышку раней, то мне б давялося прабачацца перад табой.

Вераніка дастала з сумачкі люстэрка, расчасала валасы; пільна ўглядалася ў твар, разгладжваючы скуру пад вачыма, на шчоках і над брывамі, якія разляталіся, як чайкі.

— Як справы? — спыталася, не адрываючыся ад люстэрка.— А то я нічога не ведаю пра цябе; толькі тое, што Дзіма раскажа.

— А што ён расказвае? — насцярожыўся Корбут.

— Ды так,— паціснула плечукамі Вераніка, падмалёўваючы вусны.— Што ты заганарыўся, не вітаешся пры сустрэчы, крутым паэтам зрабіўся. Я жартую,— міла ўсміхнулася яму, склала ўсе прычындалы ў сумачку.

— Што ж, у адным ён мае рацыю,— прамовіў Корбут і паказаў дзяўчыне яшчэ мінулагодні нумар «Маладосці» з першай сваёй паэмай, які спецыяльна захапіў з сабой на ўсялякі выпадак.

— Ну ўсё! — падміргнула Вераніка яму.— На якой старонцы? — запытала.— Хаця, я сама…

Вераніка прагледзела змест, разгарнула часопіс на патрэбнай старонцы, угледзелася ў Корбутаў фотаздымак.

— Табе так лепш,— сказала яна пра цяперашнюю яго прычоску.

Корбут, задаволены, што Вераніка звярнула ўвагу на яго прычоску, усміхнуўся аднымі вачыма, так, як толькі ўмеў ён адзін.

— Дарэчы, часопіс твой,— сказаў ён, хаваючы вочы ад пільнага позірку дзяўчыны.

— Тады ты хаця б распішыся пад вершамі,— заўсміхалася яна.

Пакуль Корбут ставіў аўтограф, Вераніка прайшлася колькі разоў з канца ў канец сцэны, спынілася, задумалася, нешта вылічваючы ў галаве, павольна-павольна адышла ў глыб залы, адлічыла чамусьці колькі крокаў, засталася задаволенай.

— Як поспехі? — з-за спіны падышла да Корбута, які ўжо ставіў кропку пад сваім прозвішчам і падпісваў сённяшні дзень тыдня.

Вераніка з цікаўнасцю ўхапіла часопіс.

Корбут прамовіў:

— Я, дарэчы, пачаў запісваць сны ў форме невялікіх апавяданняў. Справа ў тым, што гэтыя сны — тое, што адбываецца на сцэне, нашы персанажы… дакладней, падзеі пра іх.

— Дасі потым пачытаць? — схавала Вераніка ў сумачку падараваны часопіс.

Ён, вядома, згадзіўся, але тыя запісы так і не трапілі ў рукі Веранікі, затое праз пяць гадоў у выглядзе гістарычнага рамана, першага рамана, напісанага Корбутам, з'явіліся ў кнігарнях і бібліятэках, прысвечаныя, аднак жа, ёй.

Вераніка паклала сумачку побач з паліто і паклікала Корбута на сцэну.

— Я тут падумала над тым, як нашы героі павінны сустрэцца пасля доўгага расстання,— сказала яна.— Я хачу, каб ты мяне злавіў, падняў на рукі і закружыў. Так, напэўна, будзе лепш усяго. Ты як?

Вераніка зірнула на Корбута, які захоплена пазіраў на яе. Той толькі згодна кіўнуў. Што яму яшчэ заставалася?

Вераніка адышла на крокаў пяць ад яго. Корбут застаўся на месцы.

Пачалася рэпетыцыя. Яны былі закаханымі. Ён — князем, яна — графіняй. Яе гераіня першаю ўбачыла яго і з радасным ускрыкам пабегла насустрач. Ён паспеў падхапіць яе на рукі і закружыў па сцэне.

Тройчы яны паўтаралі.

На чацвёрты раз Корбутаў позірк больш затрымаўся на вачах Веранікі, яе позірк — таксама.

І адбылося нешта неверагоднае. Іх вусны пацягнуліся адно аднаму насустрач і зліліся ў доўгім пацалунку. Пальцы Веранікі забегалі, як па клавішах, але мякка і пяшчотна, па яго валасах. Дзяўчына заплюшчыла вочы, мацней тулячыся да Корбута, быццам баючыся яго страціць.

Марудна, з вялікай неахвотай пакідалі яны пастарунак пацалункаў. Вераніка апусціла вочы, папрасіла, каб Корбут выпусціў яе з абдымкаў. Той, нібы п'яны, выканаў просьбу дзяўчыны, захістаўся. Вераніка адышла ад яго, не смеючы зірнуць на маладога чалавека, яшчэ толькі пачынаючы разумець, што адбылося.

«А што адбылося? — думаў Корбут.— Нічога асаблівага».

Аднак баяўся падыходзіць да Веранікі. Яна сама першаю падышла. І папрасіла прабачэння.

— За што? — не зразумеў Корбут.

— Так… — незразумела адказала і Вераніка. Яна здзьмухнула нябачны пыл з яго пляча, рэзка павярнулася спінай да яго.— Будзем працягваць? — звярнулася на адлегласці.

— Давай.

Зноў пачалася рэпетыцыя.

Зноў Вераніка ледзь не ўскоквала на рукі Корбута…

…Вераніка — на руках Корбута…

…Рука Корбута паўзе, як партызан у тыл ворага, пад швэдар Веранікі…

…Расшпільваецца станік…

…Вераніка з непадробным і не наўмысным ускрыкам адскоквае, адбягае ад Корбута, хаваецца за заслону…

…Да сцэны набліжаецца Віконт…

…Вераніка вяртаецца…

Яна падышла, бледная, але спакойная, і пачала адвешваць адну за адной моцныя балючыя аплявухі па твары Корбута, які адчуў сябе раптам героем Баярскага з фільма «Сабака на сене». Ён не разумеў, што адбывалася? Што ён такога зрабіў, з чаго дзяўчына так раз’юшылася, як фурыя. Здаецца ж, толькі-толькі пяшчотней дзяўчыны было не знайсці, здаецца ж, толькі-толькі яны цалаваліся…

Віконт застыў, як статуя, на адным месцы з разяўленым ротам ад нечаканага відовішча.

Корбут зашморгаў носам. Вераніка дакладна пусціла яму «юшку». І толькі калі заўважыла кроў, супакоілася, адвярнулася, яе плечы затрэсліся ў бязгучным плачы.

…Прыгадаўшы гэты эпізод, Корбут усміхнуўся. Пазней Вераніка прызналася яму, што падумала: Корбуту захацелася нечага большага, чым пацалункі. На самай справе, тое, што адбылося, адбылося выпадкова. З цяжкасцю адарваўшыся ад прыемнага ўспаміну, Корбут адсунуў коўдру, лёгка падняўся.

...Ён доўга пісаў, як ніколі. Чатыры гадзіны праляцелі незаўважана, як чатыры хвіліны. Толькі калі скончыў раздзел і з палёгкай адкінуўся на спінку крэсла, зірнуў на гадзіннік і адклаў спісаныя аркушы ўбок. На сёння хопіць. Увечары можна будзе сесці за машынку і аддрукаваць напісаны тэкст.

Корбут заварыў гарбаты, разгарнуў паэму Тараса Кутняка, які, пэўна, чакае, што вядомы пісьменнік хутка яе прачытае, верне аўтару і абнадзеіць такімісякімі словамі захопленасці ёю.

Пачатак Корбуту не спадабаўся. Сухі, як навуковы трактат, кіслы, як лімон, і перанасычаны шматкроп'ямі, з-за чаго здавалася, што аўтар глытае словы.

Корбуту перахацелася чытаць. Калі Тарас працягвае на працягу сарака старонак тлуміць і сабе і іншым мазгі — калі ласка, Корбут не супраць, але… штосьці ўсё-ткі прымусіла чытаць яго далей.

Корбут закурыў. Запіваючы дым гарбатай, зноў паднёс да вачэй спісаныя нечытэльным почыркам на першы погляд аркушы.

Ён разбіраў почырк маладзейшага калегі даволі добра з-за таго, што сам пісаў не лепш.

Калі дачытаў паэму, застаўся задаволены і пашкадаваў, што спачатку ўз'еўся на маладога аўтара. Паэма была ніштаватай, нават болей таго. Калі б Корбут не ведаў Тараса, хай нават і столькі, колькі паспеў паспілкавацца, падумаў бы, што аўтар некалі быў салдатам і прымаў непасрэдны ўдзел у вайне на тэрыторыі Афганістана.

Паэма была прысвечана лёсу «афганца» пасля службы. Тарасу ўдалося паказаць непатрэбнасць вайны ўвогуле і непатрэбнасць грамадству галоўнага героя, як класа, які ў рэшце рэшт, як лішні чалавек, гіне. Безумоўна, сюжэт не новы, і сам Корбут выкарыстоўваў нешта падобнае ў сваёй творчасці, але, улічваючы маладосць аўтара і манеру падачы тэкста, асабліва адступленні-ўспаміны, у якіх апісваліся ваенныя падзеі, прычым не прозай, не раманам, а вершаванай формай… Можна толькі паапладыраваць удаламу пачатку паэта ў эпічнай форме выказвання ўласных думак.

Трэба, каб Вадзім таксама пачытаў паэму. Калі ён не хоча чытаць братавых раманаў з-за ўзросту, хай пачытае аднагодка. У яго, Корбута, з Тарасам аднолькавыя погляды на тую вайну.

Паэма маладога паэта абудзіла, як спячую царэўну знакамітай казкі, Корбутаву памяць, якая заснула чарамі іншай памяці, што тычылася ўспамінаў пра Вераніку. Як дзве родныя, але зусім розныя сёстры, яны мелі свае пазіцыі і патрабавалі права на жыццё ў яго галаве, балюча ранілі цярплівае сэрца. Але мяркавалі: столькі трывала сэрца, патрывае і яшчэ крыху, нічога не зробіцца, не шкляное, не разаб'ецца, не снежнае, не растане.

Яшчэ чытаючы паэму, Корбут калі-нікалі пераключаўся, як тэлевізійны канал, з адной праграмы на другую, з напісаных радкоў паэта на ненапісаныя, але ўціснутыя, як джын у бутэльку, у яго галаву, свае радкі.

…Першая страляніна, да першай крыві, для Корбута здавалася звычайнай дзіцячай гульнёй у вайнушку. Яму ні кроплі не было страшна, і ён не адчуваў ніякай небяспекі. Наадварот, было цікава, браў нейкі

задор, ён націскаў на гашэтку і страляў з аўтамата, як у кіно, гуляючы са смерцю ў даганялкі, сам таго не падазраючы.

Толькі калі сціх бой, пачуліся стогны і енкі параненых, панеслі першых забітых, Корбут зразумеў, што вайна, па-першае, не тая гульня з драўлянымі пісталецікамі і аўтамацікамі, у якую ён з сябрамі па двары гуляў кожны вечар, і калі даходзіла да крыві, то кроў была ці з пабітага носа, ці з падраных каленяў і локцяў.

На ўсё жыццё Корбут запамятаў страшную рану Шурыка Іваноўскага, які прызываўся разам з ім. Шурык ляжаў на баку на пыльнай дарозе, падкурчыўшы пад сябе ногі, і бруднымі, заляпанымі крывёю, з прыліплым да пальцаў пяском, рукамі запіхваў у дзіравы (іначай ніяк не скажаш) жывот вантробы, збіраючы іх, таксама ў крыві і ў пяску, з зямлі, а яны выслізгвалі з мярцвеючых пальцаў і зноў падалі на зямлю. Увесь час Шурык енчыў, па шчоках цяклі слёзы, а вусны і голас клапатліва, як маці, што супакойвае захварэўшых дзяцей, угаворвалі вантробы не капрызнічаць і вярнуцца на месца. Шурык наогул не разумеў, што з ім адбылося і дзе ён знаходзіўся. Калі Корбут падышоў да яго, Шурык папрасіў дапамагчы яму з вантробамі. Іх трэба толькі запіхаць на месца, як таму робату з «Зорных войнаў», а пасля Шурык падымецца і пойдзе разам з усімі. Так ён і памёр, на вачах у Корбута, працягваючы ўгаворваць і ліць слёзы.

Млосць Корбут адчуў, калі закрыў вочы памерлага і яшчэ раз кінуў позірк на яго рану. Галава закружылася, ногі пачалі згінацца і, здаецца, ламацца, як запалкі, да горла падкаціў даўкі камяк. Корбут закрыў рот рукой, саромеючыся, што яго званітуе менавіта зараз і тут, як змог, адышоў ад трупа і павіс на плоце;

званітаваў, моцна кашляючы і адплёўваючыся, а перад вачыма — маўклівыя і жывыя кішкі.

Ён доўга не мог прывыкнуць да выгляду крыві. Яго выварочвала кожны раз, як глядзеў на таго ці іншага параненага, а перад вачыма ў такія часы стаяў Шурык.

Аднойчы да яго падышоў адзін са старыслужачых і стукнуў па спіне, калі Корбут толькі-толькі супакоіўся.

— Доўга ты яшчэ будзеш нюні распускаць, Корбут?! — не злосна, але строга запытаў старшына. Корбут толькі пацiснуў плячыма. Тады старшына зноў загаварыў: — Выцісні з памяці першы малюнак, які цябе больш уразіў!

— Як я яго выцісну? — ускрыкнуў Корбут. З ім здарылася ледзь не істэрыка.— Нават уначы ён стаіць перад вачыма, сніцца кожны раз…

— У такім выпадку,— павысіў голас і старшына,— у першай жа новай сутычцы я на цябе не пастаўлю і ламанага граша! Няўжо ты не разумееш, што чым больш думаеш, тым больш шансаў адправіцца на той свет. Ці ты лічыш, што толькі з табой адбылася такая гісторыя і ніхто цябе не разумее і не падтрымлівае з-за гэтага, а зазірнуць у душу не ў стане? Не толькі з табой робяцца такія метамарфозы. З кожным! Толькі кожны павінен разумець, што тут не пансіянат, а вайсковая часць, казарма і вайна. І што на кожнага глядзіць яго таварыш. І калі ён аступіцца, паслізнецца, тое самае зробіць і таварыш. Калі хочаш ведаць,— ужо цішэй прамовіў старшына,— у мяне напачатку было тое самае, што і ў цябе. Таксама доўга не мог прывыкнуць. За кіламетр уцякаў пасля сутычкі, каб не бачыць крыві і не чуць стогны параненых. Як бачыш, перамог сябе. Падумай, што табе больш даспадобы — памерці ці застацца жывым. А наконт гэтага… —

старшына пальцам паказаў за спіну Корбута,— каб я болей не бачыў! Гэта загад!

Старшына махнуў рукой, маўляў, што з табой размаўляць, і пайшоў у казарму.

Корбут паслухаўся. Усё ж старшына больш за яго ваюе, больш ведае, і ўжо хутка дэмбель у яго.

З таго часу Корбут прымушаў сябе заставацца на месцы сутычак, дапамагаў выносіць параненых, вучыўся аказваць першую дапамогу, перавязваць…

Спачатку, вядома, было цяжка. Яго так і падмывала званітаваць, як ён не адварочваўся ад гарачай і густой, ліпкай, як мёд, крыві. Затое пасля рэдка хто мог замяніць Корбута. Ён перастаў нават заўважаць стогны, плач і енк. Быццам так і трэба. Заставаўся халодным, як глыба лёду, абыякавым, як сцяна, і глухім, як глушэц. Карацей, рабіўся прафесіяналам вайны.

З гэтай прычыны старшына, які застаўся яшчэ на адзін тэрмін службы, заўсёды браў Корбута з сабой і давяраў толькі яму. Але халодны, бяздушны, імклівы прафесіянал Корбут не ўбярог свайго настаўніка — старшыну. Усё, што ён мог зрабіць — валачыць таго, цяжкапараненага, на сабе. Колькі не прасіў старшына кінуць яго ці застрэліць, бо «духі» гналіся за імі, не адстаючы, была пагроза палону, не слухаў, працягваючы сваё.

Вядома, яму было цяжка. Старшына не мог самастойна рухацца з абедзвюма прастрэленымі нагамі. Корбут узваліў яго на плечы, два аўтаматы павесіў на шыю і скакаў, як кенгуру, па скалах, вяртаючыся з няўдалага задання.

Маджахеды, нібы на зайца, палявалі на Корбута, з цікавасцю назіралі за ім, стралялі адзіночнымі стрэламі. Калі Корбут апынуўся на дарозе, ад якой да заставы рукой падаць, адкрылі кулямётны агонь.

У выніку — прастрэленая нага вышэй калена. Але ён дацягнуў да заставы, давалок свайго камандзіра.

У шпіталі іх ложкі суседнічалі, і камандзір з падначаленым сталі лепшымі сябрамі, травілі адзін аднаму анекдоты ды распавядалі пра свае прыгоды на радзіме.

На жаль, камандзір, ужо старшы лейтэнант Булатаў, загінуў паблізу Даміяна за дзень да вяртання ў часць Корбута, ужо ў званні прапаршчыка. Не так даўно да свайго прызначэння ён, па накіраванні, скончыў школу прапаршчыкаў.

І зноў, па крузе, вайсковыя будні, смерць, раны, цынкавыя дамавіны і «чорныя цюльпаны»...

Корбут падышоў да акна, паправіў фіранку, якая зачапілася за вугал падстаўкі з курынай нагой, на якой стаяў тэлевізар, паглядзеў на фотаздымак, дзе ён, фарсуючы вусамі, і яшчэ некалькі савецкіх салдат зняліся на памяць з салдатамі царандоя на фоне ранішніх гор перад тым, як пайсці на заданне...

## IX

Дамоў у інтэрнат, што на Кастрычніцкай, Тарас Кутняк прыйшоў, як заўсёды, позна. Расхрыстаны, злосны на ўсіх і ўся, прайшоў цераз вахту, не зірнуўшы, не павітаўшыся з аднагрупніцай Анфісай Білык, якая сядзела насупраць вахцёркі за столікам з кіпай дакументаў наведвальнікаў і вяла ўлік, бо менавіта ёй выпала ў гэты час дзяжурства. Дзяўчына сустрэла Тараса ветлівай усмешкай, убачыла яго яшчэ ў дзвярах, але ўсмешка спаўзла з яе тварыка, як воск з гарачай свечкі, расчаравана і пакрыўджана, калі Тарас абмінуў яе ўвагай.

Ён злосна стукнуў нагой па ліфце, які, як і звычайна пад вечар, не працаваў, а падымацца трэба было на сёмы паверх. Давялося ісці па лесвіцы.

Тарас не дайшоў яшчэ да дзвярэй з лічбай 702, як пачуў любімае тэхна Пятра Варахобіна — аднакурсніка, сябра і суседа па пакоі. Тарас бразнуў блочнымі дзвярыма, пнуў дзверы пакоя «б», заўжды зачыненыя на замок, а ключоў у Тараса ніколі не было.

— Адну хвілінку! — пачуўся чысты звонкі голас Пятра, затым крокі сланцаў па паркетнай падлозе, і ў дзвярным прагале паказалася ўсмешлівая фізіяномія Пятра ў круглых акулярах. Ён, як і звычайна, быў у сваёй нязменнай ахоўнага колеру футболцы і ў спартовых штанах.

— Здароў,— буркнуў Тарас, праходзячы ў памяшканне і на хаду распранаючыся.

Пятро захлопнуў дзверы, вярнуўся на ранейшае месца, сеў за стол, зроблены з дзвюх шафачак, зверху накрытых дошкай, што стаяў паміж двума ложкамі: Пятра — злева і Андрэя Скурко — трэцяга жыхара — справа. Тарасаў ложак знаходзіўся бліжэй да дзвярэй, толькі справа ад іх, ля Андрэевага. На ложак Тарас і бухнуўся, скінуўшы боты, заламаў рукі за галаву, утаропіўся ў столь.

— Што такое? — пацікавіўся Пятро, пацішыўшы гук магнітафона.

— Зноў залік не здаў,— не змяняючы позы, адказаў Тарас.

— А-а-а,— працягнуў Пятро.

— Што ты акаеш! — незалюбіў Тарас, падскочыў на ложку.— Табе і Андрэю добра, усё паздавалі, а мне гэтую даўбанутую эканоміку зноў вучыць! Навошта яна ўвогуле здалася на філфаку, не разумею. Памойму, філолаг павінен вывучаць мовы і літаратуру, а не калупацца ў дэбетах і крэдытах, як майстар па гадзінніках у запчастках, усё адно нічога не выкапае.

— Ну, ты ж сам вінаваты,— прамовіў Пятро.— Хто табе перашкаджаў вучыцца, як нам з Андрэем?

Ты ж заўсёды разгортваеш падручнік толькі перад дзвярыма на іспыце.

— Між іншым, па літаратуры,— заўважыў Тарас,— я ведаю больш за вас, але мне чамусьці працягваюць ставіць тройкі, а на вас не спыняюцца сыпацца пяцёркі, у той час калі я прачытваю самі творы, а вы толькі крытыку на іх з даўно састарэлых падручнікаў…

— Зноў жа, і ў гэтым ты вінаваты сам,— сказаў Пятро.— Мы на першым курсе працавалі на залікоўку, зараз яна працуе на нас. А ты, як пачаў, так і працягваеш. Зноў жа, хто табе перашкаджаў, хаця б на першым курсе, вучыцца? Дзеўкі цябе звялі, ім і выказвай свае прэтэнзіі.

— Добра,— незразумела, згадзіўся з прапановай сябра ці не, адказаў Тарас і зноў лёг.

— Дарэчы, у каструлі,— паказаў Пятро на імправізаваную кухню (невялічкі столік з палічкамі, дзе мясціўся ўвесь посуд),— мы табе пакінулі крыху супу, а ў лядоўні — каўбаса, калі хочаш, сала, вараныя яйкі, халоднае…

— А варэнне ёсць? — міралюбіва спытаўся Тарас.

— Пашукай там, можа, знойдзецца.

Тарас больш не стаў непакоіць сябра, бо той і так зашмат ужо ўдзяліў увагі ў той час, калі вучыў білеты на іспыт па замежнай літаратуры. Хоць экзамены яшчэ не пачаліся, Пятро рыхтаваўся да іх папярэдне, каб раней здаць сесію і паехаць куды-небудзь на час канікул, напрыклад, у Піцер, у якім пабыў ужо разам з аднакласнікам Геркам гэтым летам, ці ў Варшаву (польскай мовай ён ужо валодаў нядрэнна), дзе таксама быў з тым жа Геркам, дабіраўся да сталіцы Польшчы аўтастопам.

Тарас моўчкі пад’еў, памыў за сабой посуд (у хлопцаў увайшло ў правіла — пасля сябе прыбіраць),

зноў расцягнуўся на ложку, косячы зірк на Талькова, чыімі фотаздымкамі і плакатамі была абвешана ўся сцяна над Тарасавым ложкам. Над Андрэевым вісеў плакат гурта «Крама» з аўтографамі Варашкевіча, Касі Камоцкай, Лявона Вольскага і гітара; Пятрова сцяна ўяўляла сабой аўтамабільны музей, абклеены плакатамі і выразкамі з часопісаў, што адлюстроўвалі самыя розныя мадэлі машын. Над лядоўняй, на дзверцы якой Пятро напісаў маркерам «Калі хочаш застацца са мной, у час аплаці мой пракат», і над сталом ля дзвярэй, які лічыўся Тарасавым і які заўсёды быў завалены паперамі і кнігамі, хлопцы прыстасавалі кніжныя паліцы, а над імі вялікі партрэт Джыма Керы ў касцюме-тройцы, але з закасанымі штанамі і босага.

Пад столлю ў адзін рад, як салдаты па стойцы «смірна», з правага боку пасталі пустыя пачакі ад цыгарэт самага living рознага гатунку. А пасярэдзіне пакоя, таксама пад столлю, ля плафонаў, Пятро павесіў пустыя бляшанкі ад піва ў гонар надыходзячага Новага года.

Тарас усё глядзеў і глядзеў у задумлівыя сумныя вочы Талькова, думаў пра яго заўчасную смерць, выношваючы блакітную мару калі-небудзь напісаць пра яго раман, сустрэцца папярэдне з сям’ёй спевака, з братам, з сябрамі, з музыкантамі «Выратавальнага круга», з рэжысёрамі і акцёрамі дзвюх кінастужак, у якіх зняўся Талькоў. Але пра гэта можна толькі марыць. Як ён паедзе ў Расію, калі ў яго няма грошай нават на цыгарэты, даводзіцца пазычаць у Пятра ці ў Андрэя, пасля стыпендыі аддаваць пазыку і зноў пазычаць… Дый каму ён патрэбны там, у Расіі, ёй і сваіх хапае, такіх як ён, маладых непрызнаных геніяў.

Некалі Еўтушэнка, здаецца, сказаў, што паэт у Расіі — болей, чым паэт, а Тарас працягнуў яго думку на свой капыл, неяк ляпнуў на нейкай літаратурнай імпрэзе: а ў Беларусі — меней, чым калгаснік.

— Я кладуся спаць,— сказаў Тарас. Ён выйшаў на калідор пакурыць, пасля ціхутка раздзеўся і схаваўся пад коўдру.

— Табе святло замінаць не будзе? — папытаў Пятро.

— Ты ж даўно ведаеш, што я адкажу,— пачуўся прыглушаны коўдрай голас Тараса.

Пятро, хоць і ведаў, што Тарас можа спаць нават з расплюшчанымі вачыма і дзе заўгодна, усё ж у рамках выхаванасці лічыў мэтазгодным заўжды пытацца ў хлопцаў, калі тыя клаліся спаць раней за яго. Усякае ж бывае.

Тарас праз сон ужо чуў, як прыйшоў Андрэй, асцярожна, каб не пабудзіць сябра, зачыніў дзверы; чуў, як Андрэй спытаўся ў Пятра пра яго, Тараса, ці не п'яны зноў сусед; як здзівіўся адказу Пятра, што Тарас крыху разладжаны з-за незаліку па эканоміцы; як Андрэй спачувальна пахітаў галавой, як узяў гітару і пачаў ціхутка штосьці на ёй сачыняць, адрываючыся на некаторы час, нешта запісваў у сшытак…

Пра што Андрэй з Пятром пасля гаманілі, хрумстаючы цыбулінамі, ён ужо не памятаў, а мо і не чуў.

## X

Вадзім Корбут злосна адшпурнуў ад сябе кніжку, якая заляцела, пазагінаўшы старонкі, пад канапу, і зірнуў на гадзіннік. Было ўжо тры гадзіны дня, а старэйшы брат не сыходзіў з дому, нават з-за пісьмовага стала яшчэ не выходзіў. Відаць, натхненне ўхапіў, як дзеда Мароза за бараду. Лепш гэтай з'явы ўвогуле б не існавала, на думку Вадзіма, бо інакш Мікіта Міхайлавіч ужо даўно сядзеў бы ў сваёй рэдакцыі, а ён, Вадзім, спакойна патэлефанаваў бы Ілзе, без сведкаў.

Дык не, старэйшы брат, мабыць, сёння зусім нікуды не збіраўся і вельмі здзівіўся, чаму Вадзім дома. А Вадзім ніяк не асмельваўся сказаць брату, што больш на працуе. Ды не ў працы справа, а ў Ілзе. Вадзім не хацеў, каб Мікіта Міхайлавіч ведаў пра яе. Тым больш каб чуў, як Вадзім размаўляе з дзяўчынай, хаця б і па тэлефоне, які знаходзіўся ў кабінеце Мікіты Міхайлавіча, на стале. У ціхім шпіёнстве брата Вадзім упэўніўся даўно. Варта было Вадзіму падняць слухаўку ці самому некуды патэлефанаваць, натхненне пісьменніка пасылалася на хутар матылёў лавіць, якое б натхненне не было і які б не быў хутар, а слых братаў, як лакатар, наладжваўся на адну хвалю, і мала калі яму не шанцавала. Мікіта Міхайлавіч чуў усе тэлефонныя размовы Вадзіма, якія, калі вярталася з хутара натхненне, няважна ў якім пакрыўджаным стане, уціскваў у свае жудасныя раманы, адзін з якіх ужо валяўся пад канапай. Ні ў якім разе Вадзім не палезе за ім, хай абрастае, як барадой, павуціннем і пылам. Вадзім асіліў толькі пяць першых старонак, але іх хапіла, каб пачаў ехаць «дах». Дастаеўскі хрэнаў! Гэта любімы братаў пісьменнік. Пад яго ён і косіць. А яшчэ хоча, каб яго брацік чытаў падобную галімацью. Ды нізавошта на свеце! Першы і апошні раз у жыцці ён разгарнуў кніжку Мікіты Корбута. Хай прусакі яе чытаюць, можа, паразумнеюць крыху. Вялікія, рыжыя, як фрыцы, а розуму і на міліметр няма.

Вадзім яшчэ раз зазірнуў да брата, але той — нуль увагі. Толькі шарыкавая асадка ды правая рука, як маятнік, хісталіся ўправа-ўлева, управа-ўлева. Не вельмі вясёлае відовішча.

Вадзім дэманстратыўна пазяхнуў і вярнуўся да сябе.

Плюхнуўся на ложак тварам у падушку, але ўсё ж карцела патэлефанаваць. Ён не знаходзіў сабе месца, ламаючы галаву, як патэлефанаваць, каб брат нічога не пачуў. Гэта ён зараз такі далёкі ад рэчаіснасці, а паспрабуй Вадзім толькі дакрануцца да тэлефоннага апарата, рука з асадкай спыніцца сама сабой і гэтаксама, як і вушы, прыслухаецца, што ж там шчабеча Вадзім?..

Ілга не выходзіла з галавы Вадзіма, як з ліфта, які сапсаваўся і застыў паміж паверхамі. З-за яе ён забыўся пра Лесю і пра ўсіх разам. Нічога так не хацелася, як пачуць ейны голас, а яшчэ лепш, пабачыць уладальніцу яго. Ні якую іншую ён так не жадаў, толькі Ілгу. Яго не бянтэжыла нават калецтва дзяўчыны. Вядома, да першага спаткання. Ён неаднойчы думаў пра гэта. Уяўляў, як яны будуць глядзецца на фоне іншых закаханых дзе-небудзь у парку Горкага. Спачувальныя пагляды хлапцоў, поўныя жалю да Ілгі вочы дзяўчат, Ілгіна ганарлівая ўсмешка, маўляў, глядзіце, якая я і якога хлопца ўтрымала…

Ад такіх уяў Вадзіму рабілася не па сабе, але ён супакойваў сябе тым, што гэта толькі думкі, плод яго фантазіі, на самай справе ўсё выглядае інача. І хто сказаў, што ён калі-небудзь будзе гуляць з Ілгай па парку Горкага, хто ўвогуле прыдумаў такое глупства? Можа, наогул нічога не будзе, можа, Ілга проста пажартавала, даючы яму свой нумар тэлефона. У любым выпадку гэта трэба праверыць.

Вадзім болей не вагаўся. Не маленькі ж ён, на самай справе, каб баяцца ўласнага брата. Ну, падслухае, трагедыя якая, падумаеш… Быццам бы сам ніколі не быў маладым?..

Аднак, нягледзячы на такую рашучасць, Вадзім усё ж забраў тэлефон і зачыніўся ў ванным пакоі, папярэдне адкрыўшы ўсе краны. Хай брат панервуецца: яму карысна для прафілактыкі.

Доўга ніхто не адказваў.

Вадзіму ўжо надакучыла слухаць абыякавыя ідыёцкія гудкі ў слухаўцы, калі на другім канцы дроту нешта шчоўкнула. Вадзім шчыльней прыклаў слухаўку да вуха, пачуў стомленае:

— Алё.

— Э, добры дзень,— прамовіў Вадзім, хвалюючыся, як на школьным іспыце.— А Ілгу можна паклікаць да тэлефона?

— Ілга слухае,— аказваецца, гэта яна падняла слухаўку. Але Вадзіму ад гэтага не палегчала. Ён, у душы, разлічваў, што да тэлефона падыдзе хто-небудзь з сям'і і ён проста выбачыцца за турбаванне. Што ні кажы, а размовы з Ілгай Вадзім баяўся.

— Ілга… — Вадзім пракашляўся і тут жа з жахам падумаў, як яна ўспрыняла яго кашлянне? — Гэта Вадзім,— адчуваючы, як чырванее, быццам памідор, прамовіў ён.

— А, Вадзім,— відавочна, што Ілгу парадаваў яго званок. Адразу зніклі некуды санлівасць і стомленыя ноткі з голасу,— прывітанне. Чаму так доўга не тэлефанаваў?

— Няўжо доўга? Усяго два дні,— запярэчыў Вадзім, паціху асмельваючыся. Ён адчуў раптоўную перамену да сваёй асобы.

— Для мяне і два дні — цэлая вечнасць,— незразумела адказала дзяўчына.— Што ты зараз робіш? — пацікавілася раптам.

— Нічога,— пацiснуў плячыма Вадзім.— Пачынаў чытаць братаў раман, але, відаць, не для майго розуму яго пісаніна…

— Не прыбядняйся…

— Сур'ёзна. Мне хапіла пяці старонак, каб адкласці раман да лепшых часоў. Не таму, што такі дрэнны, а таму што я не ўязджаю з першага разу.

— Паспрабаваў бы з другога. Мне асабіста падабаюцца рэчы Мікіты Корбута.

— Гэта, відаць, на аматара,— адзначыў Вадзім.

— Магчыма, і так,— згадзілася Ілга. Раптам прапанавала: — Калі табе сумна дома, прыязджай да мяне.

— Як? — не зразумеў Вадзім.

— Не палохайся,— засмяялася Ілга,— нічога дрэннага я з табой рабіць не буду. Проста пагаворым, як сябры. Вечарам, калі ты не супраць, можна пайсці ў «Рэзервацыю» — там сёння нешта цікавае, кажуць, плануецца.— Яна памаўчала, відаць, даючы хлопцу некаторы час падумаць. Затым таямнічым шэптам спыталася: — Прыедзеш?

— Калі? — толькі і здолеў выціснуць Вадзім.

— Можаш і зараз. Я буду чакаць.

Яна не дала яму магчымасці яшчэ нешта дадаць, паклаўшы трубку. Вадзім выйшаў з ваннага пакоя і вярнуў тэлефон на радзіму.

Брат, не адрываючыся, пісаў.

«Во запісаўся,— падумаў Вадзім.— Ніколі яшчэ такога не было. Відаць, з часам, такі шэдэўр выверне на стол свайго выдаўца, што толькі трымайся…»

Мікіта Міхайлавіч нават не пачуў, як брат выйшаў з дому.

Вадзім вырашыў ехаць адразу да Ілгі, нідзе не затрымліваючыся. Спачатку хацеў купіць ёй кветак, але перадумаў. Можа не дагадзіць, ды, зрэшты, навошта тыя кветкі патрэбны, толькі пыл збіраць?..

Ілга жыла ў гмаху побач з гандлёвым домам на «Нямізе», з круглымі вокнамі ў кватэры і з круглым балконам.

Чым больш Вадзім набліжаўся да ейнага дома, тым больш непакоіўся і хваляваўся: як яго сустрэнуць бацькі дзяўчыны. Хоць Ілга і дарослая, але ж бездапаможная, як дзіця, на першы погляд. Ды неяк і няёмка

нават уявіць сябе побач з акадэмікам Акадэміі навук Беларусі Рыгорам Нэйландам — Ілзіным бацькам. Вядома, Вадзім меў уяўленне аб інтэлігенцкім коле, дзякуючы брату, аднак звычайныя пісьменнікі — адна справа, іншая зусім — акадэмік. Адно толькі слова «акадэмік» чаго каштуе!..

Якіх навук акадэмік Рыгор Нэйланд, Вадзім не ведаў, ды і не цікавіўся. Адно званне казала само за сябе. Ён уяўляў Ілгінага бацьку з шыкоўнай белай барадой і такой жа грывай валасоў, як у Мендзялеева, з суровымі строгімі вачыма. Інакшым акадэмік, на Вадзімаву думку, не мог быць. Ды бог з ім, з акадэмікам, не да акадэміка ж ён ідзе, у рэшце рэшт, і не акадэмік яго запрашаў, а дачка. Няўжо Ілга паклікала хлопца толькі затым, каб пазнаёміць з бацькам?..

…Вадзім пазваніў у абабітыя чорнай скурай дзверы і стаў чакаць, пакуль адчыняць, папярэдне прыгатаваўшы галівудскую ўсмешку, як ён лічыў. Так прынята, калі ідзеш да кагосьці ў госці, у кіно амерыканскім так паказваюць. Усю дарогу ён толькі і рабіў, што практыкаваўся ў вымаўленні слова «чыз», да якога адразу чамусьці прыляпіўся «бургер» і вельмі захацелася есці.

— Вы да каго? — Што ні кажы, але дзверы адчыніліся раптоўна. Вадзім не паспеў падрыхтавацца. Ва ўсе вочы ён вылупіўся на даволі маладую жанчыну ў строгіх шэрых спадніцы і жакеце, з чорнымі валасамі, што былі заколаты на патыліцы разам з шэрай пілоткай. Апошні атрыбут тут жа нараджаў асацыяцыі падабенства са сцюардэсай і ваенкамам. Можа, яно так і трэба, а Вадзім не надаў апратцы жанчыны належнай увагі, гадаючы, маці яна ці старэйшая сястра Ілгі.

— Мне… — словыastралі ў горле, але неяк выціснуў,— да Ілгі…

Жанчына акінула яго ацэньваючым позіркам і працадзіла:

— Хадземце за мной.

З вялікага параднага жанчына правяла Вадзіма праз нейкі калідор з некалькімі дзвярыма па баках, ля астатняй спынілася і штурханула яе.

— Праходзьце,— сказала і дадала: — Спадарыня Ілга хутка будзе.

Вадзім нерашуча прайшоў у памяшканне, спыніўся на парозе. Дзверы за ім зачыніліся.

Вадзім зірнуў на столь, дзе вісела ў форме вялікага кандэлябра люстра, агледзеўся.

Тут стаялі стол, чатыры крэслы — узбоч стала і некалькі па вуглах, невялікая тахта з пяццю маленькімі падушачкамі і вялікім плюшавым ільвом з соннымі баваўнянымі вачыма; круглай формы шафа-сервант, за шклянымі дзверцамі якой — хрусталь, фарфор і шкло (посуд розных набораў); тэлевізар, ля якога — тумбачка з відэамагнітафонам і касетамі, крыху далей — тумбачка з кнігамі — перакладамі на паперу вядомых кінасерыялаў. Вокны хавалі шторы з чырвонага штофу, а на фоташпалерах з адлюстраваннем паўночнай прыроды віселі карціны мастакоў-візажыстаў. Нічым не засланая паркетная падлога жоўтага колеру — лакіраваная да бляску.

Вадзім не рашыўся сесці ні ў адно з крэслаў, але падышоў да тумбачкі з відэакасетамі, сеў побач з ёй на кукішкі, пачаў уважліва разглядаць, вымаючы кожную касету, якія фільмы тумбачка хавала.

Захоплены сваім заняткам, Вадзім не пачуў з’яўлення Ілгі. А пачуўшы яе голас, здранцвеў, як захоплены на месцы злачынства рабаўнік.

— У гэтай тумбачцы няма нічога цікавага,— прамовіла дзяўчына.— Фільмы такой якасці і такога жанру

глядзіць тата, каб скінуць напружанне. Пасля сямігадзіннай працы за пісьмовым сталом.

Вадзім падняўся з кукішак, трымаючы адну касету ў руцэ, павярнуўся да Ілгі.

Яна сядзела ў крэсле-каталцы, і доўгая спадніца хавала ногі (сустрэўшы яе такой раней, не ведаючы пра няшчасце, Вадзім наўрад ці б паверыў у яе калецтва). Пад вязанай лёгкай кофтачкай без рукавоў пукаціліся пругкія паўшар'і грудзей, шаўковыя белыя пальчаткі крыху не даходзілі да локцяў.

— Прабач, Вадзім,— хітравата ўсміхнулася Ілга,— я, відаць, збянтэжыла цябе. Болей не буду так знянацку заяўляць пра сябе. Я рада, што ты прыйшоў. Ты нават уявіць сабе не можаш, як мне бывае сумна тут адной! Не здзіўляйся, бо на самай справе так яно і ёсць. Выкладчыкі прыходзяць праз дзень, бацькі заняты сваімі навуковымі справамі, і ім не да мяне. Безумоўна, я не абвінавачваю іх у няўвазе… Тата, якога я вельмі люблю, кожны вечар заходзіць у мой пакой, і мы падоўгу гутарым пра рознае, але толькі вечарам.

Праз тыдзень ён зноў паедзе з групай навукоўцаў у Японію, і я застануся адна. Гэта не скарга, не хвалюйся,— заўважыла Ілга нявольны разлёт брывей на Вадзімавым твары,— проста хочацца з незнаёмым чалавекам падзяліцца набалелым. Ды ты не саромся. Стаіш, нібы скаваны ці зачараваны, слупом. Пачувайся, як дома…

— Угу,— незразумела буркнуў Вадзім. Ён сам разумеў сваю недарэчную, нібы каменную паставу, ды яшчэ з касетай у руках. Наконт фільмаў, калі б Ілга сама не растлумачыла іх паходжанне, абавязкова спытаўся б, бо, акрамя так званых стужак жахаў, у тумбачцы нічога больш не было. Больш чым за сто «страшылак» умяшчала ў сваім чэраве тумбачка.

Вадзім паставіў касету на месца, але не ведаў, куды цяпер падзець рукі. Раней яны хоць трымаліся за касету, зараз жа не будзеш хапацца за гузік, яшчэ адарвеш ад хвалявання. А хваляваўся Вадзім страшэнна. Як толькі трапіў у вітальню, што нагадвала каралеўскія пакоі, якія бачыў на малюнках у кніжках па гісторыі. Вадзім баяўся падумаць, што сабой уяўляюць астатнія пакоі кватэры…

— Ты так і будзеш стаяць? — усміхнулася Ілга.— Мне нават неяк няёмка. Сядай куды-небудзь.

Вадзім кіўнуў, згаджаючыся. Ілга прапанавала яму крэсла побач з часопісным столікам ля тумбачкі з кнігамі.

Вадзім болей без ваганняў апусціўся ў мяккае крэсла, пакрытае барвовым аксамітам. Рукі яго адразу пацягнуліся да часопісаў, што неахайна ляжалі на століку. Але разгарнуўшы адзін часопіс, ён адразу ж яго загарнуў і паклаў на месца. Часопіс быў на незразумелай яму мове і без малюнкаў, астатнія былі такімі ж. Тады ён склаў рукі на грудзях.

Ілга наблізілася да Вадзіма і спынілася насупраць яго, з цікавасцю разглядаючы твар хлопца.

З падносам у руках увайшла жанчына, якая адчыніла Вадзіму дзверы і прывяла сюды. Яна прыбрала часопісы і паставіла паднос са слівамі, вінаградам і бананамі на столік.

— Рыта, прынясі яшчэ кавы і пачак «Мальбара»,— загадала Ілга.

Жанчына згодна кіўнула і выйшла.

«Нічога сабе,— падумаў Вадзім,— нават персанальная прыслуга маецца. Ну вы, блін, даяце, спадарства!»

— Частуйся,— прапанавала Ілга, але сама нічога не брала.

Вадзім вырашыў не саромецца. Ведаючы на прыкладзе брата, што цюхцяйства з дзяўчынай мала да чаго даводзіць, ён палічыў неабходным паводзіць сябе больш нахабна, вядома, у разумнай колькасці.

Не задумваючыся, Вадзім узяў банан. Рукі адразу сталі сваімі.

Ілга ўсміхнулася.

— Я штосьці не так зрабіў? — спытаўся Вадзім.

— Не, усё так,— адказала дзяўчына.— Проста я была ўпэўнена, што акрамя банана ты нічога больш не возьмеш.

— Чаму? — паклаў ён бананавую скурку на паднос пад талерку.— Я і вінаград люблю.

— Гэта мне ўжо падабаецца,— усклікнула Ілга.

Калі Вадзім даядаў вялікую галінку «дамскіх пальчыкаў», Рыта прынесла каву і цыгарэты.

— Якую ты любіш музыку? — спытала Ілга, падсоўваючы бліжэй да яго кубак з кавай.

— А гэта навошта?

— Ну, проста я люблю піць каву пад якую-небудзь добрую кампазіцыю, таму што яшчэ ў дадатак куру, і гэта надае задавальненню густам вышэйшы клас,— растлумачыла Ілга.

— Я куру пад любую музыку і нават без музыкі таксама куру,— не задумваючыся, адказаў Вадзім.

— Ты нічога не зразумеў,— засмяялася Ілга.— Але, мабыць, гэта да лепшага.

Яна працягнула яму цыгарэту, выцягнула руку ў накірунку да тумбачкі з кнігамі, на якой, Вадзім і не заўважыў раней, стаяў прайгравальнік CD-дыскаў, націснула кнопку, і… палілася чароўная мелодыя.

Моўчкі, смакуючы каву, яны слухалі музыку і курылі. Хаця ў музыцы гэтай ніякага задавальнення для сябе Вадзім не знайшоў, аднак пра гэта дзяўчыне не сказаў, баючыся пакрыўдзіць.

— Табе спадабалася? — запытала Ілга пасля.

— Вельмі,— не міргнуўшы вокам, схлусіў Вадзім.

— Я ведала, што табе спадабаецца,— задаволена, як кошка, прымружыла вочы Ілга. Яна крыху памаўчала, пасля пацікавілася: — Кажуць, ты служыў у дэсантных войсках, што не дзіўна, і я ніколькі не сумняваюся ў гэтым. Але справа ў іншым. Руслан мне неяк прагаварыўся, што ў цябе выдатная мускулатура, якой мог пазайздросціць бы і Ван Дам, гэта праўда?

— Не такая там ужо і мускулатура,— засаромеўся Вадзім, але быў рады, што яго мышцы зацікавілі Ілгу.

— Ты не супраць прадэманстраваць мне? — не зводзіла пільных вачэй з твару Вадзіма дзяўчына.

— Як прадэманстраваць?

— Вельмі проста,— адказала Ілга,— як усе нармальныя культурысты.

— Я не культурыст,— адмовіўся Вадзім. Ён не любіў, калі яго вымушалі распранацца.

— Ну, добра, калі ты такі баязлівы,— асцярожна вымавіла Ілга,— то…

— Я не баязлівы! — дзяўчына ведала, на што націснуць, каб разварушыць любога хлопца.

— Дык дакажы мне гэта,— няўмольна сказала яна.

— Ты гэтага так прагнеш? — прымружыў вочы Вадзім, капіруючы брата, які ў сваю чаргу касіў пад артыста Баярскага.

— Ужо не вельмі,— павольна вымавіла Ілга.

— Ну, добра.

Вадзім скінуў швэдар, кашулю і майку, агаліў торс з дужай грудзінай, запэцканай рэдзенькім рудымі валаскамі, і магутны прэс з рэльефнымі васьмю квадратамі. Як сапраўдны культурыст, ён прадэманстраваў Ілзе свае біцэпсы, якая ў захапленні аж запляскала ў ладкі, так яе ўразіла фігура хлопца. Ёй хацелася

кранаць і кранаць сталь мускулаў, прагульвацца пальцамі па квадратах прэса, прыхінуцца тварам да грудзіны і ўзнагародзіць яе пацалункамі, як медалямі. Але дзяўчына стрымлівала сябе, толькі не ў стане была ўтаймаваць сэрца, што шалёна калацілася, вырываючыся вонкі.

— Можа, яшчэ правесці бой з ценем? — хітра падміргнуў Вадзім.

Ілга радасна-ўзбуджана кіўнула.

Вадзім заскакаў, як на рынгу, ухіляючыся ад уяўных удараў, робячы падманныя выпады і адыходы, размахваючы кулакамі і нагамі ў паветры, закрываючы для бяспекі твар. Завяршаючы відовішча, хлопец сеў перад Ілгай на шпагат, але хутка падняўся на ногі, баючыся разарваць джынсы ў адным месцы.

Ілга зноў захоплена запляскала ў ладкі.

Вадзім, стомлены, успацелы, быццам правёў сапраўдны бой, сеў на ранейшае месца і, не спяшаючыся, апрануўся, скоса назіраючы за дзяўчынай. Што яна яшчэ адколе? У тым, што тая моцна ўражана, мякка кажучы, Вадзім не сумняваўся.

Ілга бліжэй пад'ехала да Вадзіма на сваім крэсле. Цяпер іх крэслы стаялі ўпобачкі, а рука Ілгі лягла на калена Вадзіма.

Марудна, баючыся, спахопліваючыся ледзь не на кожным кроку, нараджацца ці не, пацалунак усё ж нарадзіўся.

Ілга ўмела цалавацца і рабіла гэта з прафесійным майстэрствам. Першы пацалунак быў падобны на подых свежага паветра, выклікаючы жаданне нечага большага. Другі аказаўся дотыкам выпадковай дажджавой кроплі, трэці — гарачым вадкім шакаладам. Вадзіму гэтага было мала. Ён не прывык да маленькіх перамог. Ілга таксама стамілася рамантызаваць пацалункі, ёй хацелася шаленства да самазабыцця, і…

тады пачаліся чмяліныя ўкусы, пякучыя і доўгія, ад якіх неставала паветра.

Спешчаная ручка дзяўчыны міліметр за міліметрам набліжалася да рэменя на Вадзімавых джынсах.

Асцярожна пальчыкі пацягнулі на сабе язычок замка, які зусім не ўпарціўся, адчуваючы важнасць імгнення.

Вадзім здрыгануўся, ухіляючыся раптам ад чарговага пацалунка.

— Што здарылася? — заклапочана зашапталі Ілгіны вусны ў самыя яго губы, абдаючы гарачым подыхам.— Я перакрочыла забароненую зону? Ты хочаш, каб я яе пакінула?

Другая рука Ілгі спешчанымі пальчыкамі зашпацыравала па дужай Вадзімавай шыі.

Рукі дзяўчыны, нібы дзве суперніцы на бегавой сцяжынцы, хто хутчэй стоміцца, лашчылі Вадзімава цела.

Давялося здавацца…

— Як ты? — спыталася пасля Ілга.— Табе спадабалася?

Вадзім прамаўчаў. Ён яшчэ абмяркоўваў, што адбылося і чым яму гэта пагражае.

— Ну, ты не сумуй тут,— прамовіла Ілга задаволена,— можаш відэа паглядзець, пакуль я вярнуся. Хутка рушым у «Рэзервацыю». Ці ты перадумаў?

— Не перадумаў,— каротка адказаў Вадзім.

— Ну, вось і добра.

Як толькі Ілга знікла за аднымі з трох дзвярэй, што знаходзіліся ў памяшканні, не за тымі, праз якія ён сам трапіў сюды, Вадзім сквапна закурыў.

Мікіта, старэйшы брат, паўгода бегаў за Веранікай Берднік, шалеючы ад рэўнасці і ад кахання да яе, але так нічога і не дамогся, акрамя некалькіх пацалункаў. У Вадзіма ўсё інакш, таму ён не ведаў, як сябе паводзіць.

Перамога, праўда, так сабе, магло б быць і лепш. Аднак Вадзім адчуваў, што гэта толькі пачатак, і працяг не прымусіць сябе доўга чакаць. Пра тое, што дзяўчына калека ён стараўся не думаць. Калі яна не камплексуе, з якой трасцы яму адчуваць сябе невядома кім?..

Вадзім дакурыў, з'еў яшчэ адзін банан, вырашыў паглядзець, як і прапаноўвала Ілга, відэа, але ж... «жахі»... неяк не хацелася. І ўсё ж ён знайшоў адну вартую ўвагі рэч: экранізацыю «Графа Дракулы» ў пастаноўцы Копалы. Ад сяброў чуў, што фільм неблагі, дый акцёрскі склад казаў сам за сябе — Хопкінс, Рыўз, Олдман, Райдэр, не кажучы пра рэжысёра.

Ілга зноў паявілася ў памяшканні тады, калі Кіану Рыўз пасівеў на экране, пераапранутая ў джынсы і ў чорную шаўковую блузку навыпуск; аксамітавы абруч трымаў залатыя валасы каронай, лакіраваныя мыліцы ледзь чутна краналіся падлогі.

— Праз дваццаць хвілін будзе машына,— паведаміла дзяўчына, цягнучыся вуснамі для пацалунка.

Вадзім абняў Ілгу, прыхіліў да сябе.

Мыліцы пападалі ў розныя бакі.

— У нас яшчэ ёсць час,— прашаптала дзяўчына.

— А якая машына, я не зразумеў? — запытаў хлопец.

— Звычайная таксоўка,— усміхнулася Ілга.— Персанальнага шафёра ў мяне пакуль што няма. Хаця,— загадкава падміргнула,— у хуткім часе можа з'явіцца.

Яна сама напалову расшпіліла блузку, паклала Вадзімавы рукі сабе на грудзі.

— Машына ля пад'езда, спадарыня Ілга! — як гром сярод яснага неба, прагучаў голас Рыты, якая ўвайшла ў вітальню.

Вадзім адразу зніякавеў, схаваў рукі за спіну, саромеючыся.

— Колькі можна табе казаць! — абурана закрычала на Рыту Ілга.— Перад тым, як заходзіць куды-небудзь, папярэдне пастукайся і папрасі дазволу ўвайсці!

— У наступны раз я так і зраблю,— безэмацыйна азвалася тая. Можна было не сумнявацца, што такі загад дзяўчыны яна не выканае ніколі. Відаць, нічога не баіцца жанчынка.

— А ты чаго адразу скіс? — накінулася Ілга на Вадзіма, калі Рыта пакінула іх сам-насам. Яна зашпільвала блузку.— Рыта — ніхто, прыслуга, разумееш! Толькі занадта нахабная. Не ведаю, чаму бацька трымае яе яшчэ!

— За гэта і трымае,— вырвалася ў Вадзіма.

— Што ты хочаш сказаць? — знішчальна паглядзела на яго дзяўчына.— Ты што, думаеш, мой тата спіць з гэтай лахудрай?

— Не.

— Яшчэ б. Ты не ведаеш майго тату! І мяне! — дадала яна.— На першы раз я цябе выбачаю, але на будучае запамятай: знявага каго-небудзь з сям'і Нэйландаў так проста не праходзіць!

— Гэта якіх Нэйландаў? — задумліва вымавіў Вадзім.— Ці не нашчадкаў таго Нэйланда, які ў 1943 годзе пад выглядам навуковых доследаў катаваў беларускіх габрэяў?

Ілга збляднела.

— Чаму ты не адказваеш? — пайшоў на дзяўчыну Вадзім танкам, забыўшыся пра яе калецтва. Ён таксама не любіў, калі на яго крычалі. А пра вылюдка Нэйланда што-ніштo чуў з размовы брата з адным габрэем, які выжыў, прайшоўшы лабірынты геніяльнага мозга фашысцкага паслугача.— Можа, з таго, што ён даводзіцца табе родным дзедам?

Ілга адскоквала ад хлопца на адной назе, баючыся, што ён апусціць на яе свой цяжкі кулак, але не клікала на дапамогу — ведала, што ў кватэры толькі Рыта, а Рыта не вельмі шанавала капрызлівую дачку акадэміка Нэйланда. Яна разумела, што ў нечым Вадзім меў рацыю, маючы на ўвазе сваяцтва з тым Нэйландам, чыім пляменнікам даводзіўся яе тата. Але не мела сэнсу зараз гэта тлумачыць…

Ілга зачапілася адзінай нагой за мыліцу і расцягнулася на падлозе, працягваючы адсоўвацца ад Вадзіма.

Нібы прачнуўшыся пасля доўгага сну, Вадзім падхапіў дзяўчыну на рукі, прасіў прабачэння. Яна, утыркнуўшыся тварам яму ў плячо, плакала.

Усю дарогу ў таксоўцы, прыхіліўшыся адно да аднаго, яны маўчалі. Ілга яшчэ не адышла ад перажытага страху. Ніхто яе так не палохаў за ўсё жыццё, нават тая аварыя — дзіцячы сад, ды на пустым месцы яшчэ…

— Вас чакаць? — запытаў таксіст, калі маладыя людзі выйшлі з машыны.

— Не ведаю,— паціснула плячыма Ілга.— Калі ў цябе ёсць час, можаш заставацца тут, але мы выйдзем толькі праз гадзін пяць, не раней.

— Тады проста патэлефануйце,— вырашыў кіроўца.— Каб не губляць дарэмна час, я яшчэ пакалымлю крыху. Жадаю добра павесяліцца! — прамовіў ён і завёў матор.

Паціху, не спяшаючыся, Вадзім з Ілгай пайшлі да клуба.

Маўклівасць Ілгі дый само маўчанне прыгняталі Вадзіма. Ён не мог проста так маўчаць, ідучы з дзяўчынай, але і баяўся пачынаць гаворку першым. Ілга сама, нібы пачула непакой хлопца, загаварыла.

— Чаму ты маўчыш? — спыталася.— Скажы што-небудзь.

— Я цябе не разумею,— выдаў Вадзім.

— Ты зноў хочаш пасварыцца?

— Я не ў тым сэнсе. Як табе лепш сказаць,— шукаў патрэбныя, каб Ілга не палічыла іх абразлівымі, словы Вадзім.— Ты з вельмі забяспечанай сям'і, карыстаешся паслугамі слуг і, увогуле, паводзіш сябе, як каралева. З іншага боку, як афанацелыя «нефармалы», ты тусуешся разам з імі, невядома чаго дамагаючыся, «страляеш» у пераходах цыгарэты і дробныя грошы, збіраючы на пляшку піва, і паводзіш сябе, як прастытутка. Навошта гэта табе? Навошта такое падвоенае жыццё, я не разумею?

— Доўга думаў? — здаецца, пакрыўджана ўсё ж спыталася Ілга. Але не, відаць, не пакрыўдзілася. Спынілася, павярнулася тварам да яго. Не моцны, але адчувальны ветрык дажджом рассыпаў на яе плечы і спіну залатыя кудзеры валасоў.— Калі б ты быў мною,— прамовіла дзяўчына,— ты б зразумеў. З-за таго, што ў мяне ўсё ёсць, я і тусуюся. З «нефармаламі» цікава. З імі не адчуваеш сваёй бездапаможнасці. З імі адчуваеш сябе чалавекам. А дома — шэранькім мышанём. Магчыма, для цябе гэта цяжка зразумець. Затое зразумела асабіста мне. І пратэзам, я ведаю, што цябе непакоіць і гэта, я з прынцыпу адмовілася карыстацца. Ён валяецца ў маёй спальні на антрасолях, і яго не адрозніш ад сапраўднай чалавечай нагі, і я ўмею з яго дапамогай хадзіць, нават не кульгаючы, але не магу. Табе не зразумець.

— Магчыма,— пагадзіўся Вадзім.— Але не такі я ўжо і дурны, каб нічога не разумець. І мне здаецца, што гэта толькі твае панты…

— Я не хачу з табой спрачацца,— супыніла яна Вадзіма, ледзь стрымліваючы слёзы, якія паблісквалі,

як золата, на вачах, гатовыя сарвацца, як камяні з гор.— Хопіць і таго, што я табе сказала. Калі ты не зразумееў зараз, не зразумееш і пасля. Маўчы. Сварыцца з табой я таксама не хачу. І мушу табе прызнацца, што не жадаю страціць тваю ўвагу да сябе. Цані гэта. Ты першы, каму я так шчыра, прызнаюся. Але не будзем пра сумнае! — усклікнула раптам Ілга з радаснай усмешкай на твары.— Мы ідзём весяліцца, тады навошта слёзы, праўда? Пацалуй мяне…

Хоць і не задаволены тлумачэннямі Ілгі, Вадзім быў рады і атрыманай у такім варыянце інфармацыі, але застаўся пры сваіх меркаваннях, што дзяўчына проста пантуецца, але гэта не перашкаджала цягнуцца да яе.

Вадзім злізаў, гатовыя сарвацца з вачэй слёзы дзяўчыны, як сонца ранішнія кроплі расы, і горача пацалаваў у салёныя вусны.

…Ілга ведала ў клубе ўсіх, і ўсе ведалі Ілгу, на кожным кроку нехта вітаўся з ёю і з цікавасцю пазіраў на Вадзіма, які нагадваў хутчэй целаахоўніка Ілгі, чым яе хлопца, ідучы за ёю і ні на крок не адстаючы.

Калідор да дзвярэй канцэртнай залы быў цалкам у цыгарэтным дыме. У адным кутку Вадзім заўважыў Блюму і адвярнуўся, нібы не пазнаў яе.

Ілга вяла Вадзіма бліжэй да сцэны, і яе прапускалі, даючы дарогу, ці то шкадуючы калецтва, ці то паважаючы ўнушальную фігуру яе кавалера.

Музыка грукацела так, што, здавалася, палопаюцца барабанныя перапонкі.

Успацелыя дзяўчаты і хлопцы патрабавалі яшчэ больш музыкі, крычалі, лезлі сляпіцаю адно аднаму на галовы, хапалі за плечы, пхаліся, выцягвалі рукі ўгару, трасучы двума пальцамі і высалапіўшы языкі. Курылі і тут, у зале, як толькі не пападпальвалі адзін

аднаго? На сцэне таксама стаяў такі дым, што музыкам, абкураным і п’янаватым ад некалькіх сотняў грамаў для смеласці, здавалася, быццам яны ў тумане, як той айсберг з песні.

Раптам усё сціхла.

Але глядацкая зала зноў зараўла, патрабуючы музыкі.

На сцэну выйшла маладая прыгожая дзяўчына ў джынсах і ў топ-майцы з электрагітарай цераз плячо. Следам за ёй паявіўся нейкі прышчавы юнак, які заняў месца за сінтэзатарам.

Дзяўчына падышла да мікрафона, прыладзіла яго як зручней для сябе. Зала сціхла.

Дзяўчына кранула струны і пераборам зайграла нейкую павольную мелодыю, заспявала прыемным голасам.

Разбіўшыся па парах, моладзь затапталася на месцы, цалуючыся і абдымаючыся.

Раптам пасля першага куплета ўступіў сінтэзатар, а за ім — невядома адкуль на сцэну скочылі бас-гітарыст і рытм-гітарыст разам з барабаншчыкам.

Моладзь зноў заскакала, зараўла, падкідваючы рукі ўгару з выцягнутымі двума пальцамі.

Дзяўчына з гітарай насілася па сцэне, але голас яе ніколькі не змяняўся і не псаваўся, што яшчэ больш надавала кампазіцыі моцы.

Калі прагучалі апошнія акорды, дзяўчына падзякавала за такі добры прыём яе новай песні.

Зала заўлюлюкала, зараўла: «Яшчэ давай!» Ды спявачка адмовілася, па крайняй меры, на першыя паўгадзіны.

Вадзім пазнаваў і не пазнаваў яе. Міргаў вачыма, каб упэўніцца, што не спіць.

Калі дзяўчына проста загаварыла, ён ужо не сумняваўся, што спявала Леся, тая самая Леся, якая

аднойчы начавала ў Корбутаў і якую ён так шукаў, а знайшоў Ілгу.

Зараз жа захацелася паразмаўляць з ёю. Для гэтага трэба было вырвацца ў калідор. Чамусьці Вадзім думаў, што Лесю ён знойдзе толькі там.

Ілга ведала ці здагадвалася пра Вадзімавы думкі, пільна цікуючы за яго вачыма, і злёгку была падрыхтавана да яго просьбы.

— Мне трэба пайсці пакурыць,— прамовіў ён.

— Куры тут,— адказала дзяўчына.

— Не. Тут і так няма чым дыхаць,— адмовіўся Вадзім.— Мне на свежае паветра трэба. Нешта блага…

Ілга не ўтрымлівала яго. Хай ідзе. Менавіта Леся, а ў тым, што ён пайшоў шукаць Лесю, можна было не сумнявацца, пасадзейнічала, няхай і ўскосна, знаёмству Ілгі з Вадзімам. Ілга толькі апасалася, каб Вадзім зноў не пераключыўся на Лесю. Яна ніколькі не раўнавала яго да Лесі ці да каго-небудзь яшчэ, ведала, што ў любым выпадку ён вернецца, нягледзячы на яе калецтва. Непакоілі дзяўчыну толькі словы Вадзіма, вымаўленыя дома, якія вельмі пакрыўдзілі яе, ды тыя хвіліны ўласнай безабароннасці перад ім. Ілга вырашыла адпомсціць, хоць і ведала, што яе помста ні да якіх вынікаў не прывядзе. Так, хіба для понту, як казаў Вадзім.

Яна паклікала аднаго з купы нагала паголеных, з фігурай культурыста, з фашыстоўскай свастыкай на шыі і надпісам на ёй «Грэшнік», запытала:

— Бачыў таго бландзіна, які прыйшоў са мной?

— Ну,— жуючы жуйку, кіўнуў той.

— Здолееш яго напалохаць?

— Няма праблем.

— Толькі зрабі гэта прафесійна,— папрасіла Ілга,— пад выглядам нібыта таго, што ён чапляўся да Лесі.

Грэшнік згодна кіўнуў яшчэ раз і ўжо праз колькі секунд зашаптаўся з сябрукамі.

…Леся сапраўды курыла на калідоры, затусаваўшыся ў кампанію да Блюмы, калі яе адшукаў Вадзім.

— Вось дзе мы зноў сустрэліся! — прамовіў ён, паглядаючы на дзяўчыну.

— Вадзім?! — відавочна, Леся здзівілася, пабачыўшы хлопца тут, але ненадоўга. Яна зрабіла нейкі знак, каб Блюма з каляжанкамі «здратавалі» куды-небудзь, пасля спыталася: — Як жывеш?

— Нармальна. Але што я? — усміхнуўся ён.— Каго-каго, а цябе я не чакаў убачыць на сцэне, ды яшчэ рокершай!..

— Ці тое яшчэ бывае,— адзначыла Леся.— А ты з кім тут, з Русланам? — папытала.

— Ды не, з Ілгай,— не задумваючыся, адказаў хлопец.

— Угу,— зразумела хітнула галавой дзяўчына.— Дарэчы, я ўсё хацела спытаць, ды неяк не атрымлівалася,— вымавіла яна,— ці не ведаеш ты, якім чынам сышліся твой брат з Веранікай Берднік?

— А навошта гэта табе?

— Проста. Цікава. Ці, можа, гэта сямейная тайна? — нацягнута засмяялася.

— Ніякай тайны няма. Канчаткова ўсё высветлілася на бале-маскарадзе,— адказаў Вадзім.— Вераніка была ў касцюме пірата і літаральна вісела на Мікітавай шыі.

— Адкуль ты ведаеш, што яна вісела?

— Першы яго раман падрабязна распавядае ў адным з эпізодаў.

— Дзякуй,— усміхнулася Леся.— Буду ведаць,— загадкава падміргнула, выбачылася і зноў, відаць, пабегла на сцэну ці за кулісы рыхтавацца да выхаду на сцэну.

Вядома, Вадзім нічога не паспеў сказаць з таго, што хацеў, дый дзяўчыне, бясспрэчна, было не да яго: такая напружанасць адчувалася ў размове… Нічога, ён дачакаецца заканчэння канцэрта і тады пагаворыць з ёю.

Вадзім зайшоў у прыбіральню, вельмі чыстае і светлае памяшканне з вялікім люстэркам і плітачнымі падлогай і сценкай.

Спаласкваючы рукі, у люстэрка пабачыў, што ззаду яго пасталі, нібы ў кола, шасцёра паголеных нагала, на першы погляд, неслабых хлапцоў, хаваючы рукі ў кішэнях.

— Нешта здарылася, хлопцы? — усё яшчэ спінай да іх запытаў ён, правёў мокрай рукой па шчацэ, па шыі. Зразумеў, што гэтыя паголеныя прыйшлі па яго душу, бо нікога больш у прыбіральні не было, а калі і былі, то паспяшаліся выслізнуць.

— Ён яшчэ пытаецца? — вымавіў адзін, самы высокі з іх, з «Грэшнікам» на шыі.— Навошта да Лесі чапляўся?

«Ах, вось яно што,— здагадаўся Вадзім,— ахова Лесіна, значыцца».

— Вы, мабыць, не так зразумелі,— паспрабаваў вырашыць непаразуменне словамі, але хлопцы трапіліся гарачыя. Ім аж не цярпелася заехаць пару разоў па Вадзімавай фізіі.— Значыць, мірам не разыдземся,— хутчэй, самому сабе, чым ім, сказаў Вадзім. У той жа момант, учапіўшыся аберуч за ракавіну, нагамі ён адштурхнуў да адной з кабінак Грэшніка, які выцягся спінай і галавой аб драўляныя дзверы, аднак не ўпаў. Два ўдары нагамі астатніх па нырках вымусілі Вадзіма адарвацца ад ракавіны, прапусціць яшчэ адзін удар па вуху і адляцець да сцяны. Гэта яму і было патрэбна. Цяпер ніхто з тылу да яго не мог зайсці.

Адным моцным ударам у нос аднаму з скіноў Вадзім паваліў адразу трох: двое стаялі за першым. Бакавым ударам нагі прыпячатаў Грэшніка да сценкі, «вяртушкай» у паветры скрывіў аднаму сківіцу, яшчэ аднаго выгнаў за дзверы прыбіральні, апошняга з такой сілай штурхануў на кабінку, што дзверы кабінкі разляцеліся, а сам пацярпелы задам плюхнуўся на «ачко», дзе, нібы для такога выпадку, была прыгатавана некім «міна».

— Адпачні,— абтрос рукі Вадзім, злучыў дзве часткі дзвярэй і паставіў іх да кабінкі.

У гэты ж час Грэшнік, ачомаўшыся, смачна засандаліў Вадзіму ў спіну нагой. Той праз зламаныя дзверы шмякнуўся было на «замініраванага», але моцным ударам у сківіцу быў адкінуты назад. Ад новага ўдару Грэшніка Вадзім ухіліўся, але быў прыціснуты да сцяны пагрозлівым бляскам «фінкі». Гэта ўжо не жартачкі…

У прыбіральню прасунулася нечая «левая» галава, тут жа знікла. На імгненне Вадзіму падалося, што тая галава была Русланава. Меркаваць, меў ён рацыю ці не, не хапала часу.

Нападаўшыя, відаць, забыліся, што Ілга іх нацкавала на Вадзіма толькі настрашыць. Гэта ім не кітайцаў лупіць шоблай.

Грэшнік з нажом у руцэ рабіў пробныя заходы да Вадзіма.

— Што тут адбываецца?! — перасмыкнуў усіх уладарны голас міліцыянта, за якім у прыбіральню праціснуўся Руслан (галава ўсё ж была ягонай), Леся і безліч цікаўных.

— Усё нармальна, начальнік,— па-блазенску ўсміхнуўся Грэшнік. Ад нажа ўжо і ўспаміну не было.— Проста папалохалі «фраера» і ўсё. Бачыш, як ён нас расфарбаваў, не мы яго, улічы…

— Выходзім з памяшкання! — загадаў міліцыянт.— Па адным!

— Падзякуй сваю аднаногую,— працадзіў Грэшнік на развітанне Вадзіму.

Ніхто з міліцыянтам не спрачаўся. Усе выйшлі, і ўсё на тым.

Руслан сказаў Вадзіму, што брат таго Грэшніка — лепшы сябар гэтага міліцыянта, пагэтаму ўсё тым даравалася. Вадзіму было ўсё роўна. Заяву ў ментоўку ён усё адно б не пісаў.

— Куды ты зараз? — спытаўся ў яго Руслан.

— Дамоў,— адказаў Вадзім. Яму расхацелася размаўляць з Лесяй, а Ілгу, увогуле, бачыць. Хаця апошнюю ўсё ж сустрэў. Яна чакала, што ён падыдзе да яе, але Вадзім толькі плюнуў і выйшаў на вуліцу.

## XI

…«Мне Віктар ультыматум аб'явіў: альбо ён, альбо мая тэатральная студыя!»

Цэлы дзень не выходзіла гэтая фраза Веранікі Берднік з галавы Корбута. Іншы б на яго месцы скакаў да столі і кумекаў, як бы так павярнуць справу на сваю карысць…

Корбут жа, як усё роўна нейкі недароблены, моцна задумаўся, зацята схаваўшыся ў сябе, нібы нешта ўкраў і прытаіўся, баючыся, што пакражу вось-вось адшукаюць і ўсыплюць яму па першае чысло…

Вядома, навіна ўзрадавала Корбута, як кожнага суперніка, калі той дазнаецца, што апанент павер접жаны, але і напалохала нечаканай свабодай, перспектывы якой адкрываліся, як казыры ў картах. Корбут не быў гатовы да такой сітуацыі, не паспеў падрыхтавацца. Хаця ў прагнозах Віконта раз-пораз мільгацелі праблескі верагоднасці становішча, да якіх Корбут

ніколі не прыслухоўваўся, на жаль, лічыў звычайнай балбатнёй сябра, чый язык рэдка калі стамляўся гаварыць.

Зараз, каб успомніць усё, што казаў Віконт, можна было б нешта прыдумаць, але справа ўскладнялася тым, што Корбут зусім не слухаў сябра. Зрэшты, у яго павінна была быць свая галава на плячах, ды ён рэдка дазваляў працаваць ёй у іншым якім-небудзь накірунку, акрамя напісання сентыментальна-эратычных вершаў і паэм ці доўгага роздуму над вобразам таго ці іншага героя, даверанага Сяргеем Міронавічам Корбуту для выканання на сцэне.

Увогуле, фраза Веранікі Берднік яшчэ нічога не азначала. Ці мала што магло адбыцца ў яе з Віктарам?! Яны маглі памірыцца ў любы час. Дый хто сказаў, што яны пасварыліся ці наогул разышліся?.. Так, проста кінутая пад гарачую руку фразачка без ніякіх падстаў. А на месцы Віктара Корбут наўрад ці адпусціў так проста Вераніку. Дзе ён яшчэ знойдзе такую прыгожую і разумную дзяўчыну, да таго ж будучую кіназорку? Тыдзень таму ў студыю Сяргея Міронавіча завітаў адзін вядомы рэжысёр, каб паглядзець, як той праводзіць рэпетыцыі, галоўным чынам тых сцэн, у якіх былі заняты Вераніка, Корбут і Віконт. Пра Корбута і Віконта кінарэжысёр узгадаў толькі для таго, каб не пакрыўдзіць Сяргея Міронавіча, які ганарыўся сваімі акцёрамі-мужчынамі. Увогуле кінарэжысёру была патрэбна толькі адна Вераніка Берднік. Ён бачыў яе ў «Цыганах», а неабавязковая рэпетыцыя яшчэ сыраватых сцэн, хаця прэм’ера новага спектакля няўмольна набліжалася, не грала ніякай ролі. Ён проста хацеў упэўніцца, што Вераніка Берднік гэтая і ёсць Вераніка Берднік тая, якая бліскуча выканала ролю Земфіры. Быў бы Пушкін жывы, нікога, акрамя Веранікі, сам не прызначыў бы на ролю створанай ім гераіні.

Кінарэжысёр не хаваў прычыны, дзеля якой прыйшоў. Адразу паведаміў, што здымае гістарычную стужку і адзнята ўжо даволі шмат матэрыялу, але далей здымкі не могуць працягвацца з-за адсутнасці галоўнай гераіні. Ніводная кінаспроба вядомых і не вельмі акцёрак не падыходзіла рэжысёру. Тады ён успомніў пра свайго колішняга аднакурсніка Сяргея Міронавіча і пра яго студыю, прыйшоў на спектакль і… адразу ж убачыў гераіню свайго фільма. Ніякай іншай актрысы яму не трэба, акрамя Веранікі Берднік.

Яна, безумоўна, згадзілася здымацца. Навошта б іначай паступала ў тэатральны? Тэатр — тэатрам, канечне, але кіно — гэта слава, вядомасць, грошы, патрэбныя знаёмствы і ўдалая кар’ера.

Без ніякіх спробаў (на першы дзень здымак з удзелам Веранікі) вядомы кінарэжысёр запрасіў Сяргея Міронавіча і лепшых яго выхаванцаў паўдзельнічаць у масоўцы; Корбут адмовіўся ўвогуле падыходзіць да камеры аператара. Вераніку адразу пераапранулі ў старажытны ўбор, зрабілі адмысловую прычоску, наклалі грым, далі на гадзінку сцэнарый азнаёміцца, затым — некалькі хвілін на завучванне фраз, неабходных у здымаемай сцэне. Пасля гэтага кінарэжысёр растлумачыў, што ад яе патрабуецца на пляцоўцы і пачалася хуткая рэпетыцыя.

Вераніка, было такое адчуванне ва ўсіх, нібыта нарадзілася для гэтай ролі, была такой арганічнай і так спадабалася рэжысёру, што той не мог нарадавацца ўдаламу выбару. Тут жа пачаліся заляцанні вядомых ужо кінаакцёраў, занятых у фільме таксама, да якіх, здавалася, дзяўчына сама падбухторвала то бляскам вачэй, то вабнай усмешкай, то паваротам цела…

Не дзіва, што Віктар занерваваўся і рашыўся на ультыматум. Ён жа не кіназорка і нават яшчэ не

юрыст, а толькі студэнт, які не ў сілах адорваць такой увагай, якую Вераніка атрымлівала на здымачнай пляцоўцы. Корбут таксама не знаходзіў сабе месца. Ён цудоўна ведаў, што такое кіназдымкі, што з сябе ўяўляюць правінцыйныя артысткі, а што — артысты з гучным прозвішчам. Пасля першага для Веранікі дня здымак, Корбут на пляцоўцы больш не з'явіўся ні разу, у адрозненне ад Віконта. Той, як і Вераніка, вельмі захапіўся кіно і сваёй невялікай эпізадычнай, асабіста даверанай вядомым рэжысёрам роляй з трыма фразамі, затое ў кампаніі з Джыгарханянам і Садальскім. Віконт і пераказваў Корбуту навіны з кінафронту, галоўным чынам датычныя Веранікі, якая, па яго словах, вельмі заклапочана тым, што мала бачыць Корбута. На тэатральнай сцэне яны амаль не сустракаліся, калі не лічыць рэдкіх рэпетыцый, хаця доўгачаканая прэм'ера п'есы, у стварэнні якой, як аўтару належала немалое значэнне Корбуту, павінна была вось-вось адбыцца.

Корбут сумаваў, успамінаў той усплеск пачуццяў, які нарадзіў суцэльныя хвалі спачатку пяшчоты, а потым незразумелага гневу ў вобразах гарачых пацалункаў і не менш гарачых плюх. Ён жыў толькі рэдкімі сустрэчамі з Веранікай на рэпетыцыях, якія доўжыліся тры гадзіны кожная тройчы на тыдзень. Амаль увесь астатні час дзяўчына аддавала кіно.

Прэм'ера п'есы нарэшце адбылася.

Корбут убачыў са сцэны ненавісную фізіяномію Віктара, які сядзеў ледзь не ў першым радзе і на «біс» не выйшаў. Вераніка адна прымала захопленыя авацыі і апладысменты ўражаных гледачоў, якія ўжо ведалі пра ўдзел маладой актрысы ў фільме знакамітага рэжысёра, і доўга не адпускалі са сцэны.

Пакуль Вераніка прымала кветкі і выказвала ўдзячнасць, Корбут пераапрануўся і закурыў. З

цыгарэтай, седзячым на падваконні касцюмеркі, яго і адшукаў Віконт.

— Чаго ты тут рассеўся? — закрычаў ён на Корбута.

— А што мне, легчы? — прабурчэў Корбут.

— Цябе на сцэну патрабуюць! — усклікнуў Віконт.

— Хай патрабуюць, не ўвярэдзяцца,— адказаў Корбут.

— Ты што, зноў за сваё? — прамовіў Віконт.— Віктара ўбачыў? Дык што? Яна ж табе сама сказала, што Віктар аб’явіў ёй ультыматум…

— Чаго ён тады сюды прыпёрся?

— Адкуль я ведаю? Можа, ён тэатр любіць.

— Любіць. Толькі не тэатр.

— Ну, і няхай. Табе што? Рабі сваю справу. Ці ты баішся па фізіяноміі атрымаць ад Віктара?

— Нічога я не баюся.

— Тады што? Ты ж сам ствараеш сабе безліч праблем…

— Усё,— спакойна вымавіў Корбут.— Зачыніся! Без цябе мутарна.— Моўчкі спусціўся ўніз, выйшаў на вуліцу. Віконт ад яго не адставаў.

На ганку тэатра, у абкружэнні паклоннікаў, у нязменным чорным паліто, Вераніка Берднік раздавала аўтографы, падпісваючы іх на каляровай вокладцы часопіса «На экранах Беларусі» з асабістым адлюстраваннем з абодвух бакоў. Віктар стаяў крыху ў баку, цярпліва чакаў дзяўчыну, пакурваючы.

Корбут заўважыў гэта адным вокам, на секунду затрымаўшыся на ганку, каб прыкурыць (зноў пацягнула на курыва). Віконт штурхануў яго нямоцна ў плячо, маўляў, падыдзі да яе, можа, з-за цябе яна і затрымалася з гэтымі аўтографамі. Але, калі Віктар побач з Веранікай, Корбуту там няма месца. Не абарочваючы-

ся, ён пакрочыў прэч ад тэатра. Віконт паспяшаўся за сябрам, азірнуўся, калі даганяў Корбута, і ўбачыў, што Вераніка ўжо не раздае аўтографы, хоць і натоўп не разыходзіўся, а аб нечым размаўляе з Віктарам, прычым не проста размаўляе, а, відаць, сварыцца. Віктар нешта злоснае сказаў ёй у твар, растаптаў недакурак і хутка некуды пашыбаваў. Віконт схапіў Корбута за руку і сілай развярнуў. Корбутаў позірк сустрэўся з позіркам дзяўчыны, а за ейнай спінай знікала, як у тумане, постаць Віктара.

Але ён не падышоў да яе, як яму ні хацелася і як ні загадвала душа бегчы хутчэй да Веранікі. Корбут апусціў вочы, нібы ў нечым вінаваты, марудна развярнуўся і пайшоў сваёй дарогай. Вераніка, вядома, не магла паклікаць, каб ён спыніўся, не магла і пабегчы за ім. Яна толькі ўбачыла, як Віконт паціснуў плячыма, адрасуючы свой жэст менавіта ёй, гаворачы тым самым, што сам нічога не разумее. Прыкусіла губу, каб не заплакаць, зноў падпісваючы аўтографы, нацягнута ўсміхалася. Спадзявалася, што Віконт, які добраахвотна згадзіўся стаць пасрэднікам пачуццяў Корбута і Веранікі, уцемяшыць у Корбутаву дурную галаву, што ён ёй патрэбны.

…«Мне Віктар ультыматум паставіў: альбо ён, альбо мая тэатральная студыя».

І смешная і сумная фраза ў адначассе, з пункту гледжання сённяшняга часу, калі прайшло пятнаццаць гадоў. Але менавіта тая фраза паслужыла пачаткам збліжэння Веранікі Берднік і Корбута, вядома, не без дапамогі Віконта, які напружваў жылы, каб раскатурхаць Корбута і прымусіць яго дзейнічаць, пакуль Вераніка не знайшла сабе якога-небудзь перспектыўнага кінаартыста ці кінарэжысёра і не зляцела ў Маскву. А яна магла гэта зрабіць, прычым вельмі лёгка.

Вярнуўся Вадзім. Ён усё так жа безвынікова шукаў работу. Калі брат прызнаўся Корбуту, што кінуў ранейшае месца і даволі даўно, Корбут не здзівіўся і не накрычаў на яго. Як на гультая, які прывык сядзець на братавай шыі. Ён толькі паціснуў плячыма. А што зробіш? Вадзім запэўніў, што яго беспрацоўе часовае, што ён, не спыняючыся, шукае занятак з вялікімі грашыма.

Вадзім не зазірнуў да Корбута. Адразу скіраваў на кухню, загрымеў чайнікам, уключыў магнітафон. Значыць, зноў няўдача. Што ж, не трэба назаляць яму вочы сваёй прысутнасцю.

Корбут улез у паліто, перакінуў сумку цераз плячо, сунуў туды папярэдне паэму Тараса Кутняка. Ён вырашыў заскочыць у Дом літаратара, вярнуць паэму маладому паэту і паразмаўляць з Косцем Цімашэнкам, хоць аб чым размаўляць, яшчэ не ведаў. Але тое не страшна. Тэма размовы заўсёды знаходзіцца ў апошні момант.

Хоць снег не ішоў і не адчувалася пранізлівага ветру, мароз пад вечар пабольшаў, чым вымусіў Корбута перасмыкнуць плячыма і закурыць. Апошняе ён, мабыць, зрабіў бы ў любым выпадку, хай нават залева палівала б. Цыгарэта надавала статус свабоды і ўпэўненасці ў сабе.

Па дарозе Корбут зноў успомніў Вераніку Бярднік, намёк Кастуся наконт прыезду Віконта, што той будзе не адзін, а верагодней за ўсё, з Веранікай… Хочаш не хочаш, а будзеш думаць пра гэта, бо названая дата набліжалася, хутка Новы год…

Думкі Корбута перапыніла кароткая, як аўтаматная чарга, фраза:

— Прабачце, калі ласка…

Абхапіўшы яго за шыю, на Корбуце павісла бялявая дзяўчына ў белым футры. Ніяк іначай яна б не памесцілася ў апошнім вагоне электрацягніка метро.

Як Корбуту не было цяжка трымацца самому, каб не паваліцца, калі цягнік раптам штурхане ў які-небудзь бок, яму спадабалася, што дзяўчына абрала менавіта яго, а не маладога чалавека ў акулярах, што стаяў побач.

— А вы мяне не пазналі? — узняла дзяўчына тварык да вачэй Корбута, які ўвесь час ухіляўся ад пышных валасоў дзяўчыны, што траплялі яму і ў нос, і ў рот, і ў вочы, падхопленыя штучным ветрам.— А я так бегла, баючыся пабіць сабе нос, калі расцягнуся на лесвіцы, каб не спазніцца на гэты цягнік, каб не згубіць вас,— працягвала яна.

— Саша? — хутка пазнаў дзяўчыну Корбут, варта толькі было зірнуць ёй у твар.

— Добры вечар, Мікіта Міхайлавіч! — засмяялася дзяўчына.

— І сапраўды добры,— усміхнуўся і Корбут.

— А вы куды, калі гэта не страшная тайна? — пацікавілася Саша.

— Мабыць, туды, куды і вы.

— Гэта ж выдатна! — узрадавалася Саша. Але, калі выйшлі разам на адной і той жа станцыі з метро, усё ж зноў папытала, як бы не даючы веры першым словам Корбута: — Вы сур'ёзна, на літаб'яднанне?

— А куды ж яшчэ? — усміхаўся Корбут у бараду.— Спадабалася мне ў вас.

— Асабліва маладыя дзяўчаты, так? — весела адзначыла Саша.

— Мабыць,— не аспрэчваў Корбут.

... Яшчэ падымаючыся на трэці паверх па лесвіцы, яны пачулі моцныя галасы: аб нечым спрачаліся.

На акне сядзелі знаёмыя Корбуту Тарас Кутняк з трубкай у руцэ і Алесь Хворы, які хваліўся сапраўднымі цыгарамі, распаляючы зайздрасць прысутных, што хоць і курылі свае цыгарэты, але не зводзілі позіркаў з Хворага, дакладней, з яго цыгары.

Сяргей Міласлаўскі — высокі, як Маякоўскі, і з голасам, падобным на голас Маякоўскага, у доўгім, да каленяў, швэдары, стаяў, спінай абапіраючыся на парэнчы, з шклянкай гарбаты ў адной руцэ і з «прымінай» у другой; бялявы, арыстакратычна вытанчаны Сяргей Брылёў мяккім зачароўваючым тэмбрам нешта тлумачыў лупавокай дзяўчыне, жэстыкулюючы падпаленай элэмінай, якая неаднойчы ўжо мільгала перад самымі вачыма Міласлаўскага, які ледзь паспяваў ухіляцца ад небяспекі.

— Паслухай, дружа,— звярнуўся ён да Брылёва,— нельга крыху цішэй выказваць свае эмоцыі, а то я пакуль што акуляраў не нашу.

Брылёў кіўнуў, перахапіўшы цыгарэту другой рукой, што была бліжэй да медзведзяватага Віктара Жыбуля, у бейсболцы, з чыста паголеным тварам. Ён хістаў галавой, згаджаючыся з Брылёвым, і раз-пораз усміхаўся, калі ўсміхаўся і Брылёў.

Калі маладыя літаратары пабачылі Корбута, які набліжаўся да іх разам з Сашай, адразу ж забыліся на свае справы, спяшаючыся павітацца з ім. Некаторыя памяталі, як разам пілі «чарнільца» ў парку Горкага. Міласлаўскі быў знаёмы з Корбутам асабіста: яны ў адзін дзень заносілі свае творы ў выдавецтва, сутыкнуліся — разгаварыліся і пазнаёміліся. Увогуле, менавіта Міласлаўскага можна было лічыць ужо склаўшымся творцам. Ён не толькі выдаў некалькі зборнікаў сваіх вершаў, а зняў дзве дакументальныя стужкі і працаваў над спектаклем у аматарскім тэатры на філфаку БДУ.

— Як маецеся, спадар Корбут? — запытаў ён з ходу.

— Ды паціху,— адказаў той, шукаючы вачыма Тараса Кутняка, але той ужо недзе знік. Карцела спытацца і пра Тараса, ды нешта стрымлівала. На шча-

сце, яго апярэдзіла Саша. Яна пабыла ўжо ў пакойчыку Кастуся Цімашэнкі, які сядзеў за нязменным сталом, як цар, а вакол, нібы пчолы, круціліся маладыя дзяўчаты.

Саша падышла да Брылёва, папытала пра Кутняка, бо Сяргей лічыўся сябрам Тараса і іх часта бачылі ўдваіх. Але Брылёў паціснуў плячыма, сказаў, што яшчэ не бачыў яго.

— Што ты мне маніш? — абурылася дзяўчына,— я ж цудоўна бачыла, як ён сядзеў на падваконні, а на вешалцы вісіць яго куртка!

— Не хвалюйся, Саша,— крануўся яе пляча Міласлаўскі.— Кутняк пабег за гарэлкай…

— Без курткі?

— А што тут бегчы? — здзівіўся Міласлаўскі.— Тым больш праз другі ўваход, дзе злева, пад бокам, крама? Не хвалюйся, не прастудзіцца. Ты ж ведаеш, што на швэдар з горлам Кутняк заўсёды апранае пінжак…

Здавалася, што Саша паверыла і на некаторы час за яе можна было не перажываць, але Корбут не сумняваўся, што хлопцы схлусілі дзяўчыне, бо прыкмеціў ледзь заўважныя позіркі, скіраваныя ў бок цёмнага калідора. Вядома, варыянт, прыдуманы хлопцамі, пра гарэлку,— верагодны, бо Саша ведала схільнасць Тараса да алкаголя, аднак, ці надоўга хопіць гэтай верагоднасці Сашы, якая бачыла Кутнякову куртку, а час ідзе, ды Тараса няма.

Зрэшты, не яго гэта справа. І хоць цягнула Корбута да моладзі, ён не адчуваў сябе сваім сярод іх, настолькі яны розніліся. Толькі з Тарасам Кутняком Корбут адчуваў сябе больш-менш вольна, але куды той падзеўся — невядома, і калі аб’явіцца — таксама. Адчуваючы сябе лішнім, Корбут прайшоў да Цімашэнкі ў кабінет.

Кастусь распавядаў чарговую байку з жыцця знакамітых пісьменнікаў, калі Корбут зайшоў. Дзяўчаты, якія слухалі балабольства Цімашэнкі, быццам лекцыю, і што-нішто занатоўвалі для будучых мемуараў, усе, як адна, павярнулі галовы паглядзець на новага наведвальніка. Задаволіўшы цікаўнасць, зноў павярнулі свае разумныя галоўкі да Цімашэнкі, які падняўся з крэсла і працягваў Корбуту руку.

— Ведаеце гэтага пісьменніка? — хітра падміргнуў дзяўчатам, усаджваючы Корбута побач з сабой, але так, каб усе дзяўчаты бачылі рэдкага госця.

На запыт Цімашэнкі дзяўчаты адказвалі няўпэўненымі пацісканнямі плячэй і як бы вінавата апускалі вочы, калі Цімашэнка глядзеў у іх, але вельмі хацелі ўведаць, што за пісьменнік — Корбут, калі так проста вітаецца з Кастусём Герасімавічам. Ім можна было дараваць няведанне, бо тут яны былі ўпершыню. Іх прывёў выкладчык курса Міхась Кенька пазнаёміцца, так мовіць, з сапраўднай творчай атмасферай, а самі яны былі першакурсніцамі з філфака, як растлумачыў Корбуту Кастусь.

Ды яго мала закранала мілая недасведчанасць гэтых дзяцей, якія замілавана кідалі на яго цікаўныя позіркі. Няшмат, нават з самых патрабавальных чытачоў, не тое, што чытачоў, нават пісьменнікаў, ведалі яго ў твар. Раней такое інкогніта імпанавала Корбуту і дапамагала ў распаўсюджванні ўласных раманаў. Але час ішоў, інкогніта пачало раздражняць не толькі чытачоў, а і самога аўтара, у выніку чаго адбылося сенсацыйнае інтэрв'ю па тэлебачанні, а пасля разышлося і ў СМІ.

Цімашэнка назваў колькі раманаў Корбута, пытаючы ў дзяўчат, ці чыталі яны хоць адзін з узгаданых ім. Аказалася, дзяўчаты, хоць і не ўсе, але мелі ўяўленне пра творчасць Корбута і вельмі ўзрадаваліся знаёмству з цікавым пісьменнікам.

— Шкада, што вас не было ў мінулы панядзелак,— сказаў Цімашэнка дзяўчатам, якія ўжо прыгатаваліся ўзяць у Корбута аўтограф.— Мікіта Міхайлавіч цэлыя тры гадзіны спілкаваўся з вашымі аднагодкамі і каляжанамі.

— А пра асабістае жыццё спадар Корбут распавядаў? — страляючы маленькімі гарэзлівымі вочкамі, пацікавілася бялявая дзяўчына з выступаючым уперад падбароддзем і шырокімі скуламі, што сядзела прама насупраць яго і вярцела ў руках з на дзіва маленькімі пальчыкамі асадку.

Корбут жартоўна адказаў:

— Калі вас вельмі цікавіць маё асабістае жыццё, прыязджайце да мяне дахаты, і я вам падрабязна ўсё раскажу, нават у малюнках.

— Вы так высока сябе ставіце? — дзяўчына, відаць, не падтрымала яго гульні, застаючыся сур'ёзнай, альбо прытваралася сур'ёзнай.

— Што вы маеце на ўвазе? — Корбут усміхаўся. Яго забаўляла гэтая дзяўчына.

— Я маю на ўвазе вашы інтымныя прыхільнасці,— прамовіла дзяўчына.

— Ведаеце,— тут Корбут вырашыў падыграць ёй,— адзін добры чалавек некалі сказаў, што, калі засаромеешся таго, што любіш — заб'еш самога сябе. Але мне цікава сама цікаўнасць ваша менавіта да гэтай тэмы. Працягнем?..

Прысутныя на чале з Цімашэнкам не ўмешваліся ў слоўную дуэль апанентаў, але з заміраннем сэрца сачылі за ёй, баючыся нешта прапусціць. Зрэшты, Корбуту і самому не хацелася, каб нехта зараз уклініўся ў гаворку, нават Кастусь.

— Вы ведаеце Тараса Кутняка? — раптам спыталася дзяўчына.

— Няўжо ён і вас паспеў нечым пакрыўдзіць? — усміхнуўся Корбут. Тарас падабаўся яму з кожным днём.

— Дзякуй богу, не,— тэатральна ўзняла дзяўчына вочы ўгару,— ён не ў маім гусце. (Дружны смех.) Але ён паводзіць сябе, як вы ў сваёй маладосці, беручы вас за прыклад. Аднак, наколькі мне вядома, вы пасля закахаліся няўдала ў адну асобу і зацыкліліся на ёй. Цыкл гэты працягваецца і па сённяшні час. Я нават магу сказаць, колькі гадоў…

Корбут моцна рассмяяўся. Не ўтрымаўся і Цімашэнка. Абодва чакалі нейкага скандальнага выбуху…

— Я-та ўжо падумаў,— яшчэ праз смех вымавіў Корбут,— што вы будзеце абвінавачваць мяне ў гомасексуалізме ці садамаза… Але не трэба называць лічбу,— прамовіў ён ужо сур'ёзна,— паколькі я ведаю яе цудоўна і без вашых падлікаў. А наконт Тараса Кутняка… вы шмат згубілі, калі ён не ў вашым гусце,— дадаў адразу ж і, не даючы часу дзяўчыне апамятацца, пацікавіўся, адкуль у яе такія звесткі аб ім.

— Святлана Міхайлаўна Кірык — наш куратар,— загадкава прамовіла дзяўчына.— І яна часта распавядае на сваіх лекцыях пра вас, пра яе сяброўку Вераніку Берднік і пра вашага сябра Віконта…

Цімашэнка чакаў Корбутавага выбуху. Але Корбут утрымаўся. Звычайна пры ўпаміне пра Віконта ён шалеў і скакаў ледзь не да столі. Відаць, тут пасаромеўся, толькі збляднеў і сціснуў вусны ды прымружыў вочы, як ад болю. Вось прыціснула дык прыціснула дзяўчына.

— Што яшчэ яна распавядала пра мяне? — даволі спакойна папытаў Корбут.

— Шмат чаго,— адказала дзяўчына.— Усяго не прыпомніш. Але хутка з друку выйдуць яе мемуары, у якіх аўтарка падрабязна распавядае пра інтымныя

адносіны сяброўкі з палюбоўнікамі. Думаю, кнігу хутка раскупяць. Усё-ткі галоўная гераіня — Вераніка Бердлік. Дый ваша імя ўпамінаецца вельмі часта…

— Скажыце, вам падабаюцца фільмы з удзелам Веранікі Бердлік? — супыніў яе Корбут.

— Не ўсе,— адказала тая,— але так. У яе ёсць талент, які вельмі яскрава праяўляецца, калі актрыса выконвае ролі разбэшчаных жанчын. Асабліва ж мне спадабалася стужка пра Жорж Санд, тыя сцэны, у якіх вялікая пісьменніца займаецца любоўю з жанчынамі.

— У вас вельмі небяспечны густ,— заўважыў Корбут.— Гэта самыя танныя сцэны фільма, для якіх не патрэбен вялікі талент. Аднак, як бы там не было,— закругляўся Корбут,— я ўдзячны вам за так званы дыспут, вы абудзілі даўно забытыя ўспаміны ўва мне. Цяпер жа я прабачаюся, трэба пакурыць…

— Вы шмат курыце,— адзначыла дзяўчына.

— Шмат,— пагадзіўся Корбут.

Ён выйшаў за дзверы.

Сашу Корбут пабачыў у кампаніі Брылёва і Жыбуля, да якіх памкнуўся было, але заўважыў выходзячага з цёмнага калідора Тараса Кутняка, паперадзе якога хутка перабірала ножкамі знаёмая яму Оля. Корбут адразу здагадаўся, адкуль яны ідуць і чым займаліся.

Саша пазірала на Олю, пакуль тая не знікла за дзвярыма кабінета, дзе праходзіла літаб’яднанне. Тарас, магчыма, таксама схаваўся б за плячыма Кастуся Цімашэнкі, але пабачыў Корбута і забыўся на ўсё, узрадаваны нечаканай сустрэчы. Яны паціснулі адзін аднаму рукі. Корбут сказаў некалькі слоў пра яго паэму, пахваліў, але дзе-нідзе папакідаў заўвагі. Тарас цярпліва выслухаў старэйшага калегу па цэху і прапанаваў пайсці куды-небудзь падалей адсюль.

Але Саша не дазволіла так проста Кутняку сысці. Яна яшчэ толькі падазравала, не жадаючы верыць

пабачанаму. Ці мала што магло звязваць Тараса з Оляй? Можа, яны аб нечым спрачаліся ці дамаўляліся, але тут жа супярэчыла сабе, разумеючы адваротнае.

— Ты ўжо не заўважаеш мяне? — затрымала дзяўчына таго за плячо.

— О, Саша! — нібыта ўзрадаваўся Тарас, павярнуўшыся да яе.— Здароў, дзе прападала?

— Гэта ты дзе прапаў?! — рэзка заўважыла дзяўчына.— Я цябе чакаю ўжо больш за гадзіну!

— Разумееш,— пацiскваў плячыма Тарас, вымушана ўсміхаючыся і ў думках пасылаючы куды падалей і Сашу і Олю.— Тут… такое адбылося…

— Я бачу, што адбылося! — зняла некалькі закручаных валаскоў з плячэй яго пінжака Саша і вельмі смачна, з размаху, заляпіла яму аплявуху па абедзвюх шчаках. Заплакала, схаваўшы вочы ў кулачкі, адпіхнула ўсіх, хто перапыняў, кінулася ўніз па лесвіцы з гэтага дома.

Рука ў яе аказалася цяжкая. Шчокі Тараса Кутняка смылелі, але ён стаяў, як слуп, не разумеючы, што адбылося, і абціраў іх рукамі.

— Бяжы за ёй, Кутняк! — параіў яму Міласлаўскі.— Чаго стаіш? Ці я за ёй пабягу?..

Тарас кінуўся наўздагон за Сашай. На вуліцы азірнуўся вакол, але Сашы нідзе паблізу не ўбачыў, прабег да «Жако», вярнуўся, яшчэ раз агледзеўся. Няма. Але не магла ж яна знікнуць, растаць, як Снягурка! Тым больш такім марозам. Прыгадаўшы пра мароз, Тараса перасмыкнула. Курткі на ім не было, а швэдар, хоць і цёплы, ды мог і не засцерагчы ад ангіны.

Ні з чым ён вярнуўся назад.

— Дагнаў? — спытаў Брылёў Тараса. Той адмоўна хітнуў галавой.

Ён зайшоў у кабінет да Цімашэнкі, забраў куртку, нават не зірнуўшы на Олю, выйшаў у хол, закурыў. Да

яго далучыўся Брылёў. Астатнія сабраліся ў кабінеце, каб апрануцца: час быў разыходзіцца.

— Шкадуеш? — спытаўся Сяргей.

— Яшчэ б,— азваўся Тарас.— Саша — хаця б разумная. Гэтая ж, што корак ад пляшкі, глупства ў кожным слове!

— Навошта тады?..

— Паглядзеў бы я на цябе, будзь ты на маім месцы…

— Затое задаволіўся,— заўважыў Брылёў.

— Якое там! Яна нічога не ўмее, толькі што — галодная. Нібы месяц не бачыла мужчыны. Чаму толькі мяне абрала, не разумею.

— А што тут разумець? — усміхнуўся Брылёў.— Ты ж Тарас Кутняк! Толькі Міласлаўскі і можа ствараць табе канкурэнцыю.

— Дык вось! — падхапіў думку Сяргея Кутняк.— Чаму я, а не Міласлаўскі? Ён таксама ўжо быў тут, калі яна падваліла…

— Мабыць, занадта высокі ён для яе,— пажартаваў Сяргей.

Пачалі па адным, удвух выходзіць з кабінета. Тарас не хацеў яшчэ раз сустрэцца з Оляй і ўгаварыў Брылёва пайсці хутчэй.

Корбут паехаў дамоў.

Не паспеў ён зайсці ў кватэру, як зазваніў тэлефон.

— Я вас не патурбавала? — пазнаў ён адразу Лесю і вельмі ўзрадаваўся.— Дзе вы зніклі? — не даючы яму вымавіць і слова, заняла пазіцыю нападаючай дзяўчына.— Я вам тэлефаную, тэлефаную, а адказвае Вадзім нейкім незразумелым буркатаннем. Няўжо ён пакрыўдзіўся, што я тэлефаную вам, а не яму? Распавядайце, дзе вы былі? Я хачу ведаць кожны ваш крок, чуць кожную вашу думку, якую

вы запісваеце тэкстам новага рамана. Я б хацела перапісваць вашы раманы, як манахіня ў манастыры. У вас такі дрэнны почырк. Хаця забылася, у вас жа ёсць пішучая машынка… Чаму вы маўчыце? Я не магу доўга размаўляць за дваіх…

— Я слухаю твой голас,— вымавіў Корбут.

— А калі вы думаеце класціся спаць? — папытала раптам дзяўчына.— Я проста хачу пажадаць вам добрай ночы, і каб вы мне пажадалі. А заўтра зранку — з новым днём. І каб гэта доўжылася вечна.

*2000*

## Змест

**Адам, М. М.**
А28 Шоўк : аповесці, раман / Мікола Адам.— Мінск : Маст. літ., 2013.— 366 с.

ISBN 978-985-02-1485-0.

Жыццё на грані, каханне насуперак, адданасць як дадзенасць, а боль і перамога болю як існасць, разам з тым інтымная спавядальнасць Мілера, іранічнасць Букоўскі, лірызм Саган, смеласць Фолкнера, грындхаўс Таранціна і Радрыгеса — такая сёння проза Міколы Адама.

Стварыўшы свой, уласны грындхаўс, ён запрашае нас зірнуць на саміх сябе вачыма герояў, на месцы якіх можа апынуцца кожны з нас у любы момант.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

**У 2013 годзе**
*«Мастацкая літаратура»*
выпусціла кнігі:

Вячаслаў Адамчык
**«Песня»**
*Апавяданні*

Віктар Казько
**«Бунт незапатрабаванага праху»**
*Раман*

Алесь Масарэнка
**«Удзячны калодзеж»**
*Кніга прозы*

Адрас выдавецтва:
220004, Мінск, праспект Пераможцаў, 11.
Тэл./фак (017) 203-58-09